АПОВЕСЦЬ
ПРА
ВЕРНАСЦЬ
КАХАННЮ

РЭПАРТАЖЫ
З НОВЫХ
ГАРАДОЎ БЕЛАРУСІ

НАШ
ГІСТАРЫЧНЫ
КАЛЯНДАР

МАСКОЎСКІ КРЫТЫК
ПРА
СУЧАСНАЕ КІНО

ЯНКА КУПАЛА І
АНДРЭЙ УПІТ

УСПАМІНЫ
ПРА КУЗЬМУ ЧОРНАГА

СПАРТЫЎНЫЯ ШКОЛЫ
НА БЕЛАРУСІ



12

СНЕЖАНЬ

МІНСК, 1967

Выдавецтва «Звязда».

ШТОМЕСЯЧНЫ ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКІ
І ГРАМАДСКА-ПАЛІТЫЧНЫ ІЛЮСТРАВАНЫ ЧАСОПІС

# МАЛАДОСЦЬ

ОРГАН ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТА ЛКСМ БЕЛАРУСІ
І САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

Заснаваны ў 1953 годзе — № 12 СНЕЖАНЬ 1967

## У НУМАРЫ:

СУР'ЁЗНАЕ І КУР'ЁЗНАЕ



СТАРТЫ І ФІНІШЫ



ШАХМАТЫ



ШАШКІ



УСМЕШКІ МАЛАДОСЦІ



Вокладка **Г. Скамарохава.**





**Паходня Кастрычніка.** Фотаплакат **В. Ждановіча.**

# ВЯЛІКАЕ ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ



2 лістапада ў маскоўскім Крамлі ўрачыста быў адкрыт помнік Уладзіміру Ільічу Леніну.



Масква. Красная плошча. 7 лістапада. Гістарычная частка парада. Ідзе рабочая гвардыя.



Мінск. 7 лістапада. Ветэраны Кастрычніка на Ленінскім праспекце.

Незабыўныя хвалюючыя дні перажыла Краіна Саветаў. Велізарнае ўражанне пакінулі Кастрычніцкія ўрачыстасці ў Маскве, Ленінградзе, Мінску. На Краснай плошчы сталіцы адбыўся нябачаны па магутнасці і прыгажосці ваенны парад. Агністыя рэкі дэманстрацый разліліся па ўсіх гарадах і вёсках, у небе палыхала зарыва ілюмінацыі, успыхвалі зоркі святочных салютаў...



Ленінград — калыска Рэвалюцыі. Святочныя агні на Неўскім праспекце.



Моладзь беларускай сталіцы.

Фота В. Ждановіча і фотахронікі ТАСС.

# ВЯЛІКАЕ ПЯЦІДЗЕСЯЦІГОДДЗЕ



Мінск. Парад войск у гонар 50-й гадавіны савецкай улады.



Масква. Красная плошча. Магутныя баявыя стратэгічныя ракеты. Такіх няма ні ў адной арміі свету.



Раман ТАРМОЛА

●

# НАД МАГІЛАМІ

Як далёка ад роднага дому
Магілы салдат невядомых...

Невялікі горад Цвікау.
Мнагавата у ім магіл.
Я, здаецца, аброс цвікамі,
Я з адных камякоў і жыл.

Затрымаць бы на момант выдых.
Трушчыць пальцы, відаць, дарма...
Лепш пакутаў сваіх не выдаць,
Лепш пачуцці свае стрымаць.

Што мяшаць тут слязу са злосцю.
Вунь і немец увесь з пакут.
Мы ў яго дарагія госці,
Ён таксама для ўсіх нас — тут.

І не можа ён быць інакшы,
Ён помніць фашысцкі марш.
Немагчыма быць нашым-вашым,
Ён семнаццаць гадоў, як — наш.

Ён семнаццаць пражыўшы маяў,
Адкрывае другую шыр...
Ён семнаццаць гадоў, як знае
Словы нашыя: «дружба», «мір».



І на свет пазірае жыва,
І празрысты пагляд такі...
...Адчуваю: мякчэюць жылы,
Ападаюць з мяне цвікі...

# НАШЫ ЛЮДЗІ

Можна хваліцца вялікімі зрухамі:
З нейкага часу,
з нейкай пары
Людзі уласныя сэрцы выслухваюць,
Людзі самі сабе дактары.

Вывады робяць дакладныя,
ясныя,
Новага дня вызначаючы пульс.
Болей за ўсё давяраюць уласнаму
Пульсу,
што ў целе пульсуе пакуль.

Лічаць няпраўду найбольшаю здрадаю.
Кожнага цэняць за розум
і толк.
І не ўжываюцца з фальшам парадным,
Фальш узрывае душу,
нібы тол.

Сталі у шчасці і ў горы інакшымі
Людзі на роднай бацькоўскай зямлі...
Хто там пытае: ці нашыя?
Нашыя!
Нашыя
больш, чым дагэтуль былі.

# АЛЬПІНІСТЫ

Пасоўваецца ўверх
жывы ланцуг,
Бо ў кожнага звяна —
адно жаданне...

Мы смешныя,
бы племя валацуг,
Цягаемся ў гарах,
нібыта здані.

Не чуем мы ні ног сваіх,
ні рук.
Наперадзе заззяў блакітны востраў —
Ланцуг пēратварыўся ў ледаруб,
Учэпісты,
вялізарны
і востры.

І сэрца такт у такт,
і крок у крок,
І дзесяць пар вачэй —
адзіны позірк,
Яднаюць нас і лёс адзін,
і кроў,
І песні ля кастроў,
як восень,
позніх.

То ўверх ідзём,
то зверху пабрылі.
Гайдаюць нас штодзённа перавалы.
Як многа сініх мораў
на зямлі!
Як мала сініх гор для нас,
як мала...

# НЕЧАКАНАЕ СПАТКАННЕ

Скажы,
з якога бегла гаю
І як гукалі табе ўслед?
Магчыма: «Гал-я-а-а!..»
Можа: «Гал-ю-у-у!..»
Сакрэт.

Усё адно адкрыць павінна.
Сам прачытаю па вачах,
Ці Беларусь ці Украіна
Цябе люляла па начах.

Вачыма бліснула...
Пабегла...
Услед не кінуўся дарма.
Сярод бярозак знікла белых
Ці стала белаю сама...



# ЛАЙМА

Для літоўца Лайма — шчасце,
Для мяне — адна бяда.
Разрываюся на часці:
Шчасце,
шчасце,
шчасце дай!

Кветак зноў нясу бярэмя,
У вушах адзін матыў:

Дакажы, што не дарэмна
Лайма,
Лайма,
Лайма ты.

Прыйдзе ноч — дзяўчыну Лайму
Я ізноў заву у сне:
«Любіш тату,
любіш маму,
Палюбіла б і мяне!»

# ЦЫКЛОН

З поўначы ідзе цыклон,
Будзе холад зноўку.
Жоўты месяц,
як цыклоп,
Студзіць жоўтым вокам.

Жоўты лес я прыгадаў,
Там таксама холад.
Недзе лес,
як той Адам,
Мокры ўвесь
і голы.

А цыклон бліжэй, бліжэй.
Дзе цяпер падзецца?

Беражоных беражэ
Бог.
Ды не, здаецца...

Як лісточак,
як трава,
Хутка акалею.
Галаву дазволь схаваць
На тваіх каленях.

Можа пройдзе міма нас
Ці назад паверне.
У апошні гэта раз
Я прашу,
павер мне.

□ □ □

Павел ТКАЧОЎ



# ТАЙНА КУРТА МАЙЕРА

Апавяданне

Мал. А. Кашкурэвіча

Тое, што зараз я вам раскажу, мне давялося пачуць некалькі год таму ад знаёмага настаўніка з Магілёўшчыны Пятра Васільевіча Міранкова. Неяк пры сустрэчы з Пятром Васільевічам зайшла ў нас гутарка пра гераічныя ўчынкі дзяцей. Гаманілі з ім доўга. Больш я. Пра новыя матэрыялы, якія знайшоў у архівах, пра людзей, якіх давялося сустрэць. Пятро Васільевіч амаль увесь час маўчаў. Толькі зрэдку ўставіць якое слова. А так усё слухаў, слухаў. А пад канец кажа:

— У часе вайны я сустрэў нямецкага хлопчыка. Ягоная гісторыя, мне здаецца, даволі цікавая, можна сказаць, гераічная. Толькі пакуль без канца яна...

Я насцярожыўся. Але Пятро Васільевіч змоўк.

— Чаму ж так? — пытаюся.

— Абставіны ваеннага часу. Хаця, што тут вам тлумачыць. Лепш паслухайце...

Пятро Васільевіч задумаўся. Я з нецярплівасцю чакаў. Нарэшце ён загаварыў. Амаль без ніякіх змен я перадаю яго апавяданне.

* * *

Быў май. Цёплы, ласкавы, сонечны. Яшчэ зусім нядаўна страчылі кулямёты, калацілася зямля ад выбухаў бомб, снарадаў. А мы, салдаты, беглі насустрач кулям, насустрач смерці.

І вось каторы дзень — цішыня. Неяк дзіўна. У блакітным небе звініць званочкам жаваранак.

— Як у нас, на Магілёўшчыне,— гавару ўголас і міжволі ўздыхаю.

Усё часцей і часцей успамінаю сваю вёску Барок, што раскінулася на крутым беразе Дняпра.

Сёння сасніў маці. На лузе сена касіў, а яна сняданак прынесла. Зайшла ў высачэзную траву і кліча:

— Пятрусь! Пя-я-ятрусь!..

Не давялося дагледзець сон — старшына Пракоп Іванавіч Казлюк,— дзядзька Пракоп, як мы яго звалі,— разбудзіў: на варту трэба заступаць. А шкада, што не дагледзеў сон. Першы раз за ўсю вайну прыснілася маці...

Я падстаўляю твар цёпламу майскаму ветрыку, лаўлю яго, як малое дзіця, ротам і з вялікай асалодай дыхаю на поўныя грудзі.

Невялікі завод, ля якога стаю на варце, на самым ускрайку горада. Ён амаль разбураны: фашысты перад адступленнем узарвалі шмат будынкаў.

Я аглядаю свой «аб'ект», як называе завод старшына, і бачу: на заводскім пустыры, дзе калісьці стаялі адрамантаваныя нямецкія танкі, паявіўся хлопец. Ён быў такі худы, знясілены, што, здавалася, ледзь кранеш яго — паваліцца.

Хлопец уважліва аглядаў двор, нешта вымерваў, шырока расстаўляючы ногі. Потым калупаў зямлю жалезным кіем. Але хутка зморваўся і тады садзіўся адпачыць. Сядзеў нерухома і пра нешта думаў.

Час ад часу па дарозе, што цягнулася непадалёку ад завода, праязджалі машыны з савецкімі байцамі. Хлопец паварочваў галаву і доўгім позіркам праводзіў іх. Потым уставаў і зноў пачынаў калупаць зямлю.

Мне пачулася, як жалезны кій аб нешта заскрыгатаў. Хлопец хуценька скінуў з сябе вялікі, не па мерцы, пінжак, сагнуўся над выкапанай ямай і пачаў рукамі выкідваць зямлю. Ён спяшаўся. Дастаў з ямы нейкую жалезіну. Падняўся, выцер пінжаком успацелы твар і, расчараваны, зноў прысеў на кучу бітай цэглы. Нейкі час сядзеў нерухома.

Высока ў блакітным небе гудзеў самалёт. Хлопец спачатку не звяртаў увагі на яго, а потым узняў галаву і пачаў шукаць вачыма самалёт. Нарэшце ўбачыў. На твары з'явілася ледзь прыкметная ўсмешка. З хвіліну ён глядзеў на самалёт, а потым падняўся і пайшоў у горад, ледзь перастаўляючы доўгія жэрдкі-ногі.

На другі дзень хлопец зноў быў на заводскім двары. Да мяне падышоў дзядзька Пракоп.

— Паглядзі, што тое хлапчанё шукае. Мо скарб? У іх, гэтых немцаў-фашыстаў, усё можа быць. У нас нахапалі...

Я расказаў, што гэты хлопец ужо другі дзень нешта калупаецца ў зямлі.

— Я ж кажу — скарб.— І старшына пайшоў да хлопца.

Крыху пастаяўшы, я таксама накіраваўся за старшыной. Хлопец заўважыў нас тады, калі мы амаль падышлі. Ён падняў галаву і з цікавасцю глядзеў на нас сваімі блакітнымі-блакітнымі вачыма. Прадаўгаваты, худы твар — нібы скамянелы. Збоку ляжаў пінжак, які хлопцу замяняў, мабыць, і кашулю і паліто.

— Што шукаеш? — спытаў дзядзька Пракоп.— Золата? Грошы?

Хлопец кідаў позірк то на мяне, то на старшыну.

— Іх ніхт ферштэе...— нарэшце адказаў ён.

— Спытай у яго па-нямецку,— звярнуўся да мяне старшына.

Я крыху ведаў нямецкую мову. Спытаў. Хлопец хутка-хутка загаварыў. Здзіўлена гляджу на хлопца — ці не хворы?

— Што там ён балбоча? — пытаецца старшына.

— Нешта пра Леніна. Бы ён тут пахаваны.

— Мо ты не зразумеў?

Я зноў пытаю — і зноў чую такі адказ.

— У Маскве,— тлумачу хлопцу,— на Краснай плошчы ёсць Маўзалей, і там Ленін пахаваны.

Хлопец глядзіць уважліва на мяне, потым круціць галавою, маўляў, не так, і гаворыць, гаворыць... Пра свайго бацьку нешта. Пра фашыстаў.

— Усё вайна,— з нейкім жалем загаварыў старшына.— Нават дзяцей, вар'яты, не шкадавалі. Хворы ён. Мабыць, з галавой нешта... І галодны, відаць.

Хлопец глядзеў на старшыну, які нешта шукаў у сваіх кішэняхмяхах. У іх заўсёды можна было знайсці адну-дзве гранаты, з паўсотні патронаў, банку кансерваў. Такія былі кішэні ў старшыны дзядзькі Пракопа. Нарэшце дастаў — кавалак цукру і сухар. Абтрос тытунь і падаў хлопцу. Той глядзіць, не разумее, а потым працягвае руку, а на вачах слёзы. Хапае цукар, сухар і бяжыць з заводскага двара. Мы доўга глядзім яму ўслед...

Старшына пайшоў у горад, а я вярнуўся назад, да свайго «аб'екта».

Мінула некалькі дзён. Хлопец больш не прыходзіў, і я ўжо стаў забываць пра гэтую сустрэчу. Але аднойчы ён зноў паявіўся ў тым жа адзенні, толькі на дзірку былі накладзены латы.

На гэты раз хлопец глядзеў на нейкую паперу і зноў перамерваў сваімі нагамі-жэрдкамі двор. Потым зноў пачынаў калупаць зямлю жалезным кіем. З перадышкамі ён поркаўся гадзіны са дзве. Нарэшце кінуў, хуценька апрануў пінжак, пажмакаў паперу і падаўся ў горад.

Праз нейкі час я яго зноў убачыў. На гэты раз ён прывёз на вазку нейкага старога. Стары нешта расказваў — хлопец ківаў галавою. Але калі стары паказаў на кучу жалезнага ламачча — хлопец заспрачаўся. Нешта горача пачаў даводзіць.

Паправіўшы аўтамат, пілотку, я накіраваўся да хлопца і старога. Стары ляжаў на вазку галавою да мяне. Хлопец разбіраў жалезнае ламачча і не глядзеў у мой бок.

— Што тут робіце? — запытаўся я суровым голасам.

Хлопец прыўзняў галаву, павітаўшыся, зашморгаў носам, ледзь прыкметна ўсміхнуўся, як даўняму знаёмаму.

Стары спрабаваў павярнуцца да мяне тварам, але не мог. Нешта сказаў хлопцу, той кінуўся, каб павярнуць вазок, але я папярэдзіў сам:

— Не трэба.

Я зайшоў наперад, каб убачыць старога.

Стары?! Чалавек быў не зусім стары. Гэта відаць па твары, хоць ён і быў парэзаны глыбокімі маршчынамі, але нешта рабіла яго маладым. Але што? Праз нейкае імгненне я зразумеў: вочы! Яны блішчалі нейкімі асаблівымі агеньчыкамі.

— Што тут робіце? — зноў запытаўся я.

— О-о! Гер... прабачце, геносэ савецкі зольдат, добры дзень...— чалавек прыемна ўсміхнуўся.

Па-нашаму ён гаварыў няблага, хоць некаторыя словы няправільна вымаўляў.

— Даруйце, што не магу вас вітаць стоячы. Ногі і спіна...— ён зноў усміхнуўся, толькі на гэты раз усмешка была нейкая горкая.— Вось Курт прывёз, а сам не хаджу... Што зробіш...

«Мабыць, на вайне быў»,— падумаў я. А чалавек нібы чытаў мае думкі.

— Я — камуніст...— апошняе ён вымавіў ціха, але з гонарам.

— А што вы тут шукаеце?

— Ведаеце,— памаўчаўшы, загаварыў чалавек,— гэта доўгая гісторыя. У часе вайны на завод прывезлі металічны лом. Рускія палонныя і нямецкія рабочыя разгружалі састаў. Сярод ламачча знайшлі бронзавы помнік Леніну. Фашысты вывезлі яго з Расіі і збіраліся пераплавіць на метал.

Чалавек змоўк. Па твары было відаць, як ён хваляваўся. Курт, збялелы, глядзеў на яго і нешта хутка гаварыў. «Дык вось пра што гаварыў тады мне Курт,— мільганула думка.— Пра помнік Леніну».





Нарэшце чалавек зноў загаварыў:

— Вядома, мы вінаваты ва ўсім. Так, так — ва ўсім. Мы, камуністы Германіі, не змаглі даць сапраўдны бой гэтым вар'ятам, а цяпер вось...

Горкі цень лёг на твар немца.

— Але я веру — будучыня Германіі ў руках вось такіх, як Курт. О, вы не ведаеце, Курт шмат перанёс — катаванні, лагер. Гэты хло-

пец бачыў смерць. Няхай ён сам раскажа. А я перакладу. Гавары, Курт,— звярнуўся немец да хлопца.

Курт пацiснуў плячыма — маўляў, не ведаю, з чаго пачынаць... Але праз нейкую хвiлiну загаварыў.

...Прайшло даволi многа год з таго часу, але я i цяпер бачу нямецкага хлопчыка Курта. Ён хвалюецца, час ад часу задумваецца, потым зноў гаворыць. Успамiны пра цяжкае мiнулае не вельмi прыемная рэч нават для дарослага, гэта кожнаму вядома, а тут хлопец, якому — гадоў трынаццаць...

Калi пачалася вайна з Савецкiм Саюзам, Курт быў зусiм малым хлапчуком. Бацька яго працаваў на заводзе. Мацi — дома. Двух старэйшых братоў Гiтлер забраў у армiю. Абодва хутка загiнулi. Кожны дзень Курт насiў абед бацьку. Аднойчы ён прыйшоў i бачыць — на завод прывезлi рускiх палонных. Яны былi абарваныя, худыя. Асаблiва адзiн — ён ледзь трымаўся на нагах. Калi Курт падышоў блiжэй, рускi пiльна глянуў на яго.

— Кiндэр, хлеба... Брот — ам, ам...— цiхенька папрасiў рускi.

Хлопцу стала вельмi шкада рускага. Ён успомнiў, што мацi загарнула яму бутэрброд для бацькi. Ён хуценька дастаў i, каб не прыкмецiў вартавы, кiнуў рускаму. Той падняў i ўсхвалявана закiваў галавою: дзякуй, хлопчык.

Бацьку давялося ўсё расказаць. Той нiчога не адказаў. А ўвечары, ужо дома, паклiкаў да сябе Курта:

— Ты добра зрабiў, сын. Я заўсёды думаў, што ў цябе сэрца сапраўднага немца, не фашыста. Але будзь асцярожны...

У той жа вечар Курт упершыню даведаўся ад бацькi пра Расiю, пра чалавека, якога звалi Ленiным.

Неяк Куртаў бацька прыйшоў дамоў вельмi хмурны. Моўчкi павячэраў, потым паклiкаў Курта ў другi пакой.

— Сын,— загаварыў ён.— Здарылася так, што мяне кожную хвiлiну могуць арыштаваць.

Курт здзiўлена глядзiць на бацьку: жартуе, правярае яго? Але бацька не жартаваў — твар яго быў сур'ёзны, заклапочаны.

— Так, так, сын, на жаль... Я хачу даверыць табе адну вялiкую тайну. Яе ты можаш расказаць дзядзьку Ёгану. (Гэта, значыць, мне,— з гонарам падкрэслiў мой перакладчык.) Або савецкiм салдатам, якiя, я ўпэўнены, прыйдуць сюды. Больш нiкому.

— Добра, тата. Я даю табе слова, што зраблю так, як ты сказаў.

— Тады слухай. На заводскiм двары, непадалёку ад лiпавай алеi... Пачакай, зараз. Адна, дзве, тры, чатыры, пяць, шэсць. Насупраць шостай лiпы, калi лiчыць ад плота, на ўсход адмерадь трыццаць крокаў — i там у зямлi мы разам з рускiмi ваеннапалоннымi закапалi помнiк Ленiну. Нехта расказаў гестапаўцам пра гэта. Рускiх сёння расстралялi...

Гэта была апошняя размова бацькi з сынам. Назаўтра бацька не вярнуўся з завода.

Далей пачалося самае страшнае.

Арыштавалi мацi i Курта. Мацi памерла ад катаванняў. А Курт ледзь выжыў. Яго вызвалiлi з лагера савецкiя салдаты.

Хлопец нечакана змоўк.

— Што было далей, я не ведаю,— з жалем закончыў тады сваё апавяданне Пятро Васiльевiч.— Увечары мы пагрузiлiся ў вагоны i паехалi на ўсход. Што сталася з Куртам? Цi знайшлi яны помнiк? Не ведаю.



* * *

Зусiм нядаўна ў адной газеце я ўбачыў здымак: у цэнтры гарадской плошчы стаiць бронзавы Iльiч. Ля яго дзецi, а iм нешта расказвае даволi малады чалавек. Чытаю подпiс: «Працоўныя Германскай Дэмакратычнай Рэспублiкi адзначаюць гадавiну з дня нараджэння У. I. Ленiна. Настаўнiк рускай мовы i лiтаратуры Курт Майер расказвае сваiм вучням пра тое, як нямецкiя рабочыя i рускiя ваеннапалонныя ў цяжкiя днi фашызму выратавалi помнiк Ленiну»....

Курт Майер? Цi не той гэта хлопец, пра якога мне некалi расказваў Пятро Васiльевiч?

Бяру ручку i пiшу лiст Пятру Васiльевiчу. Праз некалькi дзён атрымлiваю ад настаўнiка тэлеграму, дзе тройчы паўтаралася адно i тое ж слова: «ён».

◆ ◆ ◆

## У НОВЫМ ГОДЗЕ ЧЫТАЙЦЕ:

**апонесць Аляксея КАРПЮКА «ЗНАЁМЫ НЕЗНАЁМЕЦ» i апонесць Iвана МУЖЭЙКI «АДНАКУРСНIКI».**



Янка СІПАКОЎ



# ТЭРЦЫНЫ ПРА НАРУЧНІКІ

Ён уцякаў з фашысцкай катавальні,
З сабою ўзяўшы толькі свае сны —
Свабоды пакліч прагны, развітальны.

Наручнікі звінелі, як званы,
Здавалася, ўвесь свет яны разбудзяць —
Як здраднікі, стараліся яны,

Выслужваліся, як ліхія людзі.
О, як ён ненавідзеў іх тады,
Глытаючы свабоду на ўсе грудзі!

А на губах — ужо быў смак вады,
І рукі пад жалезам так свярбелі,
І на расе — халодныя сляды...

А кайданы усё мацней звінелі.
І што ні крок — царкоўны перазвон.
І кат ужо у звон у гэты цэліў...

Калі ж смяротэльна спатыкнуўся ён,
Зямля аж гулка загула, здаецца —
Такі стаяў на ўсёй планеце звон...

. . . . . . . . . . . . . .

Уцекача знайшлі праз гады дзеці —
Яго, што у свабоду уцякаў,
Ды не знайшоў яе і на тым свеце.

Наручнікі, што скінуць ён жадаў,
Нібы аўчаркі, упіліся ў злосці.
І рукі сціснула жалеза, нібы ўдаў.

Ды вызвалення ўсё чакалі косці,
Каб вольна ў травах рукі распластаць...
Гніе жалеза так марудна штосьці...

А рукі пад жалезам усё яшчэ свярбяць.



Не смейцеся з яе,
З яе хваравітага розуму...

Кожны дзень яна спяшаецца да бальшака
І, прыклаўшы руку да вачэй,
Прагна ўглядаецца на захад,
Сочыць, як з-за лініі небасхілу
Узыходзяць аўтобусы,
Якія, абдаўшы яе пылам,
Заходзяць на ўсходзе,
Так і не прывёзшы ёй таго,
Каго так чакае яе стомленая душа.

Не смейцеся з яе —
Яна, нябога, паверыла каханню
Якраз у суботу, 21 чэрвеня 1941 года,
А яе каханага яшчэ і сёння
Не адпускае вайна...



Калі
Заблытаецца ў тваіх валасах бэзавая вясна,
Нібы промень у гранях самацвета,—
Табе робіцца вельмі лёгка.
І ты бяжыш па зямлі,
Быццам па лёганькаму барабану на дзіцячай пляцоўцы.
А зямля пачынае хутчэй круціцца
Насустрач табе,

Слухаючыся кожнага,
Нават самага лёгкага дотыку
Тваіх шурпатых ног...

## ПОЛЮС ЦІШЫНІ

Свіціцца цішыня няўлежанага снегу,
Нібыта страказінае крыло.
І разбіваецца раптоўным нашым смехам,
Як возера спакойнае
вяслом.

З табою мы спяшаемся у казку,
Праз снежны вір ацішаны ідзем —
Бярозка там,
нібыта ў снежнай пастцы,
Паціхеньку гайдаецца на дне.

А мы з табой ідзем амаль што пешкі
І у снягах не тонем — ані-ні,
Бо лыжы,—
нашы вузенькія сцежкі
І кладкі цераз снежнае бязмежжа,—
Імчаць глыбей —
на *полюс цішыні*.

## ЗАПРАШЭННЕ Ў РАНІЦУ

Там да хрусту ў галінах
Пацягваюцца спрасоння бярозкі
І атрасаюцца ад імху баравікі.

Там паколаты яловымі лапкамі
Выходзіць з лесу густы туман,
Якім накрываліся зайчаняты ноччу.

Там спрабуюць галасы птушкі
І настройваюць, бы ў музычным вучылішчы,
Свае адсырэлыя за ноч жалейкі.

Там, нібы тварык твайго смяшлівага сына —
Ружовага ад палётаў у сне,—
Выглядвае, як з-пад коўдры, з-за лініі гарызонту Сонца.

Спяшайце ў ціхую раніцу веку
Усе, хто пачуць захоча,
Як, слізгануўшы па расіне, звініць першы промень.



Леанід ПРОКША



# ЦІ ВАРТА БЫЛО ЖАНІЦЦА

Аповесць

Мал. Л. Асецкага

## РАЗДЗЕЛ ПЕРШЫ

### 1

Пачалося гэта... Зрэшты, усё з нечага пачынаецца. Кастуся запрасіў да сябе рэдактар адной рэспубліканскай газеты.

— Мне падабаецца ўсё тое, што вы ў нас надрукавалі,— сказаў ён.— Калі вы згодны працаваць у газеце...

— Я ж скончыў педагагічны тэхнікум.

— Нічога. Чэхаў быў доктарам.

— Параўнанне, ведаеце, не параўнальнае,— пачырванеў Кастусь.

— Не трэба баяцца такіх параўнанняў,— усміхнуўся рэдактар.— Усе людзі рабілі свой першы крок у жыцці, не ведаючы, да якой вышыні дойдуць. Ну, дык як?

— Падумаю.

— Ну, падумайце.

— І ты будзеш думаць?—здзівіліся Кастусёвы сябры, калі, вярнуўшыся ў інтэрнат, ён расказаў пра гутарку з рэдактарам.— У цябе ж ёсць божая іскра...

— Іскра, іскра... Навошта сілком пхаць чалавека туды, куды ён не хоча,— сказаў Барыс.

— Бо ты сам туды хочаш уладкавацца,— падлавіў таго на слове Толік Пржавальскі.

Барыс з дакорам зірнуў на шчуплага Толіка, *якога хлопцы за яго невялікі* рост, а больш за праўду, якою ён мог нечакана стрэліць, празвалі «Пісталецікам».

— Ну і што, калі хачу...

Барысу сапраўды не вельмі хацелася ехаць з горада: у Мінску жыла яго маці. На Камароўцы ў іх быў свой дом, сад.

Перад выпускным вечарам Барыс спаткаў Кастуся на каштанавай алейцы ў двары тэхнікума.

— Кастусь,—сказаў ён, і твар яго раптам скрывіўся: — будзь чалавекам, не займай дарогі.

Кастусь адышоў у бок.

— Калі ласка...

— Без жартаў. Я раблю захады, каб уладкавацца ў рэдакцыю. Ты ж ведаеш, я друкаваў вершы.

— Хіба я супраць?

— Рэдактар мае на прыкмеце цябе і мяне. Калі ты дасі згоду, мая кандыдатура ад-

---

Варыянт для часопіса.

падзе. Нарком не дазволіць пакінуць дваіх. На вёсцы патрэбны настаўнікі.— Барыс хапіў Кастуся за руку.— Табе ж усё роўна, ці застаецца тут, ці ехаць у вёску. А ў мяне маці адна застаецца. Бацька, як ведаеш, загінуў на фронце ў грамадзянскую вайну...

— Добра,— згадзіўся Кастусь.— Папрашуся на Палессе...

Яму сапраўды было ўсё роўна: працаваць у горадзе ці ў вёсцы. Абы толькі хутчэй узяцца за работу ды злезці з бацькавай шыі.

На выпускным вечары Барыс адчуваў сябе ніякавата. Ён ведаў, што з Кастусём сябруе Лёдзя. Ёй вучыцца яшчэ год. Лёдзя вельмі абрадавалася, калі да яе дайшлі чуткі, што Кастусю прапануюць працу ў рэдакцыі. Барыс разумеў, што ёй будзе сумна развітацца з сябрам. І ён, Барыс, вінаваты ва ўсім.

У самы разгар выпускнога вечара Барыс шапнуў Кастусю:

— Лёдзя хоча з табой пагаварыць.

— Дзе яна?

— Сядзіць на лавачцы ў алейцы.

Кастусь выйшаў у сад. Пад вялікім каштанам сядзела дзяўчына ў белай сукенцы. Электрычнае святло з вокнаў падала на яе прыгожы бледны твар. Кастусь моўчкі сеў побач.

— Усё ж едзеш? — сказала Лёдзя не адразу.

— Так. Мушу ехаць.

— Ты сам гэтага захацеў?

Кастусь не ведаў, што ёй адказаць. Толькі сэрца раптам моцна сціснулася.

— Так трэба, Лёдзя...

## 2

Цягнік адыходзіў уначы. Вечарам Кастусь праводзіў на вакзал сваіх сяброў, а сам вярнуўся ў інтэрнат, каб адпачыць перад адыходам свайго цягніка. Ён не запальваў святла. У пакоі і так было светла ад лямпачкі, што вісела на слупе перад інтэрнатам. Хацелася пасядзець, падумаць пра сваіх сяброў, з якімі вось у гэтым пакоі пражыў тры гады.

Сеў ля стала, абвёў позіркам невялікі пакой. Вось на гэтым ложку спаў Алесь Ціханоўскі. У яго былі доўгія чорныя вейкі, гледзячы на якія, студэнткі жартавалі: «Ну, і навошта яны хлопцу? Хай бы лепш дасталіся дзяўчыне». Алесь добра маляваў, і ўсе раілі яму ісці вучыцца ў мастацкі тэхнікум.

Далей стаяў ложак Міколы Стрыжа. Гэтага дзяўчаты не любілі, але ён толькі і думаў пра іх. Вечарамі, калі хлопцы сядзелі над кніжкамі, ён прападаў у альтанцы або ў парку.

— Заўтра зноў будзе драмаць на ўроках,— злаваўся Толік.

Мікола спаў з ім побач, і Толіку даводзілася раніцай не раз добра штурхануць яго ў бок, каб уставаў на заняткі. Абодва яны былі з адной вёскі, і хоць Мікола быў старэйшы і дужэйшы за Толіка, але няўрымслівы Толік лічыў сваім абавязкам клапаціцца пра бестурботнага аднавяскоўца.

Так, успамінаючы сваіх сяброў, якія дзесьці ехалі ў вагоне цягніка і, магчыма, таксама сумавалі, развітаўшыся са студэнцкім жыццём, Кастусь прасядзеў можа з гадзіну, апусціўшы галаву на стол.

«Трэба, аднак, ісці на вакзал»,— ён устаў і павярнуўся да свайго ложка. Глядзіць — ляжыць нехта на ім. Падышоў бліжэй — дзяўчына: знаёмая белая сукенка, залацістыя валасы рассыпаліся па падушцы, бледны прыгожы твар, заплюшчаныя вочы.

— Лёдзя.

Дзяўчына дыхае роўна, святло з акна мякка падае на яе белыя рукі, ногі. Кастусь глядзіць на дзяўчыну, і сэрца пачынае біцца мацней і мацней.

— Кастусь?..

Лёдзя ўзяла яго за руку. Рукі яе цёплыя, пяшчотныя. Кастусь адчувае, што і яе сэрца моцна б'ецца.

«Мне лепш пайсці»,— думае ён, але не можа крануцца з месца.

Пад акном чуюцца крокі і сіплаваты Барысаў голас:

— Кастусь!

Лёдзя падхопліваецца з ложка. Кастусь глядзіць на гадзіннік.

«Гэта ж Барыс абяцаў мяне праводзіць».

— Хутчэй, Кастусь, а то спознішся на цягнік,— падганяе Барыс. Яго крокі чуваць ужо на драўляных прыступках ганка.

## 3

Праз два дні Кастусь быў у Высокім Беразе. Дабраўся ён да гэтага мястэчка спачатку цягніком, потым ад станцыі да горада яго давёз балагол.

Ад горада ехаў параходам. Стаялі апошнія дні лета. Пасажыры сядзелі на палубе, грэліся на сонейку. Маўчалі.

І Кастусь сядзеў моўчкі. «Што чакае мяне? Куды пашлюць? Якая гэта будзе вёска?»

Вырас Кастусь у горадзе. Праўда, бацькаў дом стаяў на ўскраіне, за ровам пачыналася поле і хутары. Але тых, хто жыў пад саламянымі стрэхамі, Кастусь ведаў мала. У студэнцкія гады прыходзілася бываць у вёсцы на практыцы і на сельскагаспадарчых работах. Жылі студэнты больш сваім калектывам і вольны час праводзілі ў сваёй кампаніі. Першае больш-менш блізкае знаёмства адбылося неяк на вялікдзень. Камсамольская арганізацыя даручыла Кастусю правесці антырэлігійную гутарку. Узяў ён праекцыйны ліхтар, дзесяткі са два дыяпазітываў, дванаццацілінейную лямпу і пайшоў у вёску за дванаццаць кіламетраў.

Вечарам у клубе сабралася моладзь. Побач у касцёле ішла ўсяночная. Ксёндз свенціць яйкі і вядзе сваю работу, а Кастусь — сваю: павесіў экран, запаліў ліхтар. Пакажа абразок і пачынае расказваць. Некаторыя з тых, хто слухаў яго, памаліліся ўжо ў касцёле і прыйшлі ў клуб. Яны глядзелі на малюнкі, дзівіліся: «Бач ты, вунь яно як!»

Але здарылася нечаканае. Раптам нечая рука накрыла зверху лямпу, і яна пагасла. У тую ж хвіліну нехта ўдарыў па галаве, і Кастусь страціў прытомнасць.

Калі ён расплюшчыў вочы, у клубе гарэла лямпа, камсамольцы наводзілі парадак пасля бойкі. У хлопцаў былі сінякі і драпіны на твары. Ім давялося моцна счапіцца з касцельнымі служкамі. Сакратар камсамольскай арганізацыі, якому дасталася больш за ўсіх, шморгаючы разбітым носам, падышоў да Кастуся.

— Ці можна зноў паказаць гэтыя малюнкі? — спытаў ён.

Доўга яны рамантавалі ліхтар, але дабіліся свайго. Каля праекцыйнага ліхтара стаялі цяпер камсамольцы і сачылі, каб хто ім

зноў не перашкодзіў. «Вось каб у той вёсцы, куды мяне пашлюць, былі такія хлопцы...» — думаў Кастусь.

За кармой кіпела вада. Чорныя, як дзёгаць, хвалі разыходзіліся па рацэ. Далёка за паплавамі ўзнімаўся сцяной бор.

Кастусь зірнуў на гадзіннік. «Бацька, відаць, прыйшоў ужо з работы,— успомніў ён нечакана.— Усе садзяцца за стол. Маці стараецца даць бацьку смачнейшы кавалак: ён жа цяжка працуе. Яму нават на фабрыцы даюць спецыяльнае харчаванне. Бацька ціхенька, каб не заўважыла маці, падкідае дзецям па кавалачку мяса... Трэба будзе з першай палучкі паслаць з паўсотні»,— думае Кастусь.

— Вы, спадзяюся, я не памыляюся, інтэлігент?

Кастусь павярнуў галаву. Каля яго стаяў невысокага росту мужчына ў шэрым паліняллым касцюме. Галава яго была ўся белая, але твар не выглядаў старым.

Не дачакаўшыся адказу, чалавек працягнуў Кастусю руку:

— Маю гонар, былы студэнт трэцяга курса Цвярскога ўніверсітэта Іосіф Валяр'янавіч Лопух.

— Канстанцін Іванавіч Рокаць.

— Вельмі прыемна. Сярод гэтых людзей,— Іосіф Валяр'янавіч кіўнуў на пасажыраў,— мне няма з кім пагаварыць. Гэта шчасце, калі ёсць інтэлігентны спадарожнік. Мгу-у...

Ён гаварыў, паторгваючы плячом, кружачы на адным месцы і ўвесь час мармытаў: «Мгу-у... Ага...»

— Што ж пацягнула вас у нашу мясцовасць? Вы, спадзяюся, мгу-у, не памыляюся, нетутэйшы?

— Накіраванне маю.

— У школу?

Кастусь кіўнуў.

— Так і ведаў. Мгу... Я таксама настаўнік. Ваш калега.

— У якой школе працуеце?

Іосіф Валяр'янавіч развёў рукамі.

— Не падыходжу, мгу. А я, даражэнькі мой, рыхтаваў дзяцей самога Горвата да паступлення ў Парыжскі ўніверсітэт.

— А хто такі Горват?

— Багацейшы быў чалавек. Хутка ўбачыце яго палац. Ён па гэтай рацэ зімой, бывала, захоча праехаць на маторцы, яму ламаюць лёд. Летам мог захацець ехаць на санях, тады яму пасыпалі соллю дарогу. Меў грошы, мгу...

— А можа гэта самадур?

— Грошы, паважаны калега, грошы меў, і, што хацеў, тое і рабіў, мгу... А як вось у мяне няма грошай, калі ласка: у буфеце ёсць піва, а паспрабуй выпіць, мгу...

Паторгваючы плячом, ён адышоў ад Кастуся і тут жа вярнуўся.

— У якую школу прызначэнне?

— Яшчэ не ведаю. У раёне скажуць.

— У нашай вёсцы няма настаўнікаў. Можа здарыцца, калега, што вы трапіце ў Ціхую Дуброву, мгу...

— Прыгожая вёска?

— Што, паважаны калега, прыгожага ў вёсцы? Гной, балота, невуцтва...

— Але ж там ёсць людзі...

— Не спаткаў. Пятнаццаць гадоў жыву і не спаткаў... А балота бачу кожны дзень, мгу...

Ён адышоўся, пастукваючы сукаватай палкай па палубе, але неўзабаве вярнуўся зноў.



— Ведаеце, піва, здаецца, скора не будзе,— сказаў ён.— Мгу...

Кастусь зразумеў і дастаў з кішэні грошы.

— Я не п'ю, але калі вы жадаеце...

Іосіф Валяр'янавіч надзьмуў шчокі і вылупіў вочы:

— Паважаны калега, піва — цудоўны напітак!

— А, між іншым, ячмень, з якога робіцца піва, без гною не расце,— заўважыў, усміхаючыся, Кастусь.

Але Іосіф Валяр'янавіч ужо не слухаў Кастуся. Пастукваючы сукаватай палкай па палубе, ён падыбаў у буфет.

## 4

Загадчык райана, рухавы мужчына гадоў трыццаці пяці, узяў накіраванне ў Кастуся і некалькі разоў паўтарыў яго прозвішча.

— Рокаць, Рокаць... Ага. Прызначэнне мы падрыхтавалі. Вы едзеце загадчыкам двухкамплектнай школы ў Ціхую Дуброву.

— У Ціхую Дуброву? — узрадаваўся Кастусь.

— Вы ведаеце гэтую вёску?

— Не. Выпадкова сустрэў на параходзе чалавека з гэтай вёскі.

— Дык ведайце: там вам не будзе ціхага жыцця. Прыйдзецца працаваць на дзве змены. І масавую работу трэба весці. Гэта я ўжо вам кажу, як загадчык аддзела прапаганды райкома партыі. Я загадчыкам райана працую па сумяшчэнню, пакуль прышлюць на гэтую пасаду чалавека. Дарэчы, маё прозвішча Голад... І яшчэ, таварыш Рокаць... Рокаць... О, успомніў, адкуль я вас ведаю! Сустракаў ваша прозвішча ў друку. Дарэчы, я шукаю каго на месца рэдактара раённай газеты. Пачакайце, дык можа...— ён працягнуў руку да Кастусёвых дакументаў, але той хуценька паклаў іх у кішэню.

— Папрацую спачатку ў вёсцы. Што я буду пісаць, калі не ведаю вясковага жыцця.

Голад усміхнуўся.

— Ну, добра. Людзі, людзі, дзе іх узяць? Адкрываюцца газеты, школы, клубы, бібліятэкі. А кадраў не хапае.

За акном мільганула нечая постаць. Голад высунуўся з акна.

— Таварыш Дубікоўскі, зайдзі! — І да Кастуся: — Гэта загадчык сельпа ў Ціхай Дуброве і сакратар кандыдацкай групы.

Праз хвіліну ў пакой уваліўся плячысты мужчына гадоў трыццаці. Відаць, толькі з цырульні. Чорныя валасы яго былі гладка прычэсаны, шчокі выбрыты, толькі хіба калматыя бровы, што зыходзіліся на пераноссі, цырульнік не здагадаўся прычасаць.

— Пазнаёмцеся. Гэта ваш загадчык школы і клуба.

— Сымон,— сказаў Дубікоўскі і паціснуў Кастусю руку.— Я спяшаюся на нараду. Там старшыня нашага сельсавета Драпей і старшыня калгаса Збароўскі. Нарада закончыцца позна. Мабыць, заначуем. Ідзіце на базар, там ёсць падводы з Дубровы. Падвязуць.

Дубікоўскі накіраваўся ў ДСК, а Кастусь рашыў зайсці ў райком камсамола, узяцца на ўлік.

У невялікім пакоі, заваленым стосамі брашур, быў адзін хлопец. Кастусь прадставіўся.

— Ну, пазнаёмімся. Фёдар Пацукевіч,— сказаў паважна ён, падымаючыся з-за стала.— Я сакратар райкома... Сядай...

Кастусь сеў. Пацукевічу, відаць, надакучыла сядзець аднаму ў пакоі, і ён з прыемнасцю пачаў даваць указанні маладому настаўніку.

— Голад званіў. Ну, наконт школы табе вядома, як і што. А вось што датычыцца клуба, дык тут трэба правярнуць масавыя мерапрыемствы. Нічога там не робіцца. Ізбача ў армію ўзялі, ён быў і сакратаром камсамольскай арганізацыі. Часова замяшчае яго Віталь Зык. Правесці мерапрыемствы ён яшчэ не можа, але хлапец добры, пакуль што працуе памочнікам каваля. Ёсць у яго класавы нюх і пачуццё пільнасці. Абапірайся, брат, на такога хлопца і праварочвай мерапрыемствы.

Якія мерапрыемствы трэба было правярнуць, Пацукевіч так і не сказаў, хоць і гаварыў шмат. Закончыў ён свой інструктаж словамі:

— Галоўнае, брат, звесткі. Не, ты не смейся. Іншы і працуе добра, а хто пра гэта ведае? А ты рабі так: правёў мерапрыемства — звестку ў райком. Сацыялізм — гэта ўлік.

Ён зноў устаў з-за стала і працягнуў руку:

— Усё, брат. Забяры вось літаратуру і... Але пачакай, можа, першы захоча з табой пагаварыць...

Пацукевіч зайшоў у другі пакой і зараз жа вярнуўся.

— Заходзь. Казакоўскі там.

Першы сакратар збіраўся кудысьці ехаць. На ім ужо быў гумавы сіні плашч, на стале ляжала туга набітая армейская сумка. Ён прысеў побач з Кастусём ля стала.

— Ты гарадскі?

— Так, бацька рабочы.

— У вёсцы даводзілася працаваць?

— Выязджалі ў пасяўную, на бульбу ўвосень.

— У самадзейнасці прымаў удзел?

— Здаралася.

— Там, у Ціхай Дуброве, ёсць тры артысты: бухгалтар калгаса п'яніца Вася Пацалуеў, яго жонка, швачка без патэнта, Яніна, і спекулянт мясам лішэнец Дубінецкі. Яны там разгарнулі такую самадзейнасць: цягнуць на сцэну пашляціну. На Першае мая яны разыгралі такую камедыю: перад трыбунай змайстравалі з кардону магілу, на ёй крыж, на крыжы — спіс калгаснікаў і калгасніц, якія парушалі працоўную дысцыпліну. Паніхіду наладзілі, разумееш. Чорт ведае што! Кажуць, гэта наватарства. Людзі крыўдзяцца. Разгарні там сапраўдную самадзейнасць. Арганізуй моладзь.

— А камсамольцаў там многа?

— Актыўныя хлопцы і дзяўчаты паехалі вучыцца. Засталіся менш актыўныя. Трэба іх зрабіць актыўнымі. З гэтага і пачынай.

На развітанне ён моцна паціснуў Кастусю руку.

## 5

Кастусю трэба было спяшацца. Нагружаны брашурамі і кніжкамі, ён прыйшоў на базар. На шырокай плошчы, усланай сенам, саломай і сухім гноем, стаяла яшчэ шмат фурманак.

— Ёсць тут хто з Ціхай Дубровы? — спытаў Кастусь у аднаго дзядзькі.

Той паціснуў плячыма і спытаў другога вусатага дзядзьку:

— З Ціхай Дубровы нікога не бачыў?

— З Ціхай Дубровы? Здаецца, той,— вусаты павярнуўся і крыкнуў: — Эй, слыш, ты часам не з Дубровы?

Невысокі чалавек з сярдзітым тварам, што стаяў ля воза з дрывамі, зірнуў на іх воўкам. Потым хапіў пугу, некалькі разоў сцебануў вусатага дзядзьку і ўскочыў на воз.

— Заразы, і тут даведаліся! Но-о-о!..— разануў ён пугай каня.— Ваўкі б вас паелі!

— Вар'ят, ці якое ліха? — крыкнуў яму ўслед вусаты дзядзька.

Ні Кастусь, ні вусаты не маглі зразумець, што тут адбылося. Да іх падышоў селянін з хітраватымі вачыма і не то жартам, не то ўсур'ёз пачаў дакараць:

— Ну, навошта вы пакрыўдзілі Метука? Дроў нават не прадаў, павёз дамоў...

— Хто яго крыўдзіў? Я толькі спытаў гэтага дурня, ці не з Дубровы ён. А ён як вызверыцца...— махнуў рукою вусаты дзядзька.

— А навошта ж было мянушку яго ўспамінаць?..

— Якую мянушку?

— Якую? Я ж чуў, як ты сказаў: «Слыш». Гэта і ёсць яго мянушка.

— Ну, бачыш ты! І сапраўды, я гэтак сказаў... А хто ж яго ведаў. Вось чалавек шукае фурманкі з Дубровы,— ён кіўнуў на Кастуся.

— Дык я з Дубровы,— хітраваты чалавек з цікавасцю агледзеў Кастуся жоўтымі вачыма, нібы ўзважваючы, чаго ён варты.— Дудкоўскі маё прозвішча.

— Трэба ж так натрапіць,— ківаў галавой вусаты дзядзька.

— А вы, таварыш, да нас прадстаўніком, ці як? — спытаў у Кастуся Дудкоўскі.

— Настаўнік я.

— Настаўнік? — Дудкоўскі яшчэ раз агледзеў Кастуся сваімі хітраватымі вачыма.— Ну, дык калі не грэбуеце, то сядайце на мой воз.

Кастусь паклаў кніжкі, папрасіў пад'ехаць да культмагазіна, дзе для школы былі выпісаны падручнікі, сшыткі, мікраскоп і іншыя школьныя прылады.

— Колькі грошай на іх дзяржава траціць,— ківаючы галавой, сказаў Дудкоўскі, калі ўсё акуратна было ўкладзена на возе і яны самі ўселіся.— А яны не хочуць вучыцца.

— А ў вас дзеці ёсць?

— На жаль, няма. Жонка мая — кволая жанчына. Ды і я здароўя не маю. Но-о, ты, худобіна! — тузануў ён лейцамі каня. Конь ірвануўся і шпарка пабег.— Вось мяне часам пытаюць, чаму ты, Дудкоўскі, не ўступаеш у калгас? А што я там буду рабіць? Здароўя няма ні ў мяне, ні ў жонкі. Уступіць у калгас і не працаваць, якая ж карысць з такога калгасніка? Праўда ці не?

Кастусю хацелася злезці з воза і пайсці пешшу. «Можа які цвёрдазаданнік...— падумаў Кастусь.— Яшчэ скажуць: не паспеў прыехаць, а ўжо знюхаўся з кулаком».

Дарога здалася доўгай. Аж да самай вёскі Дудкоўскі скардзіўся на слабае здароўе і людзей, якія не спагадаюць яму.

Смачныя бліны, якімі Кастуся частавала жонка Дудкоўскага, высокая худая жанчына з сумным хваравітым тварам, не лезлі ў горла, хоць за дарогу Кастусь добра прагаладаўся. Каб не пакрыўдзіць гаспадыню, ён з'еў некалькі бліноў і, не жадаючы залазіць у доўг да чалавека, які яму надакучыў за дарогу, паклаў на стол грошы.

— Гэта за фурманку і за смачны пачастунак.

— Ды навошта грошы? Схавайце, калі ласка,— запярэчыла гаспадыня.

Тое ж самае сказаў і Дудкоўскі, але ў яго голасе не было шчырасці.

— А калі хочаце пасяліцца ў нас — можаце. Хата вялікая, дзяцей няма.

— Ды хіба настаўнік захоча пасяліцца ў аднаасобніка,— са смуткам сказала гаспадыня.

Грошы Дудкоўскі ўсё ж узяў, хоць гаспадыня хацела іх вярнуць. «Не, на твой вазок я больш не сяду»,— думаў Кастусь, пакідаючы хату Дудкоўскага.

Кватэру, аднак, трэба было шукаць. Клубны вартаўнік Кароль, маленькі, шчуплы, увесь белы, як лунь, дзядок, і яго жонка Марта параілі пайсці да Адамкі Дарыдовіча.

— Чалавек ён добры, сардэчны. Усе настаўнікі ў іх сталаваліся. А Дудкоўскі — паразіт, гандлюе коньмі. Ён вас абдзярэ, як ліпку. Не, не, не ідзіце да Дудкоўскага. Толькі да Дарыдовіча. У Дарыдовіча — сын, дзве дачкі, але яны недзе вучацца. Усю зіму іх няма.

На двары ў Дарыдовічаў дагарала вогнішча, на якім варыліся грыбы. Гаспадар, невысокага росту чалавек, гадоў пад пяцьдзесят, з вясёлымі блакітнымі вачыма, з рыжымі вусамі, корпаўся ў сенцах. Ён ужо ведаў, што ў вёску прыехаў новы настаўнік і што людзі пашлюць яго сюды.

— Дзеці,— гукнуў ён у хату.— Дайце настаўніку крэсла. Заходзьце, калі ласка...

З пакоя ў кухню выйшлі дзве дзяўчыны. Старэйшай было гадоў шаснаццаць. Вочы ў яе такія ж блакітныя, як у бацькі, толькі вялікія і ясныя. Яна паставіла ля стала крэсла і хуценька выйшла. Сястра яе, гады на два маладзейшая, з белымі кучаравымі валасамі, прыглядалася да госця.

У хату ўвайшла гаспадыня. Яна ветліва прывіталася, паставіла на стол прыгатаваныя грыбы, запрасіла Кастуся пакаштаваць, а сама выйшла з хаты. Гаспадар — за ёю.

Ніколі ў жыцці Кастусь не еў такіх смачных грыбоў. «Тут сапраўды будзе добра,— падумаў ён.— Калі на кухні так чыста і ўтульна і калі гаспадыня так добра гатуе...»

У гэты момант праз адчыненыя дзверы Кастусь пачуў гутарку гаспадара з гаспадыняй.

— Возьмем, Стэфа, шкада, маладзенькі...— упрошваў жонку гаспадар.

Гаспадыня не згаджалася:

— Зноў клопат... Той быў хворы, гэты нейкі кволы. А калі ўзяць чалавека, трэба ж дагледзець...

Гаспадар вярнуўся ў хату і сеў на зэдлік ля сцяны.

— Можа яшчэ грыбоў?

— Не, дзякую.

— Мо не спадабаліся?

— Што вы! Каб нам хто даў такія ў студэнцкай сталоўцы...

— То праўда. Мая малодшая, Ядзя, у Галоўчыцах у інтэрнаце, а старэйшая, Алінка, у медыцынскім тэхнікуме вучыцца, дык як прыедуць дадому — змятаюць усё, што маці ні паставіць на стол.

Гаспадар уздыхнуў. Яму цяжка было сказаць тое, пра што Кастусь ужо ведаў.

— На жаль, не можам вас узяць на кватэру. Хоча троху мая гаспадыня адпачыць ад сталаўнікоў. Вы ўжо нам прабачце.

Кастусь устаў.

— Ну што ж, дзякую за грыбы. Шкада,— сумна ўсміхнуўся ён



і ў нейкі момант сустрэўся з позіркам Алінкі. «Якія ў яе цудоўныя вочы»,— падумаў ён і, кінуўшы: «Бывайце здаровы», выйшаў з хаты.

Не ведаў Кастусь, што ў гэтым доме яму давядзецца перажыць многа радасных і горкіх хвілін.

# РАЗДЗЕЛ ДРУГІ

## 1

Начаваў Кастусь у класе на школьных сталах. Устаў рана, замёрз, адляжаў бакі.

Стары Кароль, пачуўшы, што Кастусь не спіць, зайшоў да яго.

— На вышках ёсць жалезны ложак,— сказаў ён.— Дачка мая на ім спала. Можа дастаць?

— Добра,— згадзіўся Кастусь.— Пойдзем разам.

Дасталі ложак. А дзе яго паставіць? У старой школе было два пакоі, у якіх вучыліся дзеці. У трэцім, маленькім, з рускай печкай, жыў Кароль з Мартай. Быў яшчэ невялічкі пакойчык, які яны займалі, хоць ён і лічыўся настаўніцкай. Да зімы меркавалася перавесці школу ў новае памяшканне. Усё там было гатова, трэба было толькі пачакаць, пакуль высахнуць атынкаваныя сцены. Памяшканне старой школы аддавалася пад клуб і бібліятэку.

— Пойдзем, паглядзім новую школу,— сказаў Кастусь. Яна была побач, метраў якіх за сто.

Школа была прасторная. У класах — вялікія вокны і высокая столь. У самым канцы будынка — жылыя памяшканні. Два пакоі для сямейнага настаўніка і пакой для халасцяка.

— Вось тут давайце і паставім ложак,— сказаў Кастусь.

Кароль дакрануўся рукой да сцяны.

— Яшчэ не высахла.

Нехта, грукнуўшы дзвярыма, бег па калідоры.

— Хто там? Што трэба? — пачуўся жаночы голас.

Кастусь зірнуў на старога.

— Агата,— сказаў той.— Вартаўніца. Мы з Мартай прыбіраем у клубе, яна — у новай школе.

Пабачыўшы настаўніка, Агата пачала апраўдвацца:

— Прабачце, я думала, мо дзеці якую гульню тут распачалі.

У Агаты быў прадаўгаваты твар, доўгі, крываваты нос. У роце два зубы.

— Мо настаўнік? — спытала яна Караля.

— Так,— адказаў Кастусь.— Я загадчык школы.

— Вось добра,— узрадавалася Агата. Яна зірнула выцвілымі вачыма на Кастуся: — Мо і жыць тут збіраецеся?

— Так. Ды вось сцены сыраватыя...

— Зараз, мамка мая, запалім печ, прасохнуць. Я там, у класах, ужо даўно палю.

Яна замітусілася ля печы, а Кароль з Кастусём пайшлі па ложак. Неўзабаве ў пакоі стаялі ложак з туга набітым саломай сеннікам, стол, два крэслы, у печы бушаваў агонь. Цётка Агата час ад часу адчыняла дзверы і пыталася:

— А коўдра, рыбанька мая, у цябе ёсць?
— Ёсць, ёсць.
— І падушка?
— І падушка.
— Я паадчыняла вокны ва ўсіх класах — хай сохнуць сцены.
— Добра, добра.
— А згатаваць есці я таксама табе магу, рыбка мая. Дарма што ўдава, але жыву ворагам на зайздрасць. Два сыны нежанатыя і дачка працуюць у калгасе...

Пакуль Кастусь раскладваў свае рэчы, Агата некалькі разоў бегала на сяло і прыносіла нешта пад хусткай, якая накінута была на плечы.

— Добрай раніцы,— раптам пачуў Кастусь: пад акном з сукаватай палкай, босы, без шапкі, стаяў Іосіф Валяр'янавіч.

— Дык вас усё ж такі прыслалі да нас? Вельмі прыемна, мгу... Я зараз зайду, каб паціснуць вам руку.

Але перш, чым зайсці да Кастуся, ён зазірнуў на кухню.

— Паважаны калега, я бачу мёд, мгу...

Кастусь выйшаў у калідор.

— Гэта ж калі пчолы пачуюць, яны злятуцца сюды, мгу... Яго хуценька трэба вось так...— Іосіф Валяр'янавіч узяў лыжку і паказаў, куды яго трэба хаваць. Потым, выціраючы вусы, пайшоў за Кастусём у пакой.— Калі я вучыўся ў Цверы...

Іосіфа Валяр'янавіча праз адчыненае акно ўбачылі калгасныя хлопцы. Яны ішлі паўз школу ў поле.

— Іосіф Валяр'янавіч! — крыкнуў высокі.
— У чым справа? — высунуўся той з акна.
— Хадзем з намі жняярку рамантаваць.

Іосіф Валяр'янавіч аж падскочыў, быццам яго хто ўкалоў.

— Дурні, ідыёты! — ён стукнуў палкай аб падлогу.— Я з вамі свіней не пасвіў...

Праклінаючы хлопцаў на чым свет стаіць, ён выйшаў з пакоя. Хлопцы, рагочучы, падышлі пад акно.

— А вы не баіцёся работы? — спытаў высокі.

Хлопцы спадабаліся Кастусю.

— Вы ніколі не ігралі на сцэне? — спытаў Кастусь у жартаўніка.
— Не,— збянтэжыўся ён.
— А з вас выйдзе добры артыст. Як вас завуць?
— Монача.
— Сапраўды, прыходзьце ў клуб пасля работы. А скажыце, чаму вы са старога чалавека насміхаецеся?
— Скажы ты, Бароўскі, ён табе радня...
— Гэта, разумееце,— сказаў Бароўскі,— першы наш інтэлігент. Да рэвалюцыі ён адзін паступіў ва ўніверсітэт з усёй вёскі. Здольны быў. Але, разумееце, цяжка было вучыцца. Бацькі не змаглі яму памагчы. Потым захварэў і з трэцяга курса кінуў заняткі. Прыехаў у вёску — адзіны інтэлігент. Яго запрашаюць вучыць сваіх дзяцей багатыя, шляхта і нават памешчыкі. Ну і ўявіў сабе, што ён разумнейшы за ўсіх. Вельмі не любіць, калі яго завуць гной насіць або яшчэ якую-небудзь чорную работу рабіць.

Памаўчалі, прыглядаючыся адзін да аднаго.

— А вы да нас загадчыкам школы?
— І клуба. Дык прыходзьце. Сапраўды. Прывядзіце яшчэ каго з моладзі.
— Прывядзём...





## 2

Ціхая Дуброва была даволі вялікая вёска. Выган дзяліў яе на дзве часткі. Большую звалі Ваколіцай, меншую — Дубровай. Ваколіца канчалася бродам. У гэтай палавіне вёскі быў сельсавет, праўленне калгаса, калгасны двор, яслі, магазін, пажарная з вышкай.

Пасля снедання Кастусь зайшоў у сельсавет, але там яшчэ нікога не было. Тады ён скіраваў у кузню — трэба было пагутарыць з Віталем Зыкам.

Ля кузні каля жняяркі завіхаліся той жа Бароўскі і Монача. Брыгадзір, таксама знаёмы ўжо Кастусю Адамка Дарыдовіч, падганяў кавалёў.

— Хлопчыкі, хутчэй,— ён адказаў на Кастусёва прывітанне і, як старому знаёмаму, паскардзіўся: — Трэба ж было ёй сапсавацца ў такі гарачы час... Віталь, ну як ты робіш,— скрывіўся Адамка, убачыўшы, што той не так, як след, заганяе зубы ў жняярку. Ён выхапіў з рук Зыка малаток і паказаў, як гэта трэба рабіць. Потым спытаў у Кастуся: — Дзе ж вы пасяліліся?

— У школе.
— А сталавацца дзе будзеце?
— Сёння вартаўніца дала паснедаць...
— Скобаліха?

— Не ведаю. Агата яе завуць.
— Так, так. Скобаліха,— Адамка ўсміхнуўся.— У гэтай кабеты чулае сэрца, нават занадта чулае.
— Як гэта? — здзівіўся Кастусь.
— Мужа яе, Скобаля, яшчэ да рэвалюцыі ляснік забіў. Ні за што. Засталася Скобаліха з двума хлопцамі і дзеўкай. Цяпер выраслі хлопцы, як дубы. Анця, дачка, у яслях працуе. Хлопцы, Валодзя і Зюня, у калгасе. Зарабляюць шмат. Ім таго, што яны заробяць, і за год не з'есці, а хапае на некалькі месяцаў.
— П'юць?
— Ды не. Усё праз тую маці. Што яны заробяць, Скобаліха пад хусткай разнясе па хатах. Таму як падзяка, што некалі выручыў; другому — доўг; трэцяму, як суседу; у чацвёртага — дзеткі, шкада... А яны, хлопцы, рахманыя, цярплівыя, і матцы ні слова не скажуць...
Раптам васільковыя Адамкавы вочы застылі ў жаху. Кастусь стаяў плячыма да жняяркі і не адразу зразумеў, што здарылася. Калі ён павярнуўся, Слыш вялікім калом ужо малаціў па жняярцы, прыгаворваючы:
— Вось вам вашыя трахтары, ваўкі б вас парэзалі ды паелі!..
— Звар'яцеў, ці што!? — кінуўся да яго Адамка.
Пакуль у Слыша адабралі кол, ён нарабіў многа шкоды.
— О, дурны чалавек...—ківаў галавой Адамка, гледзячы на пабітыя зубы жняяркі.
Віталь Зык, якога брыгадзір толькі што лаяў за нядбайства, падышоў да Кастуся і, нібы так сабе, буркнуў:
— Дурны то дурны, але той, хто яго падвучыў, не дурны... Ой, не дурны...

## 3

Кастусь не паверыў Зыку, што тут зламысны ўчынак, але ўсё ж рашыў схадзіць да Слыша. Трэба паглядзець, што гэта за чалавек.
Вулачка, што вяла да Слышавай сялібы, была вузкая. Па баках высокі тын. За тынам стаялі дзве хаты. У садочку той, што была бліжэй, чуліся дзявочыя галасы. Кастусь прыгледзеўся. На ганку сядзела дзяўчына, вельмі падобная да Лёдзі. Яе ногі былі адкрытыя вышэй кален.
— Апошнія дзянькі, Гэлечка,— сказала яна, падстаўляючы сонцу твар.— У Ленінградзе так не пагрэешся.
Дзяўчына, якую яна назвала Гэляй, сядзела на суку вялікай шаўкоўніцы, зрывала і ела ягады.
— Вераніка, падстаўляй прыпол, кіну ягад!
— Не хачу.
— Кіньце лепш мне,— сказаў Кастусь, спыніўшыся пад дрэвам. Ён меў нейкую здольнасць проста і шчыра сыходзіцца з людзьмі, асабліва з моладдзю.
— Ой! — усклікнула Вераніка і закрыла калені сукенкай.
— Калі ласка,— сказала Гэля, прыглядаючыся з цікавасцю да Кастуся.— Трымайце,— яна нахілілася і сыпанула яму ў жменю ягад.
— Дзякую,— усміхнуўся Кастусь.— А цяпер скажыце: тут толькі што ехаў...— ён хацеў сказаць «Слыш», але спахапіўся, успомніўшы, што гэта мянушка,— гаспадар...



— Ён жыве там,— махнула рукой Вераніка.— Але яго цяпер дома няма. Можаце пачакаць у нас. Вы да яго ў госці?
— Не, я, разумееце, настаўнік...
— Прыехалі ў нашу вёску працаваць? Сядайце,— запрасіла Вераніка і, падаючы талерку Гэлі, сказала: — Нарві ягад.
— Зараз нарву самых чорных.
— Першы год будзеце працаваць?
— Так.
— Хутка нас чакае такі ж лёс — шкрабы. Мы канчаем у гэтым годзе тэхнікум у Ленінградзе.
— Ах, вось што! А я сабе думаю, што ж гэта за прыгажуні загараюць у такі гарачы час...
— Ніхто не арганізуе нас. А мы самі... Ды цяпер ужо і позна. Да першага верасня засталіся лічаныя дні.
— Бярыце ягады,— Гэля падала Вераніцы талерку і, спрытна ўхапіўшыся за сук, саскочыла на зямлю. Цяпер было відаць, што яна вышэйшая за сваю сяброўку, і яе гарэзлівыя вочы нібыта пыталі: ну, каторая з нас табе больш падабаецца?
Кастусю яны спадабаліся абедзве, хоць на Вераніку за яе падабенства да Лёдзі ён глядзеў, як на старую знаёмую.
— Скажыце, прыгожы горад Ленінград?
— Цудоўны! А прыйдзецца кінуць і паехаць вось у такую глуш,— сказала Вераніка.— Ні за што!
— А што ж вы зробіце, калі пашлюць?
— Выйду за якога-небудзь старога замуж.
— Навошта за старога? Там столькі маракоў...
— Не, гэта ўсё глупства. Жарты,— усміхнулася Вераніка.— Лепш скажыце, як малады настаўнік думае распачынаць працу?
Жаночы лямант перапыніў іх гаворку:
— Загубілі! Ой, людзі добрыя, ратуйце чалавека!..
Дзяўчаты кінуліся да жанчыны.
— Што здарылася, цётачка?
— Утапілі... Ляжыць у яме мой Мітук.
— Які Мітук? — спытаў Кастусь.
— Ну, той гаспадар, да якога вы ішлі.
Усе пабеглі паглядзець на Мітука. Пабег і Кастусь.
Слыш ляжаў, уткнуўшыся тварам у ямку з вадой, з якой ён браў гліну...

## 4

Пад вечар прыехалі з раёна Збароўскі, Драпей і Дубікоўскі. У меншым класе старой школы сабралі кандыдатаў партыі, камсамольцаў.
Старшыня сельсавета Рома Драпей хадзіла паміж парт. Высокая, шыракаплечая, падстрыжаная, як хлопец, у юнгштурмаўскім касцюме з партупеяй і рамянём, у ботах. Калі б не чорная кароткая спадніца, можна было б падумаць, што гэта малады прыгожы чарнявы хлапец.
— Я вам кажу, што ён быў п'яны. Ей-бо, п'яны... Таму і ўтапіўся.
— Хутчэй, сардэчны прыпадак,— заўважыў спакойна Збароўскі.— А можа і сам нырнуў?
— А што вы думаеце? — уставіў Дубікоўскі.— Спужаўся, што пойдзе пад суд. За жняярку.

Зык хітра паглядаў то на Збароўскага, то на Драпей, то на Дубікоўскага.

— А пра ворагаў вы забыліся? Варта з гэтага боку зірнуць на справу.

— Ну і што ты з гэтага боку бачыш? — спытаў Дубікоўскі.

— А тое, што яны ёсць.

— А хто ж кажа, што няма?

— Але ніхто пра іх не ўспамінае,— цягнуў сваё Зык.

— Ты, брат, не круці,— абурыўся Сымон Дубікоўскі.

— А я вам кажу, што ён быў п'яны. Ей-бо...

— Пачакай, Рома,— перабіў яе Збароўскі,— можа што Зык ведае.

— Можа і быў п'яны,— згадзіўся Зык і хітра ўсміхнуўся.— Але хто яго напаіў? Ага, маўчыцё. Падпаілі, падвучылі, а тады навошта ён ім... Ну і піхнулі ў ваду. Змылі сляды...

— Хто?

— Трэба шукаць,— вочкі ў Зыка блішчалі. Ён нешта недагаворваў.

— Дзе шукаць? — спытаў Збароўскі.

— Ага, шукай ветру ў полі,— прамармытаў Валодзя Скобаль.

— А навошта ў полі? Пад вокнамі трэба пахадзіць ды паслухаць.

Кастусю стала непрыемна ад Зыкавых слоў. Але ён змоўчаў. Трэба паслухаць іншых.

І тое, што яму хацелася сказаць, сказаў Збароўскі.

— Вядома, ворагі ў нас ёсць,— сказаў старшыня калгаса.— І нават гэты, назавём, пакуль што, няшчасны выпадак, а не злачынства, яны выкарыстаюць у сваіх мэтах: маўляў, мужык-бядняк супраць тэхнікі... Але Зык перабольшвае. А яго прапанова недарэчная. Трэба не пад вокнамі слухаць, а каб нас тут у клубе слухалі людзі, ды тое-сёе разумелі. Вось маем зараз загадчыка клуба. Трэба яму памагчы. Газету выпусціць...

Усе павесялелі. І толькі адзін Зык сядзеў насуплены.

— Газеткай чалавека не вернеш.

— Нічым яго ўжо, Вітоль, не вернеш,— заўважыў Збароўскі.

— Дык за кулакоў трэба ўзяцца.

— Ды якіх кулакоў! Што ты мелеш! — зноў абурыўся Збароўскі.— Вывезлі мы іх ужо. Дом, дзе праўленне, чый быў? А дзе цяпер яслі, сельсавет?

— А падкулачнікі засталіся...

— Моладзь у клубе сабралася,— паведаміла загадчыца ясляў Марыся Брагінская.— Пагаворым пра самадзейнасць, а то топчамся на месцы.

— І то праўда,— усміхнулася Драпей.

У вялікім пакоі, які называлі ўжо клубам, сабралася шмат хлопцаў і дзяўчат. Большасць з іх былі студэнты. З пажылых людзей сядзеў адзін брыгадзір. Як толькі ён убачыў старшыню, устаў:

— Тут такая справа, таварыш Збароўскі... Жнейку мы яшчэ не адрамантавалі, а пагода стаіць. Я тут сядзеў і думаў: можа студэнты памогуць?

— А гэта правільна! — сказаў старшыня і, ужо звяртаючыся да моладзі: — Брыгадзір запрашае заўтра ў поле выйсці з сярпамі. Ну, як?

— Пойдзем! — у адзін голас адказалі Гэля і Вераніка. Іх падтрымалі іншыя.



# РАЗДЗЕЛ ТРЭЦІ

## 1

— А ведаеце,— сказаў Кастусь Вераніцы, калі яны ўвечары вярталіся з клуба дадому,— на калгасным двары разыгралася сёння камедыя. Дудкоўскі прывёў здаваць нейкую клячу.

— А што, ён уступіў у калгас?

— Так.

— Дык у яго ж добры конь!

— Бачыў я гэтага каня... А прывёў — жах! Грыва ды хвост. Конюх пытае: «Дзе твой конь?» А ён: «На базары цыганы выпраглі з калёс, а пакінулі гэтую клячу». Калгаснікі рагочуць: «Агэ,— кажуць,— калі быў аднаасобнікам, каня ні разу не выпраглі». А старшыня паверыў у гэтую хлусню.

— Дудкоўскі яму радня.

— Я чуў, Збароўскі быў у час нямецкай і белапольскай акупацыі ў партызанах?

— Чалавек ён, вядома, сумленны. Але не хоча сварыцца з жончынымі сваякамі.

— Шкада... А трэба.

Падышлі да пажарнай вышкі. Побач з ёй быў кароўнік. На лавачцы ля вышкі драмаў вартаўнік. Вераніка паклала на вусны палец.

— Ануфрык спіць. Палезем на каланчу,— і пабегла ўперад.

З пажарнай вышкі была відаць уся вёска ад Дубровы да броду. Рэчку серабрыў месяц, навокал у далечыні чарнеў лес.

— Уявім сабе, што мы знаходзімся ў Ленінградзе на Ісакіеўскім саборы. Адтуль відаць увесь Ленінград. Я буду стаяць і расказваць, што мы бачым наперадзе. Добра? Ну, вось там Петрапаўлаўская крэпасць... З таго вунь месца ў дванаццаць гадзін штодзень страляе крапасная пушка...

Нечакана прачнуўся вартаўнік. Невядома, што яму здалося спрасоння, але ён выпаліў угору з дубальтоўкі.

## 2

Дом, у якім знаходзілася праўленне калгаса, стаяў у садзе. У адной яго палавіне была канцылярыя, у другой жыў з жонкай, дачкой і цешчай бухгалтар Васіль Пацалуеў.

Пацалуеў быў нетутэйшы. Вандраваў некалі з перасоўнай групай артыстаў і, зваблены вясковай прыгажуняй, кінуў якар у Ціхай Дуброве, або, як ён казаў, бухце. Чалавек ён быў здольны, але піў. Яня, яго жонка, магла з ім выпіць за кампанію. Васіль быў не першы яе муж. Яна таксама пабачыла свету, дзесьці працавала швачкай, але ў галодныя гады вярнулася ў Ціхую Дуброву да маці.

Яня асабліва праславілася, калі ў вёсцы стаялі ўланы пана Пілсудскага. І цяпер, калі хто прыязджаў з раёна, яна старалася спадабацца «прадстаўніку».

Кастусь ішоў па сцежцы саду. Яня адчыніла акно з намерам звярнуць на сябе ўвагу...

— Дзень добры,— буркнуў Кастусь не вельмі ветліва: Яня не падабалася яму.

У праўленні сядзеў Пацалуеў і моцна стукаў костачкамі лічыльнікаў. Яго азызлы і порысты ад доўгага ўжывання тэатральнага грыму твар быў сіняваты. На Кастусёва прывітанне ён буркнуў нешта, нават не зірнуўшы на яго.

Кастуся Пацалуеў таксама заўважыў яшчэ ў садзе. Але цяпер ён рабіў выгляд, што яго не цікавіць нішто, толькі праца. А працаваць яму, дарэчы, пасля лішняй чаркі зусім не хацелася. Ён чакаў другога чалавека, з якім можна было б яшчэ ўзяць па чарцы, а чорт прынёс гэтага...

— Старшыні няма?

Пацалуеў адказаў не адразу.

— Як бачыце, няма...

— А будзе?

Зноў маўчанне.

— Можа і будзе. Ён мне не дакладвае. Ах, чорт,— скрывіўся бухгалтар і скінуў адразу ўсе костачкі на лічыльніках. Гэта азначала: ідзіце да д'ябла і не перашкаджайце працаваць.

Кастусь не ведаў, што яму рабіць. Ён ішоў у праўленне, спадзеючыся спаткаць тут трох старшынь: сельсавета, калгаса і сельпо, а не было ніводнага.

Кастусь ужо хацеў ісці, але ў гэты момант у канцылярыю ціха ўсунуўся Дудкоўскі.

— Добры дзень! О, і настаўнік тут... А старшыні няма?

— Што вы — паслеплі! — злосна стукнуўшы лічыльнікамі, крыкнуў Пацалуеў.— Сто чалавек за раніцу паравярнулася тут, і ўсё: няма, няма... Быццам самі не бачаць!

— Гэта праўда,— усміхнуўся Дудкоўскі.— Чалавек такі: і бачыць, а не верыць. Вось каняку ў мяне выпраглі, а ніхто не хоча паверыць. Хоць галавой аб сцяну... Дык я справачку ад міліцыі прынёс. Вось яна. Перадайце, калі ласка, яе старшыні.

«Значыць, каня ўсё-такі вывелі з аглабель»,— падумаў Кастусь, выходзячы з праўлення.

За яго спіной Дудкоўскі хітра ўсміхаўся Пацалуеву.

### 3

Сельскі савет быў насупраць праўлення, у вялікім доме з прыгожым ганкам, увітым дзікім вінаградам. Кастусь перайшоў вуліцу, пераступіў лаз, і тут на ганак выйшла Драпей.

— Добра, што ты прыйшоў. Ёсць тэлеграма. Настаўнікаў выклікаюць на канферэнцыю.

— Настаўнікаў? — усміхнуўся Кастусь.— Я ж адзін...

Прыселі на лавачцы.

— Як там з падрыхтоўкай да заняткаў?

— Сцены сохнуць. Потым пабелім. Пачнем пакуль у старой.

— А клубныя справы?

— Лямпу запальваю. Прыходзяць, чытаюць газеты, гуляюць у шашкі. Скора арганізуем працу гурткоў. Але ведаеш, Рома, як толькі перабяромся ў новую школу, трэба прыбудаваць да старой школы сцэну з кулісамі, грыміравальным пакоем, як у горадзе. У меншым класе зробім чытальню. Купім радыё. У большым будзе сцэна і глядзельная зала.



— А грошы?

— Дай толькі, Рома, на лес. Пабудуем самі.

— А што, падумаем... У нас жа хлопцы якія! Толькі хай у полі работа сплыве. Пашукаю грошай. І як гэта думка раней нам не прыйшла ў галаву?

— Ну, не было тады новай школы.

— І то праўда. А ты ведаеш, я вельмі люблю на сцэне выступаць, танцаваць за хлопцаў. Эх, чаму я не хлопец! — яна папраўіла рэмень на гімнасцёрцы. У Ромы былі чырвоныя пухлыя губы, чорныя бліскучыя вочы, але, магчыма таму, што на ёй быў зялёны юнгштурмаўскі касцюм і боты, Кастусь гаварыў з ёю, як з хлопцам.

— Ведаеш, Рома, мяне непакоіць адна рэч.

— Якая? — насцярожылася Рома: яна не любіла непрыемных спраў.

— Людзі кажуць нядобрае.

— Што? — Рома перасела бліжэй да Кастуся.

— Чаму гэта жонкі нашых кіруючых работнікаў не ходзяць на работу? Што гэта за панства? Вунь,— Кастусь кіўнуў на праўленне: — Прыгажуня ў акне красуецца ды яблыкі з калгаснага саду грызе! Сорам!

— Праўду ты кажаш. А што рабіць?

— Трэба пагаварыць пра гэта на сходзе кандыдацкай групы. А можа і на адкрытым, каб калгаснікі ведалі, што мы не мірымся з гэтым.

— Я ж ім ужо казала: шануйце людзей, бо яны вас выбралі. Пойдзем у сельпо да Сымона.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Сымон Дубікоўскі ад самага пачатку стварэння калгаса працаваў радавым, прычым сам станавіўся да самай цяжкай работы. Жонка яго таксама не сядзела ў цяньку ў гарачыя дні. Але вось Сымона выбралі сакратаром кандыдацкай групы, потым старшынёй сельпо, і жонка яго ўзяла сабе ў галаву, што ёй цяпер непрыстойна працаваць, як усе простыя калгасніцы. Сымон за работай не звяртаў на гэта ўвагі.

Абодвух старшынь засталі ля крамы.

— Чорт яго ведае,— сказаў Сымон, насунуўшы шапку на густыя бровы і чухаючы патыліцу.— Вядома, гэта непарадак...

Збароўскі аднёсся да гэтага стрымана, нават, здавалася, абыякава.

— Вам лёгка казаць,— усміхнуўся ён,— пакруціўшы рыжаваты вус.— Вы халастыя, нежанатыя. Калгасам, брат, лягчэй кіраваць, чым сваёй жонкай. А што, калі вы пагаворыце з нашымі жонкамі? Можа яны вас паслухаюць?

— А чаму... Можна пагаварыць,— пераглянуліся Кастусь і Рома.

# РАЗДЗЕЛ ЧАЦВЁРТЫ

### 1

Кастусь устаў рана: рупіла канферэнцыя. Хутка сабраўся і рушыў за вёску.

Пачаўся лес. Ісці была лёгка і весела. То сярод дрэў мільгане вавёрка, то ў верасе пакажацца шапка грыба. Кастусь прысядаў ля грыба і доўга любаваўся: шкада было і пакінуць, шкада было і рэзаць. І ўсё ж перамагала жаданне ўзяць. Так прайшоў ён кіламетраў пяць. За плячыма пачуўся грукат калёс па карэннях. Не азіраючыся, Кастусь узышоў на сцежку, каб даць людзям праехаць. Запахла збруяй і конскім потам.

— Добры дзень, малады чалавек!

Кастусь азірнуўся. На возе сядзела пажылая жанчына, а побач з ёю хударлявы мужчына ў пазалочаных акулярах.

— Прабачце, вы часам не настаўнік з Ціхай Дубровы?

Кастусь кіўнуў.

— Вельмі прыемна,— мужчына перадаў лейцы жанчыне, спрытна саскочыў з вазка і, падышоўшы да Кастуся, працягнуў руку:

— Будзем знаёмы,— я дырэктар Міхайлаўскай школы Аляксей Мікалаевіч Краўчанка, а гэта Эмілія Людзвігаўна — мая жонка.

Кастусь паціснуў касцістую руку Краўчанку, назваў сваё прозвішча і пакланіўся жанчыне.

— Кладзіце сюды свой партфель,— сказала Эмілія Людзвігаўна,— і грыбы... А якія цудоўныя!

— А вы ведаеце, мы заязджалі па вас, хоць праз Ціхую Дуброву гэта і далей. Хацелася з вамі пазнаёміцца. Я кіраўнік метадычнага аб'яднання настаўнікаў, у якое ўваходзіць і ваша школа. Трэба ведаць сваіх калег. Можа якая дапамога трэба? Ага, дык заехалі, а вартаўнічка сказала, што вы пайшлі. О, грыб! Глядзіце, які грыб! Эміля, ты бачыш?

— А вось яшчэ,— сказаў Кастусь, прысядаючы.

— Ну, можа досыць грыбкоў, сядайце ды паедзем. Ад іх не адчэпішся,— і, уважліва зірнуўшы на Кастуся, відаць, зразумеў, што гэтаму хлопцу не пашкодзіла б падсілкавацца.

— Ведаеш, Эміля, я захацеў есці. Можа і наш малады сябар будзе ласкавы раздзяліць з намі снеданне.

У гаспадыні было шмат чаго смачнага. На разасланай пад сасной сурвэтцы з'явілася нават бутэлька.

— Свая. Вішнёвая настойка...

Кастуся не трэба было доўга запрашаць. Вішнёўка хоць і слабая, але закружыла галаву, і гутарка пайшла весялей.

## 2

Да канферэнцыі Краўчанка паехаў памагчы жонцы купіць тое-сёе і адразу ж адправіць яе дамоў. Кастусю трэба было зайсці ў райком. Яму хацелася ўбачыць першага сакратара Казакоўскага, але зноў трапіў на Пацукевіча.

— А, Рокаць? Здароў! — Хвёдар працягнуў яму паважна руку.— Сядай. Ну, справы ў вас пачалі шавяліцца. Звестку атрымаў. Добра. Але, але... Я атрымаў трывожны сігнал. Вораг дзейнічае, і вушамі нельга хлопаць. Быў тут Зык. Маладзец хлопец! Прыйшоў, праінфармаваў... Так, так. Я накіраваў яго куды трэба. Нельга пра такія справы маўчаць. Трэба інфармаваць.

Пасля прыемнага знаёмства ў дарозе і добрага адпачынку ў лесе ў Кастуся было прыемна на душы і не хацелася спрачацца. На развітанне Пацукевіч зноў важна падаў руку Кастусю і раптам пацягнуў носам.



— Ты што — піў гарэлку?

— Не гарэлку, а так... наліўку.

— І пад мухай ідзеш у райком? З кім ты піў?

— Ды выпадкова...

— Выпадкова? Гэта тым больш набяспечна. Глядзі, бо ўлепім страгача.

«І на чорта я да яго пайшоў!..» — дакараў сябе Кастусь. На душы было горка і крыўдна. Лягчэй стала, калі сустрэў Краўчанку. Ён ужо адправіў дадому жонку.

— Як гэта зрабіць, Аляксей Мікалаевіч, каб не трапляць ні ў якую гісторыю? — спытаў Рокаць.— Робіш усё з добрымі намерамі, а людзям здаецца чорт ведае што! Як у крывым люстэрку...

— Якія людзі, так ім і здаецца,— адказаў Краўчанка.— Дрэнным людзям усё здаецца падазроным, бо не вераць яны іншым, мераюць на свой аршын.

Іх дагнаў загадчык райана Голад.

— О, а я галаву ламаю... Таварыш Рокаць, вы будзеце пісаць справаздачу аб канферэнцыі ў райгазету. Адводзім на гэтую справу цэлую старонку.

## 3

Жаночая лёгкая рука лягла на плячо:

— Кастусь?

Рокаць падняў кучаравую галаву.

— Каго я бачу! Каця!

Кастусь ускочыў і абедзвюма рукамі сціснуў яе рукі. Прыемна спаткаць чалавека, з якім зрадніла студэнцкая сям'я. Каця на год раней скончыла тэхнікум і паехала працаваць у Высокабярэжскі раён. Гэта Кастусь ведаў. Тым большай была яго радасць.

— Да нас працаваць. Чула ўжо.

— А ты дзе?

— Тут, у гэтай школе.

— Зайздрошчу. Цудоўная школа,— і Кастусь агледзеў вялікую залу, у якой некалі балявалі паны.

Пачынаўся абедзенны перапынак. Настаўнікі выходзілі з залы.

— Працавала ў вёсцы, але... выйшла замуж. Перавялі. Буду тут працаваць. А што гэта ты пішаш?

— Ды, разумееш, для газеты Голад даручыў зрабіць справаздачу аб канферэнцыі.

— О, ён ведаў, каму даручыць. Я чытала твае апавяданні ў газеце. Спадабаліся.

— Э,— махнуў рукой Кастусь.

— Слухай, мяне чакае муж. Паабедаем разам.

У парку Каця ўзяла Кастуся пад руку. Яны ішлі па алейцы, успаміналі сяброў.

— А гэтага віхрастага спрытнага хлопчыка, што так стараўся хутка гаварыць, але...

— Толіка Пржавальскага?

— Але. Куды яго паслалі?

— У Дзяржынскі раён.

— О, у пагранічны раён!

— А Лёдзя? — зірнула з усмешкай Каця на Кастуся.

— Ёй год яшчэ вучыцца.

— А ведаеш, тады на практыцы ў вёсцы я крыху зайздросціла Лёдзі...
Кастусь весела зірнуў на Кацю.
— Праўда? Не ведаў. А цяпер?
— Прайшло. У мяне муж.
У канцы алейкі, перад выхадам з парку стаяў прыгожы малады мужчына ў міліцэйскай форме.
— Мая міліцыя мяне беражэ,— сказала Каця.— Павел, гэта мой сябар з тэхнікума.
За абедам працягвалася размова.
— Вось каб хоць аднаго з нашых прыслалі да мяне... А то адзін. Двухкамплектная школа...
— А дзе вы працуеце? — спытаў Павел.
— У Ціхай Дуброве.
— О, гэта добрая вёска. Людзі там — майстры: колы робяць, сані. Паляўнічых шмат. Праўда, ёсць там некалькі і спекулянтаў. Дудкоўскі, напрыклад, Дубінецкі — гэтага нават пазбавілі права голасу. Адзін гандлюе салам, другі коньмі.
— Дудкоўскі ўступіў у калгас.
— Уступіў урэшце?
— Некалькі дзён таму назад у яго каня выпраглі з воза...
— Нешта я не чуў пра гэта.
— Ён нават даведку з міліцыі прынёс.
— Што вы кажаце!
— Працуеш у міліцыі і не ведаеш,— пажартавала Каця.
— Каб такое было, я б ведаў.
— Гэта цікава. Ён прывёў у калгас такую дохлую клячу і кажа: цыганы забралі яго каня, а пакінулі яму гэтага.
— Хлусіць.
— Але ж даведка... Ён паказаў даведку з міліцыі.
— Зараз я праверу.
Міліцыя была побач, і Павел хутка вярнуўся:
— Ніякіх даведак Дудкоўскаму міліцыя не выдавала. Ва ўсякім разе, даведка такая не зарэгістравана.
— Ашукаў, значыць, калгаснікаў?
— Выходзіць — так.
— Нельга яму гэтага дараваць,— сказаў Кастусь.
Павел пайшоў на работу, а Кастусь з Кацяй паспяшалі ў палац.

## 4

Увечары ўсе жыхары вёскі сабраліся на сход. Спачатку трэба было рашыць калгасныя справы, а потым і сельсавецкія. Такім чынам, гэта былі два сходы: калгаснікаў і грамадзян вёскі Ціхая Дуброва.
Пачалі выбіраць прэзідыум. Хтосьці крыкнуў:
— Рокаць!
— Хто гэта? Хто гэта? — пачуўся шэпт.
— Настаўнік.
Збароўскі нахіліўся, каб запісаць новае прозвішча ў спіс прэзідыума, але ў гэты час Пацалуева спытала:
— Хіба Рокаць член калгаса? З якой рацыі ён мае засядаць у прэзідыуме?



У зале загулі.
— Дык ён вучыць нашых дзяцей.
Збароўскі падняў галаву.
— Ён не член арцелі, а ўжо мае чатыры працадні, а вы не маеце ніводнага.
— Дык і ваша жонка не ходзіць на работу!
Зноў загаварылі ўсе разам:
— І Сымонава!
— На пань хвараюць!
— Ціха вы! — крыкнула Драпей.— Даю даведку. Праўда, раней не хадзілі калгасніцы Збароўская і Дубікоўская на работу, а цяпер ходзяць.
Урэшце прэзідыум быў абраны, і Кастусь сеў разам з іншымі за доўгім сталом, накрытым чырвоным абрусам. На яго скіраваліся дзесяткі пар цікаўных вачэй. Хто ведае, можа і ў прэзідыум яго абралі, каб паглядзець на новага чалавека...
Даклад аб працоўнай дысцыпліне рабіў Збароўскі. Яго часта перапынялі, і той, каго ён крытыкаваў, ускокваў з месца і пачынаў апраўдвацца.
— А што з той работы: працуй, працуй, а атрымліваць няма чаго...
— Агэ, ты дай раней з'есці, а потым гані на работу.
— Адкуль жа тое «дай» возьмецца? — спакойна адказаў Збароўскі.— Не пасееш — не пажнеш! Ніхто за вас нічога не зробіць.
У спрэчках не прасілі слова, бо ўсе выказваліся ў час даклада.
— Дык што? Хто будзе сур'ёзна гаварыць? — спытала Драпей.
І тады падняў руку Кастусь.
— Дазвольце мне.
Усе прыціхлі. Кастусь устаў.
— Хоць я і не калгаснік, але справы калгаса хвалююць і мяне. Зрэшты, як і кожнага савецкага чалавека.— Ён зірнуў на Пацалуеву, якая сядзела, размаляваная, нібы прыйшла не на сход, а на пагулянку.— І мне б хацелася, каб у нашым калгасе людзі працавалі шчыра. І тады ўсё будзе. І шмат такіх людзей. Ды можа нават большасць, што шчыра працуюць. Тут таварыш Збароўскі называў прозвішчы Ракіцкага і іншых. Але ёсць людзі, якія ўехалі ў калгас на дохлай клячы, а вывезці адтуль дабро маюць намер на вазах.
Зноў падняўся гул. Дудкоўскі заёрзаў на лаве.
— А за чый кошт? — працягваў Кастусь.— За кошт тых, хто шчыра працуе. Гэтага дапусціць нельга. Усе гавораць, што Дудкоўскі прадаў свайго добрага каня перад уступленнем у калгас.
— Хлусня! — крыкнуў Дудкоўскі. Ён ускочыў з месца: — Я хоць пусценькага каняку, але ж прывёў!
— Але я ўсё ж скажу калгаснікам, што ведаю: Дудкоўскі прадаў каня!
— Хлусня! Я здаў у праўленне даведку.
— І я маю даведку.
Кастусь выцягнуў з кішэні паперку і паклаў яе на стол.
— Прачытайце, таварыш Драпей, што сведчыць міліцыя.
Старшыня сельсавета прачытала. Цяпер загаварылі ўсе з абурэннем. Устаў Ракіцкі.
— Гэта ж здзек! Дудкоўскі лічыць, што ўсе дурні, а ён разумны. Хай выручаныя ад продажу грошы верне калгасу. Усе, да адной капейкі...
Так сход і рашыў. Сельсавецкія справы абмяркоўваліся спакойна.

Перад тым, як прыняць пастанову, старшыня папярэдзіў, бо ў зале былі падлеткі і лішэнцы:

— Галасуюць толькі тыя, хто мае права голасу.

Кастусь пачырванеў і схіліў галаву. Трэба было падняць руку, а ён яшчэ не мае васемнаццаці год. А не падняць, зноў жа спытаюць: чаму? І знікне да яго павага...

— Хто за пастанову...

Кастусь нерашуча пачаў падымаць руку. Сэрца білася часта. Яму здавалася, што вось зараз Пацалуева ўстане і скажа: «Чаму галасуюць тыя, каму не споўнілася васемнаццаці год?»

І тады... Ён нават не мог уявіць, што будзе тады.

— Апусціце рукі! — пачуў ён, як скрозь сон.

# РАЗДЗЕЛ ПЯТЫ

## 1

Заняткі пачаліся ў старой школе. Кастусь да прыходу дзяцей праверыў класы. Падлога была вымыта, парты і вокны выцерты. Была крэйда і мокрая анучка. Кастусь пайшоў снедаць.

Калі ён вяртаўся са снедання, на ганку яго сустрэў Кароль.

— Гэта бандыты! Форменныя бандыты! Пабачце, што яны нарабілі!

Глядзець было сумна: на падлозе наследжана, валяліся агрызкі яблык, на дошцы сляды разбітых гнілак.

— Дайце званок. Няхай усе збіраюцца ў адзін клас.

Дзеці селі за парты. Кастусь увайшоў і моўчкі стаў глядзець на іх. Па праўдзе кажучы, ён нават не ведаў, што яму рабіць. Каля сотні пар цікаўных вачэй скіраваліся на яго. «Ну, што ты цяпер будзеш з намі рабіць?» — быццам пыталіся яны.

— Вось што! — сказаў коратка і строга Кастусь.— Пакуль не будзе чыста, займацца з вамі не буду,— і выйшаў у настаўніцкі пакойчык.

Ён пільна прыслухоўваўся да таго, што рабілася за сцяной. А там бурліла. Дзяўчынкі крычалі на хлопчыкаў:

— Дагуляліся! Прыбірайце зараз жа!

Захадзілі па падлозе венікі. Хтосьці выціраў дошку... Потым у пакой увайшла белагаловая дзяўчынка і сказала:

— Ужо чыста.

І сапраўды, у класе было чыста. Вучні сядзелі прыціхлыя і не зводзілі вачэй з настаўніка. А Кастусь зрабіў выгляд, як быццам нічога не было.

— Запішыце расклад заняткаў,— сказаў ён.— Вось ты. Як цябе завуць? — спытаў настаўнік белагаловую дзяўчынку.

— Рэня Дзерангоўская...

— А цябе? — запытаў ён дзяўчынку з трэцяга класа.

— Стася Збароўская.

— Ідзіце перапішыце на дошцы расклады заняткаў, а я тым часам пагавару з малодшымі.

Настаўнік расказаў малодшым, чым яны будуць займацца заўтра і адпусціў іх дадому. Засталіся вучні трэцяга і чацвёртага класаў.

— Ну вось, вы старэйшыя,— звярнуўся да іх Кастусь.— Хочаце, каб мы хутчэй перабраліся ў новую школу?

— Хочам, хочам!

— Тады прыйдзецца папрацаваць.

Так пачаліся для Кастуся працоўныя будні. Цэлы дзень ён быў заняты на ўроках. Спачатку займаўся з трэцім і першым класамі, потым прыходзіла другая змена. Вечарам ішоў у клуб. А ноччу праглядаў вучнёўскія сшыткі, рыхтаваўся да ўрокаў.

У адзін з такіх напружаных дзён Кастусь атрымаў аж два пісьмы: адно з Мінска, другое з Ленінграда.

«Дзе ты, а-у, адгукніся,— пісала Лёдзя.— Забраўся ў палескую глуш і маўчыш».

У канцы пісьма была прыпіска: «Зайшоў у інтэрнат, бачу, Лёдзя піша табе пісьмо. Сапраўды, чаго маўчыш, кудлаты? Напішы штонебудзь з вёскі ў газету. Бывай, спяшаемся ў кіно. Барыс».

«Здаецца, і тут ты заняў маё месца»,— падумаў Кастусь. Ён узяў аркуш паперы, пачаў адразу пісаць адказ, але праз хвіліну парваў тое, што напісаў, і ўзяў другое пісьмо.

«У нас быў студэнцкі вечар. Запрасілі маракоў. Танцавала і ўспаміналі цябе», — пісала Веранікa. Рукой Гэлі было дапісана: «Хто цябе частуе цяпер ягадамі?» Абедзве прасілі: «Раскажы, як прайшоў першы ўрок у школе».

Кастусь уздыхнуў, адклаў пісьмы і ўзяўся праглядаць вучнёўскія сшыткі.

## 2

Перад кастрычніцкімі святамі школа перасялілася ў новае памяшканне, а камсамольцы адрамантавалі клуб. К гэтаму часу была прыбудавана і сцэна. Заставалася толькі разабраць сцяну, якая аддзяляла дабудаваную сцэну ад залы, і павесіць заслону.

Скобаліха завіхалася сярод дзяцей:

— Дзеткі, рыбанькі, не паабівайце сцен. Бачыце, як хораша і чысценька.

Прыйшла Драпей, каб пагладзець, як ідзе работа, і не вытрымала, скінула плашч і ўзялася за пілу:

— Ну, Монача, трымайся!

У меншым пакоі старой школы хлопцы ўстанаўлівалі прыёмнік, а на доўгім стале — трыццаць пар навушнікаў. Кастусь схіліў кучавую галаву над прыёмнікам, злучаў батарэі з апаратам.

— От каб электрычнасць! — сказаў Скобалішын Валодзя.

— Прыйдзе час, і электрычнасць будзе.

— Тут? У гэтым глухім кутку? Хоцькі-няхоцькі, а з газоўкай няскора прыйдзецца развітацца,— ківаў Валодзя сваёй бялявай галавой.

У пакой увайшла невысокая жанчына ў паношаным паліто і капелюшы.

— Мне патрэбен дырэктар школы.

— Загадчык,— адказаў Кастусь.— Гэта я.

— Мяне прыслалі да вас настаўніцай,— яна дастала з кішэні паперу і разгарнула яе пачырванелымі худымі пальцамі: — Вось.

— Калі ж вы прыехалі?

— Учора. Я сама тутэйшая. Бацькі мае старыя. У Дуброве жывуць. Папрасілася да іх.

— Каміля? — сказаў Валодзя.— Далібог, ледзь пазнаў вас.

— Так пастарэла?

Валодзя не ўмеў гаварыць кампліментаў.

— Хоцькі-няхоцькі, а ўжо не тая Каміля, што некалі кружыла хлопцам галовы. Не тая...

— Гэта я з дарогі,— пачала апраўдвацца Каміля.— Вельмі цяжкая дарога, а я з малым.

— А дзе ж ваш муж?

Каміля сумна ўсміхнулася:

— Развялася я з ім.

— Ну, добра,— сказаў Кастусь, прачытаўшы накіраванне.— Бярыце першы і трэці класы. Хадзем, я вас пазнаёмлю...

Яны выйшлі на вуліцу.

— А вы ўвесь гэты час былі адзін?

— Ёсць яшчэ кіраўнік політэхнізацыі. Калгас прызначыў. Таксама тутэйшы. Можа ведаеце — Вітоль Зык.

Па доўгім калідоры дзяўчынкі цягнулі парту. Хлапчук перашкаджаў ім. Ён ускокваў на парту, і дзеці некалькі крокаў цягнулі яго. Потым яны кідалі парту і пачыналі таўкці хлопца ў плечы.

— Злазь, Вінцусь!

Убачыўшы настаўніка, Вінцусь кінуўся ўцякаць.

— Вярніся! — загадаў настаўнік.

Хлопчык, апусціўшы доўгія вейкі, падышоў да настаўніка.

— Адыдзіце, дзяўчынкі. Так, бярыся, Вінцусь, за другі канец парты. Панеслі. А вы, дзяўчынкі, адпачніце.

Парту ўнеслі ў клас.

— Стой! — загадаў Кастусь.

Вінцусь апусціў парту. Ён быў чырвоны і часта дыхаў.

— Цяжка?

Вінцусь маўчаў.

— А калі б яны яшчэ селі наверх, як гэта ты рабіў?

У клас збегліся вучні.

— Вось, дзеці, ваша настаўніца. Каміля Вацлаваўна Сахоўская. А далей яна вам скажа ўсё сама.

## 3

Аднойчы Каміля сказала:

— Ведаеце, Адамку ноччу забралі.

Кастуся гэта вестка ўзрушыла:

— Брыгадзіра?

Зык, які таксама быў у настаўніцкай, бо сёння былі заняткі па політэхнізацыі, зірнуў на Кастуся з хітрай цікавасцю.

— За што? — спытаў Кастусь.

— Невядома. Забралі, і ўсё.

— Калі б не было за што, пэўна, не забралі б,— нарэшце выцадзіў Зык.

— Могуць быць і памылкі. Гэта ж такі працавіты чалавек...

— Мы з Каміляй добра ведаем вёску,— сказаў Зык, зірнуўшы на настаўніцу.— Я нарадзіўся тут. Адамка мне нават даводзіцца нейкай раднёй. Але я ўсё ж веру больш Савецкай уладзе, чым яму.



З таго часу, як па просьбе сельскага савета праўленне выдзеліла Зыка кіраўніком політэхнізацыі, ён хадзіў у касцюме, пры гальштуку, гладка прычэсваў валасы. Паказваючы хлопцам, як трэба трымаць напільнік, баяўся, каб не запэцкаць рукі.

— А я на чалавека гляджу перш за ўсё так: што ён можа зрабіць мне дрэннага,— гаварыў ён.— І калі я яшчэ не ведаю, якая можа быць ад яго небяспека, то лепш хапіць першым яго за морду, чым чакаць, калі ён цябе ўкусіць.

— Гэта ж закон джунгляў!

— Не, барацьба. А жыццё — ёсць барацьба.

Званок перашкодзіў размове. Але і Кастусь, і Каміля пайшлі на заняткі з адной думкай: адкуль у Вітоля такі погляд на жыццё. Бацька яго быў калгаснікам. Сям'я вялікая, але жылі не бедна. Вітоль мала вучыўся. Вярнуўся з арміі. Хацеў заняць нейкую пасаду ў вёсцы, кладаўшчыка ці брыгадзіра, а трапіў у кузню. Там не вельмі стараўся. Монача быў рады, што пазбавіўся ад яго.

На другім перапынку, калі Кастусь і Каміля зноў загаварылі пра Адамку, Вітоль жаласліва скрывіўся:

— Мне, можа, таксама шкада дзядзьку Адама. Але жыццё ёсць жыццё.

— У дадзеным выпадку мяне трывожыць не брыгадзір, можа ён і мае якую віну, а твае адносіны да чалавека.

— Вось я і кажу: у душу не залезеш. А віна ўсё ж нейкая ёсць. Лён пагніў! — сказаў Вітоль.

— Што ён, падліў вады пад стог? Ішлі ж дажджы...

— Трэба было складаць ў іншым месцы. Ды і са смерцю Мітука не ўсё ясна: хто яго вучыў, хто забіў...

— Пры чым тут Адамка?

— Ды я ж не ведаю! Так толькі кажу...

## 4

Пасля заняткаў Кастусь пайшоў праведаць Адамчыху. Яна сядзела на кухні заплаканая. У хаце было ціха, сумна, як быццам вынеслі нябожчыка.

— Добры вечар,— прывітаўся Кастусь. Зняў шапку, павесіў на дубовым калку, убітым у сцяну. З пакоя высунулася кудлатая галава дзеда Казіміра.

— Мо Адамка вярнуўся?

— Будзем спадзявацца, дзядуля, што вернецца,— адказаў Кастусь. Адамчыха ўздыхнула.

— Толькі пачалі жыць. Дзетак выгадавалі. Ён так радаваўся: у людзі выходзяць дзеці. Старэйшы сын лясны тэхнікум скончыў, Алінка на доктара паехала вучыцца, Надзя ў сёмы клас пайшла. Для іх стараўся працаваць. І — на табе...

— За што яго ўзялі? — спытаў Кастусь.

— А хто ж яго ведае. Набрахалі што-небудзь злыя людзі. Хай мне пакладуць галаву на калодку, пад тапаром скажу — сумленны чалавек Адам. Не можа ён Савецкай уладзе зрабіць зло. Яна ж яму рабіла толькі дабро. Вось з бацькам яны жылі ў той варывеньцы, што стаіць у двары: чорная падлога, печ без коміна. У рэвалюцыю зямлі далі, лесу. Цягалі на сабе бярвенне. Пабудавалі хату. Прыйшлі белапалякі, адабралі зямлю. Ды яшчэ ледзь не расстралялі. Прапаў



у афіцэра пісталет. Хлопец яго наш узяў. Паставілі бацьку да сценкі. «Пся крэў! Каму пісталет аддаў? Партызанам?» Білі шампаламі. Цярпеў. Нічога не сказаў. Не чакаў ад чужынцаў ласкі. Забралі парсюка, карову. Прыйшла Савецкая ўлада. Зноў разжыліся. У калгас уступілі. Усё здаў. Не абменьваў каня, не рабіў гандаль. Якія былі коні, такіх і аддаў. Сам працаваў ад цямна да цямна, і — вось падзяка. Але не ўлада вінавата. Свае сабакі ўкусілі...

— Дык Адамка вернецца? — зноў запытаў дзед у Кастуся.

— Што вы, тата, пытаецеся? Адкуль чалавек ведае.

Дзед, аднак, стаяў, абапёршыся на арэхавую палку, і сумна глядзеў на Кастуся.

— Не ведаю, што дзецям пісаць,— уздыхнула Адамчыха.— Засталася адна, як палец.

— Вобыск рабілі?

— Ды нічога не рабілі. Так па хаце прайшліся, паглядзелі, сказалі: «Апранайся, дзядзька». Пачакалі, пакуль я яго ў дарогу сабрала. Хто яго ведае, якая гэта дарога: доўгая ці кароткая. І што рабіць, куды пісаць, каму скардзіцца...

У сельсавеце, куды прыйшоў Кастусь ад Адамчыхі, сядзелі Збароўскі, Дубікоўскі, Драпей. Усім было шкада брыгадзіра, і ніхто не ведаў, у чым яго віна.

— Я быў у Адамчыхі. Чалавек яе, мне здаецца, ні ў чым не вінаваты,— горача сказаў Кастусь.

Збароўскі ўсміхнуўся.

— Я з Адамкам рос. Працавіты, старанны чалавек. Ён памагаў збіраць нам, партызанам, зброю...

— Ну, дык трэба напісаць...

— Я так думаю,— спакойна сказаў Збароўскі,— нас спытаюць, калі трэба будзе.

Ішлі дні, ніхто не пытаў, а чалавек, не вядома за што, сядзеў у турме. Тады Кастусь сеў і напісаў Голаду пісьмо.

# РАЗДЗЕЛ ШОСТЫ

## 1

У сельскі савет прыйшоў з раёна загад аб прызначэнні Віталя Зыка загадчыкам клуба. Размова пра гэта з Голадам была ў Кастуся яшчэ да прыезду Камілі. Кастусь прасіў агітпропа зняць з яго абавязкі загадчыка клуба, бо ў яго няма на гэта часу, і параіў на гэтую работу Зыка.

— Паможам,— абяцаў Кастусь.— Навучыцца.

Загад прыйшоў з вялікім спазненнем, і ўсё ж Кастусь быў задаволены. Ён паступіў завочна ў інстытут, і цяпер у яго будзе больш вольнага часу. Праўда, радасць гэтая была дарэмная: гурткі палітычны і драматычны прыйшлося весці яму. Газета таксама не выходзіла без Кастуся. Гутаркі і даклады даручалі яму. З усімі парадамі па культурна-выхаваўчай і нават спартыўнай рабоце звярталіся да яго. І толькі зваліўся з яго той клопат — запальваць увечары лямпу ды вывешваць аб'явы. Зык гэта рабіў акуратна.

Неўзабаве адбыўся камсамольскі справаздачна-выбарчы сход. Праводзіць яго прыехаў сам Пацукевіч, які не вельмі любіў ездзіць па раёне і больш налягаў на зводкі. Зык паказаў яму сцэну, кулісы, грыміравальны пакой, чытальню з радыёнавушнікамі. Пацукевіч быў шчыра здзіўлены, хоць пра камсамольскія суботнікі Зык паведамляў у райком вельмі акуратна.

Справаздачны даклад Зыка быў перапоўнены прыкладамі, і самі хлопцы дзівіліся, што яны зрабілі так шмат. У вёсцы з'явіліся радыё, лыжы, канькі, каток. І куплена ўсё было за грошы, заробленыя на суботніках, і ад выручкі з канцэртаў і спектакляў.

Пачаліся выбары сакратара камсамольскай ячэйкі. Пацукевіч адстойваў кандыдатуру Віталя Зыка, але камсамольцы выбралі Кастуся Рокаця.

## 2

Была нядзеля. Можна паляжаць, пачытаць, але ў пакоі сіберны холад. Вокны размаляваў мароз. Пара ідзе з роту. «Трэба ўстаць, запаліць у печы»,— падумаў Кастусь.

Ён саскочыў з ложка, адзеў халадоныя і непрыемныя, як мокрая прасціна, штаны, зрабіў некалькі гімнастычных рухаў і выбег на двор, па дровы.

Дровы былі сухія, загарэліся хутка. Стала весялей. На калідоры пачуліся цяжкія крокі. «Гэта Валодзя, Агацін сын»,— падумаў Кастусь. Нізкі, каранасты, пласкаступы, ён хадзіў, як мядзведзь.

— Гэ, ужо ў печцы гарыць,— сказаў Валодзя.— А маці кажа:

«Ідзі падпалі, бо настаўнік замёрзне».— Ён зірнуў ветліва і ашчэрыў жаўтаватыя рэдкія зубы.

— Сядай, Валодзя.

Валодзя ўзяў крэсла, сеў, падстаўляючы агню калені ў ватніх штанах.

— А я ўжо быў на ферме. Баюся, брат, за цялят. Слабавата ўцяплілі цялятнік, а маразы яшчэ наперадзе. Можа гукнуць камсамольцаў?

— Кастрыца ёсць?

— Навазілі ўчора.

— Тады гукай. Хай збіраюцца на ферме пасля снедання.

— Гэта так. Хоцькі-няхоцькі, а трэба зрабіць. Спакайней будзе.— Уладзімір устаў з крэсла і, цяжка ступаючы, пайшоў.

Кастусь наліў у кубак вады і паставіў у печ. Пакуль мыўся, прычэсваўся, вада закіпела. Снеданне яго было студэнцкае. Чай, чорны хлеб, пасыпаны соллю, бо цукру не было. Было яшчэ трохі ў талерцы алею і цыбуліна. І гэтае снеданне ён падзяліў з Іосіфам Валяр'янавічам: той якраз уваліўся ў хату.

— Мароз, разумееце, проста пячэ. Так і хапае за шчокі, за нос, так і хапае...

Ці ў мароз, ці ў дождж Іосіф Валяр'янавіч кожны дзень робіць свой абход. Дзве рэчы не даюць яму сядзець у хаце: нервы і страўнік. Яму хочацца і пагаварыць і нешта з'есці.

Ён збіраецца, бярэ палку, але ніколі доўга не затрымліваецца: прынясе навіну, хопіць са стала, што трапіць пад руку, і — гайда...

— Хадзем, я з вамі,— кажа Кастусь, апранаючы куртку.

Іосіф Валяр'янавіч высока падымае калматыя сівыя бровы.

— На ферму,— адказвае на яго маўклівае пытанне Кастусь.

Бровы Іосіфа Валяр'янавіча падымаюцца вышэй.

— Будзем ацяпляць цялятнік.

— Божа мой! Якая вам справа да цялят! Мгу... Дзіўна. Гэта справа цялятніцы, а не, разумееце, чалавека інтэлігентнай працы.— Ён хуценька ідзе прэч, бо баіцца, каб Кастусь часам, як і вясковыя хлопцы, не сказаў: «Хадзем з намі вазіць гной». Ён баіцца, саромеецца і ненавідзіць чорную працу.

## 3

У мястэчку Кастусь затрымаўся да позняга вечара. Размова з Голадам, якога ён любіў і паважаў, устрывожыла Кастуся. Голад, заўсёды чулы да людзей, слухаў яго няўважліва, чымсьці быў заклапочаны.

— Наконт таго, што вы пісалі, я размаўляў з адпаведнымі людзьмі. Прабачце, не меў часу адказаць. Справа, ведаеце, складаная. На жаль, наш... мой уплыў (ён, відаць, не хацеў гаварыць ад імя райкома) нязначны. Хоць усё, што вы пісалі, справядліва, балюча справядліва...

Кастусь пайшоў да Каці. Хацелася падзяліцца з ёю сваімі думкамі і трывогамі.

Гэта напалохала Кацю:

— Не ўмешвайся ты лепш у гэтую справу. Чалавеку не паможаш, а сам трапіш у непрыемнае становішча. Ды і што ты ведаеш? Людзей так адразу не распазнаеш.

— Можа я і памыляюся. Гэта не злачынства. Большае злачынства — маўчаць, стаяць у баку, калі ты можаш памагчы. Я не магу быць абыякавым да лёсу чалавека. Хай паправяць, высвецяць. Хай скажуць усім людзям. Мяне ж пытаюць дзеці...

— На ўсё не адкажаш. Вучы дзяцей па праграме.

«Але ж школьная праграма не адарвана ад жыцця, партыі, народа»,— працягваў спрачацца з Кацяй Кастусь па дарозе дамоў.

Ноч была, як заўсёды ў Піліпаўку, відная. Свяціў месяц, скрыпеў снег пад нагамі. Кастусь любаваўся лесам, чыстым месяцам.

Працяжна і сумна завыў воўк. Кастусь апамятаўся: ён — адзін у лесе. Азірнуўся па баках. Дрэвы стаялі спакойна і задумліва, і спакой і задумлівасць вярнуліся да яго.

Уперадзе дарога дзялілася на дзве часткі астраўком высокіх бяроз. Далей пачыналася шырокая паляна, а там зноў цягнуўся бор.

Паляна была заліта месячным святлом. Іскрыўся снег. Параўняўшыся з бярозамі, Кастусь заўважыў на паляне воўка. Ён не памятаў, як апынуўся на бярозе. Воўк тым часам сеў, падняў галаву і завыў. З лесу, як бы на яго заклік, выйшла цэлая зграя ваўкоў. Потым усе яны след у след перасеклі паляну і схаваліся ў гушчары. А Кастусь сядзеў на бярозе і не рашаўся злезці. Рукі без рукавіц змёрзлі. Ён абняў ствол бярозы і ўсунуў рукі ў рукавы. «Пара ці не пара злазіць? Далёка яны адышлі?»

Ваўкі ўжо не вылі. Кастусь прыслухаўся і пачуў конскі тупат. Павярнуў галаву: трухае конь, на санях чалавек... Кастусь кулём скаціўся з бярозы і кінуўся да саней. Чалавек хапіўся за пугавішча.

— Езус-Марыя!..

Але Кастусь упаў ужо ў сані.

— Хутчэй, тут ваўкі!..

Толькі праз хвіліну ён заўважыў, што ў санях была жанчына. Твар яе быў перапалоханы. Жартачкі — чалавек з бярозы зваліўся нечакана.

— Прабачце, цётачка. Я, здаецца, вас перапалохаў. Я — настаўнік.

— Я вас ведаю,— адазвалася яна.

Кастусь прыгледзеўся:

— Цётка Стэфа!

Ён узяў лейцы і пагнаў каня. Ехалі моўчкі. Потым, ачомаўшыся, пачалі смяяцца.

— А я гляджу — ляціць нешта чорнае з дрэва на мяне...

Мароз быў моцны. У лёгкай вопратцы не пасядзіш доўга на санях. Кастусь час ад часу саскокваў з саней і бег.

— А дзе ж вы былі так позна?

— Мужу адвозіла перадачу,— адказала сумна.— Ды не прынялі. У Мазыр, кажуць, перавялі.

Кастусь маўчаў, бо не ведаў, чым яе суцешыць. Так моўчкі даехалі да выгану.

— Як вы пойдзеце ў тую лядоўню,— сказала Адамчыха, кіўнуўшы галавой на школу.— Едзем ужо да нас...

## 4

Кастусь пасяліўся ў Адамчыхі. Яна дзень у дзень ішла на работу ў калгас. Трэба было карміць старога бацьку, памагаць дзецям, ды за працай забывалася гора і адзіноцтва.

Уставала рана, гатавала на ўвесь дзень і ішла на работу. А ўвечары, падаіўшы карову, садзілася шыць, вязаць, цыравадь, перакідваючыся з Кастусём словамі. Калі яго позна не было, яна непакоілася. «Вось жа як бывае: былі людзі добрыя і не вартыя клопату, а ўсіх карміла, абмывала, а гэтага, такога добрага чалавека, не ўзяла на кватэру»,— думала Адамчыха.

Так ішлі дні. Аднойчы Кастусь прыйшоў са школы і спыніўся, здзіўлены, на парозе. У кухні на Адамчыкавым ложку, які яна ўнесла на другі дзень, калі перабраўся да яе Кастусь, спала дзяўчына. Яна адразу ж падхапілася...

— Аліна? Прыехала...

Аліна зірнула на Кастуся вялікімі сінімі вачыма.

— Так...— адказала і, падышоўшы да паліцы, на якой стаяў посуд, прыўзнялася на пальцы, каб дастаць талеркі.

— Будзеце абедаць?

Кастусь прайшоў у пакой, паклаў партфель, вярнуўся на кухню. Талеркі ўжо стаялі на стале, і Аліна даставала з печы гаршчок.

— Так нечакана вы прыехалі. Здарылася што?

З таго часу, як Кастусь у гэтай жа хаце бачыў Аліну, яна пасталела, стала яшчэ прыгажэйшая.

— Не, так. Захварэла. Узяла акадэмічны адпачынак,— адказала яна, стараючыся не глядзець на Кастуся. Кастусь адчуў, што ёй непрыемная гэта гаворка.

Час, які і так непрыкметна ляцеў у Кастуся, цяпер проста мільгаў. Асабліва былі кароткія вечары. Кожны займаўся сваёй справай: Кастусь рыхтаваўся да ўрокаў або выконваў заданне, прысланае з інстытута замежных моваў, Адамчыха вязала, шыла, Аліна сядзела над падручнікамі.

У месячныя ночы Кастусь і Аліна ішлі на каток або бралі лыжы і ехалі ў поле. Адпачываючы, задыханыя, яны глядзелі з любоўю адно на аднаго.

Па-суседску заходзіў да Аліны і Зык. І рабіў ён гэта ўсё часцей і часцей. Ён запрашаў яе ў клуб на танцы, але Аліна сумавала, хоць Зык і стараўся развесяліць яе.

Каб заслужыць у Аліны давер і сімпатыю, Віталь стараўся паказаць, што ён спагадае ёй.

— Хтосьці, відаць, гаўкнуў,— цьмяна выказваў ён свае здагадкі наконт таго, што Аліна вымушана была пакінуць вучобу.— Ой, людзі, людзі...

Не ведала Аліна, што гэта Зык паслаў пісьмо ў медтэхнікум і паведаміў: «У вас вучыцца дачка ворага народа». І тады дырэктар выклікаў Аліну і сказаў, не гледзячы ў яе нявінныя вочы:

— Вам нельга вучыцца ў нас...

## 5

Пакой быў вялікі. Печка, шафа і квяцістая шырма, павешаная на дроце, дзялілі яго на дзве часткі — спальню і залу. Кастусёў ложак стаяў ля акна, за шырмай. Жанчыны на ноч перабіраліся на кухню, яна таксама была вялікая.

У хаце вечарамі панавала цішыня. Толькі суседкі часта забягалі да гаспадыні нешта пазычыць, пасядзець, пагаварыць і, зразумела, зазірнуць у пакой.

У гэты вечар прыбегла цётка Анэля.



— Пісьмо ад Вадзіка атрымала,— сказала яна з парога.— На інжынера ўжо здаў. Ну, ты глядзі, Стэфа, як хутка час ідзе! Здаецца, яшчэ нядаўна бегаў па выгане, а ўжо інжынер! Пашкадуе цяпер Скрут...

Ануфрык узяў Анэлю з дзіцем. Вадзікаў бацька, Скрут, адмовіўся ад сына.

І вось цяпер Вадзік — інжынер, выйшаў у людзі і без бацькі. Анэлі хацелася, каб усе пра гэта ведалі. Гэта ўзнагарода і адплата за яе прыніжэнні і пакуты ў маладосці.

Адвёўшы душу, Анэля ўстала. На развітанне зазірнула ў пакой.

— А ты, бедненькая, сядзіш тут,— пашкадавала яна Аліну.— То ж у гэтым годзе і ты павінна была скончыць тэхнікум...

Аліна ледзь вытрымала, пакуль Анэля выйшла з хаты. Слёзы пацяклі з яе вачэй, і яна, каб не заўважыў Кастусь, хуценька выцерла іх, адвярнуўшыся тварам да шырмы.

Але Кастусь усё бачыў. Счакаўшы некалькі хвілін, ён падышоў да Аліны, сеў побач.

— Ты добра робіш, што працягваеш займацца... Галоўнае ў кожным выпадку — веды. Усё іншае...

Аліна маўчала. Кастусю хацелася яе падбадзёрыць.

— Ведаеш,— сказаў ён,— нічога не прападае. Прыйдзе пара, і ўсё спатрэбіцца. Абы толькі яно было. Ты стамілася? Можа, пакатаемся з гадзінку?

— Сапраўды, пакатайцеся,— адказала з кухні маці.— Лёд на Дубравінцы добры...

Аліна ўсміхнулася і кіўнула галавой.

Пачалі апранацца. Не паспелі, аднак, надзець канькі, як у хату ўвайшла задыханая Лявоніха.

— Вучыцель, дарагі! Алінка, дзіцятка маё! Ты ж вучылася на доктара, паглядзі майго хлопчыка. Так цяжка дыхае... Што ўжо не рабілі: і бабка шаптала, і заручальныя пярсцёнкі на нітачцы да галоўкі прыкладвалі — нічога не памагае. Ратуйце, бо памрэ мой Бонечка.

Аліна разгубілася.

— А чым жа я, цётачка, памагу?

— Хадзем,— сказаў Кастусь.— Усё ж ты нешта лепшае параіш, чым заручальныя пярсцёнкі...

## 6

На ўроках Кастусь штохвіліны пазіраў у акно. Аліна ўначы паехала ў мястэчка. Агледзеўшы хлопчыка, яна сказала бацькам:

— Неадкладна ў бальніцу! — а Кастусю шапнула: — Ён можа памерці ў дарозе. Я паеду з ім.

Кастусь паціснуў ёй руку:

— Правільна, Аліна.

Лявон пабег запрагаць каня. Знахарка ўпіралася, бурчала. Яна збіралася яшчэ паспрабаваць нейкі моцны сродак. Кастусь амаль сілком выпхнуў яе з хаты:

— Ідзіце, ідзіце, не перашкаджайце збіраць хворага ў дарогу.

— Дохтар адгоніць чары, і дзіцё памрэ,— упіралася знахарка.

Цяпер Кастусь хадзіў па класе і хваляваўся: «А што, калі не давезлі?» Усё, чым магла памагчы Аліна ў дарозе сямігадоваму хлопчыку, была бутэлька з цёплай вадой і соскай, якую яна схавала пад

кажух. Соску яна надзела на бутэльку, каб зручней было паіць хворага, захутанага ў кажухі.

На перапынку Кастусь не выходзіў з класа. Стаяў ля акна, глядзеў на заснежаны выган праз размаляваныя маразам вокны. «Можа ўжо і прыехала, а я не заўважыў...» — падумаў ён.

На апошнім уроку, зірнуўшы ў акно, Кастусь уздыхнуў з палёгкай: па выгане бадзёра трухаў конь. У санях сядзелі Лявон і Аліна. Яна глянула на вокны, нібы вітаючы Кастуся з добрым днём.

Дзень для яе быў сапраўды добры. Яна адчула шчасце быць патрэбнай людзям. Доктар спачатку падумаў, што гэтая клапатлівая жанчына — маці хворага, але, зірнуўшы ёй у твар, спытаў здзіўлена:

— Гэта ваш... брат?

— Не, мы з адной вёскі.

Доктар сярдзіта папракнуў Лявона:

— Не маглі прывезці раней! — І загадаў: — У аперацыйную.

— Дык жа гэтыя бабы, ліха на іх...— апраўдваўся Лявон.— Каб не дохтарка,— кіўнуў ён на Аліну.

— Вы ўрач? — спытаў доктар з тым жа здзіўленнем.

— Яшчэ вучуся...

Доктар загадаў даць Аліне халат.

— Будзеце памагаць мне ў час аперацыі.

Усё адбывалася хутка, як у казцы. Аліна, убачыўшы ў нікелі люстры, якая вісела над аперацыйным сталом, незнаёмую дзяўчыну, не паверыла, што гэта яна сама ў белым каўпаку, халаце, з марлевай павязкай на твары. Колькі разоў ёй снілася гэта... І яна трымае за руку хворага. Доктар час ад часу пытае:

— Пульс?..

Ён пазнае па яе твары, калі ў хворага падае пульс.

— Нічога, нічога,— кажа ён.— Укол.

Праз хвіліну ў вачах у Аліны з'яўляецца радасць.

— Ну вось...— усміхаецца доктар і працягвае сваю работу.

Пасля аперацыі, мыючы рукі, доктар сказаў Аліне:

— Ваша прызванне — медыцына. Хворы толькі паглядзіць на вас, і яму стане лягчэй. Заставайцеся ў нас працаваць. У бальніцы не хапае сясцёр. Сапраўды. Напішыце заяву, кароценькую аўтабіяграфію...

«О, гэтая біяграфія... Як цяжка яе напісаць».

— Дзякую,— адказвае Аліна,— мне трэба яшчэ вучыцца.

Яны ідуць па калідоры.

— Ну, добра. Скончыце — прыязджайце да нас. Бачыце, які цуд,— доктар ківае на акно, за якім, скованая льдом, ляжыць Прыпяць.— А летам як тут хораша!

Лявон, убачыўшы доктара, устае з крэсла.

— Будзе жыць ваш хлопчык,— кажа доктар.

— Дзякую вам...

— Дзякуйце лепш гэтай цудоўнай дзяўчыне,— і паціскае Аліне на развітанне руку.

— Дык прыязджайце.

Усё гэта Аліна расказвае маці за сталом і пазірае на дзверы: вось-вось павінен прыйсці Кастусь.

### 7

У клуб спатрэбіўся бібліятэкар.

— Каго паставіць на гэтую пасаду?



Зык нясмела сказаў:

— Можа Аліну?

— От добра! Я зусім забылася...— адразу згадзілася Рома Драпей.

Аліна шмат часу праводзіла ў бібліятэцы: раздавала кніжкі, сачыла за парадкам у чытальні або, схіліўшыся над аркушам паперы, акуратна перапісвала заметкі ў насценную газету. Часам яна адчыняла дзверы бібліятэкі і назірала, як Кастусь са старэйшымі вучнямі праводзіць рэпетыцыю «Жывой пякучкі». Частушкі для гэтай жывой газеты вучні складалі разам з настаўнікам. На рэпетыцыі было весела, а яшчэ весялей на ранішніках. Тады прыходзілі і бацькі. Вучні, апранутыя ў зялёныя блузы пад колер крапівы, хорам спявалі:

Пякучка я —
Зло выпякаю,
Дабро ўсхваляю...

А потым па чарзе спявалі прыпеўку за прыпеўкай пра добрыя і дрэнныя ўчынкі вучняў.

Любіла Аліна назіраць праз акно ўрокі гімнастыкі, якія праводзіў Кастусь на выгане. І думала: «Ёсць дзве самыя цікавыя прафесіі — урач і настаўнік...» І крыўда сціскала сэрца.

# РАЗДЗЕЛ СЁМЫ

### 1

Вясна на Палессе прыходзіць рана. Яшчэ пад Мінскам ці Віцебскам ляжыць снег, а там ужо дыміцца першая баразна, чуецца ў полі:

— Цоб, цобэ! Ах, каб цябе ваўкі, цобэ!..

У гэтую вясну Кастусь спазнаў прыемнасць ісці за плугам і глядзець, як лемех адкідвае ўбок лусты чорнай зямлі, дыхаць яе свежым пахам.

Першая баразна была пракладзена і на настаўніцкай ніве. Дырэктар Міхайлаўскай сямігодкі Краўчанка па даручэнню райана пабываў на ўроках, размаўляў з вучнямі. На развітанне ён сказаў з задавальненнем:

— Я задаволены вамі, мае калегі. Вы добра папрацавалі.

Пасля заканчэння навучальнага года Кастусь паехаў на курсы павышэння кваліфікацыі. Сустрэўся з сябрамі. За студэнцкім сталом у інтэрнаце расказвалі наперабой пра радасці і няўдачы першага года работы. Прыемна было прайсціся па алейцы, дзе гуляў з дзяўчынай, і не кальнула сэрца, калі Мікола Стрыж, які таксама быў на курсах, сказаў:

— А, ведаеш, Лёдзя выйшла замуж. Цябе не кранае гэта?

— Здаецца, не.

З'явілася шчырае жаданне пабачыць Барыса, парадавацца яго шчасцю. «Значыць, гэта яшчэ не было каханне»,— падумаў Кастусь.

На лекцыі, калі расказвалі што цікавае, Кастусю раптам прыходзіла думка: «Расказаць бы гэта ў Ціхай Дуброве калгаснікам...»

Курсы былі скончаны. Кастусь меў права пакінуць пачатковую школу, дзе ён быў «прафесарам» усіх дысцыплін, і выкладаць гісторыю і геаграфію ў сярэдняй школе. У наркамаце асветы прапанавалі яму месца ў горадзе. І тады ён яшчэ больш адчуў, што яго цягне ў

Ціхую Дуброву, дзе праца была не лёгкай і не ціхай. Ён з'ездзіў да бацькоў, пабачыўся з імі. Усе былі рады, і ён быў рады, але і тут ён не мог забыць пра вёску, дзе прайшоў год яго самастойнай працы.
— Ну, чаго ты рвешся ў тую Ціхую Дуброву? Пагуляй яшчэ ў шумным горадзе,— казаў бацька.
А маці дапытвалася:
— А можа ў цябе там ёсць якая дзяўчына?
— Аж дзве,— адказаў жартам Кастусь, і сам здзівіўся, чаму дзве. Да Веранікі ён заляцаўся. Аліна была проста мілай, добрай дзяўчынай. І ўсё ж для яе ён купіў вельмі прыгожыя тапачкі. «Яны ж з маці таксама клапоцяцца аба мне»,— апраўдваў сябе Кастусь.
— Не, сынок, не трэба дзве...— адказала спалоханая маці. Яна цярпець не магла баламутства.
Бацька ведаў гэта і любіў пажартаваць з сваёй адданай жонкі:
— А ведаеш, Кастусь, мяне таксама вельмі любяць дзяўчаты...
Ён толькі што пагаліўся і быў ужо па-святочнаму, як і маці, прыбраны. Ішлі на вечар у клуб фабрыкі.
Узялі з сабой і Кастуся. Як жа не пахваліцца такім сынам: настаўнік, камсамолец...

## 2

Дарога да Высокага Берага здалася Кастусю вельмі доўгай. У Высокім Беразе сустрэў сваіх першых выпускнікоў. Яны прыехалі вучыцца ў пяты клас, у той самы палац Горвата, на якога некалі працавалі іх бацькі.
— Ну, як там у нас, Рэня?
І дзяўчынка разумела, што рэч ідзе аб Ціхай Дуброве.
— Усё добра. Вас чакаюць. Студэнты раз'ехаліся.
У райком камсамола Кастусь ішоў без ахвоты. Але ўбачыўшы ў акне Казакоўскага, шчыра ўзрадаваўся. Расказаў аб сканчэнні курсаў і прапанове наркамата асветы.
— Ну і добра, што не згадзіўся,— сказаў Казакоўскі.— Я таксама еду на курсы і вярнуся сюды.
На канферэнцыі, як і ў мінулым годзе, Голад засадзіў Кастуся пісаць справаздачу. Толькі пад ёй ужо не стаяў подпіс аўтара. Кастусёва імя ўспаміналася ў дакладзе і ў выступленні Краўчанкі. Гэтыя радкі былі дапісаны самім агітпропам.
У час перапынку размаўляў з Кацяй. Яна пахарашэла.
— Бачыш, цябе хваляць. Мне прыемна чуць,— сказала яна і, нібы гэта мела нешта агульнае са сказаным, спытала: — А як з той справай?..
Кастусь памаўчаў.
— Напісаў па просьбе гаспадыні заяву ў Маскву. Пакуль адказу няма.
— Добра, што не ад свайго імя,— павучальна сказала Каця.

## 3

Пачалася надакучлівая восень. Тавар, як тут называлі скаціну, размясіў на вуліцы гразь. Людзі хадзілі па загуменнях. Там, дзе трэба было перайсці вуліцу, перакідвалі кладачкі. У такую пару прыехаў з Далёкага Усходу ў водпуск адзін спрытны хлопец, які ўмеў ездзіць на веласіпедзе і іграць на гітары,— Антон Каныш. Кастусь спаткаў яго ля сельсавета. Прывіталіся.



— Дрэнны час ты выбраў на адпачынак, Антон.
— У арміі не пытаюць. Даюць, калі можна.
— Дык як ты бавіш час?
— Сумнавата...
— А ты прыходзь да нас. Грамафон ёсць, даміно...
І Антон пачаў хадзіць. Праз некалькі дзён прыехаў яшчэ адзін вайсковец — Віктар Зык. У яго, як і ў Антона, было ў пятліцы два кубікі. Быў ён жанаты, але прыехаў адзін. Ён далучыўся да Антона, і ім стала весела.
Калі ў клубе нічога не было, збіраліся ў Адамчыхі, стукалі костачкамі даміно, слухалі грамафон, ігралі на гітары, танцавалі. Кастусь, каб ім не перашкаджаць, заставаўся вечарам у настаўніцкай. Садзіўся ля печы і рыхтаваўся да заняткаў. У вольны ж час і Кастусь прысядаў да стала і стукаў костачкамі.
Антон пачаў прыглядацца да Аліны. Гэта заўважыў Віктар. Хоць брат яго таксама заляцаўся да яе, але Віктар адчуў, што Віталь Аліне не па сэрцы. Ды і не звязвацца ж Віталю з дзяўчынай, якая можа сапсаваць біяграфію...
— А чаму б табе не ажаніцца з Алінкаю? — параіў ён Антону.
Антонавай маці вельмі хацелася, каб сын узяў сваю, сельскую, дзяўчыну. А то жэніцца недзе, будзе рэдка прыязджаць...
Антон быў чалавек разважлівы. Ён падумаў, памеркаваў, а потым рашыў параіцца з Кастусём.
Яны пайшлі прагуляцца па выгане.
— Хутка канец майго водпуску,— сказаў Антон, паглядаючы пад ногі, каб не ступіць сваімі наваксаванымі ботамі ў гразь.
— Але...
Нейкі час ішлі моўчкі. Антон зноў загаварыў першы:
— Што ты думаеш пра Аліну?
Пытанне было нечаканае. Кастусь паціснуў плячыма.
— Я іх кватарант, і больш нічога. Дзяўчына яна сціплая, прыгожая...
Кастусь заўважыў, што Антон пільна прыглядаецца да яго, таму сказаў:
— Ты ж, мабыць, чуў, я праводзіў час з Веранікай.
— Так,— падсумаваў, відаць, Антон у думках свае вывады.— Тады павядзём наступленне ў тым напрамку,— і паказаў на Адамчышыну хату.
Для Кастуся гэта было нечакана.
— Дзяўчына яна добрая, прыгожая. Можа, яшчэ вельмі маладая, але...— і раптам Кастусь адчуў, што яму холадна. Прайшліся яшчэ па выгане, Кастусь пачаў дрыжаць. Падышлі да клуба.
— Ну, дзякуй табе за раду,— сказаў Антон.— Ты ў клуб?
— Так. Ведаеш, холадна стала неяк...
— Скажы Аліне, што я яе чакаю.
Кастусь зайшоў у клуб, зазірнуў у чытальню. Аліны не было.
— Яна, відаць, пайшла дадому,— вярнуўшыся, сказаў ён.
— Так... Я і гэта прадугледзеў,— Антон расшпіліў шынель і дастаў складзенае трохкутнікам пісьмо.— Гэта — ёй. Перадай, калі ласка.
Ён развітаўся і шпарка пайшоў па выгане.

...Каханне прыходзіць нечакана. Кастусь зразумеў, чаго яго цягнула сюды, калі ён быў на курсах і дома. Але ж скора ён не ўбачыць гэтых сініх вачэй, якія яго так радавалі. Ідучы дадому адзін познім вечарам, ён успамінаў тыя хвіліны, ад якіх, відаць, усё і пачалося. Падрыхтавалі п'есу «Нафталі Ботвін». Нафталі іграў Кастусь. Яго сястру — Аліна. Перад пачаткам спектакля Кастусь грыміраваў сваіх артыстаў. З крэсла ўстаў Алінін дзядзька Язэп,— Кастусь падмалёўваў яму вейкі,— а на яго месца села Аліна. Кастусь зірнуў на яе вейкі: доўгія, густыя.

Ды іх і не трэба падмалёўваць!..

Потым яшчэ... Трэба выходзіць на сцэну. Нафталі павінен несці сваю параненую сястру на руках, а Кастусь не рашаецца ўзяць Аліну на рукі, баіцца, каб не выйшла гэта груба. Але трэба ісці. Грымнуў стрэл. Ён хапае Аліну на рукі...

Каханне падкрадалася ціха, непрыкметна. Як позна ён гэта зразумеў...

## 4

Аліна была на кухні, чакала Кастуся, каб разам павячэраць. Яе маці ляжала на печы. Ля коміна стаяла лямпа. Маці чытала.

Чытала яна пасля арышту мужа многа. За гэты час шмат перажыла, перадумала і пачала інакш глядзець на свет. Яна любіла мужа, але жыцця з ім не бачыла: думала пра кароў, пра гаспадарку і забывала пра сябе, пра радасці жыцця. Яна не ведала, што ёсць такія цудоўныя рэчы, як кнігі, радыё, тэатр. «Дурныя ж мы былі, і пасядзець у абдымку не было калі».

Кастусь сеў за стол, пачаў лыжачкай у задуменні мяшаць чай. «Не, хай бы яна яшчэ пабыла вось такая, незаклапочаная...»

Ён адсунуў шклянку, падняўся з-за стала:

— Паслухаем пласцінкі?

Аліна кіўнула.

Грамафон стаяў на століку ля фікуса. Кастусь паставіў пласцінку і сеў на тапчан, пакрыты саматканым дываном. Лямпа з кухні слаба асвятляла пакой. Аліна стала на парозе, абапёршыся аб вушак, і слухала.

— Сумная песня, праўда?

Аліна паціснула плячыма.

— Гэта ў цябе нейкі сумны настрой.

З печы азвалася маці:

— І мне песня здаецца сумнай.

— Залежыць, хто пра што думае,— адказала Аліна. Яна заўважыла, што маці выцірае слёзы.— Давайце зменім пласцінку.

Бадзёрая музыка, аднак, не ўліла ў сэрца весялосці. «Відаць, трэба ісці за шырму»,— падумаў Кастусь, зірнуўшы ў той бок, дзе стаяў яго ложак.

З абыякавым выглядам ён падняўся і сказаў:

— Антон прасіў перадаць...— сунуў руку ў кішэню курткі,— вось гэта...— Не гледзячы ёй у вочы, перадаў трохкутнік.— Дабранач.

Аліна выйшла з пакоя і зачыніла за сабой дзверы. А Кастусь доўга не мог заснуць.





## 5

Раніцай, хуценька паснедаўшы, Кастусь сказаў гаспадыні:

— Сёння ў мяне цяжкі дзень. Прыйду позна.

Толькі ён распрануўся ў настаўніцкай, у дзверы прасунулася галава Агаты:

— Мамка, рыбанька мая, дроў ужо мала. Я прасіла Збароўскага, але ці ж ён мяне паслухае...

— Добра. Скажу старшыні калгаса.

— Ага, мамачка, дык каб добрыя, не сырыя.

Далей яна ўжо размаўляла з сабой, падкідваючы дровы ў печ.

На ўроках таксама некалі было думаць пра сваё гора. І толькі калі ўжо сцямнела і апусцела школа, Кастусь сеў у настаўніцкай ля грубкі і апусціў галаву на стол.

У гэты час дзядзька Язэп, які лічыў цяпер сваім абавязкам клапаціцца пра сястру і яе дзяцей, хадзіў узрушаны ўзад-уперад па Адамчышынай хаце і, узмахваючы рукой, гаварыў:

— Пане мой, гэта шчасце! Адукаваны, ваенны інжынер. Адзеты, абуты, сыты, многа зарабляе. А ў цябе ж і паліто няма, ходзіш у матчыным. Ён жа цябе адзене, абуе, як лялькy. І думаць няма чаго. Прыйдзе ўвечары — дай згоду і вып'ем чарку. Ну, не праўду я кажу, Стэфа?

— Хай яна гаворыць...— адказала спакойна Адамчыха. Яна глядзела на брата і адчувала, што ён больш, як усе, клапоціцца пра багацце, якое ёй атруціла жыццё. Вядома, прыемна мець багатую радню.

— А ты чаго маўчыш, Аліна? Што ты Антону скажаш?

— Нічога...— буркнула Аліна.

— Можа ты спадзяешся, што цябе настаўнік возьме? Глядзі, дзеўка! Ён гарадскі — абманіць і пойдзе. А гэта свой. Маці яго ты вельмі падабаешся.— Ён прайшоўся па пакоі. Чакаў, што жанчыны скажуць, а яны маўчалі.

— Ну, глядзіце! Рашайце, пакуль не позна. Не забывайце: бацькі няма... А ў мяне свая сям'я. І клопатаў сваіх па горла...— Ён махнуў рукой і выйшаў з хаты.

## 6

На другі дзень Кастусь, не снедаўшы, пайшоў на калгасны двор. Запрог коней і паехаў на станцыю. Трэба было дагаварыцца з загадчыкам мястэчковага ДСК аб арганізацыі выступлення драматычнага гуртка, паглядзець сцэну і запрасіць мястэчковых артыстаў выступіць у Ціхай Дуброве.

Ехаў ціха, не спяшаўся. Хацелася пабыць аднаму. Грукаталі колы. У лясной цішы прыемна было сумаваць. Успамінаў родны горад, дзе нарадзіўся і рос.

Закалыханы ўспамінамі, непрыкметна прыехаў у мястэчка. Загадчык ДСК аказаўся чалавекам вельмі гасцінным. Пра Кастуся ён чуў і ведаў па газеце.

— Сёння ў нас выступае драматычны гурток. Я вас не пушчу.

І не пусціў. Кастусь гэтаму толькі радаваўся. Пасля спектакля пілі чай, гутарылі.

— Неяк вельмі ўжо чысценькім выглядае галоўны герой п'есы. Ну такі — аж свеціцца,— гаварыў Кастусь.— Быццам на яго ніколі не ўпала шышка ў лесе, быццам ён не спатыкаўся, не збіў сабе ніколі носа. Мяне такія людзі проста палохаюць...

Гаспадар згаджаўся з Кастусём.

Назаўтра, едучы дадому, Кастусь сустрэў у лесе фурманку. На возе сядзелі Антон і яго бацька, стары Францішак.

— Куды гэта?

— На станцыю.

— Скончыўся водпуск?

Бацька адышоў перасупоніць хамут. Кастусь і Антон разгаварыліся.

— Ну, як справы? — спытаў Кастусь. У голасе яго адчувалася шчырасць.

Антон зірнуў на верхавіны дрэў і адказаў не адразу.

— Наступленне не ўдалося. Бывае...

Кастусь не адчуў у Антонавым голасе жалю. А можа ён умеў хаваць свае пачуцці?

— Прычына?

— Відаць, дрэнна было падрыхтавана...

Стары Францішак сеў на воз.

— Ну, паедзем, сынок,— ён, відаць, вельмі перажываў няўдачу сына.

# РАЗДЗЕЛ ВОСЬМЫ

## 1

Па вёсцы пайшла чутка: настаўнік жэніцца з Алінай. Кастусь пра гэта нікому не казаў, але людзі не сляпыя: не здарма ж Аліна адмовіла Антону.

Чуткі дайшлі да Зыка. Ён не мог не праінфармаваць Пацукевіча: камсамолец жэніцца на класава чужым элеменце.

— Хай толькі зробіць гэта! Праганю з камсамола!— злаваў Пацукевіч.— Перадай яму гэта, хай запіша сабе на носе.

Зык сам пабаяўся гаварыць з Кастусём. Сваё даручэнне ён перадаў Сымону.

— У раёне вельмі незадаволены. Трэба перасцерагчы Кастуся ад няправільнага ўчынку. Усё ж, класава чужы элемент...

— А што, ён, праўда, жэніцца?

— Кажуць. Лепш папярэдзіць.

Сымон быў чалавек просты, шчыры і ў рабоце і ў адносінах з людзьмі. Ён пайшоў у школу і адразу ж сказаў:

— Гэта праўда? Наконт жаніцьбы тваёй?

— Праўда.

— А ты добра падумаў?

— Так, Сымон.

Сымон паглядзеў на яго падазрона.

— У цябе з ёй што было?..

— Нічога не было.

— Ты ёй абяцаў?

— Не, нават і не абяцаў. І яшчэ нічога ёй не сказаў... Я люблю яе... і маю намер з ёй ажаніцца. Табе першаму кажу пра гэта.

Кастусь пачырванеў і павярнуўся да акна.

— А ці варта? Усё ж, яе бацька арыштаваны...

Размова адбывалася ў настаўніцкай пасля лекцый. Нікога ў школе не было. Кастусь прайшоўся па пакоі.

— Ці варта падаць любімаму чалавеку руку? Ці ж людзі не ведаюць, што калі яна не пайшла за Антона, то гэта не выпадкова.

— А калі яна і табе скажа тое, што Антону.

— Тады ніхто не скажа: камсамолец настаўнік Рокаць ашуканец і баязлівец. Я люблю яе. Я не бачу ніякіх прычын, каб пакінуць яе. Бацька арыштаваны. Ні ты, ні я не ведаем, ці сапраўды ён вінаваты. Ведаем, аднак: Аліна ні ў чым не вінавата. Яна мае права на шчасце...

— Мне цяжка цябе пераканаць.

— Бо ты сам не пераканаўны, што я раблю дрэнна...

— Згодны. Але думка раёна...

— Раёна?— здзівіўся Кастусь. «Каго ж там у раёне можа трывожыць, з кім я ажанюся? Толькі Пацукевіча»,— усміхнуўся ён і сказаў: — А што? Увесь раён абмяркоўваў гэтую справу?

— Не жартуй! Справа сур'ёзная.

— Згодзен. Цяпер я разумею: мяне чакаюць непрыемнасці, але я зраблю так, як мне падказвае сумленне.

У той жа вечар Кастусь з Алінай выйшлі за вёску прагуляцца. У вокнах ужо нідзе не мільгала святло. Пад нагамі храбусцела прахопленая вячэрнімі замаразкамі зямля.

— Які бясконцы свет! — сказала Аліна, углядаючыся ў зоркі.— І якія мы маленькія ў параўнанні з ім...

— А ты падумай інакш: мы маленькія, але думкамі і зрокам мы можам даляцець да зорак. Мы розумам можам ахапіць увесь свет.

Узышлі на масток. Цяпер зоркі можна было бачыць у вадзе. Аліна спынілася на краі мастка.

— Бач, якімі цудоўнымі карункамі ўпрыгожыў мароз берагі ракі...

Вада не замерзла і булькатала пад мостам. Кастусь узяў за плечы Аліну:

— Вось зараз спіхну...

І, раптам павярнуўшы да сябе тварам, моцна прыціснуў да грудзей.

— Не, ніколі... Я кахаю цябе...

## 2

Ядзя адпрасілася ў дырэктара школы на два дні з'ездзіць дадому. Якраз у той бок ішла фурманка, і яе абяцалі падвезці амаль да самай Ціхай Дубровы.

— Ну, добра, кланяйцеся там Рокацю,— сказаў дырэктар.— Я чуў, ён жэніцца...

Ядзя чула больш. Яна ведала, з кім ён жэніцца, і ёй вельмі хацелася распытаць сястру, як Кастусь прызнаўся ў каханні, як прасіў стаць яго жонкай. Ядзя чамусьці радавалася. Можа таму, што Кастусь ёй тады адразу спадабаўся і цяпер ён будзе яе раднёй.

З шумам яна ўляцела ў хату. Расцалавала маці, сястру, дзеда. Спадзявалася ўбачыць і Кастуся. Але не заўважыла ў хаце ні яго і ніводнай яго рэчы. Стала, заваленага кніжкамі, за якім працаваў Кастусь, таксама не было.

— А дзе ж ён?..— спытала, разгубленая.



— Хто? — быццам не разумеючы, у чым справа, спытала Аліна.

— Э-э, хітрая, смяешся... Ведаеш, пра каго пытаю. Мама, дзе ён?

— Перабраўся ад нас у школу, донечка,— адказала маці.

— Чаму?

— Каб не звягалі языкамі...

— Дык што гэта, няпраўда? — яна кінулася на шыю сястры.— Аліна, ну, скажы... Усе ж гавораць...

— Яны, відаць, больш ведаюць за мяне.

— Не, Аліна... Ну, скажы...

Аліна ўсміхнулася.

— Ну, добра...— і шапнула нешта Ядзі на вуха.

Тая заскакала, запляскала ў далоні, падскочыла да Аліны і пацалавала яе яшчэ раз.— А вяселле калі?

— Скорая ты вельмі...

Цяпер Ядзя ўжо не адставала ад сястры.

— А ён цябе пацалаваў? — пацікавілася яна, як толькі маці выйшла ў сенцы.— А гэта, відаць, вельмі прыемна і страшна. Праўда? У шчаку ці ў губы? А мне яго можна будзе потым пацалаваць?

Аліна засмяялася.

Увайшла маці. У адной руцэ яна трымала кавалак сала, кілбасы, а ў другой трэскі.

— Ты есці хочаш, сакатуха?

— Вельмі, матуля, хачу есці, вельмі.

— Засмажыць табе яешню?

— Ну, канешне, яешню...

Аліна ўзяла трэскі, распаліла на комінку агонь.

— А калі вы пажэніцеся, будзеце жыць тут ці ў школе? Аліна, ну чаго ты маўчыш? Цябе пытаюць...

— Яшчэ калі тое будзе...

— А ты, матуля, застанешся адна?

— Век жа вас, дзеткі, не ўтрымаю пад скрыдэлкам. Рабіце, як хочаце, абы вам было добра...

## 3

У клубе было поўна людзей. На сцэне сядзелі музыканты. У перапынках між танцамі яны выходзілі за кулісы, і распацелыя хлопцы падносілі ім па кілішку гарэлкі, каб ігралі весялей. Над сцэнай вісеў вялікі плакат, намаляваны белымі літарамі на чырвоным палатне: «Няхай жыве XVIII гадавіна Вялікага Кастрычніка!»

— Дзе ж Рокаць? — спытаў Збароўскі ў Сымона, аглядаючы залу клуба.— І Драпей не відаць...

— Рома ў сельсавеце... Рокаць сёння распісваецца з Алінай,— адказаў Сымон.

— Адамчыкавай?

Сымон кіўнуў галавой.

— Упарты хлопец.

— А што ў гэтым добрага? —умяшаўся у размову Зык.— Язык яго заплятаўся, ён таксама пабываў за кулісамі.— І аслы ўпартыя бываюць. Яго ж папярэдзілі...

— Ну, ведаеш,— абарваў Сымон Зыка,— не падабаецца мне такая гаворка.

Збароўскаму таксама не падабалася Зыкава нахабства. Але ён дапёк яго больш далікатна.

— Ведаеш,— сказаў ён, звяртаючыся да Сымона,— я быў у партызанах, ваяваў на фронце, і калі б мне трэба было выбраць, з кім ісці ў разведку, я б выбраў упартага Кастуся...
Зык або не зразумеў або прыкінуўся, што не разумее, на каго намякае Збароўскі.
— Трэба сходзіць павіншаваць маладых,— сказаў Сымон.
Яны пайшлі.
Рома Драпей закрыла кнігу, у якой распісаліся Кастусь і Аліна, і выпісвала квіток аб паступленні ў касу сельсавета трох рублёў.
— Не здагадаюцца прыдумаць нешта лепшае,— сказала яна, падаючы Кастусю квіток.— Ей-бо, сорам даваць такое... Але не ў гэтым сутнасць.— Яна паглядзела на маладых неяк сумна, нібы развітвалася з імі назаўсёды.— Ну, хай будзе вам шчасце,— і пацалавала Аліну, а потым Кастуся.
У Адамчышынай хаце ўжо чакалі госці. У пакоі былі састаўлены сталы, маці накрыла іх белымі абрусамі, паставіла ўсё, чым была хата багата.
Грымнуў стрэл. Гэта вартаўнік Ануфрык паведамляў: ідуць маладыя.
Маці спаткала іх ля парога, павіншавала.
Настрой сапсаваў Зык.
— Змяніў камсамол на спадніцу...— Ён хацеў, каб пачула гэта Каміля, а пачулі шмат хто. Кастуся нібы варам абліло. Вочы яго бліснулі гневам. Выручыў Сымон.
— Самае разумнае, што б ты мог зараз зрабіць, Вітоль,— сказаў ён,— гэта выйсці з хаты.
— Што такое? — спытала Аліна. Яна, на шчасце, не чула тых слоў.
— Нічога,— адказаў, стрымліваючы сябе, Кастусь.— Вітоль, здаецца, узяў лішнюю чарку.
Зык зразумеў, што яму паказваюць на дзверы. Ён выйшаў на кухню, прыкідваючыся п'яным больш, чым ён быў. Узяў конаўку, набраў у вядры вады і, схіліўшыся над цэбрам, пачаў паліваць сабе галаву.
Падняўся Збароўскі:
— Я быў за сваё жыццё на шмат якіх вяселлях. Былі багатыя і вельмі багатыя, былі і бедныя. Нават вельмі. Але не заўсёды пасля вяселля маладыя былі шчаслівыя. Сённяшні такі важны ў вашым жыцці момант пачаўся, можа, не зусім так, як вы гэтага заслужылі. Веру, аднак, усё лепшае ў вас наперадзе. Любоў дапаможа прайсці вам праз усе выпрабаванні. Гэта самае вялікае багацце. Жадаю вам шчасця.
Ад шчырых слоў, выпітай чаркі ў гасцей пацяплелі вочы.

## 4

Вяселле працягвалася ў клубе. Хутка ўсе даведаліся пра жаніцьбу Кастуся і Аліны і сардэчна віншавалі маладых. Хлопцы нават некалькі разоў падкінулі Кастуся і яго маладую жонку.
— Цішэй вы, столь праб'еце! — крычаў дзядзька Язэп.
Грымела музыка. Танцавалі польку. Кастусь і Аліна ціхенька, каб іх ніхто не затрымаў, выйшлі на вуліцу.
— Пройдземся да мастка? Да нашага...— сказала Аліна.
Кастусь прыхіліўся да яе.



— Як мы, Кастусь, будзем жыць? Га, Кастусёк.? Я неяк сабе гэтага не магу ўявіць,— твар яе, асветлены месяцам, быў па-дзіцячы мілы і наіўны.
— Паедзем вучыцца: я — у інстытут, ты — у тэхнікум. Потым я буду працаваць, а ты вучыцца ў інстытуце. А потым паедзем кудынебудзь у глуш, дзе вельмі патрэбны ўрачы і настаўнікі...
Яны ўзышлі на масток. Кастусь узяў Аліну на рукі.
— Цяпер я не баюся цябе так узяць. А тады, памятаеш, за куліcамі, баяўся...
— Няўжо баяўся? А мне было таксама сорамна.
Кастусь паднёс яе да агароджы і пасадзіў на жардзіну. Ён быў без шапкі. Аліна нясмела пагладзіла яго валасы.
Ад клуба даляталі гукі полькі.
— Яшчэ гуляюць. Добра, што мы выбралі такі дзень. Праўда? Усім весела. А табе?
— Таксама. Але неяк і трывожна...— адказала Аліна.
— Ты любіш мяне?
— Вельмі. Ты спадабаўся мне адразу, як першы раз да нас прыйшоў. Мама тады не ўзяла цябе на стол. Пагараваў, бядак...
— І я цябе люблю. І прэч трывогу! — ён зняў яе з плота, пацалаваў і паставіў на зямлю.— Можа, пойдзем дамоў?
Маці яшчэ была ў клубе. Дзед сядзеў у кухні.
— Скончылася вяселле? — спытаў.
— Ды не, яшчэ танцуюць,— адказаў Кастусь.
— Хочаш есці? — спытала Аліна. Ад яе пахла холадам і свежасцю.
— Не. А ты?
Яна пакруціла галавой.
— Тады пойдзем...
Аліна пайшла ў пакой. Кастусь затрымаўся з дзедам. Ён чуў, як Аліна за шырмай слала пасцель. Сэрца пачало біцца часцей.
У акно свяціў месяц. Кастусь падышоў да Аліны. Яна ўжо паслала ложак і стаяла ў задуменні.
— Дык спаць?
Аліна зірнула таямніча на Кастуся, завесіла акно фіранкай, зняла сукенку і хуценька нырнула пад коўдру. Кастусь таксама, адышоўшы ў бок, распрануўся і лёг побач. Нейкі час яны ляжалі воддаль адзін ад аднаго. Кастусь прыгарнуў Аліну да сябе:
— Ты ж цяпер мая жонка...

## 5

На граніцы будавалі ўмацаванні. Сельскі савет накіраваў з Ціхай Дубровы брыгаду з падводамі на дзесяць дзён. Брыгадзірам паставілі Моначу.
Удзень вазілі лес, каменне. Спалі ў зямлянцы. Працавалі, не зважаючы на стому і час. Ведалі — гэта патрэбна.
Вечарамі пасля работы грэліся ля распаленай да чырвані буржуйкі, пілі чай, размаўлялі. Часам да рабочых прыходзілі пагранічнікі, расказвалі пра сваю службу.
Усіх цікавіла адно: як жывуць людзі там, за мяжой?
Зайшла пра гэта гутарка ў дзень ад'езду. Пагранічнік зняў з шыі бінокль.
— Паглядзіце...

— Адсюль не відаць. Можа ўзлезці на дрэва? — спытаў Монача.
— Ну, лезце на дрэва,— дазволіў пагранічнік.
Монача ўзлез на высокую сасну. Доўга ўглядаўся ў той бок.
— Ну, што там? — нецярпліва пыталіся хлопцы.— Бачыш пузатага пана?
Монача злез з дрэва, аддаў бінокль.
— Такая ж зямля: палі, лясы. Хаты, стрэхі саламяныя. Людзі ў тых жа світках ходзяць.
— Дзіва што, бо нашы, беларусы...
— А пана не бачыў?
— А што яму там рабіць? Абшарнікі цяпер у Варшаве або ў Парыжы балююць.
Пагранічнік падзякаваў хлопцам за работу. Раніцай брыгада мелася ад'язджаць у Ціхую Дуброву.
За дзесяць дзён Монача засумаваў па жонцы. Ён быў адзін жанаты ва ўсёй брыгадзе, таму ўзяў на сябе ўсе клопаты, каб раніцай без затрымкі адправіцца дадому. Ён устаў на досвітку. Коні стаялі ў ельніку пад паветкай. Далей за лесам была граніца. Хлопцы ні разу не бачылі на ёй пагранічнікаў ні з аднаго, ні з другога боку. Казалі, што назіраюць за граніцай, якая праходзіць па ручайку, з дазораў. Дзе хаваюцца тыя дазоры і калі яны змяняюцца, таксама ніхто не бачыў.
Монача падняўся на ўзгорак. Унізе месяц асвятляў рачулку. Кругом, як можна было акінуць вокам, ні душы. «Вось так перайшоў бы граніцу, і ніхто б не заўважыў,— падумаў ён.— Цікава, што б паны сказалі, калі б я прыйшоў да іх і заявіў: «Я — каталік, прошам пана. Мой бацька некалі пры цары спяваў «Яшчэ польска не згінэнла». Але пасля таго, калі ўланы ўлілі яму шампаламі за тое, што не хацеў аддаць парсюка Рэчы Паспалітай, сказаў, чухаючы патыліцу: «А прападзі ты пропадам!» — і да самай смерці не толькі не спяваў гэтай песні, але кінуў хадзіць у касцёл.
Монача вярнуўся да коней. Яшчэ здалёк ён заўважыў ля паветкі запрэжанага ў сані каня. «Дзіўна! Хто ж яго запрог? Хлопцы, калі я выходзіў, спалі». Монача падышоў да каня. Хамут на кані яшчэ не быў засупонены.
— Дзіва! Хто тут? — паклікаў Монача. Хацеў зняць з каня дугу і вывесці яго з аглабель, як за плячыма скрыпнуў снег. Монача павярнуўся. І хутчэй інстынктыўна, чым разумеючы, у чым справа, ударыў нагой у жывот чалавека, які ўзняў над ім нож. Чалавек адляцеў ад Монача і цяжка грукнуўся спіной аб зямлю. Цяпер Монача ўбачыў асветлены месяцам скрыўлены малады твар. Пачуў, што ззаду яшчэ нехта краўся да яго.
— Замры! Бо атрымаеш кулю ў лоб.
Цяпер Монача зразумеў, хто запрог каня і навошта ён ім.
«Калі іх толькі двое,— падумаў Монача,— страляць яны не адважацца. Застава блізка».
— Мы дадзім табе грошай: тысячу, дзесяць тысяч... Адвязі нас, куды скажам, і ты вольны...
Монача заўважыў, што парушальнік напалоханы больш, чым ён, хоць у яго руцэ зброя, а ў Монача дуга.
— А ў цябе ёсць грошы? Пакажы! — хітрая ўсмешка з'явілася на вуснах Монача.
Чалавек сунуў руку пад куртку.
— Разлік пасля. Ну!..
— Дык запрагаць?
— Хутчэй!



Монача ўзняў дугу і, быццам жадаючы ўсунуць у гужы, крута павярнуўшыся, апусціў яе на галаву ворага. Далей ён нічога не памятаў: нехта цяжка ўдарыў ззаду яго самога па галаве.
...Ачуняў Монача ў зямлянцы. Ля ложка стаяў доктар у пагранічнай форме, за ім хлопцы з брыгады. Монача яшчэ не разумеў, што з ім і дзе ён. Такое здаралася з ім часта пасля добрай чаркі.
— Як вы сябе адчуваеце? — спытаў доктар.— Галава баліць?
Монача памацаў патыліцу. Пад рукой быў бінт.
— Рассек галаву?
— Падзякуй пагранічніку. Дыверсанты б цябе прырэзалі, як парсюка,— сказаў нехта з хлопцаў.
— Злавілі іх? — спахапіўся Монача.
— Аднаго толькі.
— А другога дыверсанта...— усміхнуўся доктар,— вы прыбілі... кхе.. дугой.
— Шкада, што і таго не паспеў.— Монача сеў на нарах.
— Вы можаце ехаць? А можа пакласці вас у шпіталь?
— Не, я паеду,— сказаў Монача і раптам устаў: — Паеду...
— Тады дазвольце вам падзякаваць ад імя камандавання заставы,— сказаў доктар, паціскаючы руку Монача.

## 6

Па дарозе Монача адчуў сябе дрэнна. Дарога была доўгая, бегчы за санямі, як гэта час ад часу рабілі хлопцы, каб разагрэцца, Монача не мог. Расколвалася галава, трэсла. Хлопцы ўкрылі яго сенам і сваімі кажухамі, і Монача заснуў.
У хату яго ўвялі, падтрымліваючы з двух бакоў. Стася перапалохалася, загаласіла.
— Што з ім, людзі добрыя?! Што з тваёй галавой? Чаго ты белы такі?
— Нічога, нічога, Стася,— супакоіў яе Монача.— Дай мне гарачага чаю, мяне трохі калоціць.
Хутка вестка пра сутычку Монача з дыверсантамі на граніцы абляцела ўсю вёску. Павіншаваць яго прыйшлі Драпей, Збароўскі, Дубікоўскі. Хата ўжо была поўная людзей.
— Гэта што — спектакль? Ей-бо... Дайце чалавеку ачуняць,— пачала наводзіць парадак Драпей.— Ідзіце, ідзіце... Ачуняе, раскажа на сходзе.
Збароўскі загадаў запрэгчы коней і прывезці з Міхайлаўкі фельчара. Тут жа сеў за стол і пачаў выпісваць з кладоўкі мёду, белай мукі хвораму.
— Можа яшчэ што з крамы трэба? — спытаў Сымон.
— Дзякую, пакуль што нічога не трэба,— адказала Стася.
Монача ляжаў у ложку, укрыты коўдрай і кажухамі. Чорныя вочы яго свяціліся хворым бляскам. Аліна сядзела на крэсле побач, правярала пульс. Кастусь стаяў ля Аліны, глядзеў на гадзіннік.
— Ёсць тэмпература? — спытала Рома.
— Так,— кіўнула Аліна. Яны прыйшлі з Кастусём трохі пазней.— Ён яшчэ прастудзіўся.
— Нічога,— усміхнуўся Збароўскі.— Справіўся з двума дыверсантамі, справіцца і з хваробай... Дык як ты яго дугой? Га? Малайчына! Званілі з раёна, цікавіліся, як ты сябе адчуваеш. Цябе, брат, прадставілі да ўзнагароды граматай.

Монача ўсміхнуўся:

— Ты, брат Монача, счапіўся з сапраўдным ворагам,— сказаў Кастусь, хаваючы гадзіннік у кішэню.— Пан Пілсудскі паслаў іх не з ласкі да нас. А можа і не ён, а нямецкія фашысты,— і, ужо звяртаючыся да Сымона, працягваў: — Можа ў іх свае людзі тут ёсць, а мы ходзім ля іх і не бачым. Вораг не такі дурны, як некаторыя думаюць.— Зноў звяртаючыся да Монача, сказаў: — Як бы там ні было, а ты, Монача, перашкодзіў ім, гадам!

— Эх,— махнула рукой Драпей.— Ну, чаму я не хлопец? Ей-бо, пайшла б служыць у пагранвойскі або ў авіяцыю.

У кутку, нікім не прыкмечаны, сядзеў Дудкоўскі. Ён не выйшаў з хаты, калі прыйшла Рома, і, баючыся дыхнуць, слухаў, пра што гаварылі ў пакоі.

— Якія яны, дыверсанты? — спытала Рома.

— Гніды,— адказаў Монача.— Калі б не было ў іх зброі, я б іх, як катоў, у мех усадзіў.

— А з твару якія? Відаць — што дыверсанты? — зноў спытала Рома.

— Не разгледзеў. Хлопцы іх бачылі.

За акном пачуліся галасы. Прыехаў фельчар. Усе замітусіліся. Скарыстаўшы гэта, Дудкоўскі ціха выйшаў з хаты. На вуліцы Дудкоўскі сустрэў Зыка. Вітоль бег да Монача.

— Га, чулі? — сказаў ён такім голасам, нібы не Монача, а ён затрымаў дыверсантаў.— А што я казаў: вораг не спіць у шапку. Нездарма ўзялі,— ён кіўнуў галавой на Адамчышыну хату.— Можа памочнікам быў у такіх. А Слыш?..

— Разумны ты хлопец, Вітоль, ой, пане мой, разумны. У чалавека каня ўкралі, дык раздулі кадзіла. Ні за што ні пра што ледзь чалавека ворагам не зрабілі. Ты вось славі такога, як Монача славіў, тады пабачым, які ты, пане мой, зух!

— Нічога, нічога,— сказаў Зык.— Справа праясняецца.

Ён пабег на ваколіцу, а Дудкоўскі, уздыхнуўшы, падумаў: «Добра, калі б усе былі такія балбатлівыя сарокі», і пачапаў дахаты.

Дома, выслаўшы жонку да суседкі, Дудкоўскі спаліў на комінку нейкія паперы. Спаць лёг не вячэраўшы. Алеся чула, што ён варочаецца на ложку, і не магла зразумець, што з ім сталася. Яна не ведала, што яе муж якраз у гэтым месяцы чакаў гасцей з-за мяжы. З адным з іх, бялявым, ён ужо двойчы сустракаўся. «Ці якраз гэты забіты? Ці якраз яны ішлі да мяне?» — вось што хвалявала Дудкоўскага.

Раніцой Монача, які захварэў на запаленне лёгкіх, адвезлі ў Высокі Бераг у бальніцу.

## 7

Пацукевіч, відаць, думаў, што гісторыя яму не даруе, калі ён не ачысціць камсамольскую арганізацыю Ціхай Дубровы ад варожага, як ён сабе ўяўляў, элемента. Кастуся выклікалі на бюро райкома. Разглядаць яго справу ў пярвічнай камсамольскай арганізацыі Пацукевіч не даверыў, бо Рокаць зрабіў, на жаль, на яе дрэнны ўплыў. Ён палічыў патрэбным запрасіць на бюро аднаго маральна ўстойлівага члена арганізацыі Вітоля Зыка. Нават Дубікоўскага, Збароўскага і Драпей ён назваў непрынцыповымі.

Кастусь глядзеў на ўсю гэтую справу аптымістычна. Яго ведалі многія члены бюро. Фельдман, які ўручаў прызы, граматы спартыўнай арганізацыі, а потым у газеце і на сходах Ціхую Дуброву ставіў у прыклад. У бюро была Каця, з якой ён вучыўся ў адным тэхнікуме. Урэшце, Казакоўскі — разумны чалавек.

Па дарозе ў райком Кастусь сустрэў Фельдмана.

— Усё гэта глупства,— сказаў ён.— Не дадзім пакрыўдзіць. Не так ужо многа ў нас у раёне такіх хлапцоў. Шкада, няма Казакоўскага....

— Яшчэ не вярнуўся з курсаў? — спытаў Кастусь з трывогай.

— Яшчэ не вярнуўся.

Справу дакладваў сам Пацукевіч, бо ён «быў на месцы і вывучыў яе глыбока». Ён прадставіў яе так, што, калі б Кастусь не ведаў, хто такі Рокаць, ён бы і сам галасаваў за выключэнне яго з камсамола. Тыя, хто не ведаў Кастуся, толькі ківалі галовамі і дзівіліся: як можна было трымаць у арганізацыі такога маральна разбэшчанага тыпа. Гэта зрабіла ўплыў і на Фельдмана, і на Кацю.

— А я ж папярэджвала Кастуся,— сказала яна, даючы гэтым зразумець, што яна выканала свой абавязак і цяпер не лічыць яго сябрам.

— А мы яму таксама казалі,— уставіў Зык.— Таварыш Пацукевіч своечасова падказаў нам...

Каця, ломячы белыя пальцы, гаварыла:

— Я ведала таварыша Рокаця, як цудоўнага камсамольца. Я, прызнацца, ганарылася, што наш тэхнікум даў такія кадры. А Рокаць не апраўдаў даверу.

Зык паўтарыў тое, што казаў Пацукевіч, толькі ўжо як сведка ўсіх гэтых «мярзотных фактаў». Кастусь глядзеў на яго спакойна, быццам гаворка ішла не пра яго. Непакоіла адно: што не дае гэтаму чалавеку ў яго дваццаць пяць гадоў быць шчырым: зайздрасць, кар'ерызм, эгаізм? Ён не мог паверыць яго словам: «Мне цяжка, непрыемна, што гэта здарылася ў нашай камсамольскай арганізацыі, у асноўным здаровай і здольнай выканаць любое заданне райкома камсамола».

Апошняе слова, як падсуднаму, далі Кастусю.

— Тут Пацукевіч і Зык сабралі салідны букет. Ад яго пахне непрыемна...

— Якія кветкі вырасціў, такія і трапілі ў букет,— кінуў нехта рэпліку.

— Не, гэта не зусім так,— адказаў Кастусь.

— Дык ты лічыш, што гэта няпраўда? — зноў пачулася рэпліка.

Кастусь уздыхнуў.

— Праўда — зусім не простая рэч. Яна складаная, як жыццё. Часам хлусня можа здавацца больш праўдзівай. Тут усё гладка. Нанізвай факты...

— Ты не філасофствуй, а кажы па сутнасці,— сказаў Пацукевіч.

— Буду па сутнасці. Сувязь з ворагам. Пра Алінінага бацьку не будзем гаварыць: вінаваты ён ці не — разбяруцца, каму трэба. Але ў чым віна дзяўчыны? Хіба дзеці выбіраюць сабе бацькоў? Мы ж будуем сацыялізм, перавыхоўваем людзей. Не знішчаць жа іх будзем. Яны ж будуць жыць з намі пры сацыялізме, а можа нават і пры камунізме.

— Вось бачыце, інтэлігент, да мазга касцей інтэлігент,— перабіў яго Пацукевіч.— Філасофствуе аб выхаванні. А вось пастух, такі, як Зык, калгаснік, не філасофствуе. Ён кажа — кулак і ўсё тут. Так, Зык?



— Дык што казаць, тут усё ясна,— заёрзаў на крэсле Зык, бо, відаць, слова пастух яму не зусім спадабалася.

— Чаму кулак? Аліціна маці працуе ў калгасе. Прэмію нават на свята атрымала. Аліна ў гарачыя дні выходзіла на работу з маткай.

— А муж шкодзіў? — усміхнуўся Зык.

— Дапусцім. Але ж не яны шкодзілі,— Кастусь уздыхнуў.— У мяне ёсць памылкі, ёсць недахопы. Але на пытанне: ці варта было жаніцца з дзяўчынай, якую люблю, я адказваю: варта — я гэта адчуваю сэрцам.

— Ды што тут слухаць нюні пра любоў! Расчуліўся! Ворагі забілі таварыша Кірава, а мы тут з ім цацкаемся. Галасую: хто за выключэнне? — І Пацукевіч падняў руку. За ім паднялі ўсе члены бюро.

— Аднагалосна. Кладзі білет!

Кастусь дастаў білет і паклаў на стол.

— Нічога. Ёсць яшчэ Масква і таварыш Косараў,— сказаў і хутка выйшаў з райкома.



# РАЗДЗЕЛ ДЗЕВЯТЫ



## 1

Усё складалася не так, як уяўлялі сабе маладажоны. Кастусь цяжка перажыў выключэнне з камсамола. Былі хвіліны слабасці. Было — хацеў кінуцца пад трактар, які асляпіў яго ў той чорны вечар, калі выбег з райкома. Хацеў кінуцца ў раку, калі ішоў па беразе. Было, было... Але вера ў жыццё была мацнейшая ад хвіліны расчаравання. Кастусь адганяў ліхія думкі прэч: «Дурны, дурны, можа пакінеш для чалавецтва запіску: «Я няшчасная ахвяра таварыша Пацукевіча...»

Урэшце новы загадчык прыехаў. Кастусь здаў яму школу і паехаў у Мінск атрымліваць новае прызначэнне. Аліна засталася адна.

— Не слухала мяне,— папракаў дзядзька.— Цяпер сядзі. Паехала б з Антонам, ніхто б цябе не ведаў і не знаў. Эх, дзеўка, дзеўка, сапсавала жыццё і яму і сабе.

Сядзець, склаўшы рукі, чакаць, пакуль уладзіцца ўсё ў Кастуся, было невыносна. Рома неяк спагадліва зірнула на Аліну і параіла:

— Ідзі ты, дзяўчына, працаваць у бальніцу. Я табе дам добрую характарыстыку...

І дала, не пабаялася. Праўда, яна не магла не сказаць пра бацьку Аліны. «Але, нягледзячы на гэта»,— пісала старшыня сельскага савета. Вот гэта «але», хай сабе і ў канцы характарыстыкі, псавала настрой.

Аднак Аліна пайшла ў мястэчка. Дзень быў марозны, сонечны. Вось яна ўладкуецца ў бальніцу. Ёй выдадуць белы халат. Яна будзе памагаць доктару рабіць аперацыі і вучыцца ад яго. А потым, калі Кастусь атрымае пасаду, паедзе да яго і таксама ўладкуецца ў шпіталь.

Незаўважна Аліна апынулася ля двухпавярховага гмаху бальніцы. Лёгкія думкі пырхнулі і адляцелі, а сэрца напоўнілася трывогай. «Што мне тут скажуць, дачытаўшыся да гэтага «але»? Ісці, ці не ісці?» — разважала Аліна, пазіраючы на прыгожы гмах раённай бальніцы, асветлены праменнямі зімовага сонца.

Раптам са звонам паляцелі шыбы. Аліна ўзняла галаву і ўбачыла ў выбітым акне высокага, плячыстага чалавека ў бялізне. Яшчэ момант — і ён скочыў з другога паверха ў снег.

— Монача! — пазнала хворага Аліна.

А Монача ўсхапіўся на ногі і, правальваючыся ў гурбах снегу, пашыбаваў да ракі. За ім кінуліся бегчы напалоханыя санітаркі.

— Ой, божа мой, недагледзелі! — вохкала пажылая сястра.— У яго ж гарачка...

Аліна таксама кінулася памагаць сёстрам. Монача тым часам ужо шыбаваў па Прыпяці.

— Трымайце дыверсанта! — крычаў ён, махаючы вялікімі, як крыллі ветрака, рукамі.— Трымайце. Граніца блізка...

Некалькі санітарак перагарадзілі яму дарогу. Монача дзіка роў:

— Га, і вы з імі! Дыверсанты! —і павярнуў назад. Цяпер ён, вялікі і страшны, у расхлістанай кашулі, босы, з узлахмачанымі валасамі, бег проста на Аліну.

Аліна стала і выцягнула ўперад рукі.

— Монача, апамятайся, тут усе свае...

Монача, аднак, сапучы, бег на яе. «Хай саб'е мяне,— рашыла Аліна,— але сам упадзе». Яна, расставіўшы рукі, пайшла яму насустрач, паўтараючы:

— Монача, тут усе свае...

Монача зірнуў на Аліну, як пужлівы конь, скочыў у бок і трапіў у лунку. Плынь падхапіла яго і пацягнула пад лёд. Аднак Аліна паспела ўхапіць яго за кашулю. Цяжкі, ён пацягнуў яе за сабой. Аліна паслізнулася, упала, але не выпусціла з рук мокрае палатно кашулі.

Падбеглі санітаркі. Выцягнулі Моначу з лункі.

— Не дамся,— крычаў хворы, раскідваючы навісшых на яго людзей.

Ледзь удалося яго звязаць і на насілках аднесці ў бальніцу.

Калі хворага паклалі ў ложак і мінуў страх за яго жыццё, успомнілі пра дзяўчыну, якая ўратавала чалавека. Кінуліся яе шукаць і не знайшлі.

А Аліна ў той час была ўжо ў сельсавеце і расказвала старшыні.

— Як я магла падаць у такі час свае дакументы... Не да мяне ім было. Пастаяла я ля бальніцы і пайшла...

Як ні ўгаворвала Рома Аліну зноў ісці ў раён, Аліна не пайшла.

— Ты ж выратавала чалавека...

— А як даведаюцца, што мой бацька...— паўтарала ўпарта.— Не палічацца ні з чым...

Аліна засумавала.

І раптам вестка ад Кастуся, як вясёлка з неба: «Атрымаў прызначэнне ў сямігодку. Выязджай».

Прыехала. Уладкаваліся добра. Аліна паступіла працаваць на фабрыку запалак.

Ля фабрычных варот Кастусь сустракае Аліну. Бярэ яе пад руку.



— Не стамілася?

— Ды што ты! Такая цікавая работа. Час непрыкметна бяжыць.

Пад нагамі зноў мост. Не рачулка пад ім, а рака — шырокая, бурлівая. І мары плывуць, як белыя крыгі па рацэ.

— А ўсё ж мы паедзем вучыцца. Цяпер мы бліжэй да мэты,— кажа Кастусь.— Папрацуеш, будзеш мець рабочы стаж. Сваю, не чыю-небудзь, біяграфію напішаш вось гэтымі рукамі.— Кастусь гладзіць Аліміну руку і ў каторы раз дзівіцца, якая яна маленькая і зграбная.— Мяне тым часам адновяць у камсамоле...

Усё становіцца ясным, зразумелым. Яны вяртаюцца, радасныя, усхваляваныя, у свой утульны маленькі пакойчык. Гаспадыня адчыняе дзверы і раўнадушна кажа:

— Я вам там паклала на стол позву з ваенкамата.

І вось, абстрыжаны, сумны, Кастусь стаіць на пероне, паціскае руку Аліне.

— Тры гады — гэта ж не так ужо і многа. Паслужу, загартуюся, і тады...

...Гудок. Цягнік набірае хуткасць.

## 2

Пісьмо Кастуся, якое ён напісаў яшчэ ў Ціхай Дуброве, трапіла ў добрыя рукі. Косараў прачытаў яго і наклаў рэзалюцыю: «Перагледзець...»

Пісьмо накіравалі ў райком на перагляд. Казакоўскі прачытаў рэзалюцыю, паківаў галавой.

— Наламаў Пацукевіч дроў... Трэба папраўляць.

У той час Пацукевіча ўжо не было ў райкоме. Ён таксама служыў у арміі, і трэба ж было так здарыцца: трапіў у тую ж танкавую брыгаду, у якой служыў Кастусь. Але былі яны ў розных батальёнах.

Брыгада толькі фарміравалася. Трэба было вывучаць танкі, якія стаялі ў лесе, закрытыя брызентам, і абсталёўваць лагер, каб у ім было зручна вучыцца і жыць. Уставалі рана і клаліся позна. Здавалася, толькі лёг спаць, а ўжо гарніст трубіць пад'ём.

А потым каманда за камандай: «На зарадку станавісь!», «На агляд станавісь!», «На крос станавісь!», «На заняткі станавісь!», «На абед станавісь!» — і ўсё строем, пад каманду. Нават у сталовай без каманды не сядзеш за стол, не ўстанеш з-за стала. Армія ёсць армія.

Кастусь не ўяўляў сабе гэтага інакш. І яму лёгка было жыць цяпер. Не цяжкай была вайсковая служба і дысцыпліна. Бо толькі той сапраўды мае права вучыць іншых, хто можа падпарадкоўвацца сам.

Пацукевіч прызвычаіўся сам камандаваць. А тут нават камандзір аддзялення спыняў яго:

— Запраўце, як належыць, папругу!

Вясна, горача. Абмундзіраванне ліпне да цела. А тут:

— Зашпіліце гузік!

Аказалася нават, што ён, Пацукевіч, не ўмее па-людску абуцца.

— Анучы трэба накручваць вось так. Тады не будзе мазалёў.

У армію Пацукевіч збіраўся, як Мальбрук у паход. На провадах ён трымаўся зухавата. На твары яго, здаецца, было напісана: «Мяне кідаюць на іншы, важны фронт. Будзьце ўпэўнены!» У дарозе яму снілася афіцэрская форма і камандная вышка, а яго апранулі ў такі ж шэры, як і ва ўсіх, шынель. І ён змяшаўся з усімі. Цяпер ніхто не бачыць, што ён — Пацукевіч, нават не ведае яго прозвішча.

— Падыдзіце сюды, таварыш курсант!
Пацукевіч падыходзіць.
— Як ваша прозвішча?
— Пацукевіч,— дакладвае ён.
Ён спадзяецца, што старшына прыемна ўзрадуецца, скажа: «А гэта вы, Пацукевіч!» Але старшына кажа:
— Вазьміце ў капцёрцы венік і падмяціце лагер.
Пацукевіч адчуў раптам, што ў яго са здароўем не ўсё ў парадку. І пачаў часцей наведваць санітарную палатку. Фельчар не мог знайсці ў яго ніякай хваробы, накіраваў да ваеннага ўрача. Урач (о, колькі ён меў такіх хворых!) адразу ўстанавіў дыягназ.
— На што скардзіцеся? — спытаў, каб пераканацца ў сваіх вывадах.
— Як сакратару райкома,— пачаў здалёку Пацукевіч,— разумееце, прыходзілася ездзіць і ў дождж, і ў снег, і ў гразь. Гэта, відаць, і адбілася на здароўі. А тут папрацаваў... Косці, разумееце...
— Так, распраніцеся. Тут адчуваеце боль?
— Адчуваю і побач таксама.
— А тут?
— І тут...
Урач паківаў галавой.
— А як у вас з каленнай чашачкай?
Пацукевіч прыслухаўся.
— Часам ные.
— Ну, добра, апранайцеся.
— Ну, што? — спытаў ён сумна.
— Самае лепшае лякарства ад ўсіх вашых хвароб — энергічней працаваць рыдлёўкай.
— Вы што — жартуеце!
Ваенны ўрач устаў і строга загадаў:
— Кругом! У лагер шагам арш!

## 3

У аддзяленні курсанты не любілі Пацукевіча. Яны адразу ўбачылі яго імкненне ўзвысіцца над імі. Пацукевіч хацеў сваім былым аўтарытэтам падпарадкаваць і камандзіра аддзялення. Але той не хацеў бачыць розніцы паміж танкістам Багданавым, былым трактарыстам, токарам Кудзіновічам, шаферам Дамарацкім і Пацукевічам.
— Адзін чалавек патрэбен сёння на кухню. Таварыш Пацукевіч, ваша чарга.
— Я сёння хацеў ісці да камісара.
— Ён вас, калі трэба, пакліча. Ідзіце на кухню.
І так заўсёды, калі трэба было чысціць танкі, зброю, падмятаць лагер, працаваць на кухні. Курсанты разгледзелі дэмагога і дапякалі яго салдацкім смехам за пагарду да іх, за жаданне ўхіліцца ад свайго абавязку і ўзваліць яго на кагосьці.
— Ну і за што цябе вылучылі на кіруючую пасаду? — дзівіўся Вінакураў, назіраючы, як неахвотна выцірае гусеніцы танка Пацукевіч.— Ты ж ні бум-бум...
— Прашу не забывацца,— гарачыўся Пацукевіч.— Хто вылучаў — ведае больш.
— Ну што ты можаш рабіць? — казаў Вінакураў, падміргваючы хлопцам.— Пра чорную работу не будзем казаць — усе бачаць. Яна ў цябе з рук валіцца. Але ж возьмем тваю інтэлігенцкую, за якую ты атрымліваў грошы. Пісаць ты не ўмееш. Малявать таксама. Іграць ты можаш хіба толькі на нервах. Ні выпускаць газету, ні маляваць плакаты, ні прымаць удзел у самадзейнасці. Нават языком... Узяўся на палітзанятках гаварыць — адна тарабаршчына.
— Я не маю намеру перад вамі дэманстраваць свае здольнасці,— адбіваўся Пацукевіч.
Камісар загадаў сабраць палкавую школу ў лагерным клубе. Батальёны з песняй накіраваліся да месца збору. Там у акружэнні сваіх памочнікаў стаяў камісар Пятроў і з задавальненнем прыглядаўся да строю.
— Нічога. Добра ідуць,— сказаў ён.— Гэта ўжо — армія!
З шэрагаў адной роты пачуўся голас запявалы. Рота дружна падхапіла песню.
— Чыя гэта рота? — спытаў камісар.
— Наруцкага.
— Добра спяваюць.— І, усміхнуўшыся, дадаў: — Люблю песню. Сам некалі быў у конніцы запявалам.
Рота спынілася. Камісар падышоў да курсантаў.
— Цудоўна спяваеце, таварышы курсанты! Дзякую за песню!
Грымнуў дружны адказ.
— А хто запявала?
— Запявала, выйдзіце са строю!
Кастусь зрабіў тры крокі наперад. Абмундзіраванне на ім ляжала зграбна, твар загарэлы.
— Ён у нас і ў вучобе ідзе наперадзе,— далажыў камандзір роты.— Выдатна страляе.
— Маладзец! — камісар паціснуў Кастусю руку.
Курсанты з павагай глядзелі на чалавека, на грудзях якога блішчалі два ордэны Чырвонага Сцяга, і былі задаволены, што ад яго прыйшла ім і іх сябру падзяка.
Глядзеў на гэта і Пацукевіч. «Пралез у армію... Не выйдзе!» — падумаў ён. Прыйшоў момант вылучыцца. Пакуль ішоў сход, ён толькі і думаў пра тое, як даложыць камісару, што ў армію пралез вораг. Будзе пры гэтым прычына расказаць пра сваю работу да арміі. Камісар спытае: «І вы ў аддзяленні радавым?» «Так»,— адкажа Пацукевіч. «Ну, мы знойдзем для вас нешта лепшае». І ён, Пацукевіч, пойдзе ўгору.
Пацукевіч ужо не слухаў, пра што гаварыў камісар. А калі той скончыў, Пацукевіч устаў, далажыў сваё званне і прозвішча:
— У мяне пытанне.
— Слухаю.
— А ці могуць служыць у арміі і тым больш вучыцца ў танкавай палкавой школе людзі, звязаныя з ворагамі народа?
Пацукевіч чакаў, што камісар папросіць яго расказаць пра гэта больш падрабязна, і тады ён пачне з таго, як быў сакратаром райкома, як змагаўся з такімі, як Рокаць, і ўсе будуць ведаць, які ён ёсць, Пацукевіч. Але камісар адказаў коратка.
— Паглядзім, ці сапраўды ў нас ёсць такія, і тады ўжо вырашым, што рабіць. Сядайце.
Пасля сходу рота з песняй вярнулася ў лагер.
Днявальны аб'явіў «асабісты час». Можна было сесці напісаць пісьмо Аліне. Але настрой быў сапсаваны. Кастусь сядзеў, схіліўшыся над паперай, думаў, што пісаць. «Парадую яе падзякай каміса-

ра»,— рашыў ён. І толькі Кастусь абмакнуў пяро, на лінейцы па ланцужку пачалі перадаваць днявальныя:

— Курсант Рокаць да камісара...

«Пачалося...» — уздыхнуў Кастусь, хоць баяцца і было нечага. Калі яго бралі ў армію, ён усё расказаў ваенкому. І яго ўзялі ў армію па спецнабору і ў танкавую школу. Але не хацелася зноў варушыць гэтую непрыемную справу.

У палітаддзеле ўжо круціўся Пацукевіч, Кастусь, не звяртаючы на яго ўвагі, сеў і стаў чакаць.

Пацукевіч пачаў першы:

— А я не ведаў, што ты тут,— працадзіў ён скрозь зубы.

— І я не чакаў з табой спаткацца,— адказаў абыякава Кастусь.

— Непрыемна?

Кастусь пацiснуў плячыма:

— Мне ўсё роўна.

— Ведаю. Ты хацеў, каб я маўчаў. Але я камсамолец.

— Я хацеў бы, каб ты не брахаў,— абрэзаў Кастусь, нахмурыўшы бровы.

— Што ты сказаў?

— Тое, што ты чуў!

— Выбірай словы. Ты можаш за гэта адказваць.

— Ты таксама калі-небудзь адкажаш за свае.

— За што? Не я адзін цябе выключаў з камсамола.

— Я не пра сябе.

— А пра каго?

— Пра Рому Драпей.

— Цябе праінфармавалі ўжо.

— Не праінфармавалі, а напісалі. Такую слаўную камсамолку знялі з пасады...

— Слаўную?

— Слаўную. Яе ўсе любілі і паважалі, апрача лішэнцаў.

— Чым жа яна слаўная? Тым, што давала незаслужаныя характарыстыкі?..

— Аліна ж гэтай характарыстыкі не скарыстала.

— Скарыстала ці не, іншая рэч. Факт застаецца фактам.

— Эх ты...

Кастусь дастаў з кішэні паперу і пачаў скручваць цыгарку. Пацукевіч выцягнуў папяросы.

З пакоя выйшаў памочнік камісара па камсамолу.

— Рокаць ёсць?

Кастусь устаў.

— А вам што? — спытаў ён Пацукевіча.

— Я прыйшоў па справе да камісара.

— Няхай заходзяць абодва,— пачуўся з пакоя голас камісара.

Зайшлі.

— Дык што ў вас?

Пацукевіч кіўнуў на Кастуся.

— Я хацеў вас праінфармаваць, але...

— Добра... Хвіліначку. Дык вы і ёсць Рокаць, запявала? — Ён узяў маленькую кніжачку з рук памочніка па камсамолу.— Вас аднавілі ў камсамоле. Вось ваш камсамольскі білет. Мне прыемна другі раз пацiснуць вам руку... Так што,— усміхнуўся камісар,— пытанне, ці варта было жаніцца, вырашана.— Потым, звярнуўшыся да Пацукевіча, спытаў: — А пра што вы хацелі мяне праінфармаваць?..

— Уласна кажучы, я...



— Няма чаго гаварыць? Вось і добра. Тады я вам скажу: менш заглядайце ў санітарную палатку... Ідзіце.

Ішлі па лінейцы моўчкі. Сэрца Кастуся запоўніла радасць, але ён стрымліваў яе. Пачуццё зларадства было яму агідна. Цяпер яму нават шкада стала Пацукевіча. Нездарма, відаць, у народзе кажуць: ляжачага не б'юць.

Зайграў гарніст. Баявая мелодыя злілася з песняй радасці ў сэрцы Кастуся.

Па лагеры гучала каманда:

— Выходзь строіцца на стралковыя заняткі!

Кастусь павярнуўся да Пацукевіча і сказаў цвёрда, па-салдацку:

— Пойдзем, брат, вучыцца страляць па сапраўднаму ворагу.

# ЭПІЛОГ

Канстанцін Іванавіч Рокаць даўно збіраўся паехаць на Палессе, пахадзіць па знаёмых сцежках. Аднак адразу пасля вайны не мог гэтага зрабіць, бо шмат год служыў у арміі. Выбраўся, аднак, не адразу і пасля вяртання ў Беларусь.

Аднойчы, вярнуўшыся з камандзіроўкі, ён знайшоў на сваім рэдакцыйным стале пісьмо. Разгарнуў канверт.

«Добры дзень, Кастусь! — прачытаў ён і апусціўся на крэсла. Почырк быў незнаёмы.— Піша табе сябар па сумеснай працы ў вёсцы Ціхая Дуброва Марыя Брагінская, калі бязлітасны час не сцёр з памяці».

«Брагінская? А-а, загадчыца ясляў і дзіцячага саду. Ну-ну,— усміхнуўся Канстанцін Іванавіч.— Не сцёр час з памяці. Ці ж можна сцерці тое, што было ў маладосці?..»

Ён нахіліўся над пісьмом. «Я цябе ўяўляю такім, якім быў ты трыццаць гадоў назад: тонкі, высокі юнак, з заліхвацкай чорнай шавялюрай... і не дай бог, калі цяпер ззяе лысіна».

Канстанцін Іванавіч усміхнуўся і, адкінуўшы пасму валасоў з ілба, чытаў далей: «Добра памятаю тваю жонку Аліну. Чула, заслужаным урачом яна стала. А аднойчы ў газеце я ўбачыла гумарэску за подпісам Кастуся Рокаця. Ну, думаю, гэта, напэўна, ён. Ён любіў гумар. Крыху пра сябе. Скончыла інстытут яшчэ перад вайной, працую настаўніцай біялогіі ў Міхайлаўскай дзесяцігодцы ўжо дваццаць гадоў. Мой муж, Міхаіл Данілавіч, выкладчык беларускай мовы і літаратуры. Маю трое дзяцей. А якая твая сям'я? Ці даўно перайшоў з педагагічнай работы ў рэдакцыю? Калі можна, прышлі мне свае творы, буду вельмі ўдзячна. А калі выдасца вольны час, прыязджай да нас, будзеш жаданым госцем. З сардэчным прывітаннем і найлепшымі пажаданнямі Марыя Брагінская».

Рокаць сабраўся ў дарогу. І вось ён сядзіць на адкрытай палубе «Ракеты» і ўглядаецца ў знаёмыя берагі Прыпяці.

«Ракета» імчыцца хутка, здаецца, не плыве, а ляціць над вадой. Рокаць успамінае, як доўга некалі ён плыў па гэтай жа Прыпяці на параходзе...

— Прабачце, вы працавалі ў Ціхай Дуброве загадчыкам школы? Да вайны?

Рокаць глядзіць на незнаёмага чалавека.

— Працаваў.

— Канстанцін Іванавіч?

— Правільна.

— А я ваш вучань. Можа памятаеце, той цяжка хворы Боня, якога выратавала ваша жонка.

— Вельмі прыемна, Бенядзікт Лявонавіч. Вам тады было гадоў дзесяць,— Канстанцін Іванавіч зірнуў на мажнага мужчыну.

— А дзе цяпер Аліна Адамаўна?

— У Мінску. Працуе ўрачом. Была на фронце...

— А Рэню Дзерангоўскую вы памятаеце?

— Як жа! Такая белагаловая дзяўчынка...

— Яна таксама вывучылася на ўрача. Жыла ў Маскве. У час вайны яе на парашуце скінулі да нас у партызаны. Ды лётчык не разлічыў добра. Ветрам яе аднесла, і спусцілася яна ля вёскі. І тут Дудкоўскі...

— А што Дудкоўскі?

— Старастам быў. Паведаміў у Міхайлаўку немцам. Схапілі Рэню, расстралялі. Ну, Монача адпомсціў за Рэню. Як пачуў, што парашутыстку ўзялі ў камендатуру, пайшоў яе выручаць. Адзеў нямецкі мундзір. Уварваўся з аўтаматам у камендатуру, перавярнуў усё ўверх дном.

— А сам Монача?

— Загінуў. Калі выходзіў з камендатуры, на яго населі паліцаі, хацелі яго жывога ўзяць, а ён іх раскідаў, як трусянят.

— Моцны быў чалавек!

— У яго паліцаі ўсадзілі каля паўсотні куль. А ён яшчэ да лесу дабег і ўпаў. Дык бобікі баяліся да мёртвага падысці: думалі, прыкінуўся.

— А Стася, жонка яго?

— Жыве і працуе ў калгасе.

— А Зык?

— Спачатку быў у партызанах. Потым Дудкоўскі выдаў загад: калі не вернецца ў вёску — расстраляе ўсю сям'ю. Вітоль паслухаў старасту, прыйшоў. З тыдзень прасядзеў у камендатуры. Потым яго выпусцілі, зноў уцёк да партызан, а праз нейкі час яго, забітага, знайшлі ў лесе. Невядома, хто забіў...

— Але ж і навін ты мне расказаў. Так, так...— задумліва сказаў Канстанцін Іванавіч.— Сапраўды шкада, што няма са мной Аліны Адамаўны. Ёй таксама было б цікава гэта ведаць.

— А пра Рому не чулі? — спытаў Бенядзікт.

— Чуў, яшчэ да вайны, што яна ў калгасе ў Аляксандраўцы працавала. Яе знялі з пасады старшыні.

— А ўсё гэты Пацукевіч, сабака!

— Чаму сабака?

— Ён жа пры немцах камсамольцаў выдаваў.

— Пацукевіч?

— На фронце ён трапіў у акружэнне. Прыйшоў у Высокі Бераг. Доўга хаваўся. У партызаны не ішоў. Думаў адсядзецца. Даведаліся немцы, пацягнулі ў камендатуру. Здрадзіў. Паставілі начальнікам паліцыі. Ён і Рому Драпей расстрэльваў.

— Шкада Ромы...— уздыхнуў Канстанцін Іванавіч.

— І Скобаліху з дачкой ён расстраляў. Анця перад вайной працавала ў Высокім Беразе. Узяла да сябе маці. Хлопцы пайшлі ў армію. Пацукевіч з бобікамі прыйшоў арыштоўваць Анцю. Скобаліха пачала прасіць: «Маманька, рыбанька, вы ж разам былі камсамольцамі!» Пацукевіч адштурхнуў старую. Тады Агата хапіла чапельнік і — па галаве Пацукевіча. Расстралялі Агату. Крыкнула перад смерцю: «Сынкі вам мае адпомсцяць!»

— А дзе ён зараз, Пацукевіч?

— Уцёк, сабака, за мяжу. У Мюнхене недзе. Мы хацелі яму ўчыніць суд. Не ўдалося. Чуў я неяк, па радыё выступаў. Такі пакутнік за Радзіму... Дудкоўскага, праўда, злавілі пасля вайны. Судзілі, дваццаць пяць год далі.

Бенядзікт дастаў папяросы.

— Закурыце?

— Так, хоць і кінуў.

— А пра вас я чуў, што вы таксама былі на фронце. Ды гэта відаць і з вашых кніжак. Чалавек, не перажыўшы гэта, так не напіша.

— Чыталі?

— Як жа...

Сярод зеляніны дрэў паказаўся белы гмах.

— Уцалеў?

— Уцалеў. Школа там, як і да вайны. А нашу школу фашысты спалілі. Новую пабудавалі. Дырэктарам яе ваша вучаніца Стася Бароўская.

Мінулі палац. Паказалася мястэчка. Рокаць са здзіўленнем спытаў:

— Гэта што?

— Высокі Бераг. Не пазналі?

— Не пазнаў.

— Пасля вайны папялішча засталося...

На прыстані да Бенядзікта падышоў загарэлы хлапец.

— Добры дзень, таварыш старшыня. А я вас чакаю, з машынай.

Рокаць зірнуў на свайго былога вучня.

— Гэта ты — старшыня?

— Я, Канстанцін Іванавіч. Пасля вайны доўгі час быў старшынёй Сымон Дубікоўскі. Памятаеце яго?

— А як жа.

— Ён у нас быў камандзірам партызанскага атрада. Адважны чалавек. Падняў ён і калгас. Я прыехаў на гатовенькае пасля сканчэння ў Горках сельскагаспадарчай акадэміі.

— А дзе цяпер Сымон?

— На пенсіі. Жыве ў Высокім Беразе. Але да нас часта прыязджае.

Селі ў машыну.

— Вось якога госця вязём,— сказаў Бенядзікт шаферу.— Уся вёска збяжыцца, як даведаецца, што Канстанцін Іванавіч прыехаў.

Дарога ішла праз той жа знаёмы лес, толькі яна была пакрыта асфальтам, і машына шпарка імчала па ёй.

— Трэба было Аліну Адамаўну ўзяць,— сказаў Бенядзікт.— Я памятаю, яна была такая прыгожая. Усе тады казалі ў вёсцы: «Гарную дзяўчыну ўзяў настаўнік».

— Варта было жаніцца? — усміхнуўся Канстанцін Іванавіч.

— Варта. Яна, пэўна, не аднаго чалавека выратавала з кіпцюроў смерці. Апавяданне ваша «Гвардыі ўрач» — пра яе?

— Так. Пра яе...

Машына вырвалася з лесу. Удалечыні ў электрычных агнях ззяла Ціхая Дуброва.

◆ ◆ ◆



## Хаім МАЛЬЦІНСКІ

●

●

Калі пуста ў сэрцы тваім —
Не рад ты і беламу свету.
Бы з'ехаў кудысь назусім
З сям'ёй самы блізкі сусед твой.

І голыя сцены адны
Табе застаюцца ды дзверы,
Пантофля ў кутку, два збаны,
Часопіс, абрыўкі шпалераў.

Чаму так бывае з табой?
Замкнуў сябе у сабе ты.
Дык смела ў жыццёвы прыбой
Ідзі пад вятры планеты.

Будзь з тымі, хто ў думках заўжды
Пра хлеб твой, кашулю і боты...
Не будзе й куточка тады
У сэрцы тваім для нудоты.

Пераклад Кастуся **ЦВІРКІ.**

●

Кручок з дзвярэй на бок я адкідаю,
На вуліцу, як пеўня, панясло.
І мыліцы, як крылы, выкідаю,
Гляджу у веснавога неба шкло.



Падстрыжаныя клёны ніжай сталі.
Пупышкі пачынаюць зелянець.
Калі б не людзі, і калі б не сталасць,
І кукарэкаць бы і шпорамі звінець!

●

Знайшоў каменьчык. Ёй нясу:
«Вазьміце дзіўную красу».
Яна ж санліва развяла рукамі:
«Я камень не люблю. Нашто мне камень...»

Пераклад **Юрася СВІРКІ.**

●

З тых дзён, як стартавалі мы да зор,
Часцей гляджу ў завоблачны прастор.

Стаю ўначы — і падае руку
Мне Месяц у бліскучым абадку.

Ды белізною цела ўраз мяне
Планета па-зямному закране.

Растане ўвесь сусвет бясконцы ўміг,
Калі да вуснаў прыпаду тваіх.

Рука прычаліць ціха да рукі,
Нібы сышліся два мацерыкі.

Хвалю зямлю і твой прывабны стан —
І зноў гляджу ў нябесны акіян.

●

Зайграеш —
І сэрца маё,
Нібы птушка.
Малю я —
Шануй свае пальцы,
Дачушка.
Калі яны кратаюць

Звонкія струны,
Адчую ізноўку сябе,
Нібы юны.
Як быццам я зноў
Перад дальняй дарогай.
Таму напаўняецца
Сэрца трывогай:
А што,
Калі нейкія трэскі,
Як джальцы,
Параняць
Твае легкакрылыя пальцы?
Ці, сукню прасуючы,
Раншнім часам
Ты іх апячэш
Перагрэтым прасам?..
Калі ты іграеш —
Душа маладзее,
Сцішаецца боль
І ўзыходзіць надзея.
Штодзень прыгажэе
Ігра твая тонкая.
Дачушка —
Жыццё маё
Самае звонкае!

●

Твой звонкі крок не знае зморы,
А валасы — як пена мора.
Зірнеш ты — і растануць хмары.
І — прэч цяжар маіх гадоў!
І ўсё ў жыцці, што выйграць мару,
З табою я прайграць гатоў.

Пераклад **Петруся МАКАЛЯ.**

□ □ □

Клара ПІШЧЫКАВА



# ЛІЧЫ МЯНЕ СЯБРАМ

Апавяданне

Мал. І. Давідовіча

Ля дзіцячага пакоя гоман: «Уа-уа-уа». Адзін падае голас мацней за ўсіх. «Глядзі ты, які галасісты! Можа, вялікім спеваком будзеш?» Надзея Анісімаўна ўсміхнулася, адчыніла дзверы.

Маладзенькая медсястра Волечка завіхаецца: трэба хутчэй спавіваць немаўлят і несці карміць. Есці хочуць.

Волечка запрасіла:

— Праходзьце, доктар!

Надзея Анісімаўна акінула позіркам маленькія ложкі. Пафарбаваныя ў светла-жоўты колер, яны зіхацяць і напамінаюць аб нечым добрым: аб летнім сонейку, аб маладой усмешцы. Тут, у палаце нованароджаных, Надзея Анісімаўна заўсёды адчувае ціхую радасць: вось яно, жыццё!

Яна адшукала ложак, дзе так патрабавальна крычаў чалавек. Узяла на рукі. Усміхнулася. Дзіця адчула ласку, сціхла. Волечка паскардзілася:

— Хутчэй бы гэтага запявалу дадому. Уначы сваю бутэлечку выпівае і — зноў крычыць... Ад другіх бяру — яму аддаю. Што рабіць?

Надзея Анісімаўна сказала:

— Волечка, гэта ж добра. Асілак вырасце.

Сястра падышла да Надзеі Анісімаўны, пяшчотна нахілілася над хлопчыкам.

— Ты, Волечка, хутчэй замуж выходзь. Сабе такога сына народзіш.

— Ну, вы скажаце, Надзея Анісімаўна...

Але ўсмешка зачапілася і дрыжала ў куточках ружовых вуснаў.

Надзея Анісімаўна глянула на медальён: «Наталля Уладзіміраўна Кавалёва. Хлопчык. Вага 4 кг».

Дык гэта Наташына дзіця!

Надзея Анісімаўна выйшла ў калідор, стала ля акна. Тут лягчэй дыхаецца і думаецца. Унізе мужчынскі голас спытаў кагосьці:

— На каго падобны?

Зверху адказаў жаночы. Мусіць, ён не пачуў, бо паўтарыў. І на гэты раз голас прагучаў з радасной інтанацыяй:

— На мяне?

«Да Наташы ніхто не прыйдзе, не спытае пра гэта...» Рука намацала нешта ў кішэні. Таблеткі. Мікіта палажыў. Як заўсёды, калі думала пра сына, на сэрцы зрабілася цяплей. «Мой будучы прафесар...» Учора Мікіта чытаў часопіс «Наука и жизнь». Сказаў з хлапечым захапленнем:

— Штучнае сэрца! Цудоўна! Як ты думаеш, мама?
Яна ўсміхнулася:
— Не, сынок, штучнага не трэба. Няхай лепш баліць...
Адносіны з Мікітам роўныя, таварыскія. Але ў апошні час нешта з ім робіцца. Званіла дзяўчына. Мікіта доўга і, здаецца, не без прыемнасці размаўляў з ёй. А калі спытала, махнуў рукой:
— Так... нейкая...
«Адкуль гэта ў яго?»
З галавы не ідзе размова з Наташай. Ой, Наташа, Наташа! Я не хацела рабіць табе балюча, але мне трэба было гэта сказаць: «Дзяржава выгадуе твайго сына. Але аднойчы ён пачуе, як нехта пакліча: «Мама!», і пачне думаць пра цябе. Можа, захоча сустрэць, пабачыць, а можа, на ўсё жыццё затоіць крыўду... І ты будзеш памятаць яго, бо матчына сэрца не забывае». Наташа сказала праз слёзы:
— Не гаварыце мне нічога! Зразумейце: мне няма куды ўзяць дзіця! У мяне няма родных, няма сяброў...
— Наташа, лічы мяне сваім сябрам.
Наташа паглядзела кудысьці ўбок, нічога не адказала.
Гэты позірк убок! Надзея Анісімаўна памятае яго з першай сустрэчы з Наташай. Яна прымала тады ў жаночай кансультацыі. Дзверы ў кабінет адчыняліся і зачыняліся, а ў калідоры насупраць усё сядзела ў крэсле жанчына. Вочы — у падлогу. Чаму яна прапускае перад сабой? Увайшла апошняя. Высокая, непрыгожая, з абвостранымі рысамі, схуднелая з твару. У вочы не глядзіць.
За дваццаць год работы Надзея Анісімаўна многа чаго пабачыла. І тут зразумела ўсё. Але Наташа тады не здалася легкадумнай.
Аб чым думае яна цяпер? Пэўна, нялёгка рашыцца пакінуць сваё дзіця? Пратэст гэта, ці сапраўды спужалася цяжкасцей? Маўклівая, замкнёная ў сябе... Як выклікаць яе на шчырую размову? Можа, я не так гаварыла з ёй? Калісьці ў такіх выпадках казалі: «дзіця кахання». А пра гэта няшчаснае каханне забылася. Трэба ісці ў палату — а там спакойна, нават весела размаўляць. Прыняць Мікітаву таблетку, ці што?
— Добры вечар, жанчыны!
Усе павярнулі галовы, толькі Наташа не зварухнулася. Наташына суседка спытала:
— Заўтра нас выпішуць?
Надзея Анісімаўна бачыла, як збялеў Наташын твар.
— Так, калі ўсё будзе добра, выпішуць.
Наташа адвярнулася да сцяны. «Цяпер будзе маўчаць да раніцы,— падумала Надзея Анісімаўна.— Лепш мне застацца на ноч».
Ціха ў палаце. Усе спяць. Толькі Наташа, здаецца, не спіць. Яна паклікала ціха:
— Надзея Анісімаўна!
— Што, Наташа?
Глядзіць прама ў вочы. Гэта ўпершыню.
— Надзея Анісімаўна, вы мяне асуджаеце?
— За што, дачушка?
— Вы ведаеце...
Адказала як мага спакайней:
— Не трэба пра гэта, Наташа.
— Трэба. Мне трэба... Я так верыла яму. Думала: не паперка ж людзей звязвае...
— Можа будзе час і для такога кахання...
— Ён, Надзея Анісімаўна, запісаўся б са мною. Але пасля таго, што здарылася, мне ўжо самой не трэба. Неяк я была ў яго пакоі, прыбірала. Зайшла жанчына з хлопчыкам. Яна трымала кошык з яблыкамі. Вялікія, чырвоныя. Такія яму прысылалі з вёскі. Ён казаў: у цёткі сад вялікі. Жанчына спытала: «Яўген тут жыве?»
— А вы хто?
Жанчына адказала ціха, неяк няўпэўнена:
— Я яго гаспадыня.
У мяне ўсё паплыло ў вачах: і жанчына, і хлопчык, і чырвоныя яблыкі. Я ледзь утрымалася на нагах. Жанчына села ў крэсла. Хлопчык падышоў, штурхнуў маці:
— Пусці! Віця сядзе!
Жанчына пакорліва ўстала. Я толькі цяпер разгледзела хлопчыка. Вочы, як у яго, шэрыя. І раптам мяне апякла думка: «Дзіця, якое я нашу, будзе глядзець гэткімі ж вачыма!» А жанчына ўсё гаварыла і гаварыла:
— Мы суседзі. Яго маці хварэла, і ён прасіў, каб я даглядала. Потым яна памерла. Яўген вучыўся тут, у тэхнікуме. Памагаць больш не было каму. Відаць, з-за гэтага і ажаніўся са мной.— Жанчына памаўчала.— Каб не ён,— яна паказала на хлопчыка,— не прыйшла б сюды. Мне ён не трэба. Толькі б ён бацькоўскае слова калі пачуў... Зусім не слухае!
— Не памятаю, што я гаварыла жанчыне. Я пайшла і больш туды не вярнулася.
Наташа заплюшчыла вочы.
— Толькі б забыцца пра гэта, каб не было агідна. Паеду кудынебудзь далей. Буду працаваць і вучыцца. Потым вярнуся, адшукаю хлопчыка.
Наташа села на ложку. Папрасіла:
— Надзея Анісімаўна, зрабіце ласку, прынясіце майго маленькага.
Наташа асцярожна ўзяла сына, зазірнула ў чырвоны тварык. Вусны ледзь кранула ўсмешка. І ад гэтай усмешкі непрыгожы твар неяк памякчэў, папрыгажэў. «Няхай пабудзе з дзіцем адна». Надзея Анісімаўна выйшла з палаты. Доўга блукала па калідоры. Ой, нялёгка табе, Наташанька!
Калі вярнулася ў палату, Наташа па-ранейшаму схілялася над хлопчыкам. Пялёнка знізу была разгорнута. Наташа сказала здзіўлена і радасна:
— Якія ў яго маленькія ножкі!
— Наташа, калі ты вырашыла не браць дзіця, не глядзі. Потым цяжэй будзе.
Наташа далонню прыкрыла вочы, туліла да сябе хлопчыка.
— Наташа, у мяне таксама ёсць сын. Яму дваццаць шосты год. Хочаш, я раскажу пра сваё жыццё?
— Раскажыце,— голас у Наташы абыякавы.
— Хлопчык нарадзіўся ў мяне вясной сорак першага. Калі ехалі ў эвакуацыю, Мікітку — так завуць майго сына — было чатыры месяцы. Поезд таварны. Людзей, як тых селядцоў у бочцы. І ўсё жанчыны з дзецьмі. На прыпынку незнаёмы салдат даў мне бохан хлеба. Я з'ядала ў дзень па невялікім кавалачку. Мікіта глядзеў на ўсё круглымі вачанятамі.
Ноччу жанчына побач са мной сказала:
— Вы яшчэ неяк пражывяце з адным. А ў мяне трое...
Прытуліўшыся да яе, спалі тры хлопчыкі. Адзін бялявы, як маці, старэйшыя — чарнявыя.

— Калі я выйшла за іх бацьку,— жанчына паказала вачыма на чарнявых,— яны былі зусім маленькія. Хлопчыкі не ведаюць, што іх родная маці памерла.

Раніцай хлопчыкі крычалі:

— Есці хочам! Есці...

Я бачыла, як жанчына падзяліла кавалак хлеба на тры роўныя часткі. Сабе не пакінула нічога.

— Ты гэтак з голаду памрэш. Каму твае дзеці патрэбны? — Высокая прыгожая жанчына пасадзіла дзяўчынку, якую трымала на руках, на нейкі клунак, падышла да маёй суседкі.— Еш! — Яна працягнула ёй дзве печаныя бульбіны. Жанчыну звалі Арыядна Васільеўна. Яна сказала, што ідзе з Брэста. Там, у крэпасці, загінуў яе муж.

— Жанчыны,— голас у Арыядны Васільеўны нізкі, моцны,— будзем трымацца адна ля другой!

І мы трымаліся. Разам прыехалі на Урал, разам пайшлі на работу ў саўгас. Жылі таксама ўсе разам у вялікай зямлянцы. Для кожнай сям'і — нары. Цяжка было. Я глядзела на Арыядну Васільеўну: дзе яна бярэ сілы, каб так трымацца? Ад майго мужа не было звестак. У абедзенны перапынак, калі жанчыны чыталі адна адной пісьмы з фронту, я брала клуначак з пялёнкамі — я Мікітку на работу насіла — і ішла на рэчку. А калі блізка рэчкі не было, то памыю ў лужыне, пасцялю на траве, каб сохлі. А сама сяджу, плачу.

Зімой стала яшчэ цяжэй. Холадна! Як распаўю Мікітку, дык аж пара ідзе...

— Жанчыны! — камандавала Арыядна Васільеўна,— пайшлі па дровы!

Лесу ў той мясцовасці не было. Толькі хмызняк. Каб выпаліць у печы, яго многа трэба наламаць. Набярэ жанчына на спіну, дык здаецца, што той хмыз сам па снезе паўзе. Чалавека не відно. А як крок зробіш, у снег па калена правальваешся. Потым да позняй ночы палілі ў печы. Ведама, сырое вецце... Больш дыму, чым агню. Чад. Крычаць мухіняткі: «Есці, мамухіна, хочам!» Прозвішча той, што з трыма хлопчыкамі, Мухіна. А яна, нязвыклая да такой работы, прыйдзе з фермы, сядзе на нары — рукі на калені апусціць і не можа зварухнуцца.

Аднойчы Мухіна ледзь на памерла ад чаду. Мы яе на свежае паветра вынеслі, а яна гаворыць: «Не ратуйце мяне. Я хачу памерці...» А раніцай дзякавала: «Як бы без мяне мае хлопчыкі жылі!»

Тады яшчэ была надзея. А потым... Першая паперка прыйшла да мяне: «Ваш муж загінуў смерцю храбрых...»

Доўга плакаў Мікітка. Я чула, але не магла крануцца з месца. Каторы раз чытала адзін і той жа радок: «...загінуў смерцю храбрых...»

— Пакладзі паперу і дай дзіцяці есці! — Арыядна Васільеўна з Мікіткам на руках стаяла ля мяне.— І гэта называецца маці!

Яна крычала на мяне, але што яна гаварыла — да мяне не даходзіла. Мусіць, гэты крык вярнуў мяне да жыцця. Я ўзяла малога, прытуліла да грудзей. Мікітка змоўк, але хутка закрычаў яшчэ мацней. Я супакойвала дзіця, трэсла і зноў туліла да сябе.

— У цябе няма малака. Ідзі да людзей! Скажы: дзіця галоднае.— Арыядна Васільеўна зноў узяла Мікітку, а я выйшла на вуліцу.

У першай жа хаце старая, змарнелая жанчына сказала:

— Самім не хапае. Бачыце, дзеці галодныя...





Я ішла з хаты ў хату, і ўсюды адзін адказ: «Няма! У саміх дзеці галодныя».

Я не крыўдзілася. Ведала: бульба не ўрадзіла. У кожнай хаце — голад. На ўскраіне сяла, ля апошняй хаты, спынілася. Доўга не адважвалася пераступіць за брамку. У вушах стаяў Мікіткаў крык.

— Вы да нас?

Я падняла галаву. Убачыла жанчыну. Худы твар. Чорная ўдовіна хустка.

— Дайце малака... Дзіця паміpae... — Потым спахапілася: — Прадайце! Я заплачу! Вось... — І паказала грошы.

Жанчына паглядзела на мяне, на грошы ў маёй руцэ і моўчкі ўзяла кубак. Таксама моўчкі прынесла яго поўны. Сказала ціха: «Грошай не трэба. Прыходзь заўтра, як карову падаю».

Я не ведала, ці ў такіх выпадках дзякуюць. Жанчына глядзела на мяне вялікімі, запалымі вачыма — недзе глыбока ў іх стаілася бяда. Я моўчкі пакланілася ёй.

Праз некалькі дзён атрымала пісьмо. Яно было напісана перад боем і, відаць, доўга блукала па франтавых дарогах. Муж пісаў мне: «Беражы сына...»

— Ой,— уголас заплакала Наташа. Яна па-ранейшаму туліла да сябе хлопчыка.

— Наташанька, трэба аднесці малога назад.

— Пачакайце...

Вечарам Надзея Анісімаўна размаўляла з Мікітам.

— Разумееш, чалавеку хочацца, каб у яго ўсё было, як у людзей. Калі ты быў маленькі і я бачыла, як бацька вядзе хлопчыка тваіх год, мне хацелася крычаць ад болю.

— Я разумею, мама.

— Не, табе гэта цяжка зразумець... Заўтра выпісваюць жанчын з маёй палаты. Увесь дзень сёння званілі бацькі.

— Ты шкадуеш Наташу?

— Так. Кажа, што ў яе няма сяброў і ніхто не прыйдзе.

— А ён?

— Не, сынок, у такіх — пачуцці заалагічныя, а можа яшчэ больш прымітыўныя...

— А што ты, мама, гэтак на мяне глядзіш?

— Табе здаецца.— Надзея Анісімаўна памаўчала: — Я прапанавала Наташы, каб яна пажыла ў нас.

— Ты думаеш, ёй тут будзе добра?

— Ты хацеў сказаць: табе будзе нязручна?

У зале, дзе чакаюць бацькі, Надзея Анісімаўна ўбачыла групу дзяўчат і юнакоў.

— Вы да каго?

Адказваць пачалі ўсе разам.

— Тут у вас Наталля Кавалёва... Яна з нашай брыгады... Узяла разлік і сказала, што едзе да цёткі...

Невысокі юнак працягнуў нешта, загорнутае ў блакітную паперу:

— Перадайце, калі ласка, Наташы. Гэта для малога.

Чакаць прыйшлося доўга. Дзяўчаты прыкметна нерваваліся. На лесвіцы паказалася прыгожая жанчына — побач сястра несла ружовы атласны пакунак. Дзяўчаты занадта адкрыта сачылі, як ружовы пакунак перайшоў у рукі мужчыны, як пяшчотным і трывожным позіркам заглянуў ён у вочы жанчыне, быццам пытаўся: было цяжка? Ружовыя губы ўздрыгнулі — успомніла пакуты. Але пераадолела і ўсміхнулася — шчаслівая, пераможна...



Наташа выйшла апошняя, у старэнькім паліто, падобная на дзяўчынку. Глядзіць разгублена.

Калі сястра звыклай, асцярожнай хадою сышла з лесвіцы, адзін з хлопцаў зрабіў крок наперад. Сястра падала дзіця яму. Ён няўмела ўзяў. Мусіць, хлопчык адчуў гэтую няўмеласць, заплакаў.

Усім хацелася зазірнуць у маленькі тварык. Наташа шчасліва ўсміхалася:

— Ой, асцярожна!

Убачыла Надзею Анісімаўну, сказала радасна:

— Надзея Анісімаўна, гэта мае сябры!

Чарнабровая дзяўчына ўзяла ў Наташы дзіця, паведаміла:

— А табе заўкомам пакой дасць. Мы ўчора дамовіліся.

Наташа адказала ціха:

— Дзякуй!

Твар яе пасвятлеў і быў у гэты момант амаль прыгожы.

◆ ◆ ◆

## *У бліжэйшых нумарах*

**з апавяданнямі выступаюць Віктар ДАЙЛІДА, Анатоль КУДРАВЕЦ, Валянцін МЫСЛІВЕЦ і Анатоль СІДАРЭВІЧ.**



## Анатоль СЕРБАНТОВІЧ

●

●

Мне, дзіваку, не трэба вечнасць,
Калі ў трывозе, як у сне,
Дзяўчыны тоненькія плечы
Як пункт апоры для мяне.

Стары мудрэц!..
Калі б ён ведаў...
І, хоць законы прызнаю,
З цяжкою думай Архімеда
Перад усёй зямлёй стаю!

●

Прывітанне студзеню і маю,
Салаўю і хмураму сычу!
Што хачу — я сам яшчэ не знаю
Ды і знаць, напэўна, не хачу.

Каб я знаў, то не хадзіла б кругам
Галава і на вяку сваім
Недруг не здаваўся б лепшым другам
А таварыш — недругам маім.

І з акна — адзінае байніцы —
Не глядзеў бы і не моршчыў лоб,
Як стаіць дзяўчынка ля бальніцы,
І былое ўсё не ажыло б.



Ажыло яно з магутнай сілай,
Ажыло яно на многа год.
Летнім сонцам спеюць апельсіны,
Апельсіны — залацісты мёд.

Сам я апельсінавым раблюся,
І, здаецца мне, да той, адной,
Я на губы юныя качуся
Апельсінам спелым праз акно.

●

Пяро на снег маўклівы птушка скіне,
Ці грукне камень, грукне неўпапад —
З гары высокай коціцца лавіна,
Грыміць, як Ніягарскі вадаспад.

Яна ўпадзе са скал акамянелых
У рэчышчы асірацелых рэк,
Як жорнамі, жывое перамеле,
Патрушчыць, паламае, ператрэ.

Што горы — вышыня, я гэта знаю.
Лавіна — сіла, як ні гавары.
А што рабіць, калі любоў бывае
Куды вышэй высокае гары?

Калі ад каменя, што нехта кіне,
Змятаючы усё, нібы лісцё,
Пакоціцца сталёвая лавіна,—
І не захочаш думаць пра жыццё.

Тады не дапамогуць час і людзі,
Не вылечаць ні гора ні бяда.
І толькі рэха доўга-доўга будзе
Смяяцца над лавінай і рыдаць.

●

Ні гор, ні сопак, ні вады,
А толькі снег. Снег без праталін.
Разьбой узорнаю сляды
Алені выб'юць капытамі.

Вар'яцкі дзень! Вар'яцкі гон!
Зноў бізуны залапаталі.
Усё пастаўлена на кон!
А кон — вялікае пытанне.

А след — уверх. А след — убок.
Пятлёю мёртвай закруціўся.
На дрэвах іней, як дымок,
Што тут з пужлівых ноздраў віўся.

Ці наганю? Ці абганю?
На нартах сцягам заалею?
І «но» крычу, нібы каню,
Я запалярнаму аленю.

Давай, алень! Давай, што ёсць!
Хай снег сцякае па каленях...
І абганяе маладосць
Старое мудрае уменне!



Віктар ШЫМУК

## РАНАК

Такое белае ранне:
У снезе — сцежкі, дамы.
Гляджу я замілавана,
Як сцелюцца ўвысь дымы —

Адзін, і другі, і трэці —
З усіх, з усіх камінох.
Здаецца, не хоча вецер
Палохаць шлейфаў-шнуроў.

Дзень добры, зімовы ранак,
Вясковыя ў снезе дамы!
Хай будзе добрым сняданак,
Хай пахнуць смачным дымы!



Іван ШУЦЬКО



# ПАЛЯЎНІЧЫЯ ЭЦЮДЫ

## АДНАЛЮБ

Урачыстая перадранішняя цішыня. Лес, нібы мёртвае зачараванае царства. Ад цішыні, здаецца, звініць у вушах...

І раптам:

— Ш-ш-ш!..

Глушэц! Спявае на свежай лесасецы...

У здзіўленні спыняюся: ці не памыліўся? Бывае, што песню глушца можна зблытаць з шумам ветру ў вершалінах хвой. Прыслухоўваюся. Не, глушэц.

Хлюпаючы па друзлым снезе, пераскокваю ўсё бліжэй да такавішча. Той, хто хадзіў калі-небудзь паляваць глушцоў, ведае, як гэта трэба рабіць. Глушэц спявае з перапынкамі. Вось і стараешся «скакаць» — рабіць шырэйшыя крокі... Паваліўся, аступіўшыся ў ямку ці зачапіўшыся за голле,— ляжы. Зробіш неасцярожны рух — лічы, што дарэмна час патраціў: глушэц вельмі чуйная птушка. Ён толькі калі спявае, дык хоць за хвост рукамі бяры. За гэта, напэўна, і празвалі яго глушцом.



Нарэшце, бачу: сядзіць на пні непадалёк ад шуркі дроў. Апусціўшы галаву і распусціўшы веерам хвост, «тэкае». Шкода біць яго вось так, сядзячага.

Быццам зразумеўшы мяне, глушэц у наступную хвіліну апусціўся на дол. Выцягнуўшы шыю, пачаў чарціць кончыкамі крылляў дугі па сіняватым снезе і зноў заспяваў.

Не заўважыў мяне? Ды я ж увесь на відавоку...

Я гляджу на яго і пачынаю разумець... Гэта не падранак. Вунь як шыю выцягвае... Ён проста стары. Нездарма гавораць: цар птушак нашых лясоў апошнія чатыры гады на зямлі праводзіць, ходзіць на такавішча пеша: крылы слабеюць, не трымаюць у паветры...

І гэтай вясной спявае стары на тым самым месцы, дзе такаваў шмат год, хоць цяпер цэлымі днямі тут стракочуць бензапілы, грукочуць тралёвачныя трактары, звіняць галасы людзей. Не захацеў перасяліцца ў другое, зацішнае, месца разам з маладымі. Яму не да гэтага: спяшае даспяваць сваё.

Адналюб!

Мала такіх у нас засталося.

Я апускаю стрэльбу:

— Жыві.

## СВІСТУН



Сяджу ў скрадку — невялічкім будане на беразе лясного возера. Чакаю лёту качак. Спачатку ўсё наўкола здавалася маўклівым. Але потым:

— Цык-цык...

— Улю-цві... Улю-цві...

— Фіць — віць, фіць — віць...

Аднекуль з вышыні.

Пачало днець. Зусім нізка над галавой прасвісталі крыламі шылахвосты. Разам з асцярожнымі «кх-кх» з іх чарады пачулася заўзятае краканне чыранка.

«Вось, думаю, праява: чыранок правадніком у шылахвостаў стаў».

...Прымазаўся да стаі шылахвостаў непаседа-чыранок, вазьміце, кажа, браткі, у сваю кампанію — я тутэйшы, кормныя мясціны ўсе ведаю, зацішныя затокі на рэчках пакажу.

Паверылі. Паляцеў чыранок уперадзе стаі. Толькі крыллем у паветры пасвіствае. Ледзь паспяваюць за ім.

— Малайчына! — пахваліў важак на прывале.— Малы ды ўдалы!..

Што праўда, то праўда. Спрытнасці чыранку не пазычаць. І — прыгожы, хоць ростам не выйшаў. Круціцца сярод шылахвостаў у сваёй зялёнай аксамітнай шапачцы, у белай сарочцы і модным пінжачку.

З усіх качак — франт!

Пражылі так з тыдзень, пералятаючы з рэчкі да рэчкі. Пацяплела, лёд на азёрах растаў, вада з берагоў выйшла.

Прапанаваў чыранок:

— Злётаем, браткі, да бору. Возера там хоць і невялікае, але кормнае...

...Пакуль я думаў, чым закончыць казку, чарада шылахвостаў зноў праляцела над маім буданом і пляснулася каля супрацьлеглага берага. Яшчэ расплысціся не паспелі, як з кустоў:

— Бах, бах!..

Нехта дуплетам шарахнуў.

Падвёў-такі чараду пад стрэл свістун. А сам і цяпер лётае недзе, затлумлівае нечыя галовы.

## ЖАР-ПТУШКА

Кажуць, што жар-птушка — казка. А я гэтую казку сваімі вачыма бачыў.

Неяк у сярэдзіне зімы мне трэба было дабрацца да аднаго з самых аддаленых ад райцэнтра калгасаў. Цяжка трапіць туды ў такую пару: прасёлкавая дарога занесена снегам, машыны з калгаса ходзяць рэдка. А тут якраз напярэдадні мяцеліца гуляла.



Але мне пашанцавала. Сустрэў у чайной знаёмага настаўніка адтуль. Разгаварыліся.

— Да нас у Старую Слабаду сабраўся? Ды тут жа сёння наш калгасны грузавік. На нейкую нараду агранома прывёз. Сюды ехалі — лапату з рук не выпускалі... Лесам яшчэ паўбяды. А на полі замяло... Цяпер па гатовай каляіне з вецярком праедзем! Чуў, заадно і тавары ў магазін павязём. Але месца хопіць...

Выехалі позна. Людзей набілася поўны кузаў. Сядзелі хто на скрынках, хто на мяшках.

Калі садзіліся, здаецца, ціха было. Але як толькі машына кранулася, падзьмуў халодны вецер. Мужчыны пападымалі каўняры, жанчыны пазахутваліся ў хусткі, ціснуліся адна да адной.

Вось ужо і дзялянку праязджаем, дзе восенню лес секлі. Яшчэ і цяпер там-сям на ёй лаўжы, занесеныя снегам.

— Ой, што гэта?! — нечакана ўсклікнуў хтосьці.

Усе паўсхопліваліся. Уперадзе машыны ўзнялася і на нейкі момант павісла ў паветры незвычайная птушка — кожнае пёрка зззяла...

— Глядзіце, глядзіце, яй права,— жар-птушка! — тузаючы мяне за крысо паліто, крычаў нейкі дзядзька.

Машына, між тым, ужо мінала дзялянку. Зноў мільгаюць міма дрэвы, зноў кідае нас на снежных калдобінах.

Але ніхто не скардзіцца, што дарога дрэнная. Нават мой знаёмы настаўнік не то жартам, не то ўсур'ёз гаворыць мне:

— Бачыў, як пёрка падала? Прыгажосць! Ёсць павер'е: хто знойдзе яго — да канца дзён сваіх шчаслівы будзе. Шкада, шафёр праехаў...

Сапраўды, хіба толькі ў казках жар-птушкі бываюць?

Назаўтра я сустрэў у калгаснай канторы шафёра, які вёз нас. Спытаў, чаму не спыніў машыну на дзялянцы, падабралі б жар-птушчына пёрка.

Той паглядзеў на мяне здзіўленымі вачыма:

— Жар-птушчына? Дзівакі! Гэта ж усяго наўсяго касач быў. Спаў каля самай дарогі ў снезе... Узляцеў, спалоханы гулам матора: фарамі яго асвяціла і месяц якраз выглянуў...

Няўжо звычайны цецярук? Але што можа бачыць шафёр позным вечарам апроч кавалка дарогі перад сабой ды баранкі?!

Верыць трэба... У нас і не такія яшчэ птушкі ёсць!

## ЗЯЛЁНЫ ДОЖДЖ



Не паспее ў рэчцы бруд сысці пасля паводкі, а хлапчукі ўжо лезуць у ваду. Пакурчацца спачатку ад холаду, вочы заплюшчаць і — буўтых! Акунуцца разы са два і — хутчэй на сонца грэцца... Дарослыя глядзяць на ўсё гэта, як на штосьці звычайнае: няхай, маўляў, гартуюцца — здаравейшыя будуць.

У адзін з такіх ранніх вясновых дзён я загараў на ўзгорку каля ракі пад раскідзістай, з патрэсканай карой, чаромхай. Усё навокал убіралася ў зеляніну, толькі на гэтай чаромсе не было яшчэ ні аднаго лісточка: дрэва сохла. Голыя галіны сіратліва звісалі з абрыву.

Калісьці, яшчэ хлапчуком, я часта ўвосень ірваў на гэтай чаромсе гронкі бліскуча-чорных, з гаркаватым арэшкам у сярэдзіне ягад. Гэтыя ягады і цяпер для мяне даражэй за вінаград. Мабыць таму, што напамінаюць пра дні далёкага маленства.

Цяпер чаромха наводзіла на сумныя думкі. Каб не думаць пра яе, я стаў глядзець на раку, дзе бегалі па водмелі хлапчукі, стараючыся злавіць сарочкаю пад'язікаў.

Нечакана штосьці шчоўкнула і ўпала мне на спіну. А потым яшчэ і яшчэ... Нібы па спіне заскакалі конікі. Але яны яшчэ не павінны быць: ночы халаднаватыя...

Гляджу — старонкі разгорнутай кніжкі, якую я чытаў, пакрыліся ліпкімі жоўта-бурымі лупінкамі.

«Ды гэта ж ад пупышак лупінкі»,— нарэшце здагадаўся я.

Падняў галаву і са здзіўленнем убачыў, што чорныя, нядаўна яшчэ голыя галіны старой чаромхі за час, што я ляжаў пад ёй, пакрыліся маленькімі зялёнымі лісточкамі. Хто ведае, можа дрэва перасіліла якую хваробу і ў апошні раз паспрабавала вярнуць былую прыгажосць?

Яна зацвіла, калі на іншых пазавязваліся ўжо ягады. Але цвіла на дзіва пышна. Як ніколі было на ёй і ягад. Толькі не справіліся выспець: халады насталі і яны асыпаліся зялёныя.

А наступнай вясной вада падмыла бераг, чаромха ўпала ў рэчку, і паводка знесла яе. А мне і цяпер усё яшчэ чуцен шум яе зялёнага дажджу. І дасюль паўстае яна перада мною ў сваёй апошняй белай квецені.

Выходзіць, і ў дрэў бывае другая маладосць. Кароткая, але прыгожая, падобная на сонечную ўспышку. Быццам дрэвы хочуць сказаць людзям: «Паглядзіце, якія мы былі! Запомніце нас...»



# Вершы

## Анатоля ВЯРЦІНСКАГА, Юркі ГОЛУБА, Сяргея ЗАКОННІКАВА, Міколы МАЛЯЎКІ і Яўгена ШАБАНА

**чытайце ў наступных нумарах.**



Іван СТАНКЕВІЧ

●

●

У злосці мы крычым,
Сціскаем кулакі.
Пад зоркамі
З каханкамі ўздыхаем.

А як нямым,
Якім маўчаць вякі,
Як быць нямым —
Яны ж ва ўсім, як мы?!

І ў іх зямля такая ж пад нагамі,
І сэрца ў іх такое ж, як у нас...
Я анямеў, калі убачыў,
Як нямко
Хацеў ласкавае прамовіць штосьці
маці.

●

Уздрыгнуў лес сасонкай расахатай.
Адскочыла піла — парваная струна.
Упала долу будучая хата,
Упала долу нечая труна.

Спаўзла мурашка з шышкі парыжэлай —
Апошні груз дамоў сям'і вязе.



Смалой абліўся корань заімшэлы.
Камель падскочыў — цішыню рассек.

Сасонка ўпала, лес закалыхала,
Пабіла пні халодная іржа.
І засталася цішыня глухая
На шышках рыжых нематой
ляжаць.

Валянцін ЛУКША

●



## НАД БУГАМ

Да вас прыйшоў,
каб нізка пакланіцца,
Прыйшоў,
каб стаць вышэй,
каб стаць чысцей,
Апаленыя бураю байніцы,
Вяршыня Славы,
Мужнасці людзей.
Да вас прыйшоў
з трывогай трапяткою,
Каб ад імя загінуўшых сказаць,
Што болей не паўторыцца такое —
Пажару над планетай не палаць.
Зямля святая,
як табе прызнацца,
У любові,
што мацнее з кожным днём,
Перад табою, быццам перад маці,
Радзіме
клятву вернасці даём.

Ноч.
    Цытадэль заснула.
                Ля ракі
Спяваюць брастаўчанкі аб вясне.
Пад каменем ляжаць мае бацькі,
І знаю —
    не заснуць да ранку мне.

●

Мой Кландайк —
            мой празрысты горад —
Маё шчасце і маё гора,
Мой пачатак і першая песня,
Тут народжаная на ўзлессі,
Апавіты туманам ранак,
Што сустрэты ў абдымках каханай,
І барвовыя іскры рабіны
На праспектах —
            равесніках сына,
І шурпатыя рукі сяброў,
І суровасць сяброўскіх слоў.
Напалам
    апошні акраец,
Напалам
    трохпудовы ранец,
Напалам
    і шчасце,
        і гора...
Мой Кландайк —
            мой празрысты горад.

□ □ □

ДА ВЕДАМА АЎТАРАЎ!

Рукапісы аб'ёмам, большым за 10 старонак, рэдакцыя прымае толькі аддрукаваныя на машынцы. Апавяданні, аповесці, раманы — у 2-х экземплярах.



Дзень сённяшні — дзень заўтрашні



Фелікс Ніціеўскі.

# ЖЫВІЦА

З блакнота журналіста

Гэтая размова адбылася гады чатыры назад на Пекалінскім лясным участку. Новы зборшчык жывіцы Змітро Рубін, які прыехаў сюды з Сібіры, дазнаўшыся, што на суседнім Пацчоўскім участку ў Фелікса Ніціеўскага самая высокая ў рэспубліцы выпрацоўка, сказаў, што ён абгоніць перадавіка.

— Паспрабуйце, — хітра ўсміхнуўся дырэктар хімлясгаса Аркадзь Канстанцінавіч Пятрышча. — Буду рады павіншаваць вас, калі вы станеце пераможцам...

Хто ж такі гэты Фелікс, з якім вырашыў падужацца сібірак?

Фелікс і сам добра не памятае, калі ён палюбіў лес. Можа тады, калі на выжарынах збіраў суніцы? А можа, крыху пазней?

Фелікс, бегаючы па лесе, заўважыў каля сасны чалавека з вострым разаком на доўгай палцы — хакам. Спыніўся хлопец, як укапаны. Не спускаў вачэй з той вузкай палоскі на дрэве, з якой паволі выступалі празрыстыя кропелькі. Доўга стаяў гэтак, а потым не стрымаўся — узяў кропельку на палец і здзівіўся, якая яна — цягучая, з празрыстай робіцца шэрай, нават буравата, хутка цвярдзее. А як пахне гэтая кропелька!

Фелікс бярэ яшчэ адну свежую кропельку, і ў нос б'е востры пах.



Анатоль ВОЛКАЎ. Дваровая каманда.



Віталь ЦВІРКА. Родны край.

З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ

ЮБІЛЕЙНАЙ

МАСТАЦКАЙ

ВЫСТАЎКІ.



Міхась САВІЦКІ. Партызанская мадонна.



Марк ДАНЦЫГ. Мой горад.

З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ

ЮБІЛЕЙНАЙ

МАСТАЦКАЙ

ВЫСТАЎКІ.

Той дзядзька-ўздымшчык потым не аднойчы даваў Феліксу патрымаць у руках хак і нават паказаў, як ім карыстацца. Ён жа і расказаў пра сакрэты сваёй справы.

Каб атрымаць жывіцу, на дрэве робяцца надрэзы-паскі. Пройдзе 4—7 дзён—надразаецца новы пасак, бо на старым смала засыхае і не цячэ. Трэба ўвесь час паднаўляць надрэзы. Адгэтуль і назва—падноўка. А ўздымка азначае, што ўвесь час паскі наразаюцца ўсё вышэй і вышэй. Адгэтуль і такая лясная спецыяльнасць—уздымшчык.

— А дрэву баліць?—усё дапытваўся цікаўны хлапчук.

— Пэўна што... — адказаў дзядзька.—Але мы робім падсочку толькі тых дрэў, што ў бліжэйшыя гады будуць высякацца.

— А чаму смала называецца жывіцай?—не сунімаўся Фелікс.

Уздымшчык паціскаў плячыма:

— Хто ж яго ведае! Можа таму, што яна цячэ з жывога дрэва.

— А навошта яна людзям?

Толькі рукамі разводзіў дзядзька. Потым, палагаднеўшы, дадаваў:

— Як падрасцеш, то дазнаешся. Не забудзь і мне тады расказаць...

— Абавязкова дазнаюся!—адказваў Фелікс і паварочваў на палянку, дзе яго чакалі спелыя суніцы.

Малым хлапчуком Фелікс застаўся без бацькоў. Гадаваўся ў дзеда і бабулі. Старыя любілі ўнука, але наглядаць за ім як мае быць не мелі часу, бо часта хварэлі.

Пасля сямігодкі Фелікс доўга не думаў, куды пайсці працаваць. Адразу падаўся да дзядзькоў на падсочку. Спачатку збіраў смалу. Гэтая справа Феліксу была ўжо знаёмая. Яшчэ калі вучыўся ў школе, то памагаў дзеду. Жалезнае вядро, маленькі жалезнячок і скрабок—вось і ўсё, што трэба зборшчыку.

Можа каму-небудзь гэты занятак здасца аднастайным, надакучлівым, але не Феліксу. Ідучы ад сасны да сасны, ён нібы гартаў старонкі лясной кнігі. Прыкмячаў, дзе якія кветкі растуць, дзе ягадныя мясціны, дзе грыбныя... І тады ж яго пачало цікавіць пытанне: дзве сасны-суседкі, як блізняты, а жывіцы даюць адна больш, другая менш. Чаму?

А вось чаму. Жывіца мае такое рэчыва, якое выпарваецца. Тэрпены завецца. Таму яна і цвярдзее, мяняе колер. І яшчэ Фелікс дазнаўся, як на лесахімічным заводзе аддзяляюць тэрпены ад смалістага рэчыва, як выпрацоўваюць шкіпінар і гарпіус, які раней называлі каніфоляй. Фелікс гісторыяй айчыннай каніфолі захапляўся, як некаторыя—дэтэктыўнымі раманамі. І цікава цяпер паслухаць, з якім запалам расказвае ён пра каніфолю.

— Што такое каніфоля? Без каніфолі не будзе такі пявучы смычок, без яе ні адзін нават самы акуратны вучань не зможа напісаць і радка, каб не зрабіць кляксу, бо яго чарніла расплывецца на паперы. А каб яно не расплывалася, паперу праклейваюць спецыяльным клеем, які выпрацоўваецца з каніфолі. Каб не каніфоля, нашы рукі заўсёды былі б у друкарскай фарбе, якою друкуюцца кнігі і газеты. Каніфоля робіць фарбы ўстойлівымі. Каніфоля выкарыстоўваецца для вырабу аўтамабільных пакрышак, мыла, пакосту, медыкаментаў, лінолеуму і многіх іншых рэчаў, патрэбных чалавеку. Такі ж шырокі ўжытак мае і шкіпінар. Больш за семдзесят галін прамысловасці скарыстоўваюць у вытворчасці каніфолю і шкіпінар.

Сапраўды, наша краіна самая багатая ў свеце лесам. Мільёны гектараў займаюць сасновыя бары. А быў час, калі мы куплялі каніфолю ў амерыканцаў ды французаў. Плацілі за яе золатам. Штогод з-за мяжы ўвозілі да двух тысяч вагонаў.

Вялікі рускі хімік Д. І. Мендзялееў яшчэ ў канцы мінулага стагоддзя даказаў, што наша бацькаўшчына мае неабмежаваныя магчымасці для вырабу ўласнай каніфолі. Руская сасна не толькі не горшая, яна нават лепшая па смалістасці і больш дае жывіцы.

Дзякуючы настойлівасці вялікага вучонага, у пачатку нашага стагоддзя былі праведзены першыя вопыты па падсочцы сасны ў Беларусі і некаторых іншых раёнах краіны. Былі атрыманы станоўчыя вынікі, але чамусьці чыноўнікі царскага ўрада палічылі, што лягчэй купляць гатовую каніфолю за мяжой, чым наладзіць яе выраб у сваёй краіне.

Першая каніфоля была выпушчана ў нас у 1925 годзе. У той час жывіца здабывалася па метаду, які называўся «амерыканскім». Дрэву наносілі грубыя, глыбокія раны. Жывіца збіралася не ў штучны прыёмнік, як цяпер, а ў кішэню, што высякалася спецыяльнай сякерай на дрэве. Такі спосаб падсочкі ў Амерыцы прыводзіў да велізарных страт у ляснoй гаспадарцы. Вятры і буры ламалі пасля знясіленыя дрэвы. Мы не маглі трымацца гэтага спосабу, і нашы вучоныя пачалі пошукі.

...Па кропельцы цячэ смала. На падсочцы ўсё залежыць ад майстэрства тых, хто здабывае жывіцу: у свеце яшчэ няма такой машыны, якая змагла б замяніць тут ручную працу. А Фелікс Ніціеўскі якраз адзін з такіх майстроў. За адзін толькі год ён здабыў шаснаццаць тон жывіцы. Амаль чатыры гадавыя нормы!

Чатыры гадавыя нормы! Ці магчыма такое? Ці здольны чалавек на такое напружанне?

Некаторыя нават не паверылі: можа Феліксу хто памагае?

На Пацячоўскі ўчастак прыехалі інжынеры, хранаметражысты. Пачалася праверка. Хадзілі, як кажуць, па пятах, а Фелікс завіхаўся, як звычайна. Толькі сам сабе ўсміхаўся, пазіраючы, як абліваліся потам праверальшчыкі. Першы не змогся хранаметражыст. Ён добра натаміў ногі і апоўдні прылёг пад сасной. У сваёй дакладной ён потым пісаў, што Фелікс Ніціеўскі ходзіць па лесе, як добры марафонец, і за дзень паспявае зрабіць падноўку на чатырох тысячах сосен.

Ціха ў лесе. Чырвоным святлом пераліваюцца гонкія ствалы. Здалёк свецяцца сіметрычныя палоскі-падноўкі. На іх бурштынавымі кроплямі выступае жывіца. І ў кожнай такой кроплі—сваё сонца...

Трымаючы адну і тую ж глыбіню і шырыню зрэзу, Фелікс дасягае найбольшага прытоку жывіцы. Калі лепшыя ўздымшчыкі краіны з кожнай сасны за год набіраюць па 650—750 грамаў жывіцы, то Фелікс—больш як па кілаграму.

Той парою, калі сосны «пацеюць» цяжкімі іскрыстымі кроплямі, Феліксу не спіцца. Ён прачынаецца на золку, яшчэ раней за пастуха, перакусвае трохі і на веласіпедзе праступе ў бор. Як з добрым сябрам, першы вітаецца з сонцам.

Пачынаецца дзень. Рухі майстра дакладныя, упэўненыя. Чуйнае вуха яго ловіць лясныя гукі. Ужо замоўклі салаўі, папярхнулася зязюля. Толькі дразды і сойкі ўсё цвіркочуць, не стамляючыся... Па тысячах прыкмет Фелікс вызначае, як ідзе па зямлі лета, якое надвор'е будзе заўтра, праз два-



**Больш за дваццаць гадоў збірае жывіцу Марыя Смаленская.**

тры дні. Жывіца цячэ няроўна, яе ход залежыць ад тэмпературы паветра і ад пары года, ад своечасовай падноўкі.

Ад сасны да сасны Фелікс не пераходзіць, а пераскоквае. Хак у яго заўсёды напагатове, і майстар у адно імгненне дакладным рухам робіць зрэз спачатку ўправа, а потым улева.

Вядома, што ўздымшчыку, калі ён робіць падноўку ў верхнім ярусе, увесь час прыходзіцца працаваць з адкінутай назад галавой і выцягнутымі ўгору рукамі. Яны зацякаюць, стамляецца шыя. Фелікс робіць падноўку па чарзе — то ў верхнім, то ў ніжнім ярусах.

Фелікс працуе хутка, але акуратна. Хуткасць дасягаецца дакладнасцю рухаў. Яго ўчастак — гэта разлічаная на пятнаццаць год падсочка. Ён тут ужо сёмы год, а наперадзе яшчэ восем... Гэтым і тлумачыцца, што ён эканомна зразае кожны сантыметр паверхні дрэва. Калі даць у падноўцы больш шырокі крок — потым будзеш расплачвацца недаборам жывіцы.

Ідзе па лесе чалавек. Працаўнік. Гаспадар. Гэта скажа кожны, хто хоць раз пабачыць за работай Фелікса Ніціеўскага — майстра лесу. Плённая праца адзначана вышэйшай узнагародай — ордэнам Леніна.

**Уладзімір МЯЖЭВІЧ.**

Фота **С. Чырэшкіна.**

# ЯГО НЕ БЫЛО НА КАРЦЕ



**Класічныя формы архітэктуры завіталі і ў старыя Шацілкі.**

Успамінаю адзін з першых сваіх прыездаў у Светлагорск. Нізенькі будынак з утаптанымі ў гразь прыступкамі ганка тады гучна называўся аўтавакзалам. Ледзь паспеў я ступіць на зямлю, як туфлі ўмомант сталі цяжкія ад наліплай гліны. Не спадзеючыся на цьмянае святло адзінокіх ліхтароў, я пайшоў нацянькі, хлюпаючы па гразі. Злева — конус вадапапорнай вежы, справа — пяць паверхаў, яшчэ не накрытых дахам. Значыцца, іду правільна...

— Асцярожна, провад! — спыніў мяне нечы голас.

Метры за тры ад сябе я ўбачыў невысокага хлопца ў ватоўцы, мокрай ад дажджу.

Провад звісаў да зямлі і цягнуўся да металічнай апоры. Я асцярожна пераступіў яго.

— Запалкі ёсць? Разумееш, змёрз...— падышоў да мяне хлопец.

Каторы раз я радаваўся сваёй звычцы насіць у кішэні карабок запалак, хоць сам і не куру.



**Светла ў вокнах светлагорцаў.**

— Мае адсырэлі. Трэцюю гадзіну стаю... Ветрам, відаць, абарвала,— хлопец паказаў рукой на провад, — а лінія высакавольтная! У дванаццаць змену здаў. Цяпер пяць ужо, кажаш? Ого! Ну, тады добра — хутка развіднее.

— Слухай, а чаму б табе не пазваніць электрыкам?

— Ды тэлефон толькі на пошце. А як адлучышся туды, калі людзі зараз на работу пачнуць ісці. Можа ты пастаіш, павартуеш, каб хто не наступіў?

Ён пабег, размахваючы рукамі, каб сагрэцца. А людзі ўжо спяшаліся на работу. Папярэджаныя, спыняліся і асцярожна пераступалі цераз провад...

— Вось і я,— вынырнуў неўзабаве з ранішняга змроку хлопец у мокрай ватоўцы. Зараз прыедуць электрыкі. Ну, дзякуй табе... — Ён намацаў, пстрыкнуў пальцам папяросу з пачка «Беламору» і нечакана прапанаваў: — Прыходзь сёння на танцы ў клуб энергетыкаў. Не любіш танцаў? Дарэмна...

Я пайшоў, так і не адважыўшыся спытаць прозвішча гэтага цудоўнага хлопца, які прымусіў мяне зусім іншымі вачыма глядзець на светлагорцаў...

І вось цяпер... Апошні разварот... Аўтавакзал... Не, не той, з утаптанымі ў гразь прыступкамі, а новы, каменны. Што ж, часовае ўступае дарогу сталаму. Дыялектыка...

Пяць гадзін раніцы. Краны, трубы цеплатрасы, апоры і дамы — з дахамі і без іх, з вокнамі і без вокан. Ззаду лес. Іду і здзіўляюся: новы цагляны будынак — дзіцячая бібліятэка. Калі я прыязджаў той раз, яна была яшчэ ў памяшканні кінатэатра «Спадарожнік». А вось музычная школа. Яе таксама не было... Я іду па новенькім асфальце і шкадую ў думках, што яшчэ зусім не ведаю, хто збудаваў гэты юны горад, хто даў яму такое імя — Светлагорск.

Потым яшчэ не раз былі прыезды і ад'езды, а пачуццё шкадавання заставалася. Яно не знікла і тады, калі я таксама стаў светлагорцам, калі ў блакнотах з'явілася шмат запісаў пра маіх цяперашніх землякоў.

...У пакоі на імгненне становіцца ціха. Люся нахілілася да прыёмніка і ловіць у шматгалосым эфіры нейкую мелодыю. Надзя прыбірае на стале газеты і часопісы. Некуды збіраецца маўклівая Лора Папова. Яна вінавата ўсміхаецца і моўчкі выходзіць з пакоя.

— Ад'язджае Лора...— уздыхае Надзя Стэльмах.— Замуж выйшла. У Мінск вяртаецца.

Мы ўспамінаем Мінск кожны па-свойму, Люся нечакана прызнаецца:

— На размеркаванні дэкан хімфака



**Надзя Стэльмах і Люда Шкецiна ўжо старажылы. Яны прыехалі сюды, скончыўшы Беларускі дзяржаўны універсітэт, і працуюць на заводзе штучнага валакна.**



Ткачыха Галіна Шалякова запісвае галоўны радок сваёй біяграфіі. Да гэтага былі — сярэдняя школа і вытворча-тэхнічнае вучылішча.

Іван Рыгоравіч Цішчанка спытаўся: «Паедзеш выкладчыкам у Ваўкавыскі раён?» Згадзілася. Праз гадзіну заходжу штосьці ўдакладніць і чую — прадстаўнік Саўнаргаса гаворыць: «Зноў Светлагорск абдзялілі — крыўдаваць будуць». Тут я і папрасіла: «Іван Рыгоравіч, накіруйце мяне лепш у Светлагорск!»

Прыехала 23 чэрвеня, падышла да будынка заводакіраўніцтва, бачу транспарант: «Камсамольская ўдарная будоўля». Ну, думаю, якраз тое, што трэба. Прызначылі інжынерам у цэнтральную заводскую лабараторыю. Але давялося памагаць будаўнікам: мылі падлогу, смецце прыбіралі. Потым паслалі на Магілёўскі завод штучнага валакна, вучылася там



Турбамашыніст Мікалай Дашкоўскі.

растворы рабіць. Вярнулася, калі ўжо абсталяванне ўстанаўлівалі...

— А я першага лютага 1965 года прыехала. Вы мяне тады сустрэлі, памятаеце? — усміхаецца Надзя Стэльмах.— Назаўтра прыйшлі да Яўгена Васільевіча Пятроўскага, начальніка цэнтральнай заводскай лабараторыі, а ён пытаецца: «Што рабіць умееце, дзяўчаты?» А мы яму: «Навошта пытаеце? Напэўна тое ж самае, што і вы ўмелі пасля універсітэта».

Усе смяюцца. Цяпер ім весела ўспамінаць і свой прыезд, і першыя цяжкасці.

«Надоело говорить и спорить»,— ціха паплыла па пакоі знаёмая мелодыя. Люся высока ўзнімае над галавой маленькі паходны чамаданчык. Жэст яе ўсім зразумелы...

«Бригантина поднимает паруса»,—падхопліваюць дзяўчаты.

Але не, яны не думаюць нікуды ад'язджаць. А дарогі? Яны клічуць, вядома. Вытворчыя камандзіроўкі, турысцкія паходы, экскурсійныя паездкі. З-пад ложкаў, з-пад стала пазіраюць чамаданы. Надзя расказвае:

— Паўтара гектара бульбы было запланавана нам выкапаць у падшэфным калгасе. А мы — група «аналітыкаў» навукова-даследчай лабараторыі — вырашылі выкапаць больш і на заробленыя грошы арганізаваць экскурсію ў які-небудзь горад. У сяброўкі нашай Кашкаровай зрок слабы. Пытаемся: «Можа не паедзеш?» А яна: «Гумачкай акуляры прывяжу, а капаць буду».

Яны яшчэ два разы ездзілі ў калгас, здалі металалому на 36 рублёў, і гэта таксама — на паездку ў Ленінград. Ідэя камсамольцаў зацікавіла многіх, нават і тых, хто не ездзіў у калгас, не збіраў металалом. Неяк да Надзі Стэльмах падышла Таня Саламанчук:

— Вазьміце мяне ў Ленінград.

— А ты капала бульбу?

— Падумаеш! Я ўнясу вам гэтыя капейкі.

Не, Надзя стала растлумачваць ёй, як многа значаць для іх «гэтыя капейкі». Што гэта, наогул, і не грошы... Не, яе не ўзялі.

У водпуск Мікалай Дашкоўскі паехаў у родныя Шацілкі. «Дык вось дзе яна, Васілевіцкая ДРЭС!» А ён чытаў у газетах і не ведаў, што яна тут. Ішоў па пыльнай пясчанай вуліцы. Прытрымліваючы рукой бесказырку, глядзеў на высачэзныя трубы, на ажурныя апоры высакавольтных ліній і вырашыў тады канчаткова: вярнуцца пасля службы сюды.

Праз год у кабінет начальніка аддзела кадраў Вольгі Захараўны Уласавай увайшоў невысокі шыракаплечы марак.

— Дазвольце далажыць. Трумны машыніст Паўночнага флоту Мікалай Дашкоўскі прыбыў у ваша распараджэнне.



За вясёлай жартаўлівасцю Мікалая ўтойвалася трывога: «А раптам не прымуць — ці мала сюды людзей наехала?»

Вольга Захараўна сказала:

— Што ж, машыністы нам патрэбны. Толькі машыністы... турбагенератара. Афармляйцеся.

На наступны дзень другі машыніст Мікалай Маяровіч ужо тлумачыў Мікалаю:

— Трэба памятаць прадукцыйнасць помпаў... Гэта пускавая, гэта кандэнсатная, гэта маслачыстка. Вось шчыт кіравання...

Шчыт асабліва здзівіў Мікалая. На ім — мноства прыбораў. Ён глядзеў і з радасцю пазнаваў многія з іх. Хіба толькі вось гэтыя масіўныя выгнутыя трубы...

А Маяровіч ужо крычаў, нахіліўшыся да яго:

— Ну як, не глухнеш ад шуму?

Мікалай усміхнуўся ў адказ: «Не-не, чую ўсё».

Гул турбін здаваўся таксама знаёмы. Ды і самі яны ў чорнай абшыўцы з лесвіцамі, якія вялі да рэгулюючых клапанаў, нагадвалі штосьці з нядаўняга карабельнага жыцця.

Разам з Мікалаем Дашкоўскім ідзём па вялізнаму турбіннаму цэху. Цэх напоўнены густым гулам. Мікалай вітаецца то з адным, то з другім машыністам. Яго тут ведаюць: хто як намесніка сакратара партыйнай арганізацыі, хто як дружынніка, і ўсе як дэлегата XXIII з'езда КПСС.

Ахвотна расказваючы пра свой цэх, Мікалай толькі між іншым успамінае, што з 1964 года абслугоўвае ён не адну, а дзве турбіны. І спраўляецца...

Доўга стаім ля шырокага акна. Глядзім, як крочаць у далячынь сталёвыя апоры электраліній.

— Вось бачыце правады — гэтыя, што правей? Яны ад маіх турбін. Куды ідзе энергія? На трансфарматар, на падстанцыю, а пасля — у Мінск, у Рыгу, у Вільнюс, у Варшаву.

За сотні кіламетраў нясуць правады горы святла, апраўдваючы гордае імя — Светлагорск.

Чым больш я знаёміўся з сённяшнім днём юнага горада, тым больш хацелася мне даведацца пра тых, хто пачынаў будаваць яго, перагарнуць жывыя старонкі яго біяграфіі.

Найбольш яскрава яна адлюстравана ў жыцці Героя Сацыялістычнай Працы Івана Хмаруна.

Сустрэўся я з ім у паднябессі, на даху цэха тары. Калі скончылася хісткая доўгая лесвіца, раптам адкрылася велічная панарама будаўніцтва цэлюлозна-кардоннага камбіната. Драўніннападрыхтоўчы цэх, склад шчапы, станцыя перапампоўкі... Першы ў рэспубліцы цэлюлозны завод.

Спрытна рассцілаюць дзяўчаты па заітым бітумам даху рулоны руберойду. Побач — рухавы дахаўшчык. Я пазнаў у ім Івана Хмаруна. Ён такі, якога бачыў неаднойчы ў газеце.

Мы сядзім на сцяне амартызацыйнага шва, і я не задаю яму ніякіх пытанняў. Іван расказвае сам.

— Я шацілкаўскі. Ёсць тут урочышча Дуднік. Там жыў, тут вучыўся. У 1933 годзе працаваў на суднаверфі — баржы канапаціў. Потым армія, вайна. Пасля дэмабілізацыі некаторы час у калгасе працаваў. У пяцьдзесят чацвёртым годзе на будаўніцтва электрастанцыі прыйшоў. Цяслярыў, пілаваў лес, будаваў склады, майстэрні. Потым будынкі дзіцячага саду і ясляў, тых, што каля ваданапорнай вежы. Кантору, пад'язныя пуці, берагавую помпавую станцыю, падводныя і адводныя каналы з перападамі і шлюзамі... Яшчэ пералічваць? — усміхаецца мой субяседнік.— Пасля пуску ДРЭС зноў з фундамента пачынаў будаваць завод жалезабетонных вырабаў і канструкцый. У 1960 годзе — завод штучнага валакна,



Расце Светлагорск, растуць і светлагорцы. Самыя маладыя і самыя шчаслівыя з іх аднагодкі Іра і Света Паддубскія.



У Доме культуры энергетыкаў кожны вечар госціць песня. На гэты раз спявае Тамара Барташова.

таксама з фундамента. Тут брыгаду ўзначаліў. Калі ж пачалі манціраваць дах — узняўся, і вось да гэтага часу на вышыні працуем...

Я развітаўся з Іванам Хмаруном і яго брыгадай. А калі вярнуўся дамоў, дык застаў ліст з Рыгі ад Сухавіцкага. Я даўно шукаў чалавека, які жыў у Шацілках да рэвалюцыі. І вось, нарэшце, натрапіў на такога і папрасіў яго прыгадаць старыя часы. Прабягаю радкі ліста:

«Была ў мястэчку адзіная на ўсю акругу кузня. Гаспадаром яе быў нехта Гарэлік. Тут, у гэтай кузні, на пятнаццатым годзе свайго жыцця пачаў і я працаваць малатабойцам... Ніколі не забуду, з якой фанабэрыстасцю хадзілі шляхцюцы ў сваіх новенькіх сурдутах і чорных штанах. Сяляне ж насілі адзенне свайго вырабу. Паспрабуй не зніміі капелюша перад шляхцюцам — паб'е... Школа была адна — у Парычах, за трыццаць вёрст. І не вельмі прымалі туды дзяцей рабочых і сялян. Газет жа ў Шацілках, акрамя Мікалая Манкевіча, ніхто не выпісваў. На ўсю ваколіцу быў толькі адзін фельчар Левановіч. З усіх «прадпрыемстваў» — адзін ветраны млын».

Вечарам я сядзеў у перапоўненай зале Дома культуры энергетыкаў і слухаў лекцыю старшыні гарадскога выканкома Міхаіла Ільіча Мітраховіча «На абноўленай зямлі». Цікава гаварыў ён пра далёкае мінулае, светлае сучаснае, пра цудоўную будучыню нашага Светлагорска. З лекцыі даведаліся мы, што упершыню вёска Шацілкі ўпамінаецца ў 1639 годзе пры вопісу маёмасці Бабруйскага старастава, што было тады ў вёсцы ўсяго дзевятнаццаць хат. Старшыня расказаў, як у першыя гады пасля Кастрычніка гасцінна расчынілі дзверы школа і хатачытальня, як была пабудавана суднаверф і як вырасла яна ў буйнае прамысловае прадпрыемства.

— У сакавіку 1954 года,— гаворыць Міхаіл Ільіч,— у Шацілкі прыехалі першыя будаўнікі Васілевіцкай ДРЭС. Праз чатыры гады, у кастрычніку 1958 года, была пушчана першая турбіна магутнасцю 50 тысяч кілават... Светлагорская ДРЭС ужо дала краіне 7,5 мільярда кілават-гадзін электраэнергіі—гэта больш, чым давалі ўсе электрастанцыі царскай Расіі ў 1913 годзе.

За пяць апошніх год пабудаван адзін з буйнейшых у краіне завод штучнага валакна, а пры ім жылы гарадок — 100 000 квадратных метраў жылля, пяць дзіцячых садоў, сярэдняя і музычная школы, бібліятэка. Пачата будаўніцтва цэлюлозна-кардоннага камбіната, Палаца хімікаў, новых школ, бібліятэк, стадыёнаў. Так сёння нараджаецца заўтрашні дзень юнага горада...

Калі я выйшаў з Дома культуры, праспект Леніна зззяў яркім электрычным святлом. Было ціха, толькі шамацела пад нагамі лісце. Я ішоў і думаў: у дзяцінстве мы ўсе марым пра тое, каб адкрыць новыя землі, не вядомыя ні на адной карце астравы. А хіба пабудаваць, падараваць людзям новы горад, якога таксама не было на геаграфічнай карце, меншае шчасце?!

Ізяслаў **КАТЛЯРОЎ.**

Фота **Р. Мярсона.**



**У горадзе хімікаў і валейбольныя каманды з адпаведнай назвай: «Хімік І» і «Хімік ІІ».**



**—Я** кожны вечар хаджу тут. Быццам мора бачу. Калійныя камбінаты нагадваюць караблі ў гірляндах агнёў...

Мой спадарожнік Генадзь Супрановіч, памаўчаўшы, прадаўжае:

— Сам я з Чыжэвіч. На будоўлю прыйшоў у той год, калі закладваўся Салігорск. Мы, чыжэвіцкія, лічым сябе даўно салігорцамі. Мой дзед спрадвеку жыў тут, і бацька тут жыве. Вёска невялічкая. Хлеб сеялі. А дзед бондарам быў. Свае няхітрыя вырабы вазіў на кірмаш у Старобін, Слуцак ці ў Нясвіж. Калі я падрос, то і мяне крыху вучыў сваёму рамяству, а я вось — шахцёрам стаў...

У 1960 годзе, калі будаўніцтва Першага калійнага было ў разгары, завіталі да нас тутэйшыя дзяды. Аж з-пад Старобіна. Майстры па цяслярскай справе на ўсё наваколле. Увесь дзень прабылі яны на будоўлі. Цікавіліся, як мы на рыштаваннях завіхаліся, абагачальную фабрыку будавалі. Нас там было нешта з чатырыста. Вельмі здзівіліся сівыя цесляры, што так шмат людзей. Пасля не вытрымалі, сякеры папрасілі. Працавалі прыгожа. І цяпер памятаю, як любаваліся ўсе... На развітанне ім падарылі каляровыя крышталікі солі. Дзяды беражліва загарнулі іх у хусцінкі, як самы лепшы падарунак.



**Усё глыбей і глыбей угрызаецца ў багатыя сільвінітам нетры брыгадзір-шахтапраходчык Віктар Рындзін.**

# САЛІГОРСКІ БУДЗЕНЬ

**Тэкст і фота Вячаслава ДУБІНКІ.**

*Мой спадарожнік змоўк.* Потым усміхнуўся і далей загаварыў:

— Тады мой дзед (ён быў сярод тых) зачасціў на будоўлю. Мы яго неафіцыйна брыгадзірам выбралі, ён вучыў моладзь. І здаецца, памаладзеў, быццам дзесяткі тры скінуў з плеч...

Генадзь Супрановіч гаворыць, а мне ўсё карціць, каб скарэй у шахту апусціцца. Глянуць, што там за падземныя палацы, як апісвалі некаторыя журналісты. І Генадзь нібы заўважае маё нецярпенне:

— Вы бачыце прыдарожныя слупы з надпісамі. Іх называюць візітнымі карткамі вёсак: Чапялі, Радкава, Жабінка, Чыжэвічы... Заўтра пазнаёмлю вас з падземным горадам. Новыя візітныя карткі гэтых вёсак будуць там, у падзямеллі.

...Шахцёрская роба мне дасталася велікаватая. Нязграбна трымаю лямпу,



**Ціхі вясковы ранак.**

**Нікому і ў галаву не прыходзіць, што пад гэтым выганам грукочуць горнапраходчыя камбайны, ідзе змаганне за хлеб для зямлі.**





Другі калійны.



Пасля працы ёсць час і для любімага занятку. Інжынер Аляксей Гліністы — кіноаматар.

працівагаз, батарэі. Ды яшчэ на плячах — кофр з фотаапаратурай. Клець імкліва памчала ўніз. У вушах гул. Такое адчуванне, як у самалёце, калі той пападае ў паветраную яму.

Глыбіня 500 метраў. Шахцёрскі аўтобус імчыць па падземнай галерэі з хуткасцю 20 кіламетраў у гадзіну. Генадзь паказвае на шыльдачку.

Чапялі. Я міжволі злавіў сябе на думцы: «Там, наверсе, свеціць сонейка, дзеці ідуць са школы, мірна пасвіцца жывёла...»

Тут усё незвычайна. Урубавыя камбайны, гірлянды агеньчыкаў у доўгім калідоры, тэлефон, такі вялізны, як у вадалазаў, пункт хуткай дапамогі (толькі дзяўчаты-санітары ў касках), амаль дзесяцікіламетровы канвеер, па якім ідзе руда...

Рабочы дзень скончыўся. Падымаемся на паверхню. Раз-пораз уключаюцца лябёдкі капроў: рамонтныя брыгады спускаюцца ў забой. Мы з Генадзем ідзём у кірунку тэрыконаў. На ружовым небе яны здаюцца горнымі переваламі, якія я сустракаў некалі на Каўказе.

— Хутка будзем выпускаць харчовую соль,— гаворыць Генадзь.— Бачыце бярозы? Прыгожая дубрава расла непадалёк ад станцыі Калій. Мы іх пасадзілі ў 1961 годзе, калі толькі першая соль пакідала вароты камбіната. Эшалон ішоў вось па гэтай чыгунцы. Гэты эшалон, як маладую на вяселле, прыбралі. Дзяўчаты нават у Слуцак па кветкі ездзілі. Пасля бярозы саджалі, таполі ў парку... Радаваліся, як дзеці, новаму васьмікватэрнаму жыломy дому, святкавалі першыя выбары ў пасялковы Савет, шчаслівыя былі ад таго, што нам першым выпала закладваць Другі калійны камбінат.

У летапісу — імёны лепшых, тых, хто пачынаў будаваць Салігорск: Леў Кабылянскі, Іван Мазунін, Міхаіл Марыніч, Леанід Максімовіч, Віктар Арлоўскі, Тадэвуш Шкута, Леанід Сысуновіч, Аляксей Макарэвіч, Вольга Кір'якова...

У рэдакцыі шматтыражкі нам параілі пазнаёміцца з Леанідам Якубовічам. Хлопец працавіты, настойлівы, вершы піша.

— Я тут вырас у Радкаве,— расказвае Леанід і паказвае рукой на гмахі камбіната.— Калі я быў малы, бацька браў мяне на поле. І ў школу міма гэтых палеткаў хадзіў. Тады ж і вершы пачаў складаць. Пасля школы на Калійны падаўся. Праўда, цяжка было. На бетонных работах рукі натрудзіў. Дома маму суцяшаў: «Нічога, мазалі пройдуць».

Леанід падаў вучнёўскі сшытак, крыху запэцканы цэментным растворам, у лісягах ад цэглы:

— Вось вершы...

Чытаў я, і здавалася, што чутно, як шэпча жыта, як ціха спяваюць дзяўчаты з Радкава пра маладосць і каханне. І радкі, якія можна паставіць эпіграфам да жыццяпісу Леаніда:

Калі песня не грэе
У мароз і завею,
Дык нашто твая песня...

На Другім калійным я пазнаёміўся яшчэ з адным карэнным салігорцам.

— Іван Пасекаў,— сказаў светлавало-



І яму быць шахцёрам!

Ідзе новая змена.





Любуюцца плёнам сваёй працы мантажнікі Іван Белянковіч ды Хведар Валюш.



У маладым горадзе — маладое жыццё...

Засноўваецца Трэці калійны.



сы здаравяк, і яго дужая рука сціснула мне далонь.— Брыгадзір мантажнікаў, гвардыі сяржант для начальства, а для сяброў — проста Ваня...

Не пытайцеся ў Івана пра яго жыццё. Ён не любіць шмат гаварыць. Паглядзіце лепш, як ён працуе,— залюбуецеся. Пра Івана мне расказвалі яго сябры.

На будоўлі ён даўно. Прыехаў зімой. Была сцюжа. Жылі спачатку ў палатках, а потым у драўляных доміках.

Іван цудоўны зваршчык. Разам з сябрамі першы ў краіне асвоіў зварку барабанаў для млыноў на абагачальнай фабрыцы. Яго «гвардыі ўзвод» кідалі на ўсе адказныя ўчасткі. Бывала, усе ўжо ў цёплым ложку, а камандзір узвода карпее над паперкамі. Затое раніцай усё да работы падрыхтавана.

Эмблема Салігорска — шахцёр з адбойным малатком. Ёсць яшчэ адна, неафіцыйная,— вежавы кран. Будуюць тут, як і раней, многа. Ужо выводзяцца сцены дома Саветаў, закладзены спартыўны палац, будуецца трыкатажная фабрыка...

А на свята якія канцэрты мастацкай самадзейнасці ладзяць! Гэта цэлыя фестывалі дружбы, бо бяруць у іх удзел прадстаўнікі самых розных нацыянальнасцей. Тут і Адалей Тагіеў — інжынер, які прыехаў з Азербайджана, і Шайфулат Рахімаў — шахцёр з Узбекістана, і Мікалай Харчанка — майстар з Украіны. Яны пасябравалі на беларускай зямлі...

...Наша падарожжа мы завяршылі ля ракі Случ, дзе хутка заплешчацца вялізнае вадасховішча. Ідучы берагам, завіталі да праходчыкаў Трэцяга калійнага — у брыгаду Фёдара Цупікава. А потым захапляліся новымі прыгожымі кварталамі па вуліцы Леніна, былі балельшчыкамі на рэспубліканскай спартакіядзе работнікаў хімічнай прамысловасці.

Малады горад расце, прыгажэе. Як асілак, выпроствае плечы.



Прымай, краіна, дарункі беларускіх нетраў...






# ЗНАМЯНАЛЬНЫЯ ДАТЫ З ГІСТОРЫІ БЕЛАРУСІ 1968 ГОД

| | |
|---|---|
| **335** | гадоў назад (1633) у Полацку выбухнула паўстанне гараджан за далучэнне да Расіі. |
| **175** | гадоў з часу ўз'яднання (1793) цэнтральнай часткі Беларусі з Расіяй. |
| **155** | гадоў назад (1813) нарадзіўся Паўлюк Багрым, беларускі паэт. |
| **130** | гадоў назад (1838) нарадзіўся Кастусь Каліноўскі, кіраўнік і арганізатар паўстання 1863 года. Пакараны смерцю 22 сакавіка 1864 года. |
| **90** | гадоў з часу арганізацыі (1878) у Магілёве гуртка народнікаў «Зямля і воля». |
| **70** | гадоў назад (1898) нарадзіўся С. І. Губкін, вучоны ў галіне металафізікі, правадзейны член Акадэміі навук БССР. |
| **50** | гадоў назад (1918) у Віцебску на базе саматужных майстэрняў пачаў працаваць станкабудаўнічы завод (цяпер завод імя С. М. Кірава). |
| **45** | гадоў з часу арганізацыі (1923) у Мінску сельскагаспадарчага інстытута. |
| **45** | гадоў з часу заснавання (1923) у Мінску Дома-музея I з'езда РСДРП. |
| **45** | гадоў з часу ўтварэння (1923) літаратурнага аб'яднання маладых пісьменнікаў Савецкай Беларусі «Маладняк». Праіснавала да 1928 года. |
| **15** | гадоў назад (1953) у Мінску пачалося будаўніцтва камвольнага камбіната. |



Домік, дзе адбыўся I з'езд РСДРП. Здымак 1940 года.



Кастусь Каліноўскі.

## СТУДЗЕНЬ

| | |
|---|---|
| 1 | Утворана Беларуская ССР (1919). |
| | 50 гадоў назад (1918) у Мінску адбылася масавая дэманстрацыя рабочых і салдат супраць вайны, за падтрымку Савецкай улады. |
| 2 | 50 гадоў з дня адкрыцця (1918) I Надзвычайнай армейскай канферэнцыі бальшавікоў X арміі. |
| 3 | 60 гадоў з дня нараджэння (1908) Я. А. Зайцава, беларускага мастака-жывапісца. |
| 5 | 50 гадоў з дня адкрыцця (1918) у Мінску III Надзвычайнай Паўночна-Заходняй канферэнцыі РСДРП(б). |
| 13 | 60 гадоў з дня нараджэння (1908) Б. Я. Малкіна, графіка, мастака тэатра. |
| 15—16 | 50 гадоў назад (1918) у Магілёве адбылася канферэнцыя арганізацый РСДРП(б) горада і яго падраёнаў. |
| 15 | 60 гадоў з дня нараджэння (1908) З. І. Азгура, скульптара, народнага мастака БССР, правадзейнага члена Акадэміі мастацтва СССР. |
| 18—23 | 50 гадоў назад (1918) у Магілёве праходзіў II губернскі з'езд Саветаў рабочых і салдацкіх дэпутатаў. |
| 20—24 | 50 гадоў назад (1918) у Мінску працаваў I абласны з'езд зямельных камітэтаў Заходняй вобласці. |
| 21—23 | 50 гадоў назад (1918) у Магілёве адбыўся IV губернскі сялянскі з'езд. |
| 24 | 60 гадоў з дня нараджэння (1908) В. І. Шэмпеля, вучонага-аграхіміка, акадэміка Акадэміі навук БССР. |
| | 60 гадоў з дня нараджэння (1908) В. М. Шчарбіны, вучонага ў галіне нярудных карысных выкапняў, члена-карэспандэнта Акадэміі навук БССР. |
| 25 | 50 гадоў з дня зацвярджэння (1918) III Усерасійскім з'ездам Саветаў «Дэкларацыі правоў працоўнага і эксплуатуемага народа». |
| 28 | 50 гадоў назад (1918) СНК РСФСР прыняў дэкрэт аб арганізацыі Рабоча-сялянскай Чырвонай Арміі. |
| СТУДЗЕНЬ | 55 гадоў з часу арганізацыі (1913) у Віцебску таварыства «Асвета». |

**Каляндар будзе друкавацца ў кожным нумары на працягу ўсяго наступнага года.**
Падрыхтаваны аддзелам навуковага выкарыстання дакументальных матэрыялаў і інфармацыі Архіўнага ўпраўлення пры Савеце Міністраў БССР на падставе матэрыялаў, прадстаўленых цэнтральнымі і абласнымі дзяржаўнымі архівамі рэспублікі.


Віктар Шэмпель.


Барыс Малкін.

Уладзімір БУШЫН

# НА ПАЗІЦЫІ ДАБРА І ГУМАНІЗМУ

Пяты Маскоўскі кінафестываль з'явіўся сёлета вялікай падзеяй культурнага жыцця. На ім былі прадстаўлены фільмы 57 краін: 34 конкурсныя паўнаметражныя мастацкія стужкі і звыш 100 пазаконкурсных. Лічбы ўнушальныя. Але гэта толькі кропля ў сусветным кінематаграфічным акіяне. Успомнім хаця б, што кожная з такіх кінадзяржаў, як Японія, ЗША, Італія, Францыя, Англія, штогод выпускаюць сотні фільмаў. Так, гэта была толькі кропля, але яна была з тых кропель, пра якія кажуць, што ў іх адлюстроўваецца свет.

Праўда, трэба адразу сказаць, што некаторыя вельмі істотныя для нашага сусветнага кінематографа тэмы і ідэі, вобразы і сюжэты, якія знаходзяць усё больш шырокае адлюстраванне на некаторых іншых кінафестывалях, на маскоўскім не былі прадстаўлены зусім. Гаворка ідзе пра фільмы, што прыніжаюць чалавечую годнасць, прапаведуюць расізм, свінскія адносіны да жанчыны, сцвярджаюць культ гвалту і садызму. Нават такія кінафестывалі, як канскі і венецыянскі, якія заўсёды карысталіся добрай славай, і тыя аддаюць падобным творам усё большую даніну.

Сяргей Бандарчук, член журы апошняга канскага фестывалю, расказвае: «Я бачыў фільмы, дзе экран заліваюць патокі бруду і гною. Калупанне ў брудзе і гнаі даходзіць да самазабыцця, да ўтрапення. Каб зрабіць уражанне, пераўзысці другіх, трэба старацца. І пачынаецца нейкае дзікае спаборніцтва — хто выкапае самае агіднае, хто выцягне самае пачварнае, самае жорсткае. Паказваюць, як пара аддаецца каханню, адводзячы для гэтага амаль трэць паўнаметражнага фільма, і суправаджаюць гэты паказ непрыстойным тэкстам («Уліс», Англія). Мала! Паказваюць, як другая пара аддаецца каханню ўжо побач з трупам («Жыць чаго б гэта ні каштавала», ФРГ). Мала! Паказваюць, як аддаюцца каханню на вачах у дзіцяці («Дзіця на тры дні», Ізраіль). Спаборнікі ўжо не могуць спыніцца».

Вядома, справа тут не толькі ў тым, каб пераўзысці другіх, хоць, безумоўна, немалую ролю адыгрывае і гэта. Галоўнае — для паяўлення такіх фільмаў існуюць сацыяльныя ўмовы ў сучасным капіталістычным грамадстве. Госць маскоўскага фестывалю, амерыканскі рэжысёр Кінг Відар, вядомы ў нас экранізацыяй «Вайны і міру», больш за паўстагоддзя працуе ў кіно. Паводле яго слоў, сам ён усё жыццё пражыў з верай у прагрэс, для яго працаваў і нават у цяперашнія цяжкія часы настроены вельмі аптымістычна. У гэтага чалавека вялікі вопыт у мастацтве, у жыцці, і ён пацвярджае тую думку, што фільмы, пра якія ідзе гаворка, народжаны сацыяльнымі ўмовамі сучаснага буржуазнага грамадства. Але пры гэтым ён выказвае надзею, што ў большасці выпадкаў не свядомая апалогія жорсткасці, зла, а ўсё тое ж імкненне да прагрэсу, да пошукаў ісціны прымае такія пачварныя формы. Магчыма, яны, гэтыя мастакі, гаворыць ён, не бачаць іншых шляхоў сцвярджэння свайго станоўчага ідэалу.

Нават калі ў асобных выпадках гэта сапраўды так, і некаторыя аўтары і на самай справе маюць высакародныя імкненні, мы ўсё ж ніяк не можам прыняць і апраўдаць пачварныя формы іх імкненняў. У нас не можа выклікаць спачування «імкненне да прагрэсу», калі пры гэтым прыніжаецца чалавечая годнасць.

Мы адмаўляемся бачыць «сцвярджэнне станоўчага ідэалу» сродкамі разбэшчанай эротыкі, жорсткасці, цынізму. Больш таго, вось ужо паўстагоддзя ўсімі сіламі нашай эканомікі, палітыкі, мастацтва мы змагаемся супраць гэтых і падобных да іх ідэй.

Менавіта таму многія фільмы з разраду тых, пра якія гаварылася вышэй, пры папярэднім адборы не былі дапушчаны да ўдзелу ў маскоўскім кінафестывалі. Яго дэвіз—«За гуманізм кінамастацтва, за мір і дружбу паміж народамі!». А мы не схільны жартаваць сваімі дэвізамі. І менш за ўсё на свеце мы схільны жартаваць нашай рэвалюцыяй.

Калі з усёй тэматычнай разнастайнасці фільмаў, прадстаўленых на пятым Маскоўскім фестывалі, вылучыць і паспрабаваць прааналізаваць толькі фільмы пра моладзь, то гэта зусім не будзе надуманым і штучным. Малады герой быў галоўным героем фестывалю. У фільмах амаль усіх краін так ці інакш ставілася тэма моладзі, і ў гэтым няма нічога дзіўнага: сёння моладзь складае добрую палову ўсяго насельніцтва зямлі. Ад вырашэння праблем, звязаных з моладдзю, залежыць будучыня свету.

Рэжысёр Міхаіл Ром, які працуе над фільмам «Свет 68», звернутым галоўным чынам да маладых людзей капіталістычнага свету, так тлумачыць прычыны, якія прымусілі яго ўзяцца за гэтую работу: «Праблема моладзі цяпер надзвычай вострая. Гэтая праблема трывожыць педагогаў і паліцыю, сацыёлагаў і ўрачоў, вучоных і філосафаў, псіхолагаў і вельмі часта... бацькоў. Іх засмучае ранні скепсіс маладых, бунт супраць старэйшых, культ эротыкі, недавер да многіх духоўных каштоўнасцей чалавецтва, апрабаваных гісторыяй. Гэтая праблема аднолькава балючая для большасці заходніх краін».

На фестывальным экране мы бачылі маладога героя ў барацьбе і ў бяздзейнасці, са зброяй у руках і ў абдымках каханай, у роздуме і весялосці. Але заўсёды нас цікавілі, па сутнасці, адны і тыя ж пытанні: якая жыццёвая пазіцыя героя, якія яго ўзаемаадносіны з сіламі дабра і зла, чым яго пазіцыі вызначаны і абумоўлены?

Чалавек нараджаецца добры і бязгрэшны, але да юнацкіх гадоў, да таго часу, калі яму трэба пачынаць самастойны шлях, ён не заўсёды захоўвае вернасць прыродзе і сваёй сутнасці.

На фестывалі перад намі прайшла галерэя маладых герояў, моцна, часам да канца сваіх дзён, звязаных з сіламі зла і распусты. У традыцыйным па форме, пазбаўленым усялякіх уплываў мадэрнізму фільме «Чалавек на ўсе часы», пастаўленым у Англіі амерыканскім рэжысёрам Фрэдам Цынеманам і асветленым высакароднай ігрой Пола Скофілда (ён удастоены першай прэміі за мужчынскую ролю), мы сустракаем запамінальны вобраз маладога нягодніка XVI стагоддзя Рычарда Рыча. Хабарам і падхалімствам, даносамі і лжывымі паказаннямі, зневажэннем самога сябе і нахабствам ён робіць кар'еру—становіцца лордам-канцлерам. З яго дапамогай адпраўлены на плаху адзін з самых светлых людзей—Томас Мор.

Аўтары фільма пераканаўча паказваюць, што сутыкненне старога Мора і маладога Рыча—гэта не канфлікт пакаленняў, не сутыкненне бацькоў і дзяцей,—гэта барацьба высакароднасці і подласці, чалавечнасці і жорсткасці, вялікадушша і крывадушнасці, якая ідзе ў жыцці яшчэ і сёння.

Іван Стаянавіч, герой фільма югаслаўскага рэжысёра Уладана Сліепчавіча «Падапечны» (фільму прысуджаны срэбраны прыз), больш чым на чатырыста гадоў маладзейшы за Рычарда Рыча—ён нарадзіўся ў 1944 годзе. Здавалася б, што можа быць агульнага паміж людзьмі, якія жылі ў такія далёкія адна ад адной эпохі? А між тым, яны—быццам родныя браты па сваіх імкненнях, поглядах на жыццё. Так, адзін носіць камізэльку, а другі гарнітур з лаўсану, першы імкнецца стаць вяльможам пры двары Генрыха VIII, а другі—дырэктарам выдавецтва ў сучасным югаслаўскім горадзе, але зближае іх адно—карыслівасць, славалюбства, бессаромнасць.

Чаму гіне Томас Мор, а Рычард Рыч дабіваецца поспеху, у фільме паказана з дастатковаю яснасцю: гэта зусім заканамерна ў грамадстве, на чале якога стаіць недалёкі, юрлівы, упарты кароль, дзе яму памагае крывадушны, цынічны канцлер, а «цветам грамадства» з'яўляецца льсцівы, разбэшчаны, прадажны двор.

Але чаму спачатку дабіваецца немалога поспеху сучасны кар'ерыст, які дзейнічае ў сацыялістычным грамадстве? Немалая заслуга ў тым, што фільм адказвае на гэтае пытанне даволі пераканаўча. Справа не толькі ў тым, што Іван энергічны, абаяльны, смелы. Галоўнае—ён дэмагог, разумны, хітры і жорсткі. Ён, абходзячы моўчкі ўсё тое добрае, што рэвалюцыя і сацыялізм далі моладзі, спекулюе на недахопах, якія, вядома, ёсць ва ўсякім грамадстве, што расце і развіваецца, на памылках, якіх не ўдалося пазбегнуць нікому з тых, хто робіць сваю справу, а галоўнае, ён спекулюе на сваёй маладосці, супрацьстаўляючы



сябе людзям старэйшага пакалення, хто даў яму магчымасць па-чалавечы жыць і вучыцца. У вачах некаторых гэтая дэмагогія здаецца неабвержнай праўдай, бо ў нечым Іван, як кожны ўмелы дэмагог, сапраўды мае падставы: некаторым са старэйшых таварышаў, якія аддалі маладосць вайне, не хапае кваліфікацыі, другія—пачынаюць стамляцца. Ды і самі старэйшыя, як людзі сумленныя, часам бянтэжацца, некаторыя з іх пачынаюць адступаць перад націскам Івана. А той лезе і лезе ўперад. Але справа ўсё-такі канчаецца крахам Івана. І крах тут паказаны настолькі ж заканамерным, як і ў англійскім фільме поспех Рыча: Івана б'е грамадства, у якім ён жыве, людзі, якіх ён хацеў зрабіць пешкамі ў сваёй гульні.

Нельга не ўспомніць адзначаную залатым прызам работу перуанскага рэжысёра Арманда Раблеса Гадоя «У сельве няма зор». Яго герой—таксама малады чалавек, прайшоў усе ступені зладзейства: краў, здрадзіў любімай жанчыне, быў забойцам. Нарэшце, у глыбіні дрымучай сельвы ён крадзе ў туземцаў некалькі кілаграмаў золата і, забіўшы трох чалавек, якія яго праследавалі, спрабуе ўцячы, разлічваючы на бязбеднае, лёгкае жыццё.

Аўтары фільма спрабуюць даць сацыяльны аналіз таго, чаму слаўны хлопчык Альфонса, чысцільшчык ботаў, стаў такім нягоднікам: ён, маўляў, чуў крыўдныя, зняважлівыя размовы сваіх кліентаў пра беднякоў, пра народ, спакуслівыя размовы пра грошы, пра багацце. Ад пачуцця сацыяльнага пратэсту хлопчык зрабіў сваё першае злачынства—украў у дачкі аднаго са сваіх багатых кліентаў ляльку і ўтапіў яе. А там і пайшло...

Як ні слаба гучыць гэтае тлумачэнне, аднак яго нельга не прыняць пад увагу: у мастакоў буржуазнага грамадства мы далёка не заўсёды сустрэнем нават слабую спробу сацыяльнага аналізу.

Але які фінал карціны? Глядач з нецярпеннем чакае справядлівай адплаты за ўсе злачынствы. І яна прыходзіць. Толькі гэта, у адрозненне ад фільма «Падапечны», адплата не грамадства, не людзей, якіх зняславіў ці абакраў Альфонса,—аўтары фільма не знаходзяць у сучасным буржуазным грамадстве такіх сіл,—гэта выпадковасць, у выніку якой, перапраўляючыся цераз раку, герой тоне: яго пацягнула на дно ўкрадзенае золата. Гэта выглядае сімвалічна: вось, маўляў, злачынца гіне пад цяжарам свайго злачынства. Але сімволіка гэта суцяшальная. Грамадства не можа, калі гэта здаровае грамадства, разлічваць на тое, што злачынца загіне сам па сабе пад цяжарам сваіх злачынстваў. Грамадства павінна мець сілу і магчымасць пакараць зло. На жаль, вельмі часта сучаснае буржуазнае грамадства не мае гэтага, і яго членам застаецца толькі спадзявацца на справядлівасць, якая прыйдзе сама сабой.

Заслуга фільма Гадоя—у гнеўным, бескампрамісным асуджэнні зла. У заходняй кінематаграфіі гэта нярэдка з'яўляецца подзвігам, такім жа, якім быў фільм «Мужчына і жанчына» дваццацісямігадовага французскага рэжысёра Клода Лелюша. Подзвігам было паставіць гэты фільм, такі цнатлівы, чысты і чалавечны. Подзвігам было прывезці яго на канскі фестываль. Подзвігам было прысудзіць яму прэмію.

Фільм «У сельве няма зор» цікава супаставіць з некаторымі фільмамі сацыялістычных краін. Напрыклад, з балгарскім фільмам «Адхіленне», адзначаным залатым прызам (рэжысёры Г. Астроўскі і Т. Стаянаў). І зноў наша супастаўленне на першы погляд можа здацца неправамерным. На самай справе: інжынер Боян нікога не выдаваў, не грабіў, не забіваў, ён паважаны ўсімі спецыяліст. Але ў тым і ў другім фільме мы бачым, па сутнасці, адно і тое ж—дэградацыю чалавечай асобы. Розныя яе прычыны, у розным асяроддзі яна адбываецца, але дэградацыя—у наяўнасці.

У адной рэцэнзіі на гэты фільм гаварылася: «Пасля пятнаццаці гадоўростані, ужо абцяжараныя сем'ямі і клопатамі, выпадкова сустракаюцца двое людзей, якіх звязвала некалі першае і самае моцнае ў іх жыцці каханне». У другой чытаем: «Героі—Неда і Боян—сустракаюцца ў дарозе пасля семнаццацігадовай ростані...» А ў трэцяй ужо вось што: «Пасля дваццацігадовай ростані сустракаюцца двое...» Калі б крытыка разыходзілася толькі ў вызначэнні тэрміну ростані, то гэта было б для чытача не так важна. Куды важней тое, што крытыкі рэзка разыходзяцца ў ацэнцы паводзін герояў і матываў іх учынку.

«Сустрэўшыся праз многа гадоў», як сказана ў чацвёртай рэцэнзіі, героі пераконваюцца ў тым, што яны па-ранейшаму кахаюць і ніколі не забывалі адно аднаго, але тым не менш яны расстаюцца і на гэты раз—назаўсёды. Чаму ж гэта так? Крытык М. Кваснецкая ставіць герояў на адну дошку, ва ўсім ураўнівае іх і дзеліць віну пароўну. «Разважлівая цвярозасць, у якую яны гулялі ў юнацтве, падрабляючыся пад дзелавых людзей сучаснасці, стала часткай іх натуры. Яны не могуць ужо аддацца сваім пачуццям і захапленням, не знаходзяць маральнай перакананасці для барацьбы за сваё шчасце. Перамагае халодны рацыяналізм. А аўтары фільма—на баку людзей, здольных на высокія, прыгожыя пачуцці». Крытык С. Фрэйліх рашуча абвінавачвае адзін бок: «Героі зноў разыходзяцца, і цяпер ужо ў гэтым вінавата Неда, яна разумее: тое, што было, ужо

немагчыма, асабліва цяпер, калі кожны з іх належыць другому». Крытык Ю. Ханюцін не схільны вінаваціць нікога і аптымістычна верыць, што «мінулае вяртаецца, і выпадковая сустрэча можа многае павярнуць у іх (герояў) жыцці».

Па майму глыбокаму перакананню, гэтая сустрэча, па-першае, нічога не зменіць у жыцці герояў; па-другое, у тым, што яны расстаюцца, ёсць вінаваты; і па-трэцяе, гэты вінаваты—не Неда, а Боян.

Можа каму гэта здасца дзіўным, але я павінен прызнацца, што, калі я глядзеў гэты фільм, які ад пачатку да канца нібыта расказвае пра каханне, я думаў пра палітыку, скажу болей канкрэтна—пра кітайскіх дагматыкаў. Для мяне канфлікт паміж Недай і Боянам—гэта не толькі канфлікт любоўны, гэта канфлікт натуральнасці і надуманасці, шырыні і вузкасці, сектанцтва, розуму, пачуццяў і іх свабоды.

У юнацтве Неда зусім не гуляла ў «развažлівасць» пачуццяў, яна проста пакахала Бояна і таму прыйшла да яго. А ён быў сапраўдным дагматыкам, які лічыў, што каханне толькі тады можа быць шчаслівым, калі адпавядае прадуманым ім пяці пунктам (першы пункт—агульнасць інтарэсаў, апошні—палавое імкненне). І спачатку ён сходзіцца з Недай, грунтуючыся на апошнім пункце, толькі на дзесяць дзён (такога тэрміну патрабавала яго тэорыя).

Зусім натуральна, што чалавек, які трымаецца такіх поглядаў, з часам церпіць маральны крах. Неда ж як была шчырай, натуральнай, праўдзівай, такою яна і засталася. Яна, як і кінакрытык Кваснецкая, разумее, што «сапраўднае каханне часам здольна пераступіць цераз многае». Неда і цяпер кахае Бояна, але пасля доўгіх гадоў ростані яна не хоча прадаўжаць ранейшыя адносіны не таму, што не здольна «пераступіць», а таму, што Боян стаў тым, чым і павінен быў стаць: запрасіўшы яе пасядзець у рэстаране, ён спачатку заходзіць туды адзін, каб паглядзець, ці няма знаёмых, а калі яна, не дачакаўшыся яго, заходзіць у залу і бачыць яго з таварышам, ён вітаецца з ёю, быццам толькі што яны не былі разам. Застаючыся сама сабой, Неда адхіляе такое каханне.

Ці правільна пасля гэтага сцвярджаюць, што герой гэтага фільма нікому не здрадзіў, нікога не абрабаваў, не забіў. Не, ён абрабаваў сябе і любімую жанчыну, ён забіў каханне, ён здрадзіў маральным ідэалам камунізма.

У супастаўленні вобразаў Бояна і Неды я бачу пераканаўчае пацвярджэнне многіх ісцін. І той, што заўсёды, ва ўсім пойдзеш налева—прыйдзеш справа. І той, што камуністычная мараль не канструіруецца з галавы. І той, запісанай у праграме нашай партыі, што камуністычная мараль уключае ў сябе ўсе тыя простыя, натуральныя формы маралі, якія на працягу стагоддзяў выпрацавала чалавецтва. У гэтым і сіла камуністычнай маралі.

З беглага аналізу памянёных вышэй фільмаў відаць, што як сумленныя, прагрэсіўныя мастакі Захаду агаляюць язвы і заганы свайго грамадства, так і мастакі сацыялістычных краін ускрываюць адмоўныя з'явы свайго грамадства, пранікаючы ў сацыяльную сутнасць гэтых з'яў. Але заходнія мастакі, паказваючы зло, як рэальнасць, разгублена спыняюцца перад ім, а іх калегі з сацыялістычных краін, як правіла, не абмяжоўваюцца роляй рэгістратараў і выкрывальнікаў: у іх мастакоўскай пазіцыі адчуваецца сіла грамадства, непрымірымага да зла, якое мае магчымасці яго паправіць ці пакараць.

На фестывальным экране было паказана некалькі вельмі падобных адзін на другі фільмаў пра моладзь, якая аб'ядноўваецца не то ў кампаніі, не то ў шайкі для таго, каб правесці час, як-небудзь з дапамогай адзін другога зацвердзіцца ў жыцці, бо грамадства, як правіла, адмаўляе ім у прызнанні і не дае месца пад сонцам.

У камедыі італьянца Альберта Сордзі «Лонданскія туманы», дзе ён іграе галоўную ролю, перад намі смешная сатыра на гэтых даўгавалосых юнакоў і эксцэнтрычных дзяўчат, якія разважаюць пра тое, што жыць трэба, як расліны і жывёла, што каханне павінна быць абсалютна свабоднае і г. д. Але нам не да смеху, калі мы бачым (і тут камедыя перастае быць камедыяй), як адна група такой моладзі ўступае ў бессэнсоўную, дзікую, крывавую бойку з другой.

У мексіканскім фільме «Кайфаны» расказваецца, як правяла навагоднюю ноч кампанія маладых людзей, хутчэй за ўсё—простых рабацяг, і дзяўчына са сваім жаніхом з арыстакратычнай багатай сям'і, якія выпадкова апынуліся ў адной машыне з кампаніяй. Маладыя людзі весяляцца як маглі: яны былі ў дзікім вертэпе сярод прастытутак і п'яніц, якія пад канец пабіліся, потым едуць на адну з гарадскіх плошчаў і надзяваюць трусы і бюстгальтар на голую статую, потым у пахавальным бюро забаўляюцца тым, што кладуцца ў труны. І хоць яны, гэтыя простыя рабацягі, даволі абыякавыя да ўсяго на свеце, акрамя сваіх грубых забаў, хоць яны вельмі пасіўныя і глухія ў сэнсе маральным, яны ўсё ж лепшыя за таго арыстакратычнага выпладка, які адносіцца да іх з пагардаю, ганарыцца сваім высокім становішчам. І калі адзін з іх жартаў аказаўся даволі рызыкоўны, ён крычыць ім у твар: «Вам няма чаго страчваць! Вы жабракі, ацтэкі, а я архітэктар!» Усё заканчваецца тым, што дзяўчына, перад якою яе жаніх, відаць, упершыню раскрыўся ў такім непрывабным святле, пакідае яго.

Так, безумоўна, гэтыя хлопцы лепшыя, чым жаніх-архітэктар. Яны толькі свавольнікі, хахмачы, выпівохі. Але як сумна становіцца, калі падумаеш, на што яны трацяць сваю маладую энергію і час! І як шкада, што мастак не знайшоў больш значнага аб'екта эстэтызацыі, больш значнай сілы, якая супрацьстаіць грамадству драпежнікаў.

У некаторых фільмах пра гэтую страчаную для грамадства моладзь робяцца спробы паказаць пад заслону яе перараджэнне. Так зрабіў французскі рэжысёр Эдуард Луіс у фільме «Маладыя сэрцы», паказаўшы нам у канцы сімвалічную сцэну рытуальна-ачышчальнага купання сваіх сацыяльна здзічэлых юных герояў у празрыстай вадзе гарадскога басейна. Але гэта нас гэтак жа мала задавальняе, як сімвалічнае ўтапленне бандыта Альфонса з фільма «У сельве няма зор».

Маральнае выпростванне чалавечай асобы, яе далучэнне да свету дабра—працэс складаны і працяглы. Намёк на гэта мы бачым у стужцы амерыканскага рэжысёра Роберта Мулігана (вядомага ў нас па фільму «Забіць перасмешніка»), якая хітра названа «Угару па спускавой лесвіцы». Назва мае глыбокі сэнс. Настаўніцу Сільвію Барэт (ігра артысткі Сэндзі Дэніс адзначана прызам за лепшае выкананне жаночай ролі) з прычыны яе маладосці не пускаюць у ліфт, і яна вымушана падымацца ў клас па лесвіцы, якая служыць для таго, каб школьнікі спускаліся па ёй уніз. Вось так, пераадольваючы сустрэчны паток, усё ўгару і ўгару па спускавой лесвіцы і ўзбіралася маладая настаўніца. Садом у класе, атупелыя вучні, якія нічым не цікавяцца, нацыянальная варожасць, бясконцыя рапарты, зводкі, справаздачы, за якімі губляюцца жывыя людзі. І Сільвія пачынае барацьбу супраць усяго гэтага. Яе галоўная мэта—абудзіць у вучняў чалавечае. І ёй штосьці ўдаецца.

Нельга не спыніцца на характэрным фільме маладога французскага рэжысёра Коста Гаўруса «Адным чалавекам больш». Гэты фільм знаходзіцца нібыта на водападзеле тых рэк, па якіх мы размясцілі і пусцілі плыць да чытача маладых герояў маскоўскага фестывалю.

У цэнтры гэтага фільма—дзея адбываецца ў 1943 годзе ў Францыі ў партызанскім атрадзе—чалавек, які выпадкова трапіў да патрыётаў, але ён свядома не хоча браць у рукі зброю, імкнецца быць «над схваткай», над крывёю і смерцямі. Усім ходам свайго апавядання аўтары фільма асуджаюць такую пазіцыю, пераканаўча паказваючы, што нельга стаяць убаку, калі вырашаецца лёс радзімы. Мы, вядома, даўно гэта ведаем. У тым жа сорак трэцім годзе, да якога адносяцца падзеі фільма, у вершы «Італьянец» Міхаіл Святлоў пісаў:

Я стреляю. И нет справедливости
Справедливее пули моей.

На нашу думку, найбольш цікавымі, глыбокімі, найбольш сацыяльна значнымі з'яўляюцца тыя фільмы маскоўскага фестывалю, у якіх малады герой паўстае перад намі, поўным пачуцця адказнасці і абавязку перад людзьмі, гатовым актыўна абараняць тое, што дорага і важна свайму народу і чалавецтву.

Такі герой шматаблічны, і ў розных фільмах ён раскрывае сваю высакародную чалавечую сутнасць па-рознаму. Вось фільм «Раманс для карнета» (адзначаны срэбраным прызам—спецыяльнай прэміяй журы). Яго аўтар—чэхаславацкі рэжысёр Отакар Ваўра—вядомы сваімі грамадзянскімі сацыяльнымі драмамі «Нямая барыкада», «Усіцкая трылогія», «Грамадзянін Брыхт». На гэты раз перад намі чыстая, паэтычная гісторыя кахання студэнта і дзяўчыны з вандроўнага цырка. Каханне заканчваецца трагічна: у ноч, калі закаханыя рашылі ўцячы, у студэнта памірае дзед, і таму ён не прыходзіць у дамоўлены час на умоўленае месца. Цырк раніцай ад'язджае, дзяўчыну неўзабаве аддаюць замуж за другога, і яна праз год памірае ад тугі і роспачы.

Але тут справа не толькі ў горкім каханні і роспачы. Праз складаны контрапункт кахання і смерці тут сцвярджаецца непахіснасць і вышыня чалавечага абавязку: студэнт не мог пакінуць хворага дзеда, не мог не закрыць яму павекі—у гэтым ён бачыў свой абавязак.

Але было б няправільна разглядаць смерць дзеда толькі як страшную выпадковасць, якая, з аднаго боку, перашкодзіла каханню маладых людзей, з другога—дала герою рэдкую магчымасць прадэманстраваць сваё высокае пачуццё абавязку. Зусім гэтак жа, як у фільме англійскага рэжысёра Лоузі «Няшчасны выпадак», было б памылкова лічыць, што аўтамабільная катастрофа, у якой загінуў малады арыстакрат, студэнт Вілі, толькі выпадковасць, у выніку якой нявеста Вілі, студэнтка Анна, у стане душэўнай узрушанасці і слабасці становіцца любоўніцай свайго і Вілевага настаўніка Стывена.

Справа ў тым, што студэнту і маладой цыркачцы з чэхаславацкага фільма, калі б нават і ўдалося ўцячы, ва ўмовах буржуазнай Чэхаславакіі не было б магчымасці жыць па-чалавечы,—гэта з аднаго боку. А з другога,—маральнае аблічча

абодвух герояў, свет іх пачуццяў такі, што не на гэты раз, дык на другі, не на другі — дык на трэці, але герой абавязкова даў бы нам высокі прыклад усведамлення свайго чалавечага абавязку і маральнай адказнасці.

Што ж да фільма «Няшчасны выпадак», дык яго маральная атмасфера, унутраная сутнасць яго герояў такія, што, калі б не гэты выпадак, дык другі, не другі—дык трэці лёгка і проста маглі б прывесці Анну ў пасцель Стывена. Сапраўды, мы бачым, што Анне як быццам падабаецца Стывен, але чамусьці — выпадак!— яна ўступае ў першы ж дзень знаёмства ў сувязь з яго сябрам Чарлі, да якога не адчувае ніякай прыхільнасці. Прадаўжаючы сувязь з Чарлі, яна чамусьці—выпадак!—рашае выйсці замуж за Вілі. Прыняўшы такое рашэнне, яна не болей як праз гадзіну пасля гібелі жаніха—выпадак!—аддаецца яго настаўніку. А ў самога Стывена жонка, дзеці. Але вось ён, закаханы ў Анну, едзе ў Лондан і там, сустрэўшы сваю дзесяцігадовай даўнасці каханку—выпадак!—праводзіць з ёю ноч.

Калі не ў жыцці наогул, то прынамсі ў асяроддзі рэспектабельных герояў— усё выпадковае,—гаворыць нам Лоузі,—усё адноснае і няўстойлівае, няма ніякіх маральных крытэрыяў і перашкод.

Свет маіх герояў,—гаворыць Ваўра,—гэта трывалы свет чалавечага маральнага абавязку, адданага кахання і чысціні пачуццяў.

У такім жа свеце жывуць героі новага фільма Міхаіла Богіна «Зося» (яго кароткаметражная стужка «Двое» на папярэднім маскоўскім фестывалі была адзначана залатым прызам), пастаўленага студыяй імя Горкага пры ўдзеле аб'яднання «Камера» (Польшча).

Дзея фільма адбываецца ў 1944 годзе. Вайна. Нашы войскі ў Польшчы... Галоўныя героі—дзевятнаццацігадовы савецкі лейтэнант Міхаіл і семнаццацігадовая польская дзяўчына Зося, на якіх абрушылася шчасце і гора першага кахання. «Мне хацелася,—гаворыць Богін,—каб сённяшнія маладыя людзі ўбачылі, якія былі тыя, чыё юнацтва супала з вайной. Яны былі чыстыя і ясныя, і ўбачыць іх такіх карысна цяперашняму, таксама цудоўнаму, але іншаму пакаленню моладзі».

У гэтым фільме няма нічога, акрамя першага кахання, нічога, акрамя першага пацалунка, нічога, акрамя першай ростані, акрамя трох дзён, роўнавялікіх жыццю.

Прадстаўнікоў таго пакалення, якому, на думку М. Богіна, карысна ўбачыць юнакоў і дзяўчат ваенных год, мы сустракаем у фільме Сяргея Герасімава «Журналіст», адзначаным на фестывалі прызам. «Я хацеў,—гаворыць Герасімаў,—паказаць сучаснага маладога чалавека такім, які ён ёсць—з усімі добрымі і дрэннымі, складанымі і супярэчлівымі рысамі характару». У многім гэта рэжысёру ўдалося, асабліва ў першай серыі, дзе мы бачым каларытныя, нацыянальна выразныя, сапраўды рускія характары сучаснай моладзі: рэдактара раённай газеты Сашу Рэўтава, сакратара рэдакцыі Валю, работніцу Шуру Акаёмаву... Афіцэры і салдаты, якіх мы бачым у фільме «Зося», гэта, па сутнасці, бацькі герояў фільма «Журналіст», якія адстаялі для сваіх дзяцей цудоўны свет, поўны радасці і трывог. Яны перадалі, яны перадаюць гэты свет сваім дзецям і ўважліва глядзяць, як яны з ім будуць абыходзіцца. Фільм Герасімава пераконвае ў тым, што моладзь усведамляе ўсю меру адказнасці за той каштоўны цяжар, які перакладваецца на яе плечы. Не адразу, не лёгка і проста, але ўсё ж такі ўсведамляе. Гэта асабліва яскрава паказана на гісторыі адносін галоўнага героя журналіста Юрыя Аляб'ева (В. Васільеў) з Шурай Акаёмавай. Аляб'еў паступова пачынае адчуваць адказнасць за лёс гэтай дзяўчыны, такой цэласнай і чыстай, шчырай і душэўнай, якая па яго віне ледзь не стала ахвярай бруднага, злоснага паклёпу. Шура, жывы, праўдзівы вобраз маладой работніцы, успрымаецца гледачом як увасабленне тых велізарных маральных каштоўнасцей, якімі валодае народ, якія трэба берагчы. У канцы фільма мы бачым Аляб'ева гатовым на гэта.

У «Журналісце» няма герояў вайны, але калі супастаўляеш гэты фільм з фільмам «Зося», то бачыш, што маральная чысціня, душэўная стойкасць герояў Богіна стала часткай унутранага свету маладых людзей нашага часу, паказаных Герасімавым, іх апорай у барацьбе нашых дзён.

Вопыт старэйшых, іх заваёвы, іх натхняльны прыклад—вялікая справа. Але дрэнна, калі моладзь усе свае надзеі ўскладзе на старэйшых, захопіцца іх подзвігам, забыўшы пра тое, што сама абавязана зрабіць у жыцці. Менавіта так здарылася з хлопчыкам Така, героем фільма дваццацідзевяцігадовага венгерскага рэжысёра Іштвана Саба «Бацькі», які заваяваў разам з «Журналістам» Вялікі прыз фестывалю.

У савецкім фільме «Мне дваццаць год»—ён выйшаў на экраны некалькі гадоў назад—ёсць эпізод: маладому герою, які заблытаўся ў складаных супярэчнасцях жыцця, прысніўся бацька. Герой пытаецца ў бацькі: як жыць, што рабіць, дзе выхад з цяжкасцей, у якія ён трапіў? У адказ бацька пытаецца:

— Табе колькі гадоў?
— Дваццаць.
— Ну, а мне дзевятнаццаць.

У свой час адзін вядомы крытык гаварыў, быццам у гэтай сцэне аўтары фільма хочуць паказаць, што старэйшае пакаленне пакідае моладзь на волю лёсу, не хоча ёй памагчы. Але зусім відавочна, што сэнс сцэны зусім іншы: у ёй сцвярджаецца думка аб тым, што, улічваючы вопыт бацькоў, моладзь павінна самастойна шукаць рашэння складаных жыццёвых праблем, сама несці адказнасць за жыццё.

Гэтая важная думка з'явілася асноўнай і ў фільме Саба. Яго герой стварыў у сваім уяўленні ідэальны вобраз бацькі, які загінуў у барацьбе з фашызмам, і гэты вобраз так захапіў яго, так заваражыў, што пазбавіў сваёй волі і актыўнасці да жыцця. Магчыма, з другім кім гэтага не было б, але, гаворыць нам рэжысёр, нельга не ўлічваць і такой магчымасці ў дадзенай сітуацыі. Фільм пераканаўча паказвае, як герой пачынае разумець няправільнасць сваёй пазіцыі і прыходзіць да думкі, што ў жыцці патрэбна самастойнасць, актыўнасць, адказнасць.

Такім чынам, на фестывальным экране перад намі прайшоў шматаблічны, супярэчлівы малады герой нашых дзён. Вопыт гісторыі, вопыт пяцідзесяці год нашай рэвалюцыі вучыць, што сапраўдным героем жыцця з'яўляецца той, хто жыве адным жыццём са сваім народам, стаіць на пазіцыі дабра і гуманізму, на пазіцыі актыўных, творчых адносін да жыцця. Такіх маладых герояў на пятым Маскоўскім фестывалі было многа.

Удзельнікі міжнароднай сустрэчы моладзі, што адбылася летам у Ленінградзе і была прысвечана 50-годдзю Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі, у сваім звароце да юнакоў і дзяўчат нашай краіны пісалі: «Сучаснай савецкай моладзі трэба будзе яшчэ вырашыць многа складаных задач, бо яна першая пракладае шлях да пабудовы новага грамадства. Выкарыстоўваючы дасягненні папярэдніх пакаленняў, аддаючы ўсю сваю энергію, талент і веды, яна сумесна з народам удзельнічае ў іх вырашэнні».

Удзел моладзі разам з усім народам у вырашэнні складаных задач, у барацьбе за пераадоленне цяжкасцей народзіць у савецкім мастацтве, у тым ліку і ў кіно, новыя вобразы маладых герояў, якія стаяць на пазіцыях дабра і чалавечнасці і актыўна адстойваюць гэтыя пазіцыі.



---

**Пра маладых майстроў**
**БЕЛАРУСКАГА КІНО**
**раскажа ў бліжэйшых нумарах**
**Святлана МІХАЙЛАВА.**




# ЭТАПЫ МУЖНАСЦІ І ПЕРАМОГ

**Анатоль ЖУРАЎ. У баях народжаны. Выдавецтва «Народная асвета», Мінск, 1967.**

Ёсць кнігі, якія выклікаюць прыхільнасць да сябе не мудрагелістай назваю, не рэкламнай супервокладкай, а сваімі ўнутранымі якасцямі— глыбінёю думак, багаццем фактаў. У такой кнізе адчуваеш пульс часу, бачыш сябе і сваіх равеснікаў, адчуваеш рэвалюцыйны запал старэйшага пакалення і працоўны энтузіязм карчагінцаў 60-х гадоў. Да такіх належыць кніга Анатоля Журава «У баях народжаны». Аўтар знаёміць чытача з асноўнымі этапамі біяграфіі камсамола, прасочвае, як нараджаўся, мужнеў, набіраўся сілы слаўны баявы атрад Усесаюзнага Ленінскага Камуністычнага Саюза Моладзі—камсамол нашай рэспублікі.

18 кастрычніка 1905 года на плошчы мінскага вакзала на мітынг сабраліся працоўныя, сярод якіх былі і члены маладзёжнай рэвалюцыйнай арганізацыі. Салдаты адкрылі ружэйны агонь па дэманстрантах. Дзесяткі людзей былі забіты, сотні паранены. Аднак крываваму мінскаму губернатару Курлову не ўдалося запалохаць народныя масы, пахіснуць іх веру ў перамогу рэвалюцыі. Члены вучнёўскай арганізацыі знялі з забітага таварыша акрываўленую сарочку і як сцяг прапеслі яе праз увесь горад, заклікаючы да адпору, да барацьбы.

А праз некаторы час член вучнёўскай арганізацыі Іван Пуліхаў кінуў у Курлова бомбу. Толькі дзякуючы шчасліваму выпадку, губернатар застаўся жывы. Пуліхава прыгаварылі да пакарання смерцю. У пісьме да сяброў ён пісаў з мінскай турмы, што памірае, пераконаны ў перамозе над царызмам, і гэта надае яму сілы перанесці ўсё. Ён мужна трымаўся на допытах і загінуў, як герой.

На многіх запамінальных прыкладах аўтар кнігі расказвае пра рэвалюцыйныя традыцыі, якімі жыла перадавая моладзь Беларусі. Шмат месца ён адводзіць і раскрыццю тых умоў, што спрыялі стварэнню камсамола ў рэспубліцы.

Ужо ў кастрычніку 1918 года з'явіліся ў Беларусі першыя камсамольскія арганізацыі. Спачатку ў раёнах, якія не былі акупіраваны кайзераўскімі захопнікамі—у Віцебску, Оршы, Магілёве.

Галоўнай задачай камсамола рэспублікі, як і ўсіх камсамольскіх арганізацый краіны ў той час, было адстаяць у баях з ворагамі рэвалюцыі заваёвы Вялікага Кастрычніка. І сярод тых, хто мужна прайшоў вогненныя вёрсты грамадзянскай вайны, нашаму камсамольскаму племені асабліва блізкае і дарагое імя Уладзіміра Азіна. Ён нарадзіўся на Віцебшчыне. У дваццаць чатыры гады камандаваў ужо стралковай дывізіяй і быў сярод першых кавалераў ордэна баявога Чырвонага Сцяга.

Вялікая даследчая работа праведзена А. Журавым па вывучэнню дзейнасці камсамольскіх арганізацый напярэдадні першага з'езда камсамола Беларусі, які адбыўся 24 верасня 1920 года. Гэта быў, па сутнасці, дзень нараджэння камсамола нашай рэспублікі.

Шмат цікавых старонак прысвячае аўтар выдатным справам камсамольцаў 20-х—30-х гадоў. Чытаеш кнігу і адчуваеш, што яна зараджае цябе энергіяй, энтузіязмам маладога пакалення, якому выпаў гонар актыўна ўдзельнічаць уператварэнні Беларусі з адсталай ускраіны былой царскай Расіі ў рэспубліку высока развітай індустрыі і культуры. Гэта па заклiку камсамола моладзь будавала Гомсельмаш і БелДРЭС, Днепра-Бугскі канал, віцебскую фабрыку «Сцяг індустрыялізацыі» і шмат іншых, садзілася за руль трактара, змагалася за ліквідацыю непісьменнасці.

Пераканаўча паказана барацьба моладзі заходніх абласцей за ўз'яднанне з савецкай Беларуссю. Камсамольскія біяграфіі Сяргея Прытыцкага, Веры Харужай і другіх змагароў супроць фашысцкага прыгнёту назаўсёды запомняцца чытачам кнігі. Ні турмы, ні катаванні, ні смяротныя прыгаворы не здольны былі зламаць волю маладых рэвалюцыянераў. «Камсамол, камсамол! Не пяць, а пятнаццаць, пяцьдзесят год бяссільны вырваць з маёй памяці гэтыя ўспаміны, бяссільны прымусіць мяне забыць пра тое, што камсамол зрабіў мяне бальшавічкаю, выхаваў, загартаваў, навучыў не толькі змагацца, але і любіць рэвалюцыйную барацьбу больш за ўсё, больш жыцця»,—пісала з-за турэмных кратаў Вера Харужая.

Незабыўныя старонкі ў біяграфію камсамола Беларусі былі ўпісаны ў гады Вялікай Айчыннай вайны, у гады жорсткай барацьбы з гітлераўскім нашэсцем. Ордэн Чырвонага Сцяга, што ззяе на агністым сцягу камсамола рэспублікі, дастойны сведка гэтага. У кнізе нямала старонак прысвечана геpaічным справам маладых патрыётаў, выхаванцаў Ленінскага камсамола, што сталі на абарону Радзімы і сваім жыццём адстаялі правa савецкіх людзей на жыццё, шчасце, мір. Фядос Смалячкоў і Барыс Царыкаў, Алена Колесава і Міхаіл Сільніцкі, Анастасся Ціхановіч і Мікалай Кядышка—іх подзвігі, як і геpaічныя справы тысяч другіх вядомых і невядомых герояў, блізкія, дарагія, незабыўныя для нас.

Шмат новых звестак і фактаў можна знайсці ў раздзеле кнігі, прысвечаным пасляваеннаму перыяду дзейнасці камсамола Беларусі. Аўтар здолеў пераканаўча раскрыць пераемнасць пакаленняў, паказаць сілу і баявітасць камсамола як вернага і надзейнага памочніка камуністычнай партыі.

Апошні раздзел кнігі прысвечаны рабоце камсамольскіх арганізацый па ажыццяўленню рашэнняў XXIII з'езда КПСС, XV з'езда ВЛКСМ. У ім раскрываецца працоўны энтузіязм моладзі, яе вернасць рэвалюцыйным баявым і працоўным традыцыям старэйшага пакалення, паказваецца, як юнакі і дзяўчаты ў штодзённых справах дастойна нясуць эстафету сваіх дзядоў і бацькоў, цвёрда крочаць ленінскай дарогай.

Праз усю кнігу праходзіць думка: камсамол заўсёды быў там, дзе цяжэй, дзе гартуецца характар, дзе пралёг пярэдні край барацьбы за светлую будучыню. І дзе б то ні было—у баях ці на франтах мірнай працы—камсамольцы заўсёды апраўдвалі сваё высокае званне, былі прыкладам вернасці Радзіме, партыі, савецкаму народу.

Кніга ўзбагачае чытача новымі звесткамі пра слаўныя справы камсамола Беларусі, спрабуе даць навуковае асэнсаванне яго геpaічнаму шляху барацьбы і перамог.

**Аляксандр КІТАЕЎ.**

# ПАНЯЦЦЕ І ВОБРАЗ

**Міхась РУДКОЎСКІ. Сінія Брады. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1967.**




Міхась Рудкоўскі жыве ўсімі клопатамі і трывогамі нашых дзён. Пачуццё часу ў другой кнізе яго вершаў «Сінія Брады» выяўляецца даволі выразна. Праблема вайны і міру. Дабра і зла. Майданека і Хірасімы. Смерці і бяссмерця. Свайго ўласнага

лёсу: «Не праляцець жыцця б перакаці-полем, да вод грунтовых прарасці б карэннем...» І, вядома, каханне, таму што паэту (дзеля маскіроўкі скажам—лірычнаму герою) дваццаць сем год: самы час кахаць і пісаць пра гэта вершы,—лепшага занятку на свеце не было і не будзе.

Аднак праз усю тэматычную разнастайнасць кнігі як нейкі злучальны нерв праходзіць думка аб адказнасці яго, паэтавага пакалення, за будучыню, трывога за лёс міру і людзей на зямлі. Такі вывад напрошваецца не таму, што ў кнізе многа вершаў на гэтую тэму,—пра гэта гаворыцца ў лепшым вершы. А лепшым—значыць, прадуманым, прачулым, выверапым душой, сэрцам і розумам, значыць—праўдзівым да апошняй літары і кропкі. Вось гэты верш—«Зайздрасць»:

З гадамі ўсё болей і болей
бацьку свайму я зайздрошчу:
ішоў па зямлі ён паважна
з сяўнёю і кідаў у глебу
мазольнай рукой кроплі сонца,
што пахлі так хораша хлебам.
А хлеб пахнуў полем расяным,
і раннем, і гаем кляновым,
і родным дымком жытла.

Нічога асаблівага? Згодзен. Нават, можна сказаць: спрэчна. У тым сэнсе, што цяпер, мауляў, сеюць куды больш прадукцыйным спосабам. Але пачакаем спрачацца—верш жа яшчэ не ўвесь. Яго заключныя радкі ўсё ставяць на свае месца:

Бацьку свайму я зайздрошчу.
А ці пазайздросціш ты мне,
сыне маленькі мой?..

Справа, аказваецца, не ў тым, што бацька сеяў з сявенькі, а сын яго—высокамеханізаваным спосабам. Справа ў той долі працы, якую ўносіць кожнае пакаленне ў агульначалавечую скарбонку. Вось пра што трывожыцца паэт. Вядома, калі разважаць сугуба празаічна, не можа таго быць, каб якое-небудзь пакаленне нічога не ўнесла ў гэтую самую скарбонку. Але паэзія заўсёды крыху наіўная, хоць далёка не ўсё, што з'яўляецца наіўным—паэзія. Ды, уласна кажучы, Міхась Рудкоўскі і не гаворыць тут пра пакаленне. Ён гаворыць пра сябе, а чытач дамысліваε, добра ведаючы пра тое, што асабліва хвалюе маладое пакаленне ў нашы дні.

Так вырашаецца адно з пытанняў, якія трывожаць паэта. Я кажу «вырашаецца» таму, што вельмі часта паставіць у паэзіі пытанне—значыць, вырашыць яго.

Лепшым вершам Рудкоўскага ўласціва грунтоўнасць пісьма, тая запаволенасць апавядання за кошт любоўнага паказу прадметаў побыту і сялянскага ўжытку, які сведчыць пра павагу да чалавека і да ўсяго, што стварaецца і здабываецца яго працай. У такіх вершах апяваюцца простыя радасці жыцця, з якіх аб'яднанымі намаганнямі прадстаўнікоў усіх пакаленняў, што працуюць цяпер у паэзіі, сарваны ярлык нязначнасці, дробнатэм'я. Такая, напрыклад, падзея, як нараджэнне чацвёртага сына ў сям'і лесніка, можа, аказваецца, стаць тэмай слаўнага верша:

Леснічоўка—нібы і прасторная хата—
цеснаватаю стала. Сталы мы пад шаты
кляновыя вынеслі і абрусамі заслалі—
і кілішкі ўзнімаем, закусваем салам,
агуркамі, вяндлінай і, вядома, мёдам—
пчолы шмат нанасілі яго у калоды.

А вось паяўляецца і той, без каго не абыходзіцца такая ўрачыстасць:

Кум, вусаты Антось, асушае заўзята
ўсе кілішкі да дна,—назбіраўся, бы чмель,
і падаўся між хісткіх стваловў на паляну,
дзе гасцям яшчэ ўлетку пасцель
з дзеразы і зуброўкі паслана.

А захмялелы хор грымнуў яму ўслед:

Цераз бор сасна павалілася,
А кума з кумам пасварылася.

Грунтоўна, шчыра, весела і, галоўнае,—праўдзіва.

Паэт імкнецца не толькі паказаць нам свет, але і асэнсаваць яго. І тут трэба сказаць, што далёка не ўсе пытанні, якія ён ставіць, вырашаюцца сродкамі паэзіі.

Вайна... У адным з вершаў паэт задае пытанне: адкуль яна?

«А дзе, скажы, бярэ пачатак зло, што ў прахператварае ўсё жывое і носіць імя чорнае «вайна». Няўжо ў сэрцы?..» Рытарычнае пытанне, як правіла, заключае ў сабе і адказ—інакш яно і не ставілася б. Іменна таму пытанне: «Няўжо ў сэрцы?» наіўнае: вайна пачынаецца не ў сэрцы. А дзе ж? Адказваючы на гэтае пытанне, паэт ідзе здалёк: чалавек быў дзікуном, змагаўся са звярамі, потым пачаў засяваць пажарышчы, потым пабудаваў гарады, напісаў «Монну Лізу» і, нарэшце, прыступіў да штурму космасу. Пра ўсё гэта пісалася так многа і тымі ж словамі,—аж да ўпамінання той жа Монны Лізы,—што кожнае новае паўтарэнне не можа не ўспрымацца інакш, як усё болей і болей астываючая рыторыка.

Рэлігія? За тое, што яго дачка цярпела пакуты, а сын быў аддадзены на разарванне дзікім звярам, чалавек кідае крыж у бездань і «ў сябе ў той міг паверыў». Таксама наіўна. І неяк вельмі лёгка. Таму, што нічога гэтым не растлумачыш: не перастаюць жа верыць усе тыя, хто цярпеў і пакутаваў...



Дабро і зло? У вершы «Сны» паэт бачыць (у сне), як нехта вострыць на некага нож (зноў жа ў сне), падкрадваецца да некага з нядобрым намерам. У гэты час паэт ідзе — зноўтакі ў сне—цераз граніцы, плато і прэрыі: «крочу я з усмешкаю ў вачах» (наўрад ці можна бачыць усмешку ў сваіх жа вачах?). І адбываецца цуд: «знікаюць ночы цені... І каго я на шляху ні стрэну, быццам брат, вітаецца са мной». Але што здарылася? Чаму забойца з нажом раптам стаў такі рахманы? Ды проста таму, што гэтак захацелася паэту, які ведае, што дабро—гэта добра, а зло—блага.

Думка ў вершы можа альбо выводзіцца з рэальнага жыццёвага факта такім чынам, што мы ў пачатку і самі не ведаем, куды вядзе нас паэт,—успомнім цытаваны вышэй верш «Зайздрасць»,—альбо навязваецца чытачу ў гатовым выглядзе. У першым выпадку чытач з'яўляецца як бы сааўтарам паэта, адчувае асалоду сумеснай з ім творчасці; у другім жа ён проста вымушаны згадзіцца з бясспрэчнай ісцінай, якую прыпадносіць яму паэт. У кнізе «Сінія Брады» нямала вершаў, напісаных па гэтаму, другому спосабу. Адсюль—агульнавядомыя ісціны, даўно адкрытыя адкрыцці, празаічныя развагі на зададзеныя тэмы, якія часцяком сустракаюцца ў вершах паэта.

Адсюль жа ідзе і знарочыстая ўскладненасць думкі. Ды яно і зразумела: калі думка не новая, а жаданне выкарыстаць яе ў вершы неадольнае, тады яе трэба схаваць як мага глыбей, прымусіць чытача дабірацца да яе па заблытанаму лабірынту: а можа само падарожжа да яе што-небудзь ды і дасць. Паказальная ў гэтых адносінах «Балада пра палаючы ліст»:

Паперы белы ліст, маўклівы, немы,
крануў сваім дыханнем добры геній,
баразнамі на ім ляглі радкі.
Узмахнуўшы вольна галубіным крыллем,
ліст паляцеў у далі і вякі,
і людзі пра яго амаль забылі...

Пасылка, як быццам зразумелая: горкі лёс генія, які апярэдзіў свой час і якога не зразумелі сучаснікі. Не зразумела толькі, што трэба разумець пад словамі «далі і вякі»? Калі «ліст паляцеў», то «далі і вякі» і ёсць людзі, якія сваім успрынццем і забяспечваюць гэты палёт. Калі ж людзі «амаль забылі», то ніякага палёту быць не можа. Але, можа, наступныя радкі верша растлумачаць незразумелае? Не, далей ідзе ўжо нешта другое:

Аднойчы апусціўся ліст у акопе—
і ўстаў у шынялі вайсковым хлопец
з зямлі на ўвесь свой рост, ружжо адкінуў
у быльнягі, атручаныя дымам.
Ліст, што палаў, салдат у руках трымаў—
вайне і смерці ён прысуд чытаў.

Значыць, думаем мы, гэты твор генія быў напісаны з пэўнай мэтай—асудзіць вайну. Але чаму ён так запазніўся, што людзі паспелі пра яго забыць? Хіба не было зручнага моманту, каб ажыў да яго інтарэс, не было войнаў?.. І вось заключныя радкі:

І на зямлі, грымотамі працятай,
замоўклі аўтаматы і гарматы...

Калі і дзе гэта было? На памяці чалавецтва такога, на жаль, не здаралася. Такое жаданне паэта? Вельмі добра. Але можа і трэба было б пісаць пра гэта, як пра жаданне. А наогул ці варта было простую, зразумелую, шырокавядомую думку пра тое, што слова, часам, бывае мацней за гарматы, абстаўляць такімі радкамі, кожны з якіх не выклікае нічога, апрача недаўменных пытанняў.

Зададзенасцю думкі можна растлумачыць і частыя алагізмы ў вершах Міхася Рудкоўскага. Растлумачыць, чаму яны паяўляюцца, таксама няцяжка: пастаянна аддаляючыся ад асноўнай магістралі верша, аўтар ступае на першую, якая трапіцца, сцяжынку, думаючы, што яна і вядзе туды, куды яму трэба. У вершы «Старыя песні» гаворыцца пра тое, што мінулае з яго войнамі, інтрыгамі каралёў і багоў (?) давала багаты матэрыял гуслярам для сумных песень. «Душа мая,—ускліквае паэт,—памры і ўваскрэсні—напеваў старыны ж не паўтары!» Добрая думка: хопіць інтрыг, войнаў і сумных песень! Але далей у паэта гаворыцца нешта зусім адваротнае: «Ды не забудзь іх, цяжкіх, быццам стогн: яны ж былі для продкаў, як малітвы, як позвы да сякер, каб у новых бітвах ускалыхнуць зямны й нябесны трон». Пры такім павароце думкі ўзнікае пытанне: чаму ж не паўтараць старыя песні? Хіба нябесны і ўсе зямныя троны пустуюць?

Такім бывае спосаб мыслення паэта. Што ж да выяўленчых сродкаў, то старыя думкі ўвасабляюцца ў старыя вобразы: месяц плыве, як човен, або бывае падобны на рог; радкі на паперы параўноўваюцца з баразнамі; людзі трымаюць на сваіх плячах свет, як атланты; воблакі падобны на айсбергі і г. д. Але ж гэтыя параўнанні перасталі імі быць даўно, з таго часу, як былі ўжыты некім другі раз—пасля першаадкрывальніка.

У вершах Міхася Рудкоўскага пакуль што пераважае розум над эмоцыямі, паэт часта толькі называе рэчы замест таго, каб раскрыць іх эмацыянальна. У трыпціху «Дрэвы», напрыклад, гаворыцца пра бярозу, але-

шыну і хвоі... Але гэта толькі словы: «бяроза», «алешына», «хвоі», прадметаў саміх няма, — яны не ўбачаны; гэта навуковыя, калі можна так сказаць, катэгорыі, а не паэтычныя вобразы, якія азначаюць непаўторнасць індывідуальнага, выдзеленага з агульнага.

У чым жа, у такім разе, праяўляецца сутнасць паэта Міхася Рудкоўскага?

Я запрашаю чытачоў зазірнуць у канец кнігі «Сінія Брады», Там апублікаваны вершы «З добрым раннем», «Пакліч мяне», «Лясная элегія», «Давыд-Гарадок». Яны, як і тыя, што цытаваліся ў пачатку, робяць самае добрае ўражанне, іх хочацца чытаць і перачытваць. У чым іх вартасць? Зноў-такі ў грунтоўным пералічэнні дакладных прыкмет нашага сённяшняга жыцця і побыту, у непрэтэнцыёзнасці, у ненавязчывасці. У іх—мастацкі паказ, а не пераказ.

Давыд-Гарадок—чысціні паясок;
рэчка—*аснова*, *песня*—*уток*;
чаўны чаўнакамі
па гладзі снуюць,
дзяўчаты ўзоры
дзівосныя ткуць
з шоўку аблокаў, вясны,
спадзяванняў
ды са спатканняў і мілаванняў.

Магчыма, у далейшым іменна ў гэтым і праявіцца *найболей поўна* талент паэта—у паказе самога жыцця, а не ў даследаванні лагічнага касцяка, які з гэтага жыцця здабываецца.

**Фёдар ЯФІМАЎ.**




# ЗОРКІ ГЛЯДЗЯЦЬ У КАЛОДЗЕЖ

**Павел МІСЬКО. Калодзеж.**
**Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1967.**

У выдавецтве «Беларусь» выйшаў першы зборнік апавяданняў Паўла Місько «Калодзеж». У ім змешчана дзевяць апавяданняў, розных як па тэматыцы, так і па сваіх літаратурных вартасцях. Чытаючы зборнік, часам не адчуваеш, што перад табою малады аўтар і што гэта яго першая кніжка. «Апавяданні Паўла Місько падкупляюць сваёю шчырасцю, цеплынёй, увагай да чалавека працы. За знешняй прастатой, звычайнасцю людзей, будзённасцю іх спраў, паводзін малады празаік умее бачыць вельмі няпросты ўнутраны свет іх, сапраўдную душэўную прыгажосць, чалавечнасць, улюбёнасць у жыццё і працу»,—гаворыцца ў кароткай рэдакцыйнай анатацыі да зборніка, і з гэтым нельга не згадзіцца.

Павел Місько піша пра людзей простых і ў той жа час вельмі складаных, звычайных і непадобных. У цэнтры яго ўвагі—падзеі сённяшняга дня і мінулых, пераважна ваенных, часоў. Пісьменніка цікавяць маральна-этычныя, грамадска-сацыяльныя праблемы, праца і быт людзей. Ён імкнецца адлюстраваць свет думак і спраў нашага сучасніка, выявіць унутраную логіку яго паводзін і ўчынкаў. Жыццёвая сітуацыя ў творах Місько звычайна выступае не ў падзейным, а ў мастацка-аналітычным ракурсе, асэнсоўваецца пад кутом гледжання развіцця характару, як рэальныя абставіны яго быцця.

Адным з найбольш цікавых з'яўляецца апавяданне, якое дало назву зборніку. Пра дзяцей для дарослых пісалася шмат і па-рознаму, але трэба аддаць належнае аўтару: ён умее глыбока пранікаць у псіхалогію «чалавека ў кароткіх штоніках», тонка і дакладна маляваць разнастайныя праявы і рухі дзіцячай душы. Свет, засяроджаны ў дзіцяці, і свет, убачаны ягонымі вачыма, у апавяданні ўзаемна дапаўняюць адзін аднаго, раскрываючы паступовае і непасрэднае



далучэнне дзіцяці да спраў дарослых, да працы і радасцей жыцця. Мажорны, жыццесцвярджальны па свайму гучанню, твор адначасова вылучаецца і гушчынёю пісьма, багаццем выяўленча-аналітычных мажлівасцей.

У апавяданні «Сваяк» ужо зусім іншы свет раскрываецца дзіцяці. У самых вясёлкавых фарбах малявалася гарадскому хлопчыку Ваню паездка ў госці да дзядзькі. Ён спадзяваўся на безліч новых уражанняў, марыў пра сапраўдную рыбалку, але сустрэча са сваякамі не прынесла яму нічога, апрача расчаравання. Пісьменнік уводзіць падлётка ў свет сучаснага «культурнага» мяшчанства, паступова раскрывае перад яго вачыма спажывецкую псіхалогію абывацеля і прыстасаванца. Вобразы «сваякоў» падаюцца ў востра сатырычных фарбах. Асабліва каларытны Васіль Дзянісавіч. За яго рэспектабельнай, на першы погляд, знешнасцю хаваецца ваяўнічы мешчанін і прыстасаванец, які вышэй за ўсё на свеце ставіць свой уласны дабрабыт. Вобраз Васіля Дзянісавіча і само апавяданне «Сваяк»—бясспрэчная ўдача аўтара.

У апавяданнях П. Місько вялікая ўвага аддаецца псіхалагічным характарыстыкам персанажаў. Складаную душэўную драму перажывае Харытоніха—гераіня апавядання «Амяла на бярозе». Калісьці, у гады вайны, яна выратавала ад смерці дзяўчынку і ўзяла яе за дачку. Але клопаты і любоў Харытоніхі не прыносяць шчасця прыёмнай дачцы. Уласніцкія інстынкты, прага нажывы аказаліся ў Харытонісе мацней за бацькоўскія пачуцці. Адгарадзіўшыся ад радасцей жыцця, цалкам захопленая марамі пра багацце, пра ўласную камяніцу, яна нават не заўважае, як паміж ёю і дзяўчынкай вырастае непераадольная сцяна адчужэння. Паказальны фінал апавядання: Харытоніха нарэшце пачынае адчуваць памылковасць сваіх уяўленняў аб сэнсе і каштоўнасцях жыцця, але паправіць ужо нічога нельга: жыццё прайшло міма.

У востра драматычным плане напісана апавяданне «Не поле перайсці». Гэта шчырая і непасрэдная гаворка пра месца чалавека ў жыцці, пра грамадзянскую адказнасць за тое, што адбываецца навокал, пра маральную чысціню і цэласнасць чалавека. П. Місько здолеў стварыць мастацка пераканальны псіхалагічны партрэт Яўгена Мікалаевіча—інваліда вайны і пенсіянера, тонка і паслядоўна раскрыўшы характар яго душэўных перажыванняў, яго, магчыма, празмерна супярэчлівы і нават пакутлівы роздум аб сваім прызначэнні ў жыцці.

У зусім іншым эмацыянальным ключы напісаны твор «Палеская казка». Няхітрая, крыху смешная гісторыя пра тое, як фотарэпарцёр у часе вясновага разліву трапіў у глухую палескую вёску, дае пісьменніку надзвычай удзячны матэрыял для размовы пра духоўную і фізічную прыгажосць простага чалавека, пра натуральнасць яго пачуццяў і ўчынкаў. Сустрэча з мілымі і чулымі людзьмі, «палескаю Мадоннаю», Марыйкаю, і яе залішне сур'ёзным і раўнівым мужам, узбагаціла Юліяна Іванавіча маральна, абудзіла ў яго душы новыя, нязведаныя дагэтуль пачуцці.

Побач з бясспрэчнымі ўдачамі і сапраўднымі здабыткамі ў маладога празаіка ёсць пэўныя пралікі і страты. Дваістае ўражанне пакідае апавяданне «Адліжны дзень». Гэты цікавы па задуме і па намечаных характарах твор яшчэ вельмі далёкі ад дасканаласці. Псіхалагічна невыразным атрымаўся вобраз галоўнага героя—шафёра Валеры. Нягледзячы на тое, што аўтар намагаецца выклікаць да яго сімпатыі з боку чытача, падкрэсліваючы яго сціпласць, прастату, любоў да працы, сам Валера ніякіх іншых пачуццяў, акрамя спагады, не выклікае. Якую мэту ён ставіць перад сабою ў жыцці? Якія рысы нашага сучасніка нясе ў сабе? На гэтыя пытанні вобраз Валеры не можа даць адказу. І сапраўды, ці можа прэтэндаваць на ролю героя бязвольны, бесхарактарны чалавек, які цалкам аддаў сябе ва ўладу абставін, не ўмее і нават не спрабуе пастаяць за сябе і за справу, якой ён вельмі адданы.

Нельга не папракнуць аўтара і ў залішняй прасталінейнасці характарыстык персанажаў, асабліва тых, якія не адпавядаюць яго ўяўленням аб высакародным у чалавеку. Так, людзей абывацельскага складу Зінаіду Міхайлаўну і Васіля Дзянісавіча («Сваяк») аўтар надзяляе не зусім прывабнай знешнасцю. Прыблізна ў такім жа плане падаецца і калгасны фельчар Спірыдон Таранцей («Хутаранка»), гультай і абыякавы да справы чалавек. Па таму ж прынцыпу намаляваны ў апавяданні «Адліжны дзень» партрэт Соні, якая з'яўляецца антыподам «свядомага» Валеры. Фіялетавыя бліскучыя пазногці, блакітнае паліто з пышна-агністым лісіным каўняром, шапка-стаўбун і наогул незалежныя манеры маладой жанчыны,—усе гэтыя дэталі маюць на мэце давесці чытачу, што Соня—легкадумны і несур'ёзны чалавек.

Не ўдалося пісьменніку і апавяданне «Дзямід Варакса». Яно не вылучаецца ні навізною задумы, ні глыбінёй яе мастацкага ўвасаблення. У выкрыцці ўласніцкай псіхалогіі сваіх герояў, якія з боязні страціць свой набытак гатовы былі верыць нават у

добразычлівасць смяротнага ворага, П. Міська не ідзе далей традыцыйных рашэнняў. Праўда, ён робіць спробу паказаць, як стыхійны ўчынак зняважанага і збітага немцамі калгасніка (Дзяміда перасек каменем «важны» кабель) перарастае ў свядомую барацьбу з акупантамі, але робіць гэта непераканальна.

Лепшыя апавяданні, змешчаныя ў кнізе «Калодзеж», даюць падставу меркаваць, што яе аўтар пры сур'ёзным стаўленні да свайго таленту можа стаць з цягам часу вельмі цікавым празаікам.

**Дзмітры ГАЛЬМАКОЎ.**




# СЛОВА ПРА РОДНУЮ МОВУ

**А. КРЫВІЦКІ. Наша родная мова. Выдавецтва «Беларусь», Мінск, 1967.**

Двухразовае выданне кнігі А. Крывіцкага «Наша родная мова» на працягу апошніх двух з палавінай год сведчыць аб вялікай цікавасці да яе шырокага кола чытачоў і аб яе практычным значэнні. Першае выданне (1964) атрымала станоўчую ацэнку ў друку. Другое, перапрацаванае і дапоўненае, выданне (1967), як і першае, раскрывае перад чытачом дзверы ў скарбніцу беларускай нацыянальнай мовы, паказвае, якія ў ёй захоўваюцца багацці і як яны ўтварыліся. Аўтар цалкам зыходзіць з палажэння Ф. Энгельса аб тым, што «матэрыя і форма роднай мовы становяцца зразумелымі толькі тады, калі можна прасачыць яе ўзнікненне і паступовае развіццё, а гэта немагчыма, калі пакідаць без увагі, па-першае, яе ўласныя амярцвелыя формы і, па-другое, блізкія жывыя і мёртвыя мовы».

Кніга адкрываецца характарыстыкай роднага слова, якое ўваходзіць у наша жыццё з вуснаў маці яшчэ ў маленстве. Потым бяскрайняе мора родных слоў увесь час пашыраецца і адкрывае перад намі багацейшыя скарбы матэрыяльнай і духоўнай культуры народаў, якія прайшлі складаны шлях няпісанай гісторыі.

Першы раздзел—«Крыху гісторыі»—апавядае аб генетычнай роднасці моў, якія складаюць так званыя моўныя сем'і. Разам з характарыстыкай славянскай сям'і, якую складаюць дванаццаць жывых моў (беларуская, руская, украінская, польская, сербахарвацкая, балгарская, чэшская, славацкая, славенская, македонская, кашубская і лужыцкая), А. Крывіцкі спыняецца і на мовах мёртвых—палабскай і стараславянскай. Палабы жылі па рацэ Лаба (зараз Эльба). Падпаўшы пад уладу немцаў у XII стагоддзі, яны былі знішчаны, а часткова анямечаны. Гэты працэс цягнуўся доўга. Апошнія гукі палабскай мовы, па сведчанню спецыялістаў, зніклі толькі ў сярэдзіне XVIII стагоддзя. Стараславянская мова не з'яўлялася мовай асобнага славянскага народа, яна была культавай мовай. Пачынаючы з IX стагоддзя, на яе перакладаліся богаслужэбныя кнігі. У X стагоддзі яна пачала ўжывацца і на старажытнарускіх землях у сувязі з прыняццем хрысціянства.

Асобна спыняецца А. Крывіцкі на агульнаўсходнеславянскай мове, з якой 500—600 гадоў таму назад пачалі адасабляцца ў самастойныя беларуская, руская і ўкраінская мовы. Яна прайшла складаны шлях свайго развіцця. Можна меркаваць, што ў ёй мелі месца пэўныя зыходжанні і разыходжанні племянных, а пазней і тэрытарыяльных гаворак. Аўтар слушна заўважае, што з «утварэннем у IX—X стагоддзях адзінай старажытнарускай дзяржавы з цэнтрам у Кіеве (Кіеўская Русь) мясцовыя гаворкі ў сваім рэзвіцці падпадаюць пад уплыў гаворкі жыхароў Кіева і яго аколіц». Для некаторых гэта можа здацца «памылкай» аўтара з той прычыны, што ў эпоху Кіеўскай Русі насельніцтва было амаль скрозь непісьменным, адсутнічалі масавыя сродкі сувязі між рассыпанымі на вялікай тэрыторыі ўсходнеславянскімі плямёнамі, як гэта сцвярджалася ў рэцэнзіі В. Чамярыцкага на першае выданне («Полымя», № 2, 1965). У гэтым плане хацелася б звярнуць увагу чытачоў на той факт, што значныя пласты старажытнай лексікі па фармальных прыкметах словаўтварэння групуюцца ў межах водных басейнаў рэк. Няма сумнення, што апеты ў старажытнай літаратуры Дняпро Славуціч быў жывой артэрыяй моўных сувязей Кіева з землямі, на якіх склалася беларуская мова. Трэба сказаць, што і старажытнаруская пісьмовая літаратура Кіеўскай школы ўздзейнічала на літаратуры іншых школ пісьма і, мабыць, ускосным чынам аказвала моўны ўплыў. Зусім іншая справа, што да нас дайшло вельмі мала пісьмовых помнікаў той пары. Лагічна будзе меркаваць, што на агульнаўсходнеславянскую мову маглі ўздзейнічаць і гаворкі іншых неславянскіх груп. Так, у самым старажытным летапісу, які дайшоў да нас, адзначаецца, што на Русі гаварылі на сваіх мовах чудзь, мера, весь, мурома, чарэмісь, мардва, перм, пячэра, ям, літва, зімігола, корсь, нарова.

Як і ў сувязі з чым адзінае ўсходняе славянства ператварылася ў тры асобныя народы? «Прычынай, якая прывяла да падзелу ўсходніх славян на тры асобныя народы,—зазначае А. Крывіцкі,—было працяглае адасобленае палітычнае, грамадскае і культурнае жыццё розных частак усходняга славянства, неаднолькавасць іх лёсу і гістарычнага развіцця ў сярэднія вякі». Аўтар падкрэслівае такія моманты, як феадальныя міжусобіцы, войны, захоп татара-мангольскай ардой усходніх земляў старажытнай Русі, каланізацыя літоўскімі князямі заходніх і паўднёвых старажытнарускіх земляў. У такіх умовах значна паглыбіліся дыялектныя адрозненні, якія сталі пазней выразнымі рысамі рускай, украінскай і беларускай моў.

У межах Вялікага княства Літоўскага склалася ў асноўным старажытнабеларуская мова. Яна прымаецца ў якасці дзяржаўнай мовы літоўскага княства: на ёй вядзецца справаводства ў канцылярыях і прыватная перапіска, пішуцца заканадаўчыя статуты і дагаворы, вершаваныя творы і акты, палемічныя трактаты і ўставы. На яе нават перакладаецца царкоўна-рэлігійная літаратура. Старажытнабеларуская пісьмовая мова, заснаваная на старажытнарускіх традыцыях, пачынае жывіцца мясцовымі моўнымі сокамі. У яе бурна пранікаюць польскія, нямецкія, лацінскія, царкоўнаславянскія, літоўскія, рускія, украінскія запазычанні. Калі Літоўскае княства аб'ядналася з Польскім каралеўствам, у якім дзяржаўнай мовай была латынь, апошняя «аказвала на заходнерускую мову пэўнае ўздзеянне, прымушаючы яе лічыцца з лацінскімі формуламі і тэрмінамі ў справаводстве, а таксама ў іншых галінах пісьмовых зносін».

А. Крывіцкі з новага боку падышоў да праблемы пранікнення паланізмаў у беларускую пісьмовую мову. «Ужыванне заходнерускай пісьмовай мовы на тэрыторыі Польшчы,—заўважае ён,—пацягнула за сабой, акрамя таго, пранікненне ў яе асаблівасцей жывой польскай мовы». Спатрэбіцца шмат часу і працы, каб вырашыць гэтую гіпатэтычную праблему.

Старажытнабеларуская мова пэўным чынам уздзейнічала на культавую царкоўнаславянскую мову. Некаторыя вучоныя мяркуюць, што існавала самастойная беларуская рэдакцыя царкоўнаславянскай мовы побач з такімі, як сярэднебалгарская, руская, чэшская, сербахарвацкая і румынская. Час вырашыць, наколькі правамернае гэтае меркаванне.

У другім раздзеле кнігі—«На шляхах да роўнасці»—разглядаецца працэс развіцця беларускай нацыянальнай мовы. Гэты працэс аўтар ставіць у сувязь з развіццём капіталістычных адносін і ўздымам нацыянальных рухаў. «Зараджэнню і развіццю ў Беларусі нацыянальнага руху,—зазначае аўтар,—дапамагала гарачая падтрымка лепшых прадстаўнікоў рускага дэмакратычнага руху, іх выступленні супраць рэакцыйнай нацыянальнай палітыкі рускага царызму». Такі дабратворны ўплыў мог з'явіцца толькі ў выніку ўз'яднання беларускага народа з вялікім рускім народам. «Яно (уз'яднанне—**П. В.**),—піша А. Крывіцкі,—выратавала беларусаў ад пагрозы паланізацыі і паступовага растварэння ў польскай дзяржаве».

У аснову беларускай мовы ляглі два асноўныя дыялекты—паўночна-ўсходні і паўднёва-заходні. Даследчык акрэслівае іх межы, важнейшыя фанетычныя і граматычныя асаблівасці кожнага з іх. У межах гэтых дыялектаў устанаўліваюцца больш дробныя групы гаворак, якія ілюструюцца сучаснымі запісамі мясцовых тэкстаў. Пажадана было б бачыць у наступных перавыданнях паралельныя ілюстрацыі тэкстаў, запісаныя ў XV—XVI і XIX—XX стагоддзях. Такія запісы можна падабраць без усялякіх цяжкасцей.

Аўтар акцэнтуе ўвагу на палескіх гаворках Беларусі. Яны па прычыне свайго геаграфічнага становішча захавалі многа каштоўнага.

Трэці раздзел кнігі мае назву «Роўная сярод роўных». Вядома, што агульнанацыянальная мова з'яўляецца магутным сродкам адзінства нацыі. Аўтар паказвае, што нацыянальная мова з'яўляецца складанай сістэмай, у якой адбываюцца разнастайныя працэсы ўзаемадзеяння паміж літаратурнай моваю і мясцовымі дыялектамі. Вялікая роля ў гэтых працэсах належыць пісьменніку, які апрацоўвае і шліфуе «сырую» мову. З гэтага пункту погляду даследчык высока цэніць творчасць буйнейшага паэта і драматурга XIX стагоддзя В. Дуніна-Марцінкевіча. «З яго творчасці, — заўважае ён, — трэба, відавочна, пачынаць гісторыю беларускіх пісьмовых літаратурных норм».

Магутная плеяда таленавітых пісьменнікаў і грамадскіх дзеячоў, якая прыйшла ў літаратуру ўслед за Дуніным-Марцінкевічам — Я. Купала, Я. Колас, Цётка, М. Багдановіч, З. Бядуля, Ц. Гартны і іншыя — узбагаціла літаратурную мову за кошт родных гаворак і ўзняла культуру беларускага мастацкага слова.

Сапраўднага росквіту беларуская нацыянальная мова дасягае ў савецкі перыяд, стаўшы дзяржаўнай мовай. Яна нармалізуецца, папаўняецца лексічна.

Вялікую ролю ў фармаванні яе слоўніка адыграла руская літаратурная мова. Аўтар характарызуе розныя тэрміналагічныя пласты лексікі, знаёміць чытача з праблемамі словаўтварэння, закранае пытанні фанетыкі і пісьма. На жаль, пытанні пісьма ў кнізе асветлены вельмі бегла. Трэба было б адзначыць, што на Беларусі тэксты пісаліся не толькі кірыліцай і лацінкай, але таксама і арабскім алфавітам, дапоўненым спецыяльнымі дыякрытычнымі значкамі. Такія тэксты вядомы ўжо з XVII стагоддзя. Побач з такімі матэрыяламі, як бяроста, кара і іншыя, для пісьма выкарыстоўваліся пергамент і асабліва вапняковыя пліткі, якія некалькі разоў падчышчаліся. Такія пліткі знойдзены пры раскопках старажытнага Полацка.

Нельга пагадзіцца з аўтарам, калі ён паасобныя назвы народаў і іх моў тлумачыць прынцыпам «незразумеласці». Адзначаецца, напрыклад, што нашы продкі лічылі германцаў, у адрозненне ад сябе, «нямымі». Адсюль і пайшло слова «немец». Аўтар праводзіць аналогію з французскай мовай. Аднак у французскай мове існавала дзве назвы для германцаў: **germain** і **allemand**, а ў старажытнабеларускай існавала слова **аламан.** Адсюль можна заключыць, што ў аснове назваў **немец — германец** ляжыць нейкая родавая назва.

А. Крывіцкі быццам бы схільны лічыць, што назва **славяне** паходзіць ад **слова,** якім яны валодалі ў адрозненне ад суседніх «нямых» народаў. Гэта гіпотэза гістарычнымі і лінгвістычнымі дадзенымі не падмацоўваецца. Больш верагодным з'яўляецца пункт гледжання, які звязваецца са словам **слаўны.** Ён падмацоўваецца пазнейшымі летапісцамі, якія адзначаюць, што славяне названы «не от слов, але от славы». На гэта ўказваюць і дахрысціянскія славянскія імёны з кампанентам **слаў:** «Светослав, Ярослав, Преслав, Борислав, Выробислав, то есть который сам собе своею делностю славу выробил, Мстислав, который выймуется за славу, Станислав, становячий собе славу, Мечслав от меча славный» і г. д.

Гаворачы пра старажытнабеларускі перыяд у развіцці нашай мовы, А. Крывіцкі карыстаецца тэрмінам «заходнеруская пісьмовая мова». Гэты тэрмін уведзены ў навуковы зварот, мабыць, не раней XIX стагоддзя. Пажадана карыстацца агульнапрынятым тэрмінам «старажытнабеларуская пісьмовая мова» ці «старабеларуская», які ўжываюць цяпер даследчыкі. Гэтыя тэрміны больш стасуюць да назвы «Белая Русь». Тэрмін «заходні» ў дачыненні да колішніх беларускіх земляў, мабыць, зусім не ўжываўся. Так у некаторых летапісных крыніцах, дзе лагічным было б чакаць спалучэнне «Заходняя Русь», ужываецца тэрмін «белая і чорная Русь»: «Кроника о белой и чорной Руси, Всходной, Полночной, Полуденной».

Аднак недахопы гэтыя ні ў якой меры не зніжаюць вартасці кнігі А. Крывіцкага, якая з'яўляецца значным здабыткам нашай навукова-папулярнай літаратуры.

**Пятро ВЯРХОЎ.**

● ● ●

*Андрэю Упіту*

*дзевяноста гадоў*



# НАРОДНЫ ПЯСНЯР ЛАТВІІ

**Фонды літаратурнага музея Янкі Купалы папаўняюцца новымі матэрыяламі. Мне час ад часу даводзіцца наведваць тыя мясціны, дзе бываў народны паэт Беларусі Янка Купала, сустракацца з людзьмі, з якімі ён доўгія гады сябраваў.**

**Вось і нядаўна я пабывала ў сталіцы Латвіі Рызе і ў яе прыгарадах — Сігулдзе, Скрыверы і іншых.**

**У Скрыверы наведала мемарыяльны дом-музей народнага пісьменніка Латвіі Андрэя Упіта. Гэты дом разам з усімі рэчамі і творамі пісьменнік перадаў у дарунак дзяржаве, лічачы, што самае дарагое павінна належаць народу, якому ён служыць усё жыццё.**

**Тут, у Скрыверы, у сядзібе Калныні, 22 лістапада (5 снежня) 1877 года ў сям'і селяніна і нарадзіўся Андрэй Упіт. Адгэтуль ён пачаў свой складаны і нялёгкі шлях. А пачаўся гэты шлях яшчэ тады, калі маленькі хлопчык пасвіў скаціну ў полі, плёў кошыкі і капелюшы. І першы верш свой ён напісаў тут жа, у Муценіеках, седзячы на стозе сена.**

**Пазней, успамінаючы пра сваё нялёгкае жыццё, Упіт пісаў: «Некаторыя вершы я пісаў, мерзнучы і галадаючы, іншую каштоўную старонку напісаў на дрогкай лаўцы таварнага вагона ці седзячы каля круглага ілюмінатара параходнай каюты. А іншыя няўдалыя работы з'явіліся ў цёплым пакоі за зручным пісьмовым сталом. Я не ведаю, ці ўздзейнічае пара года і іншыя падобныя ўмовы на інтэнсіўнасць літаратурнай працы. Мне на сваім вяку так рэдка ўдавалася выбіраць месца, час, абставіны і іншыя выгоды. Што ўсё гэта мае значэнне — у гэтым не сумняваюся.**



**Янка Купала і Яніс Ніедрэ ў Сігулдзе. 1941 год.**

Але ведаю адно: пісьменнік ёсць пісьменнік заўсёды і ўсюды, інакш ён не пісьменнік».

Бадай, што няма таго літаратурнага жанру, у якім Андрэй Упіт не пакінуў бы свой значны след. Вершы, апавяданні, сатырычныя фельетоны, п'есы, раманы, літаратурна-крытычныя працы,— часам нават здзіўляешся: як гэта мог зрабіць столькі адзін чалавек, няхай сабе і за такое некароткае жыццё.

Яшчэ ў змрочныя гады сталыпінскай рэакцыі Андрэй Упіт заняў адно з першых месц у латышскай прагрэсіўнай літаратуры і выступае побач з вялікім паэтам-трыбунам Янам Райнісам.

У 1911—1912 гадах ён становіцца на чале дэмакратычнага і рэвалюцыйнага лагера ў латышскай літаратуры, узнімаючы ў сваіх творах і артыкулах вялікія грамадскія і філасофскія праблемы свайго часу, прадаўжаючы лепшыя традыцыі вялікіх рэвалюцыйных дэмакратаў Бялінскага, Дабралюбава, Чарнышэўскага.

У жніўні 1917 года кайзераўская Германія акупіруе Рыгу. Упіт не паспеў эвакуіравацца, і ў пачатку 1918 года яго арыштоўваюць. Знаходзячыся ў турме на працягу некалькіх месяцаў, пісьменнік і тут працуе, піша кнігу апавяданняў «Адліга», прысвечаную лютаўскай рэвалюцыі, і пачынае раман «Паўночны вецер».

У 1919 годзе, калі ў Латвіі была ўстаноўлена савецкая ўлада, Андрэй Упіт пераязджае ў Рыгу і ўключаецца ў грамадскую і культурную работу. Працуе ў Наркамаце асветы, арганізоўвае культурныя ўстановы. Пад яго кіраўніцтвам адкрываюцца універсітэт і кансерваторыя.

Летам 1919 года пад націскам міжнароднай рэакцыі ўлада ў Латвіі перайшла ў рукі капіталістаў. Упіт эвакуіруецца ў Маскву. Потым ідзе на фронт. Вясной 1920 года пісьменнік вяртаецца ў Латвію. Буржуазныя ўлады зноў арыштоўваюць яго. У засценках турмы пісьменнік піша апавяданне «Бой вятроў» і амаль заканчвае раман «Паўночны вецер». Хваля пратэстаў працоўных і перадавой інтэлігенцыі прымушае буржуазны ўрад вызваліць Упіта з турмы.

У гэты час рэалістычныя апавяданні Андрэя Упіта ўжо набываюць сусветнае значэнне. Выходзяць зборнікі апавяданняў: «Трэскі ў віры», «За варотамі рая», «Метамарфозы», «Голае жыццё» і іншыя. Пісьменнік піша вялікія даследчыя працы: «Прынцып рэалізму ў літаратуры», «Рэалістычны стыль у літаратуры», «Рэалістычная трагедыя» і іншыя.

З прыходам пасля перавароту 1934 года фашызму да ўлады Упіту было забаронена ўдзельнічаць у грамадска-літаратурным жыцці. Выдавецтвам забаранілі выдаваць яго кнігі, тэатрам — ставіць п'есы. Але сувязь пісьменніка з народам не парываецца. Ён займаецца перакладамі, выступае ў друку пад псеўданімамі, выдае кнігі на асабістыя сродкі.



**1941 год. Удзельнікі I з'езда савецкіх пісьменнікаў Латвіі: М. Рудзіціс, А. Грыгуліс, Янка Купала, А. Упіт, А. Саксэ, П. Віліпс, В. Лебедзеў-Кумач, В. Грэвінь, В. Лукс, С. Барадзін.**

Так працягвалася да 1940 года, калі латышскі народ вызваліўся ад фашысцкага рэжыму і пачаў будаваць новае, савецкае жыццё. Андрэй Упіт выбіраецца дэпутатам Вярхоўнага Савета рэспублікі, вядзе актыўную работу, рыхтуючы I з'езд савецкіх пісьменнікаў Латвіі, які адбыўся ў чэрвені 1941 года.

Пра гэты з'езд больш падрабязна мне расказаў вядомы латышскі пісьменнік Яніс Ніедрэ. На з'ездзе ўпершыню за ўвесь час існавання латышскай літаратуры пісьменнікі абмяркоўвалі пытанні развіцця сваёй літаратуры. Дэлегатамі з'езда былі: А. Фадзееў, М. Ціханаў, А. Пракоф'еў, А. Карняйчук, Я. Купала, П. Броўка, М. Лынькоў. На з'ездзе было шмат цікавых выступленняў. Потым пісьменнікі сустракаліся ў рыжскім універсітэце са студэнтамі і інтэлігенцыяй, чыталі свае творы.

У перапынках паміж пасяджэннямі з'езда дэлегаты фатаграфаваліся.

Вярнуўшыся са з'езда, Я. Купала, П. Броўка і М. Лынькоў прывезлі ў Мінск шмат аўтографаў латышскіх пісьменнікаў, але, на вялікі жаль, усё гэта загінула ў часе вайны. Андрэй Упіт прадаўжаў сябраваць з Янкам Купалам, у ваенную пару яны сустракаліся ў Маскве, і думкі, жаданні ў іх былі адны — каб як найхутчэй вызваліць родную зямлю з фашысцкага палону.

Андрэй Упіт гаварыў: «Янка Купала быў і заўсёды будзе гэтак жа блізкі нашаму пісьменніцкаму асяроддзю, як блізкі быў і будзе беларускі народ латышскаму народу ў нашай вялікай многанацыянальнай савецкай сям'і».

Не менш блізкі беларускаму народу, чым Купала латышам, народны пясняр Латвіі Андрэй Упіт, чыё дзевяностагоддзе сёлета ўрачыста адзначаюць народы Краіны Саветаў.

Ядзвіга РАМАНОЎСКАЯ.

Фота з фондаў літаратурнага музея Янкі Купалы.

# СУСТРЭЧЫ З КУЗЬМОЙ ЧОРНЫМ

1918 год. Жнівень. Мястэчка Цімкавічы, што на Случчыне.

Я сяджу і слухаю вясёлую музыку. Грае на фісгармоніі шчуплы юнак з высокім ілбом і рыжаватым чубам. Бялявы твар яго ўвесь у рабаціннi. Адзеты ён просценька, белая сарочка, цёмныя штаны, на нагах сандалі. Граючы, хлопец закідае крыху назад галаву і падпявае сабе хрыплаватым тэнарам:

«А мы проса сеялі, сеялі...»

Я сустракаўся не раз з гэтым юнаком на цімкаўскіх вуліцах, але сёння пазнаёміўся тут, у доме мясцовага папа Арсеня Жалезняковіча. Юнак — Мікола Раманоўскі, або Каролькаў Коля, як яго звалі местачкоўцы,— вучыцца ў Нясвіжскай настаўніцкай семінарыі.

Песня абарвалася. Мікола падышоў да папавага сына Васіля, працягнуў яму на развітанне руку.

— Што так? Сыграў бы яшчэ што? — прамовіў Васіль.

— Заседзеўся я. Другім разам сыграю...

Мы з Міколам выйшлі на ганак.

— Дзе ж гэта вы навучыліся граць на фісгармоніі? — запытаў я.

— Самапасам. Падбіраю, што прыходзіць...

— З Васілём сябруеце?

— Не, я з ім вучыўся ў Цімкаўскай школе...

Мой новы сябар паклікаў мяне да сябе, на Капыльскую вуліцу.

Недалёка ад завулка, злева, стаяла хата Раманоўскіх. Нізенькі будынак з саламянай страхою. Вузкі двор. У канцы яго садок. У сад пазіраюць вокны суседа Адамовіча.

У хаце знаёмая беднасць і прастэча: пры сценах доўгія лавы, ля парога кросны, шырокая пабеленая печ, земляная падлога пасыпана жоўтым пяском.

Ля печы тупала пажылая жанчына — Міколава маці. Яна ветліва адказала на маё прывітанне і сказала:

— Коля, падай чалавеку табурэтку...

— Не хата, а дварцовая палата,— весела прамовіў Мікола.

Пасля мы з Каролькавым Колем сядзелі на прызбе. На двары моўчкі завіхаўся сам Карл Раманоўскі — высокі ссутулены чалавек з рыжаватымі вусікамі, адзеты не па-летняму: у світцы, цяжкіх ботах і шапцы.

Гаворачы аб тым-сім, мы паглядалі на другі бок вуліцы, дзе пад ліпамі стаяў дом млынара Івана Дамені. Там, я ведаў, жылі прыгожыя дзяўчаты, у Цімкавічах такіх пашукаць.

— Бачыў я, здаецца, вас пад гэтымі ліпамі,— раптам сказаў Мікола.

Пагаварылі трохі пра Міколавых суседак і разышліся. У тую першую сустрэчу мы яшчэ не знайшлі той тэмы, якая стане галоўнаю для нас...

Неўзабаве я зноў заглянуў на Капыльскую вуліцу. Мікола павёў мяне ў садок, пад купчастую грушу-дзічку. У руках у мяне была кніга Леаніда Андрэева.

— Арыгінальны пісьменнік,— узяў у мяне кнігу Мікола і пачаў гартаць.— У каго гэта ў Цімкавічах вы ўзялі?

— У ветэрынара Савіча,— адказаў я.

— Гэта не ў таго, што жыве ў балагола Замкана? Такі... на афіцэрыка падобны? У хромавых ботах і ў гімнасцёрцы колеру хакі?..

— Ён. Цікавы дзядзька...

Я расказаў, што ведаў пра ветэрынара. Папоўскі сын з Віцебшчыны. Вучыўся ў духоўнай семінарыі, пасля кінуў яе і перайшоў у ветэрынарны інстытут, але не скончыў навуку, перашкодзіла вайна і рэвалюцыя. Лёс закінуў яго з жонкаю і сынам у Цімкавічы. Займаецца прыватнай ветэрынарнай практыкай і жыве марамі пра мінулае.

— От тэма для апавядання...— сказаў я.

— А вы пішаце? — Мікола неяк раптоўна ажывіўся.

— Пішу.

— Прынясіце пачытаць.

І тут Мікола прызнаўся, што і ён піша. У гэтую сустрэчу мы папагаварылі. Мы сталі цяпер неяк бліжэй адзін да аднаго і перайшлі на «ты».

На нашу чарговую сустрэчу я ішоў з фрагментамі апавядання, над якім даўно працаваў.

Памятаю, на гэты раз Мікола павёў мяне ў каморку, дзе ён улетку спаў і пісаў. Там было цёмна, цесна і пахла хлебам. Перавернутая бочка служыла за стол, пры сцяне стаяў самаробны вузкі і цвёрды ложак, на якім спаў Каролькаў сын. Мікола запаліў газоўку:

— Ну, чытай!

Я разгарнуў лісткі і пачаў чытаць апавяданне «Іван Галіч», якое пісаў на рускай мове. Мікола ўважліва слухаў.

Калі кончыў чытаць, ён спытаў:

— А далей што будзе?

— А далей? Галіч пападзе ў псіхіятрычную бальніцу і будзе там паміраць... Чужы ў новым жыцці чалавек...

— Не надрукуюць.

— Чаму?

— От каб ён кінуў піць морфій і зрабіўся патрэбным для грамадства чалавекам — тады іншая справа...

— Наперакор праўдзе?

Мікола хітравата глянуў на мяне:

— А напісана пад Андрэева... Не надрукуюць...

— Ну што ж, буду пісаць для сябе...

— Як гэта — для сябе? Пісаць — гэта не забава...

Памятаю, што тое апавяданне Міколы Раманоўскага называлася «Сямён Гірэй»; напісана яно было па-руску.

Змест яго прыблізна такі. Па гарадской плошчы хадзіў валацуга і злодзей Гірэй. Гандляркі ведалі яго і баяліся. Потым ён нешта ўкраў. Яго злавілі і моцна адлупцавалі. Нарэшце Гірэй вырваўся, і тут на дапамогу яму прыйшоў рэвалюцыянер-падпольшчык. З гэтага часу ў жыццё беднага валацугі ўваходзіць нешта новае, светлае...

Скончыўшы чытаць, Мікола памаўчаў і палажыў лісткі на бочку-стол.

— Лепш, як у мяне, — сказаў я. — Чалавек пойдзе па вернай дарозе... І напісана ў цябе пад Максіма Горкага.

Ён кіўнуў галавою:

— От, от яно... Не знайшлі мы яшчэ саміх сябе. Гэта прыходзіць не адразу. А ўзяў я гэта з вяземскіх назіранняў. Канцоўку, вядома, прыдумаў.

Я ведаў, што Нясвіжская настаўніцкая семінарыя была восенню 1916 года эвакуіравана ў Вязьму.

Мікола тым часам пачаў перабіраць свае паперы, знайшоў пажоўклы канверт, раскрыў яго і падаў мне нейкі ліст. Гэта быў адказ з рэдакцыі вядомага рускага часопіса «Нива». Супрацоўнік рэдакцыі паведамляў, што апавяданне «Сямён Гірэй» будзе апублікавана ў адным з бліжэйшых нумароў. Унізе дата — 1917 год. Месяца і чысла не памятаю...

— І што ж, надрукавалі? — запытаўся я.

Ён пацiснуў плячыма:

— Не ведаю. Мабыць, не... І сам часопіс прапаў. Ці не стаў даходзіць ці, можа, закрыўся...

Надышоў 1919 год. З Міколам мы сустракаліся часта. Дні насталі суровыя. У Цімкавічах ужо гаспадарылі палякі.

Калі Чырвоная Армія выгнала акупантаў з Цімкавіч, дзяржаўная граніца прайшла блізка каля мястэчка. Нясвіж застаўся на той бок мяжы, і Міколу не давялося кончыць настаўніцкую семінарыю.

Мы па-ранейшаму жылі дружна. Мікола, я ведаў, увесь час пісаў, але мне не паказваў. Аднойчы вясною 1923 года ён разгарнуў перада мною газету «Савецкая Беларусь» і, задаволена ўсміхаючыся, паказаў апавяданне «На граніцы», падпісанае «Кузьма Чорны».

Для мяне гэта было навіною.

Неўзабаве Раманоўскі стаў студэнтам Беларускага ўніверсітэта, але правучыўся там нядоўга, пайшоў працаваць у рэдакцыю газеты «Беларуская вёска». Потым ужо, неяк у Мінску, я запытаў Міколу, чаму ён пакінуў універсітэт.

— З настаўніцтвам маім цяпер пакончана назаўсёды,— адказаў ён.— Лінгвістычныя мудрасці і саматугам адолець можна. Неяк на студэнцкіх семінарскіх занятках разглядалі апавяданні маладых пісьменнікаў. Пайшла гаворка і пра Кузьму Чорнага, а я тут сяджу побач... *Паслухаў гэта я іх, паслухаў, а потым цішком устаў і ходу.* Гаварыце, браткі, што хочаце, думаю сабе, а я буду пісаць, гэта лепш...

У сакавіку 1925 года я прыехаў у Мінск. Перш заглянуў у рэдакцыю, адведаў Міколу. «Беларуская вёска» тулілася ў невялічкім пакойчыку, на тым самым паверсе, дзе і «Савецкая Беларусь». У пакойчыку сядзелі тры чалавекі — уся рэдакцыя «Вёскі»: высокі чарнявы чалавек з барадою — Шукевіч-Трацякоў, рэдактар газеты; бялявы плячысты юнак Пятрок Рагачэўскі, які, як я потым даведаўся, апрацоўваў шматлікія допісы селькораў; трэці быў Мікола. Угледзеўшы мяне, Мікола весела падняўся насустрач:

— Го-го-го! Каго бачу!

Мы зноў пачалі сустракацца то ў рэдакцыі, то я прыходзіў да Раманоўскага на кватэру. Здымаў ён два невялікія пакойчыкі ў прыгожым драўляным доме. Абстаўлены пакойчыкі былі гаспадыняй на старамодны лад: мяккія рознакаляровыя крэслы, канапа, фікусы, карункавыя фіранкі. У большым пакойчыку стаяў палітураваны стол, за якім Мікола пісаў свае апавяданні. Тут мы часта вялі спрэчкі, тут мне давялося пазнаёміцца з Адамам Бабарэкам.

Часта мы хадзілі ў Беларускі тэатр, разоў тры, калі не больш, глядзелі мальераўскага «Мешчаніна».

Потым не без уплыву Кузьмы Чорнага я зноў пачаў пісаць, напісаў апавяданне «Хлеб» на рускай мове і нечакана для самога сябе вясёлае апавяданне па-беларуску «Фізкультура на вёсцы».

Маё апавяданне Чорнаму спадабалася, і яно праз два-тры дні з'явілася ў «Савецкай Беларусі» за подпісам М. Кліменскі. Потым я надрукаваў верш «Вясна ў Мінску», апавяданне «Праз дно кілішка». Мікола ўважліва сачыў за маімі першымі крокамі і заўсёды папярэджваў, што літаратурная праца — не забаўка, а цяжкая і сур'ёзная справа. Але аддацца па-сапраўднаму любімай справе мне не давялося: неўзабаве я атрымаў з Цімкавіч павестку, мяне прызывалі ў Чырвоную Армію.

Восенню 1928 года я прыехаў з Бранска, дзе праходзіў вайсковую службу, у Мінск. Зайшоў, зразумела, да Міколы. Ён ажаніўся і жыў на новай кватэры. Сустрэліся мы, як заўсёды, цёпла і радасна. Гэта была наша апошняя сустрэча.

**Мікалай КЛІМЕНКА.**

● ● ●

# ПРА МАЙГО ДАРАДЦУ

Чалавек гэты на ўсё жыццё застаўся ў маім сэрцы. І чым большай становіцца адлегласць між даўнімі сустрэчамі, тым выразней яны прыгадваюцца. Быццам учора гэта было. Аж не верыцца, што мінула трыццаць гадоў ад апошняга развітання.

Асенні вечар. Сее дробненькі-дробненькі дожджык. Не дожджык, а імгла. Туманам ахутаны вулічныя ліхтары. Мокрыя тратуары блішчаць ад скупога святла вітрын. На сценах дамоў, на франтонах, на кромках дахаў падсвечаная лічба — XIX. Усім зразумела, што яна азначае.

Першая гадзіна ночы. Першы дзень дваццатага года навейшай эры чалавецтва. Святочны вечар у Доме пісьменніка перайшоў у трэцюю фазу: танцы, гульні.



Кузьма Чорны і Юрка Гаўрук. 1927 год.

— Самі, здаецца, таксама не маеце хэнці да скокаў? — спытаў у мяне Кузьма Чорны пасля вячэры.

— Не,— кажу,— ніколі не займаўся гэтым.

— То ці не пададзімся, вашэць, дахаты? Балазе нам у адну дарогу.

Я згадзіўся, і мы ідзём па амаль пустой Савецкай вуліцы.

У той вечар Кузьма быў негаваркі, што здаралася з ім вельмі рэдка. Звычайна ён або сам расказваў штонебудзь цікавае, або распытваў у спадарожніка. Я трохі здагадваўся аб прычыне і не адважваўся надакучваць сваёй гаворкай. Але пра гэта пазней. Спачатку пра першае знаёмства з ім.

1923 год. Адзіны чалавек у нашай вёсцы, хто атрымлівае газету «Савецкая Беларусь» — старшыня сельсавета Максім Гурскі. Вечарамі да яго прыходзяць вяскоўцы паслухаць, што на свеце дзеецца, што цікавае ў газеце. Я кожны нумар «Савецкай Беларусі» бяру чытаць дахаты. Там я і наткнуўся на апавяданне «На граніцы». Ад нашай вёскі граніца таксама была за паўвярсты, чаму яшчэ больш і зацікавіў мяне твор. Цеплынёй сэрца, чалавечнасцю захапіла апавяданне Кузьмы Чорнага. З якой нецярплівасцю чакаў я наступныя нумары ў надзеі знайсці там новы твор пісьменніка.

Дарэчы, колькі мастацкіх твораў друкавалі тады беларускія газеты, якую паслугу рабілі ў папулярызацыі літаратуры!

Праз год мне давялося асабіста сустрэцца з Кузьмой Чорным. Пазнаёміў нас Алесь Матусевіч, супрацоўнік «Беларускай вёскі». Я трапіў да яго з невялічкай замалёўкай. Ён прачытаў і кажа:

— Пачакайце тут, я пакажу Кузьму Чорнаму. Што ён скажа.

— А хіба Кузьма Чорны працуе ў вас? — спытаў я..

— У нас. Вы яго ведаеце?

— Не, я чытаў яго добрыя апавяданні ў «Савецкай Беларусі».

— Тады хадзем, пазнаёмлю вас.

Мы зайшлі ў невялічкі пакой, дзе стаялі два сталы ўпрытык. За адным сядзеў бялявы, з некалькімі маленькімі вяснушкамі на твары чалавек і чытаў газету. За другім — вышэйшы на рост, з чорнай разложыстай барадой нешта пісаў. Як толькі Матусевіч зачыніў дзверы, чалавек, што чытаў газету, гучна зарагатаў і, тыцнуўшы пальцам у «Аддзел здарэнняў», падаў газету:

— Чытай, Матус, як пад Рудзенскам хлопец-урвіцель трапіў у пастку. Сілком спакусіў шасцідзесяцігадовую ўдаву, а цяпер тая патрабуе, каб замуж браў. І прыйдзецца, мусіць, браць...



Чорнабароды рыўком падняўся з-за стала, кінуў на хаду: «Я ў гарком» і выйшаў. Я з жалем правёў яго вачыма і падумаў: «От мы і пазнаёміліся». Як пазней я даведаўся, гэта быў рэдактар Шукевіч-Трацякоў.

Матусевіч хуценька прабег вачыма «здарэнне», палажыў газету на стол і спагадліва сказаў:

— Не зайздрошчу хлопцу. Пры цяперашніх законах не паздаровіцца,— і падаў маю замалёўку бяляваму чалавеку: — Прачытай, Кузьма, ды пазнаёмся з нашым селькорам Алесем Вясковым. А гэта і ёсць той Кузьма Чорны, апавяданні якога падабаюцца вам,— звярнуўся да мяне Матусевіч.

Кузьма Чорны ўстаў і падаў руку. Гэта быў сярэдняга росту чалавек у цёмна-сінім гарнітуры, у чаравіках. Ён акінуў мяне позіркам з галавы да ног і лагодна ўсміхнуўся:

— Дык вунь які вашэць стрынгалявяты...

Я сапраўды быў тонкі і рослы. Танклявасць пры маім росце надавала яшчэ большую вышыню. На мне былі хромавыя боты, картовае паўгаліфэ і паркалёвая — белая ў крапінку — рубашка. Падпяразаны я быў вышытым поясам з кутасікамі. Азіраючы мяне, Кузьма Чорны адразу, відаць, перанёсся думкамі ў вёску, бо тут жа сказаў:

— Рыхтык вясковы кавалер. За такім дзяўчаты павінны самі ўпадаць. Як ты думаеш, Матус?

Я адчуў, што чырванею, і апусціў вочы.

— Кузьма, не бянтэж хлопца,— скрывіўся Матусевіч.

— Барані мяне, божачка, нават ад такой думкі, каб бянтэжыць чалавека! Ды яшчэ на першым знаёмстве...— Ён яшчэ раз уважліва акінуў мяне позіркам і запрасіў сесці на адзінае для наведвальнікаў венскае крэсла.

Матусевіч развітаўся, а Кузьма Чорны пачаў распытваць у мяне, як жыве наша Прусінава, ці добрыя ў людзей коні.

— У нас,— кажу,— нішто. Ардэн. У іншых — як у каго.

— А зямля якава на ўрадлівасць на вашай Уздзеншчыне?

— Хваліцца няма чым,— кажу.— Пяскі, балоты.

— То ў нас, на Капыльшчыне, куды лепшая, панечку мой.

— Мне казаў тата, што ў вас добрыя землі. Чарназём нават пракідаецца.

— Яшчэ колькі, ага!.. А самі з патрэбай якой прыехалі, ці можа ў госці да сваякоў?

— Прыехаў,— кажу,— праведаць, ці нельга дзе паступіць вучыцца.

— А якую школу, вашэць, скончылі?

— Тры класы гімназіі.

— Гэта амаль сямігодка. Малавата. Вучыцца, канешне, трэба. І куды думаеце падацца?

— Мне ўжо дзевятнаццаць гадоў. Для такіх перарасткаў, кажуць рабфакі ёсць.

— Ёсць. На Чырвонаармейскай вуліцы, за скверам. Але туды, я чуў, з вёсак прымаюць па камандзіроўках райана. Схадзіце, даведайцеся.

У гэты час за акном чырыкнуў верабей. Кузьма Чорны зірнуў і кіўком галавы паказаў мне:

— Прыляцеў мой гараджанін частавацца,— і, высунуўшы шуфлядку, дастаў загорнутыя ў паперку крошкі, відаць, ад снедання, і пасыпаў на карніз. Верабей адляцеў убок і пазіраў адтуль. Чорны ласкава пажурыў яго: — Ну, чаго табе, другому, у духаце жыць? Ляцеў бы за горад і раскашоўваўся там. Дык не, тут аціраешся...

— Прывучылі,— кажу.— Мы дома толькі снегіроў ды сінічак зімою падкармліваем.

— А як не прывучыш: жывое стварэнне.... Пакуль душа ў целе, трэба жыць, як той казаў, і яму.

Кузьма Чорны пры мне прачытаў замалёўку і, зрабіўшы некалькі заўваг па мове, сказаў: «Выпраўлю пры здачы ў набор».

Асмялелы ад цёплай, шчырай гаворкі, я кажу на адыходзе, што зусім не такім уяўляў сабе Кузьму Чорнага. Нават, яшчэ, зайшоўшы сюды, памыліўся.

— Думалі, што я сапраўды чорны... А выходзіць — бялявы,— усміхнуўся ён і тут жа дадаў: — Не вы першы кажаце мне пра гэта.

Паступіў я на рабфак праз год і меў магчымасць часцей бачыцца з Кузьмой Чорным. Кожны раз ён цікавіўся, як падаецца вучэнне, як прывыкаю да гарадскога грукату, тлуму.

— Я толькі і адпачываю, калі забіраюся на ціхую вулачку,— сказаў ён мне аднаго разу.

Мае першыя нясмелыя крокі ў літаратуры Кузьма Чорны заўсёды падахвочваў, робячы шчырыя заўвагі. Памятаецца, пасля надрукавання ў «Чырвонай змене» апавядання «Перакоша» ён сказаў:

— У саміх ёсць не благая назіральнасць. Развівайце яе. Для пісьменніка гэта вельмі патрэбна. І мову старайцеся даваць жывую. Прыслухоўвайцеся, як гавораць людзі — вашы будучыя героі.

Пісаў я тады мала. Як кажуць, гады ў рады. І гэта хутка заўважыў мой настаўнік. Заходжу аднаго разу ў рэдакцыю. Ён карпеў над апрацоўкай селькораўскіх допісаў — яны займалі тады дзве, а то і тры старонкі «Беларускай вёскі». Даў мне адзін допіс адрэдагаваць. Я зрабіў і даў паглядзець работу.

— На першы пачатак няблага. Перапішыце разборліва, каб можна было ў друкарню здаць,— падаў мне допіс і вузкую палоску чыстай паперы. Такі спосаб здачы матэрыялу ў друк практыкаваўся ў той час рэдакцыямі.

— Нешта я саміх даўно бачыў? — спытаў ён тады ў мяне.

— Я ж тыдні два назад заходзіў. Забыліся, мусіць?

— Я маю на ўвазе — у друку.

Каб загладзіць сваю ніякаватасць, я спаслаўся на няхватку часу:

— Скончу рабфак і вазьмуся пісаць.

— Думаеце, тады пабольшае часу? — з выглядам спрактыкаванага чалавека паглядзеў мне ў твар Кузьма Чорны.— Яго ніколі не будзе хапаць. А пісьменніцкая праца не любіць адкладу. Хоць гадзіну-дзве знаходзьце для яе на дзень, калі па-сур'ёзнаму думаеце займацца літаратурай...

Нешта ў 1933 ці 1934 годзе Кузьма Чорны, ужо вядомы ў той час пісьменнік, пераязджаў у трохпакаёвую кватэру ў новым цагляным доме па вуліцы Свярдлова. Гэта было вялікай падзеяй не толькі для самога Кузьмы Чорнага, але і для ўсёй пісьменніцкай арганізацыі. Бо новыя дамы будаваліся тады гадамі, ды і будавалі іх вельмі ж мала.

Алесь Якімовіч, які жыў з сям'ёй у швагра, перабіраўся ў Кузьмову кватэру (пакойчык з кухняй) у старым драўляным доме па Чырванасцяжнай. Яны ўмовіліся, што Якімовіч прывязе свае рэчы на грузавіку і на гэтай машыне Кузьма Чорны адвязе свой скарб.

Якімовіч і я працавалі тады ў «Іскрах Ільіча», і я памагаў яму пераязджаць. Прыехалі мы на Чырванасцяжную раней, чым было дамоўлена, бо шафёру не выпадала ў другі час. Убачыўшы нас, Чорны занепакоіўся:

— А братачка мой, што ж ты параніўся так з прыездам? Мае ж памочнікі яшчэ не прыйшлі. Хто ж мне паможа пагрузіцца ды згрузіцца?

— То можа я памагу? Шафёра папросім,— кажу.

— А братачка мой, ото дзякуй. А то хлопцы прыйдуць, а машыны не будзе. Дзе яе пасля ўхопіш? — і падбегам заспяшаўся ў хату выносіць клункі.

Мы хутка пагрузілі небагаты набытак, і я з Кузьмой залезлі ў кузаў машыны, а жонка яго Рэвека Ізраілеўна з дачушкай селі ў кабіну. Выйшаў Якімовіч, бачыць — мы ў кузаве, і хуценька да нас.

— Алесь, Кузьма, чаго ж вы залезлі на машыну? А замачыць? Гэта ж і на-

васелле, а з табою, Кузьма, і барыш на перадачу з адных рук у другія. Злазьце. Па чарцы хоць возьмем.

— О не, братачка, адсюль ні ён, ні я не злезем ужо. На наваселле зойдзем другім разам ды не з пустымі рукамі. За барыш дзякуй, Алеська. А па чарцы мы вып'ем з ім у мяне. І мая Рэня таксама прыпасла.

— Ну як жа так, Алесь...— развёў рукамі Якімовіч.— Памагаў столькі і не акрапіць майго прытулку?

— Ды вось так: перахапіў я яго!— зарагатаў Чорны і, нагнуўшыся, гукнуў шафёру:— Паехалі...

Трэба было бачыць, з якой радасцю паказваў Кузьма Чорны сваю кватэру.

— І кухня не параўнаеш з тою. І выгоды ўсе ў хаце. А гэта, панечку мой, многа значыць для чалавека. І вада сама бяжыць,— павярнуў ён кран,— не тое, што там за блізкі свет хадзіць даводзілася. Тут будзе маё рабочае месца,— зайшлі мы ў прадаўгаваты пакой.— Такі прастор! Можна добры стол паставіць. І на кнігі месца знойдзецца. А захочацца пахадзіць — хадзі, панечку мой, з кутка ў куток, колькі ўлезе. І падлога не рыпіць пад нагамі, як на той старой кватэры,— прайшоўся ён упоперак па дошках.

Пакуль мы гаварылі ды з большага парадкаваліся, Рэвека Ізраілеўна падрыхтавала на стол і запрасіла нас. Я падзякаваў, але гаспадар і гаварыць не даўся.

— Не адмаўляйцеся, егамосцю. Самі з'яўляецеся першым чалавекам, які пераступіў парог маёй новай хаты.

Мы прыселі ў прасторным пакоі і паднялі чаркі.

— Ну, калі мне першаму выпала такое шчасце вітаць з наваселлем,— кажу,— то будзьце здаровыя, шчаслівыя на новым месцы, ды грошы хай вядуцца заўсёды ў хаце, пакуль не зракліся іх людзі. І каб новыя творы часцей з'яўляліся на свет... Што ж яшчэ пажадаць вам? — пытаю.

І тут Чорны падказвае мне, глянуўшы на згрувашчаныя рэчы:

— Каб гэты набытак згніў на сваім месцы.

Рэвека Ізраілеўна здзіўлена паглядзела на мужа: «Што гэта яшчэ за пажаданне?»

Гаспадар зарагатаў.

— А ты, Рэнечка, аж спалохалася, што я напрасіўся на такі тост? — і звярнуўся да мяне:— Раскажыце, егамосцю, што гэта азначае.

Два разы ў жыцці, хлапчуком яшчэ, я назіраў у сваёй вёсцы, як цесляры, засноўваючы першы вянец новае хаты, клалі на вугал срэбную гаспадарову манету. Гэта — на шчасце, каб вяліся ў хаце грошы. А п'ючы тут жа чарку, казалі: «Дай жа божа, каб гэты вугал згніў на сваім месцы». То быў заклён ад пажару. І цяпер за першай чаркай у новай кватэры Кузьма Чорны прыгадаў яго.

І вось мы ідзём з Дома пісьменніка з урачыстага вечара, прысвечанага XIX гадавіне Кастрычніка. Я праводжу Кузьму Чорнага да знаёмага чырвонага дома. Падаю руку на развітанне. Ён затрымлівае ў сваёй і звяртаецца да мяне з уласцівай яму манерай абыходзіцца без імя, па прыкладу сваіх герояў з вясковых шляхетных сем'яў.

— Вы ж таксама, васпан, добра ведалі Сымона Баранавых?

— Ведаў,— кажу.— Сем гадоў вучыліся разам, сябравалі ўвесь час пасля ўніверсітэта.

— То што самі думаеце пра мітрэнгу з ім? Мне ўсё ж не верыцца, каб ён быў ворагам Савецкай улады. Наклялаў нехта. Тое можа стацца і з намі, калі захочацца каму...

Як чалавека глыбокай сумленнасці, шчыра адданага Савецкай уладзе, я ведаў Сымона не менш, чым Кузьма Чорны, і ахвотна пагадзіўся з яго думкай.

Чорны моцна паціснуў мне руку і трошкі павесялеў. Тое, што хвалявала яго ў дарозе, развеялася, відаць. Ён загаварыў пра надвор'е, пашкадаваў, што калі не палепшыцца да раніцы, то дэманстрацыя не будзе мець такой урачыстасці, як у сонечны дзень.

Я жадаю спакойнай ночы, Кузьма Чорны адказвае: «Дай жа, божа, каб усё было добра». Колькі разоў у дзяцінстве я чуў такія развітальныя пажаданні з бацькавых вуснаў, калі суседзі прыходзілі са сваім горам ці бядой. Мы разыходзімся: Кузьма Чорны ў пад'езд, а я за вакзал, на Красівую. Ні аднаму з нас не прыйшло тады ў галаву, што гэта было апошняе развітанне.

У жніўні 1946 года пасля доўгае адлучкі я прыехаў у Мінск. Агледзеўся трохі дома і пайшоў адведаць свайго былога рэдактара Алеся Якімовіча. Мы доўга расказвалі адзін аднаму пра перажытае за час разлукі. Потым гаворка перайшла на тое, хто ўцалеў з пісьменнікаў пасля такой лютай навалы.

Громам сярод яснага дня было для мяне пачутае ад Якімовіча:

— Другі год няма ўжо нашага Кузьмы.

У мяне міжвольна навярнуліся слёзы, не хацелася верыць, што не ўбачу больш гэтага добрага, чулага, неабдымнай душы і сэрца чалавека.

Восень 1956 года. Я пераехаў на новую кватэру. І, як звычайна бывае ў такіх выпадках, пачалося знаёмства з суседзямі.



**Беларускія пісьменнікі — госці воінскай часці. У першым радзе сядзяць: Уладзімір Дубоўка** (другі злева), **Алесь Гурло** (трэці злева), **Кузьма Чорны** (пяты злева). **У другім радзе: Алесь Дудар** (першы злева), **Анатоль Вольны** (трэці злева), **Язэп Пушча** (чацвёрты злева), **Паўлюк Трус** (пяты злева), **Алесь Якімовіч** (восьмы злева). **У трэцім радзе: Рыгор Мурашка** (стаіць першы злева).

Аднаго дня заходзіць да мяне суседка. Пазнаёміліся. Агаф'я Пратасьеўна Мухаморава. Запрашаю садзіцца. Аглядае з цікаўнасцю пакой і спыняе позірк на кнігах.

— Можа і Кузьмы Чорнага ёсць?— кіўнула на паліцу.

— Ёсць,— кажу.— А вы чыталі што яго?

— Дзе мне чытаць, непісьменнай... Мікалай Карлавіч кватараваўся у мяне.

— Калі ж гэта было?

— Даўно. Як толькі прыехаў са сваіх Цімкавіч у Мінск вучыцца на пісьменніка. Нешта ў дваццаць другім ці трэцім годзе. Мы тады жылі на Койданаўскім тракце, цяпер вуліца Чкалава, у дзевятнаццатым нумары — адразу за бетонным мостам драўляны дом. Самі здымалі кватэру з двух пакояў і адзін здавалі Мікалаю Карлавічу. Ён плаціў нам пуд мукі, а мы адразу аддавалі яе гаспадыні. Жылося нам пасля той вайны, самі ведаеце, цяжка. Мой муж Павел Сцяпанавіч працаваў стрэлачнікам на таварнай станцыі, а сям'і было пяць чалавек. Не надта разжывешся на тую зарплату. Галадаваць прыходзілася. Прыгаладоўваў і Мікалай Карлавіч. Прывязе, бывала, пуд тае мукі з дому ды кажа: «От, Агаф'я Пратасьеўна, каб нам не трэба было плаціць арэнды Гарбузісе, ото б мы папаёдалі з вамі зацірк!!.» Праўду гаварыў чалавек. Маткі ў яго роднай не было ўжо, а была мачаха, і я шкадавала яго, як сына. Гаваркі такі быў, вясёлы. Убачыць, што я невясёлая, і адразу ж падвясельвае: «Не гаруйце, Агаф'я Пратасьеўна, будзем жыць!..» Бывала, згатую чыгунок бульбону, як казаў мой Павел, з крышанай бульбы і Мікалаю Карлавічу місачку вымеркую, каб муж не бачыў. Не скажу, каб ён ад скупасці шкадаваў—нястача замучвала. Позна заседжваўся Мікалай Карлавіч у сваім пакойчыку. Мы праспімся ўжо, а ён усё піша і піша. Выйдзе часам на кухню, адарве з вянка цыбуліну, схрумстае з хлебам, ці, можа, і так, бог яго ведае, ды кладзецца спаць. А назаўтра скажа мне паціхеньку, каб муж не чуў: «Я ўчора цыбуліну ў вас адарваў, заманулася нешта. Дык вы ўжо прабачце мне». Кажу: «На здароўе, Мікалай Карлавіч, на лепшае выбачайце. Усім труднавата цяпер». А ён гэтак шчыра: «Дзякуй і за гэта, Агаф'я Пратасьеўна. А што труднавата, праўда. Але нічога, будзем жыць...»

Суседка другі раз паўтарыла словы Кузьмы Чорнага «будзем жыць». Я ведаў, што ў яго ёсць апавяданне з такой назвай. Перагортваю том ранніх твораў і па даце бачу: напісана яно тады, калі аўтар жыў на Койданаўскім тракце. Ужыўшыся ў вобраз героя, ён і размаўляў яго мовай.

Больш за год пражыў Кузьма Чорны ў Мухаморавых. Не адзін твор напісаны быў там познімі вечарамі.

— Мікалай Карлавіч часта заходзіў праведаць нас, як перабраўся бліжэй да работы. І пасля вайны, вярнуўшыся з бежанства, прыйшоў адразу,— успамінае далей Агаф'я Пратасьеўна.— Распытаў, як гаравалі пры

немцах. Праслязіўся разам са мною, як даведаўся, што два сыны мае загінулі на вайне. Вельмі ж Сашку шкадаваў. У іх была свая дружба. Сашка пасадзіў быў вясною дрэўцы пад акном: клён і чаромху, і Мікалай Карлавіч часта пытаў у яго: «А ці даваў ты, Сашачка, сёння піць сваім выхаванцам?» Іншы раз возьме сам палье. «Няхай,— кажа,— растуць вялікія ды радуюць людское вока». Той клён з чаромхай і цяпер растуць пад акном у новай гаспадыні. Пабыў той раз Мікалай Карлавіч нешта з гадзіну, а неўзабаве зноў наведаўся. З клункам у адной руцэ і пакуначкам у другой. «Гэта—кажа,—вам, Агаф'я Пратасьеўна»,— і падае мне пакуначак. Расхінула, а там крупы ў мяшэчку і драбок масла. Бачу, сваім пайком падзяліўся чалавек. А тады ж, пасля вайны, з ядою, самі памятаеце, трудна было. Мяне, старую, аж слёзы працялі ад такой чуласці. «Навошта,— кажу,— ад сябе адымаеце? Вам і самім цяжка жывецца». А ён мне на гэта: «Некалі ж і вы, Агаф'я Пратасьеўна, ад сябе таксама адымалі і дзяліліся са мною. Я не забыўся і ніколі не забудуся на тое». Ды зноў падвясельваць мяне: «Нічога, перагаруем! Цяпер ужо нядоўга чакаць лепшага. Хутка нашы даб'юць гэтага вылюдка Гітлера, і зноў будзем добра жыць.. Я часта,— кажа,— успамінаў вашу сям'ю. І яшчэ напішу пра тое, як жылося некалі нам з вамі на гэтай кватэры. І парсючка таго рабенькага не абміну». А з парсючком тым была такая фацэція. Купіла яго маленькага, з рукавічку. Няхай кідаецца, думаю, пры нас. І лупіны ад бульбы астаюцца, і памы сякія-такія ёсць, і зелле ў гародчыку сваё. Да восені падкачаю, а там хоць кабанінка будзе... Парсючок жа той, каб на яго здыхата, такі крыклівы ўдаўся, хоць сама гвалт крычы. Прыйдзе да дзвярэй і аж заходзіцца ад піску. Выйду, наб'ю паскамі, вярнуся ў хату, а ён зноў каля дзвярэй пішчыць. Надакучаў, вядома Мікалаю Карлавічу. Выйшаў ён аднаго разу ды кажа таму парсючку: «Ну чаго ты енчыш? Чаго? Каб ты бачыў, што твая гаспадыня хлеб з маслам есць, а табе бульбы шкадуе, тады лемантуй, колькі ўлезе. А тут яна сама бульбе жадна...» Стаім з мужам каля акна і слухаем гэта. І пачала я запіраць таго парсючка ў хлевушок, калі бачыла, што Мікалай Карлавіч сцішыўся ў сваім пакойчыку і піша. Пагаварылі мы так, паўспаміналі ранейшае, потым устаў Мікалай Карлавіч з табурэткі ды паглядае на клунак. «Што ж гэта ў вас у ім?» — пытаю. «От прынёс з просьбай, можа хто з вашых суседак памые. Жонка мая недамагае, а пральні ў горадзе яшчэ не наладжаны... Я заплачу, колькі скажуць». «Чаму,— пытаю,— прынеслі вы маім суседкам мыць. А я?» «Вас,— кажа,— не адважваюся турбаваць на старасці». «Не крыўдзьце,— кажу,— мяне, Мікалай Карлавіч. Ніякім суседкам я не панясу. Сама спраўлюся, нявестка паможа». І вось прасую на кухні тую бялізну, уключыла радыё і аж утрупянела ад пачутага. Клікнула немым голасам нявестку з другога пакоя. Убегла Вера, спалоханая. «Чуеш,— кажу,— што перадаюць? Мікалая Карлавіча нашага пахавалі...» І тая збялела ў твары. Бо хто мог падумаць, што ў такіх гадах не стане такога-та чалавека.

Вечар 6 лістапада 1966 года. Перабіраю нявыкарыстаныя накіды і натыкаюся на расказанае ў свой час суседкай. Прачытаў і зноў перада мною з'явіўся жывы вобраз любімага пісьменніка. Гэтага самабытнага творцы, нястомнага працавіка ў беларускай літаратуры, чалавека, які заўсёды радаваўся добраму твору, хто б яго ні напісаў.

Алесь ПАЛЬЧЭЎСКІ.

• • •

**Чытайце ў бліжэйшых нумарах пра таямніцы сіняга сшытка Якуба Коласа.**

Сурёзнае — Курёзнае

# ШТУРМ БЯЛКОВАЙ ЦЫТАДЭЛІ

**НОСЬБІТЫ ЖЫЦЦЯ.** Малады нямецкі фізік Юстус Лібіх у 1824 годзе прыехаў у невялікі гарадок Гісен і пачаў чытаць лекцыі ў мясцовым універсітэце. Навучаючы студэнтаў хіміі, ён увесь свой вольны час прысвячаў навуковым даследаванням. Яго вельмі цікавіла, адкуль і як расліна здабывае неабходныя для жыцця рэчывы, з якіх састаўных частак будуе свае клеткі. Аналізы паказалі, што для нармальнага росту коласа пшаніцы, клубня бульбы патрэбны розныя хімічныя элементы: вуглярод, вадарод, кісларод, фосфар, кальцый і іншыя. Сярод іх важнае месца займае азот, неабходны для стварэння малекул бялкоў, што ўваходзяць у склад раслінных клетак.

Калі б у наш час пачалі занава даваць назвы хімічным элементам, дык ніхто не назваў бы азот... азотам. Па-грэчаску азот значыць — безжыццёвы. Але хоць без яго і няма жыцця, ён уваходзіць у склад усіх бялкоў.

У канцы мінулага стагоддзя рускі батанік Д. Іваноўскі адкрыў драбнейшыя бялковыя цельцы — вірусы, якія ўзбуджаюць розныя хваробы: грып, энцэфаліт, воспу і іншыя. Пасля гэтага адкрыцця вучоныя знайшлі яшчэ адзін від драбнейшых цельцаў, але не шкодных, а карысных. Іх назвалі бактэрыяфагамі — паглынальнікамі бактэрый, таму, што яны знішчаюць хваробатворныя мікробы. Гэтыя нябачныя істоты таксама маюць у сваіх цельцах бялок.

## ПРАМЕНЬ-БУДЗІЛЬНІК



**Хутка надыдзе «змрочная» пара для аматараў паспаць. Французскі інжынер Анры Клан прыдумаў спецыяльнае прыстасаванне да будзільніка. Яно грунтуецца на добра вывучанай псіхолагамі з'яве: чалавек не можа спаць, калі на яго твар падае мігатлівае святло.**

**Прыстасаванне складаецца з сігнальнай лямпы і сухой батарэйкі. Будзільнік адзвінеў, чалавек спіць моцна, як пшаніцу прадаўшы, але мігатлівыя праменні прымусяць яго падняцца і выключыць светлавое прыстасаванне.**

## СЛУХАЕ СКУРА



**У Злучаных Штатах Амерыкі запатэнтаваны апарат для праслухоўвання радыёперадач людзьмі, у якіх пашкоджаны слых. Мадуляваныя электрычныя сігналы ўзбуджаюць нервы твару. А пасылае гэтыя сігналы апарат, які складаецца з радыёпрыёмніка і спецыяльнага**

**КАРЛІКІ І ВЕЛІКАНЫ.** Усе рэчывы ў прыродзе — гэта хімічныя злучэнні з атамаў і малекул. Малекула вады з двух атамаў вадароду і аднаго атаму кіслароду здасца нам сціплай хацінай у параўнанні з гмахам — малекулай хініну з 48 атамаў. У сваю чаргу, малекула хініну выглядае карлікам у параўнанні з волатам — малекулай хларафілу, якая складаецца з 137 атамаў.

Асобныя маленькія малекулы, якія называюць манамерамі, утвараюць малекулы-гіганты — палімеры. Напрыклад, малекулы газу этылену, што складаюцца з шасці атамаў, утвараюць ланцужок палімера — поліэтылену. Больш складаная архітэктура ў малекул некаторых пластмас.

А як пабудаваны малекулы бялкоў? Вучоныя выявілі, што бялковыя малекулы адрозніваюцца выключна велізарнымі памерамі — яны складаюцца з некалькіх тысяч атамаў.

Сваю назву бялкі атрымалі ад студзяністага рэчыва птушыных яек, якое пры награве згортваецца, цвярдзее і бялее. У розных бялкоў розныя суадносіны паміж асобнымі элементамі. Калі параўнаць вывучэнне бялка з асадай крэпасці, дык можна ўявіць наступны малюнак: сцены крэпасці ўжо ўзяты, застаецца толькі штурмам захапіць цэнтр самой цытадэлі — канчаткова раскрыць яе сакрэты, гэта значыць, таямніцу будовы бялковых малекул.

Каб зразумець будову гадзінніка ці магнітафона, трэба іх разабраць, а пасля сабраць. Так робяць і даследчыкі малекул. Аднак малекулу «разабраць» значна цяжэй, чым любы механізм. І ўсё ж вучоныя зрабілі гэта. Некаторыя рэчывы можна раздзяліць, напрыклад, высольваннем: да раствору бялка дадаюць насычаны раствор якой-небудзь солі, і тады бялок асядае на дно. Яго адфільтроўваюць і атрымліваюць амаль чысты бялок пэўнага гатунку. Сюды зноў дадаюць соль. Павышаная салёнасць прымушае і другі гатунак бялка выпадаць у асадак.

Як жа раскалоць бялковую малекулу на часткі? Пад уздзеяннем кіслот і шчолачаў малекулы бялка далучаюць да сябе часцінкі вады і распадаюцца на асколкі, якія ўяўляюць сабой арганічныя кіслоты, падобныя да воцатнай, шчаўевай, лімоннай. Гэтыя кіслоты маюць у сваіх малекулах асобную амінагрупу — з аднаго атама азоту і двух атамаў вадароду. У адных бялках адсутнічаюць адны амінакіслоты, у другіх — другія, а ўсіх амінакіслот існуе ў наш час звыш трыццаці.

**АТАКІ НЕ СПЫНЯЮЦЦА.** Гіганцкая малекула бялка мае складаную будову.

**электрода. Электрод успрымае сігналы, адпаведныя гукам. Каб паслухаць перадачу, адзін полюс далучаюць да нерваў пляча, а другі да электрода, якім дакранаюцца да твару.**

**Гэты спосаб дае магчымасць слухаць радыё зусім глухім людзям.**

## КОЛЬКІ МОЖНА ЖЫЦЬ НЕ ЕЎШЫ?




**А ведаеце, даволі доўга. Напрыклад, звычайны карась можа, не шкодзячы сваму здароўю, пасціцца ледзь не цэлы год — 293 дні. А вугор можа галадаць 481 дзень.**

**Колькі ж дзён можа выжыць чалавек не еўшы? Савецкі вучоны А. Ягораў апісвае выпадак галадання ў 52 дні, а амерыканскі пісьменнік Сінклер — у 78 дзён. Нядаўна нейкая амерыканка, што пакутавала ад атлусцення (вага яе была 162 кілаграмы) галадала 117 дзён. За гэты час піла толькі ваду і прымала вітаміны. У выніку скінула 52 кілаграмы вагі.**

## ШЛЮБ НА НІТАЧЦЫ



**У афрыканскага племені балантэ існаваў цікавы парадак разводу. На вяселлі нявесце ўручалі падарунак — халат. Шлюб трываў да таго часу, пакуль быў цэлы халат. Калі жонка ўсім задаволена, яна надзявала халат як мага радзей і шанавала яго. Калі ж не — старалася як мага хутчэй падраць яго.**



Яна — з амінакіслот, але яшчэ не разгадана, у якім парадку размешчаны яго малекулы. Таму вучоныя пачалі злучаць амінакіслоты ў вялікую малекулу. Такія злучэнні назвалі поліпепцідамі. Ці будуць яны падобныя да натуральных бялкоў? Некаторы час гэтымі рэчывамі кармілі мышэй, мышы елі поліпепціды і раслі, але доўга не жылі — не было ў гэтай страве патрэбных амінакіслот. Выходзіць, каб стварыць штучным шляхам бялкі, трэба ведаць парадак чаргавання амінакіслот у малекуле бялка. Каб канчаткова расшыфраваць, як пабудавана малекула бялка, трэба ведаць, колькі амінакіслот уваходзіць у поліпепцідны ланцуг. Зрабіць гэта памаглі вылічальныя машыны і рэнтген. Даследуючы бялкі ў складзе крыві, курынага яйка і пратаплазмы, выявілі, што поліпепцідныя ланцугі згінаюцца і згортваюцца ў клубкі. Ёсць і іншыя бялкі. Яны з тонкіх нітак, або фібрыл, і ўваходзяць у склад скуры, рагоў, воўны, шоўку, валасоў.

Даўно выказана думка, што нуклеінавыя кіслоты разам з бялкамі ўваходзяць у склад жывых істот і адыгрываюць важную ролю ў біялагічных працэсах. У прыватнасці, у сінтэзе бялкоў. Яны могуць перадаваць спадчынныя ўласцівасці арганізма. Пры новых даследаваннях вызначана, што ў нашым арганізме з дапамогай нуклеінавых кіслот кожны раз сінтэзуюцца тысячы бялкоў.

Калектыў супрацоўнікаў Інстытута радыяцыйнай і фізіка-хімічнай біялогіі АН СССР раскрыў будову яшчэ адной нуклеінавай кіслаты. Гэта адкрыццё на Мендзялееўскім з'ездзе ўлетку 1965 года назвалі грандыёзнай падзеяй нашага часу.

**У ВЕЧНЫМ РУХУ.** Выяўлена, што ў малекуле бялка адбываюцца няспынныя змены. Бялковыя целы распадаюцца і зноў узнікаюць, хоць знешне такія змены непрыкметныя.

Бялковая малекула ў вечным руху. У гэтым, відавочна, і няўдачы вучоных, якія хацелі «пабудаваць» бялковую малекулу — яна пакуль што нерухомая. Але бялок не можа быць нерухомы. Яшчэ Ф. Энгельс гаварыў, што бялок «заўсёды з'яўляецца і самім сабой і чымсьці іншым». Даведацца і авалодаць заканамернасцямі, якія ўплываюць на няспынныя змены бялковай малекулы — вось задача, якая стаіць перад сучаснай хіміяй і біялогіяй.

**Барыс РОЗЕН,**
**кандыдат хімічных навук.**

## ВОСЬ ДЫК ЦЯРПЛІВАСЦЬ!



**У іранскай мячэці Куман з 1072 года заўсёды стаіць асядланы конь і пры ім конюх. Яны чакаюць, калі ўваскрэсне пахаваны тут правіцель Мухамед ібн-Дауд.**

## ЗОЛАТА Ў ВАЛАСАХ




**Вучоныя Брытанскага атамнага цэнтра правялі цікавае даследаванне — яны вывучылі, з якіх хімічных рэчываў складаецца чалавечы волас. Аналізавалі склад валасоў, узятых у 800 розных мужчын і жанчын, і выявілі: у чалавечым воласе ёсць невялікая колькасць золата. У жанчын яго больш, чым у мужчын.**

## РЭКОРД ПРАЖОРЛІВАСЦІ



**За суткі кіт з'ядае 3—4 тоны рыбы ці 4 000—5 000 літраў планктону.**

*Старты і фінішы*

# ШКОЛА І ТРАДЫЦЫІ

У круг, адгароджаны ад зялёнага поля металічнай сеткай, уваходзіць атлет. Рукою ў скураной пальчатцы бярэцца за сталёвую ручку, ад якой цягнецца трос да цяжкога сямікілаграмовага ядра. Ядро робіць над галавою спартсмена адзін абарот, другі, вярчэнне паскараецца. Моцнае намаганне, і дзяжкі снарад, зрабіўшы ў паветры сямідзесяціметровую дугу, апускаецца ў цэнтры футбольнага поля... Толькі чатыром кідальнікам на ўсім зямным шары ўдавалася да гэтага часу пасласць молат за рысу ў семдзесят метраў.

Так кідае ядро ў нашай краіне пакуль што адзін чалавек — Рамуальд Клім.

Клім валодае ўсімі тытуламі, пра якія можа марыць спартсмен: чэмпіён алімпійскіх гульняў, Еўропы, Савецкага Сюза, Спартакіяды народаў СССР. Ён капітан зборнай каманды нашай краіны па лёгкай атлетыцы. У Беларусі ім ганарацца не толькі як выдатным майстрам сваёй галіны спорту, непераможным чэмпіёнам, але і як спартсменам, які захоўвае і працягвае слаўныя традыцыі, што склаліся ў нашай рэспубліцы ў кідальнікаў молата.

У спартыўны летапіс 50-х гадоў адной з самых выдатных старонак увайшла дуэль двух вядомых «малатабойцаў» — амерыканца Гаральда Коналі і беларуса Міхаіла Крываносава. Спаборніцтва прынесла абодвум алімпійскія ўзнагароды ў Мельбурне, а спартыўнаму свету — серыю бліскучых рэкордаў і спрыяла прагрэсу ў гэтай складанай галіне лёгкай атлетыкі.

Але імёнамі Крываносава і Кліма далёка не вычэрпваецца спіс «малатабойцаў» вышэйшага класа, падрыхтаваных на стадыёнах Беларусі. Чэмпіёнам Еўропы быў Аляксей Балтоўскі. На апошніх дзвюх спартакіядах школьнікаў перамогу атрымалі беларускія юнакі — Уладзімір Амвросьеў і Ігар Соўпель. Наша рэспубліка нават «экспартавала» моцных кідальнікаў молата: чэмпіёнам Рымскай алімпіяды сем гадоў таму назад стаў масквіч Васіль Рудзянкоў — ураджэнец Жлобіна і выхаванец беларускіх трэнераў, а ў гэтым годзе на маладзёжным першынстве краіны далей за ўсіх кінуў молат Васіль Хмялеўскі, які пачаў свой спартыўны шлях у Шчучыне, а цяпер жыве ў Краснадары. З поўным правам можам сказаць, што кіданне молата стала ў Беларусі традыцыйным відам лёгкай атлетыкі.



**Беларускія майстры клінка — Аляксей Нікапчыкаў, Юры Смалякоў, Герман Бокун. Заваяваны прыз — агульная для ўсіх радасць.**

Перадаюць адзін аднаму эстафету і беларускія бар'ерысты розных пакаленняў. Стартавы этап гэтай галіны спорту пачаў яшчэ ў 40-я гады Цімафей Лупёў. Яго падтрымаў Анатоль Юліп, атрымаўшы званне чэмпіёна Еўропы. У зборную краіны ўваходзіў Імант Кукліч. Іх традыцыі працягваюць сёння чэмпіён Спартакіяды народаў СССР і пераможца кубка Еўропы Віктар Баліхін, мацнейшы паміж юніёраў краіны Юры Горскі і зусім яшчэ юны Яўген Гаўрыленка. Радасна, што сярод удзельнікаў гэтай слаўнай эстафэты — не толькі мінчане, але і спартсмены з Брэста, Гомеля, Віцебска.

Традыцыі ў спорце існуюць, але не заўсёды лёгка знайсці прычыны іх узнікнення. Хто-ніхто спрабуе вытлумачыць гэта нацыянальнымі асаблівасцямі, нават узводзячы свае меркаванні амаль што ў ранг тэорыі. Так, сцвярджаюць, што грузінскі тэмперамент спрыяе развіццю такіх галін спорту, дзе перш за ўсё патрэбна «выбуховасць» характару, здольнасць да максімальнага напружання на працягу кароткіх імгненняў. Таму, кажуць, такія папулярныя ў Грузіі баскетбол, атакуючы футбол, бег на кароткія дыстанцыі. Між тым, цяпер у грузінскім футболе побач з віртуозамі атакі, як Міхаіл Месхі і Слава Метравелі, з'явіліся і высакакласныя абаронцы Муртаз Хурцылава і Гурам Цхаўрэбаў. Што датычыць бегу на кароткія дыстанцыі, дык нешта даўно не чуваць у Грузіі моцных спрынтараў. Таму, хоць нацыянальныя рысы характару, антрапалагічныя і гістарычныя асаблівасці і маюць нейкі ўплыў на фармаванне спартыўных традыцый, роля іх далёка не рашаючая. Гэта працэс кіруемы, які залежыць у першую чаргу ад волі людзей, іх ведаў і вопыту.

Якімі, напрыклад, асаблівасцямі нацыянальнага характару можна растлумачыць паяўленне ў беларускай атлетыцы плеяды моцных спартсменаў, што спецыялізуюцца ў трайным скачку? Тут і Уладзімір Гараеў, і Анатоль Зірко, і Уладзімір Куркевіч, і, нарэшце, знаходка Юбілейнай спартакіяды — Ігар Тарасюк.

А вялікі атрад беларускіх майстроў клінка, пачынаючы ад першых савецкіх алімпійцаў Германа Бокуна і Аляксандра Аўсянкіна і аж да чэмпіёнаў свету Таццяны Самусенка і Аляксея Нікапчыкава ды іх маладых партнёраў? Нашы мушкецёры ў шпазе і ў жаночай рапіры значна мацнейшыя за класікаў-французаў.

Відаць, узнікненне спартыўных традыцый амаль раўназначна стварэнню нацыянальных школ у адпаведнай галіне спорту. Я маю на ўвазе, вядома, не навучальныя ўстановы, а накапленне вопыту, распрацоўку методыкі трэніровак, уменне шукаць і знаходзіць таленты. Для таго, каб падрыхтаваць Аляксея Нікапчыкава да перамог на двух чэмпіянатах, узброіць яго дасканалай тэхнікай,



**Шпажыст Арнольд Чарнушэвіч.**

**Беларускія «малатабойцы» Рамуальд Клім і Уладзімір Амвросьеў.**
Фота **Д. Церахава.**





Трынаццацігадовая Тамара Лазаковіч з Віцебска.



Лёгкаатлет Уладзіслаў Сапея.

трэнер Герман Бокун павінен быў унесці прынцыпова новае ў методыку трэніроўкі шпажыстаў, перагледзець асновы тэхнікі і тактыкі фехтавання на шпагах. Стварэнне беларускай фехтавальнай школы — плён яго работы ў садружнасці з аднадумцамі-калегамі Ларысай Бокун, Аляксандрам Аўсянкіным, Арнольдам Чарнушэвічам, Паўлам Зэлікманам і больш маладымі спецыялістамі, якіх паяўляецца ўсё больш і больш у нашай рэспубліцы.

Поспехі беларускіх кідальнікаў молата — гэта таксама вынік наватарскай работы ў гэтай галіне лёгкай атлетыкі, пачатай цудоўным педагогам Яўгенам Шукевічам і надхопленай цяпер Міхаілам Крываносавым і маладзейшымі трэнерамі. Беручы ўсё лепшае ў сістэме трэніровак кідальнікаў молата — айчынны вопыт і вопыт замежных майстроў — яны ў той жа час заўсёды адстойвалі свае прынцыповыя пазіцыі, пацверджаныя практыкай, правераныя на справе. Крываносаў, Клім і іх аднадумцы, мусіць, ніколі не забудуць таго, як яны змагаліся з заўзятымі прыхільнікамі штангі, практыкаванні з якой амаль загадам прапаноўваліся нашым кідальнікам. Шукевіча і Крываносава абвінавачвалі як трэнераў, калі яны настойвалі на спыненні заняткаў са штангаю. І што ж? «Напампаваўшы» ладную мускулатуру, аматары штангі страчвалі ў хуткасці, свабодзе рухаў ды так і спыняліся на сваіх 66—67 метрах, а Клім набыў тэхніку, амаль што лепшую ў свеце, якая дазваляе паказваць цудоўныя стабільныя вынікі і быць, практычна, непераможным. Па агульнай колькасці кідкоў за рубеж сямідзесяці метраў Клім займае першае месца сярод усіх кідальнікаў молата на зямным шары.

Ці ж гэта не лепшы доказ правільнай методыкі і тактыкі яго трэнераў!

Зразумела, што ў стварэнні школ і традыцый заслугі не адных толькі трэнераў. Сам спартсмен такі ж удзельнік творчага працэсу, як і яго настаўнікі. Стараннасць, працавітасць — якасці, абавязковыя для паспяховага навучання, але на першы план ставяцца актыўныя, свядомыя адносіны да сваёй спартыўнай працы, сумесны з трэнерам пошук, аналіз дасягнутага. Роля спецыялістаў так званых «сумежных» са спортам прафесій — урачоў, фізіёлагаў, псіхолагаў — у трэніроўцы спартсменаў расце з году ў год і будзе яшчэ больш узрастаць. Яны — першыя памочнікі трэнера, яго навуковыя дарадчыкі.

Існаванне традыцый, іх памнажэнне і ўмацаванне звязана з новымі пошукамі. Традыцыі не церпяць самазаспакоенасці, спадзявання на спакойную будучыню. Пераканацца ў гэтым мы можам на вельмі сумным лёсе некаторых відаў спорту ў нашай рэспубліцы.



Прадстаўнікі віцебскай гімнастычнай школы — трэнер Вікенці Дзмітрыеў і Святлана Маскалёва.

Зусім нядаўна ўсе мы былі вельмі задаволены поспехамі нашых барцоў класічнага стылю. Алег Караваеў перамагаў на алімпійскіх гульнях і першынствах свету, тытулы чэмпіёнаў СССР мелі Іван Коршунаў, Мікалай Чучалаў, Сяргей Залускі, Васіль Жыценеў. Ішоў час, раслі патрабаванні і да спартсменаў і да трэнераў. А нашы спецыялісты класічнай барацьбы тапталіся на старых пазіцыях, успамінаючы пра тытулы і званні ранейшых часоў. У выніку, з Юбілейнай спартакіяды народаў СССР толькі адзін Віталь Фефелаў вярнуўся з залатым медалем.

Тое ж самае адбылося і з нашымі веслярамі, дзе раней былі і чэмпіёны алімпійскіх гульняў, і Еўропы, і Савецкага Саюза. На Юбілейнай спартакіядзе народаў СССР іх напаткаў поўны правал. Адзіны бронзавы медаль быў заваяваны экіпажам каноэ-двойкі на чале зноў-такі з ветэранам Пятром Яноўскім, а каманда рэспублікі заняла толькі дзесятае месца, з'ехаўшы ў турнірнай табліцы адразу на пяць прыступак. І зноў — з-за кансерватызму трэнерскай думкі, з-за самазадаволенасці, з-за няўвагі да падрыхтоўкі маладой змены.

І апошняе, самае істотнае. Існаванне традыцый і школ не магчыма без прадуманай няспыннай пераемнасці. У апошні час шырокую вядомасць набыла віцебская гімнастычная школа на чале з трэнерам Вікенціем Дзмітрыевым. Фанатычна адданы сваёй справе, без шуму і крыку, не звяртаючы ніякай увагі на фіміям, які пачалі яму курыць, ён самааддана працуе, ні на дзень не перастаючы шукаць таленты і старанна іх выхоўваць. Пасля чэмпіёнкі краіны Ларысы Петрык, чыё з'яўлен-



На гонцы — Віктар Быкаў.

не ў свой час ператварылася ў сусветную сенсацыю, Дзмітрыеў вывеў на «вялікі гімнастычны памост» спачатку Людмілу Аргучынскую, потым Святлану Маскалёву і нарэшце сёлета здзівіў спецыялістаў, пазнаёміўшы іх на спартакіядзе з новым сваім «адкрыццём» — трынаццацігадовай Тамарай Лазаковіч. Вось такая пераемнасць і забяспечвае віцебскай школе трывалыя пазіцыі на доўгія гады.

Спорт у нашай рэспубліцы, бясспрэчна, ідзе па шляху прагрэсу. Матэрыяльная база яго мацнее з дня на дзень. Уваходзяць у строй цудоўныя спартыўныя збудаванні. Гэта дае падставу спадзявацца, што выпрацаваныя традыцыі будуць умацоўвацца і развівацца, узнікнуць новыя школы, нават, магчыма, у такіх галінах спорту, дзе мы пакуль што не чакаем добрых вынікаў. З'явіліся ж у Беларусі чэмпіёны па конным спорце, які ў нас доўгі час лічылі безнадзейна адсталым! Хочацца верыць, што побач са школамі Бокуна, Крываносава, Дзмітрыева ўзнікнуць і іншыя, якія памогуць выявіць новыя спартыўныя таленты і прынясуць яшчэ большую славу савецкаму спорту.

**Міхаіл СУПАНЕЎ.**

# ІХТЫЯНДРЫ

«Іхтыяндр-66» так аматары-акваландісты назвалі свой падводны домік, у якім спусціліся ў Чорнае мора ля мыса Тарханкут. Мне давялося пабыць сярод іхтыяндраўцаў, пазнаёміцца з імі.

Вас цікавіць, хто яны?

Аляксандр Хаес — старшыня самадзейнага клуба падводных даследаванняў, спрактыкаваны акваландіст з Данецка. Па прафесіі — урач-хірург. Яго сябры — інжынеры Юры Барац і Уладзімір Пясок, аматары-акваландісты Юры Саветаў, Дзіма Галакціёнаў, Георгі Тунін, Юры Качура і іншыя. Яны самі спраектавалі і зрабілі металічны падводны домік, з якім і адправіліся ў экспедыцыю на ўзбярэжжа Крыма.

Ля мыса Тарханкут хлопцы раскінулі палаткі і, не трацячы часу, узяліся рыхтаваць «Іхтыяндр-66» да спуску. Самае цяжкае — замацаваць пад днішчам баласт. Юра прапанаваў выкарыстаць для гэтага бетонныя блокі. Сталёвымі тросамі звязалі шэсць блокаў, і на гэтай падстаўцы замацавалі сваё збудаванне. Падышла маторка «Гуці», і паўкруглы бліскучы «Іхтыяндр-66» загойдаўся на лёгкіх хвалях.

У адкрытым моры хвалі сталі круцейшыя. Тросы то напіналіся, нібы струны, то раптам абвісалі на вадзе. І раптам здарылася нечаканае — у рэдуктары нешта заскрыгатала, вінт спыніўся. У рухавіка не хапала сілы цягнуць такую махіну. Тады хлопцы селі за вёслы, і апоўначы «Іхтыяндр-66» быў на месцы.

Нарэшце ўсё гатова. Саша Хаес надзявае акваланг, насоўвае на твар маску і саскоквае ў ваду. Ён апускаецца на дно, абплывае вакол доміка, правярае мацаванне і знікае ва ўваходнай шахце. Эксперымент пачаўся.

Бяру тэлефонную трубку.

— Як настрой? — пытаюся ў Сашы.

— Выдатны! — адказвае ён.

— Чуваць шум прыбою?

— Нічога не чутно. Адно, злёгку гойдае, як у паветраным лайнеры...

Хлопцы-аматары стварылі арыгінальную лабараторыю, якая дапаможа даведацца шмат цікавага пра ўздзеянне ціску на чалавека, калі ён доўга бывае пад вадой. Справа ў тым, што мора ўпарта не жадае, каб чалавек пранік у яго глыбіні. На варце тайны сваіх падводных скарбаў яно паставіла грознага вартавога — ціск. Чым глыбей чалавек апускаецца ў ваду, тым большае ціск і пад яго ўздзеяннем з крыві пачынае бурна выдзяляцца азот. Ён закупорвае крывяносныя сасуды, пранікае ў мозг, сэрца, тканкі. Калі чалавека раптоўна ўзняць наверх з вялікай глыбіні, то кроў у яго нібы закіпае. Наступае так званая кесонная хвароба, і, калі не прыняць тэрміновыя меры, чалавек можа памерці.

Каб не паддацца кесоннай хваробе, вадалазы, падымаючыся наверх, робяць дэкампрэсійныя прыпынкі. І чым большая глыбіня, тым часцей даводзіцца спыняцца пад вадою. У вадалазаў-глыбіннікаў для работы на дне мора застаецца ўсяго два-тры працэнты часу, астатні траціцца на пад'ём.

Ці ёсць тут якое выйсце? Ёсць. Гэта — падводныя дамы. Яны могуць пагружацца на глыбіню да трохсот метраў. Акванаўты будуць працаваць на дне, напрыклад, свідраваць нафтавыя шчыліны, як гэта ўжо рабілі французы, будаваць гідратэхнічныя збудаванні, пракладваць трубаправоды, назіраць за насельнікамі мора. У гэтых дамах можна будзе жыць месяцамі, не ўзнімаючыся на паверхню. Напэўна, на дне мораў і акіянаў з'явяцца цэлыя «пасяленні», створаныя рукамі чалавека.

У нашай краіне данецкія спартсмены-акваландісты падводны домік зрабілі ўпершыню. У іх распрацавана сур'ёзная праграма даследаванняў, звязаных з жыццём чалавека пад вадой. Над акванаўтамі вёўся медыцынскі кантроль. У ходзе эксперыменту праводзіліся розныя, у тым ліку і псіхалагічныя, выпрабаванні.

...Раніцою хлопцы запрасілі мяне наведаць іх падводны домік. Надзяваю акваланг, маску, ласты. Пагружаюся ў ваду і плыву ўздоўж шланга і кабеляў, пракладзеных на дне мора. «Іхтыяндр», асветлены сонечнымі праменнямі, белай плямай свеціцца на дне. Блакітнымі кружочкамі паблісквае шкло ілюмінатараў. Над домікам, нібы дым з коміна, цягнуцца шлейфы паветра з выцяжнікоў. Булькаюць срэбныя шарыкі. Тут, пад вадою, домік здаецца ўнушальным збудаваннем.

Спускаюся глыбей. Хапаюся за скабу ўваходнай шахты і ныраю ў яе. Перад вачамі жалезны трап. Яшчэ раз варухнуў ластамі і — апынуўся ў паветранай прасторы. Здымаю маску, акваланг. Я — у доме.

Саша сустракае мяне з усмешкай, паведамляе па тэлефоне наверх, што прыбыў. Азіраюся. Драўляны палок, невялікі стол, балоны з геліем, кіслародам і сціснутым паветрам. Ля ўваходнай шахты — аквалангі. Электрычнасць выключана, але ў доміку даволі светла — з ілюмінатараў ліецца дзівоснае блакітнае святло. Гляну ў ілюмінатар — падводная скала крута ўзнімаецца ўгару. На ёй фіялетавыя водарасці. Плаваюць креветкі, кішаць дробныя рачкі, крабы... Раз-пораз падплываюць зеленухі. Сваімі белагубымі ратамі яны тыцкаюцца ў водарасці, нешта там знаходзяць і жуюць, жуюць...

У ілюмінатары насупраць — бязмежная сінь мора. Часам блісне срэбрам кефаль, мільгануць нейкія цені — насельнікі мора спяшаюцца нанесці візіт першаму акванаўту.

Саша ляжыць на гумавым матрацы. На ім шарсцяны світэр. У доме даволі цёпла — 23 градусы, але вільготна — кандэнсуюцца кроплі пары. Тэмпература вады — на адзін градус ніжэй. Шуміць паветра, якое падаецца ўгору: здаецца, гэта дыхае волат. Домік пагойдваецца: на паверхні шторм.

— Як прайшла першая ноч? — пытаюся ў Сашы.

— Добра, — адказвае ён.

...За ілюмінатарам замільгалі ласты. Пазнаю па колеры, чые. Каля доміка праплыў «тэхнічны дырэктар» Юра Барац. Значыць, усё добра.

Часта звоніць тэлефон. Таварышы, што засталіся наверсе, цікавяцца самаадчуваннем акванаўта, пытаюць, як дзейнічаюць сістэмы.

— Усё добра, усё ў парадку! — адказвае Саша.

...Ён частуе мяне вінаградам. Зноў чуецца званок. Саша бярэ трубку. Доктар напамінае, што мне час вяртацца на паверхню. Надзяваю акваланг, ласты.

— Да пабачэння, Саша. Да сустрэчы на беразе!

Увечары закончыліся першыя суткі падводнага Сашавага жыцця. «Проба на выжыццё», як кажа Саша, прайшла паспяхова. У той жа вечар да яго далучыўся акванаўт-2 — маскоўскі інжынер Дзіма Галакціёнаў. Удваіх весялей.

Тут, пад вадою, час ідзе інакш. Здалося, толькі паснедалі, а тут ужо — абед. Саша і Дзіма гулялі ў даміно, чыталі кнігі, рабілі запісы ў сваіх дзённіках. Заводзілі знаёмства з жыхарамі мора. Над уваходам у домік жыў краб. Яго акванаўты назвалі Юркам, кармілі са свайго стала. Аднойчы Юрка залез у дом, пачаставаўся курыным мясам. Потым перакусіў нітку, якой яго прывязалі, і паплыў на волю...

Уночы акванаўты выходзілі з дома. Перад іх позіркам паўставалі дзівосныя малюнкі. Асветленае ліхтаром, які быў у руках у Дзімы, мора нагадвала казку. Вось аднекуль з цемры выплыў вялізны краб і замёр на месцы, нібы загіпнатызаваны. Чародка маленькіх рыбак застыла ў воднай тоўшчы. Дзіма махнуў рукою,



**Перад пагружэннем.**



Ідзе медыцынскае даследаванне.

рыбы ляніва паварушылі плаўнікамі і зноў паснулі...

Дзіма выключыў ліхтар. Побач плыў Саша—увесь у блакітным ззянні. Зялёнымі агеньчыкамі свяціліся яго валасы, рукі, ногі. Ззаду ад кожнага ўзмаху ластаў успыхвалі яркія феерверкі. Гэта мірыяды мікраарганізмаў, якія свецяцца ў моры.

Цішыня. Толькі чуваць, як шчоўкаюць лёгачныя аўтаматы. І раптам—тонкі, працяглы свіст. Ад нечаканасці Дзіма ўздрыгнуў, падплыў да Сашы.

— Што б гэта такое?..

— Напэўна, дэльфіны.

Акванаўты стаіліся. Але свіст больш не паўтараўся. Яны павярнулі назад. Перад імі святлела расплывучатая пляма—іх дом. Саша дзве гадзіны дыхае гелія-кіслароднай сумессю. Гэта каб не захварэць на кесонную хваробу.

Прайшло трое сутак. На змену прыходзіць акванаўт-3 Юра Саветаў. Дзіма на правах старажыла сустракае яго.

Саша выходзіць на бераг. Яму памагаюць зняць ласты, акваланг, распрануцца. Прыжмурыўшыся, ён глядзіць на заходзячае сонца. Пацепваецца.

— А ў вас тут холадна,—з усмешкай гаворыць ён і дадае:—Хлопцы, дайце што-небудзь паесці.

Да Сашы спяшаліся медыкі. Тым часам на патэльні ўжо смажылася яечня...

А ў падводным доме жыццё ішло сваім парадкам. Меркавалася, што Юра Саветаў прабудзе ў доме адны суткі, яго зменіць акванаўт-4 Сяргей Гуляр. Увесь гэты час Дзіма Галакціёнаў павінен быў несці падводную вахту. Але надвор'е ўнесла свае папраўкі. Ноччу з мора ўзняўся моцны вецер. Раніцаю пайшоў дождж. Акванаўты паведамілі, што дом гайдае ўсё мацней і мацней, надта рыпяць тросы. Апоўдні мора разбушавалася, пачалася навальніца. Заставацца ў доме было небяспечна, і акванаўтам было загадана падрыхтавацца да выхаду...

Нават тут, на адзінаццаціметровай глыбіні, адчувалася, што на моры шторм. Пясок, узняты са дна, вадарасці—усё перамяшалася. Акванаўты, робячы дэкампрэсійныя прыпынкі, узняліся на паверхню, сяк-так дабрылі да берага. У канцы самай бухты ўсплыў Дзіма Галакціёнаў: стомлены, твар аброслы чорным шчаціннем. Неўзабаве ўскараскаўся на бераг і Юра Саветаў. Прайшоўшы медыцынскую праверку, яны тут жа, у медпалатцы, паснулі.

Праз дзень мора аціхла. Саша Хаес у апошні раз накіраваўся да «Іхтыяндра-66». Адчыніў застаўку, і домік цяжка асеў на дно. Узняць яго на паверхню ў хлопцаў не хапала ні часу, ні сілы. Так і застаўся ён на дне, ля самага падножжа падводнай скалы.

Намечаная праграма амаль што поўнасцю выканана. Атрыманыя дадзеныя паказваюць, што людзі могуць працяглы час жыць і працаваць пад вадою. Нашы сябры-акванаўты намецілі сабе чарговы эксперымент у новым доме.

**Станіслаў АСЛЁЗАЎ.**

Фота аўтара.

**«ДЛЯ ВАС, ДЗЕСЯЦІКЛАСНІКІ»—**
**такі раздзел уводзіцца ў часопісе з новага года.**




**Аляксей СУЭЦІН,**
**міжнародны гросмайстар**

# ПАЧАТАК СТУДЭНЦКІХ ПЕРАМОГ

**З дзённіка шахматыста**

**Нядаўна, праглядаючы вынікі каманднага першынства свету паміж студэнтаў, якое прынесла перамогу савецкім шахматыстам, я міжволі ўспомніў сваю шахматную маладосць. Некалі (гэта было ў 1955 годзе) і мне давялося прымаць удзел у другім камандным першынстве свету паміж студэнтаў. Тады не прысуджалі яшчэ залатых медаляў пераможцам, былі толькі памятныя жэтоны.**

## ФЕСТЫВАЛЬ У ЛІЁНЕ

Штогадовыя камандныя першынствы свету паміж студэнтаў зрабіліся цяпер зусім звыклай традыцыяй. Першы такі масавы агляд маладых рэзерваў быў праведзены вясною 1954 года ў Осла і закончыўся перамогаю каманды Чэхаславакіі. Савецкая каманда, якую ўзначальваў В. Карчной, была на другім месцы.

Аўтару гэтых радкоў пашчасціла прымаць удзел у другім камандным першынстве свету, якое праходзіла з 5 па 16 мая 1955 года ў адным са старажытнейшых гарадоў Францыі—Ліёне і якое, у адрозненне ад першага чэмпіяната, сабрала ўжо трынаццаць каманд. Вельмі цікава выглядае на цяперашні час склад былой нашай каманды: Тайманаў, Спаскі, Антошын, Суэцін і запасныя—Васюкоў і Нікіцін. Тады гросмайстарскі тытул быў толькі ў Тайманава, цяпер яго няма толькі ў Нікіціна. Пяць чалавек з шасці яго даўно маюць.

Перад намі стаяла нялёгкая і вельмі адказная задача—адваяваць званне пераможцаў, паказаць, што нашы маладыя рэзервы не саступаюць ветэранам савецкіх шахмат. Рэгламент спаборніцтваў быў вельмі жорсткі і даволі-такі незвычайны: у асобныя дні праводзілася па два туры—раніцою, а пасля пяці гадзін напружанай гульні быў толькі паўтарагадзінны перапынак і зноў уключаўся гадзіннік на наступны тур. Здаралася, што з 12-ці да 2-х гадзін ночы прызначаліся даігрыванні. Такім чынам, рабочы дзень шахматыста дасягаў часам чатырнаццаці гадзін чыстай гульні!! Студэнты не журыліся: што ж зробіш—уставалі з «гальскімі пеўнямі», як жартавалі мы тады.

Турнір адбываўся ў вялікім студэнцкім клубе горадка. Вельмі запомнілася мемарыяльная дошка каля ўваходу ў будынак: «Нашым 300 сябрам, студэнтам горада Ліёна, якія загінулі ў 1939—45 г.г. За гонар студэнтаў, за родную Францыю, за Свабоду свету!»

Студэнцкі чэмпіянат быў вялікай падзеяй у культурным жыцці Ліёна і вельмі шырока адзначаўся друкам усёй Францыі. Французскія газеты пісалі, што ўжо больш за пяцьдзесят гадоў, як у краіне не было такога значнага міжнароднага турніра па шахматах.

Часу для знаёмства з горадам мы мелі вельмі мала, і нам давялося паглядзець толькі цэнтр горада. Запомнілася найбольш старажытная частка яго, з мноствам сярэдневяковых сабораў. Ліён стаіць на месцы зліцця дзвюх рэк—Роны і Соны. Праз іх перакінуты шматлікія масты, некаторыя з якіх маюць сваю шматвяковую цікавую гісторыю. Ліён—горад вялікіх рэвалюцыйных традыцый: у 1831 годзе тут адбылося гістарычнае паўстанне ткачоў, дэвізам якіх было: «Жыць працуючы, або памерці змагаючыся!»

Горад добра было аглядаць з гары

Святога Фур'ера. Дарэчы, адсюль бачны і вядомы Манблан, які знаходзіцца за сотні кіламетраў ад самога горада. Ля падножжа Св. Фур'ера — старажытнейшы рымскі тэатр. Ён быў некалі разлічаны на 10 000 гледачоў, меў дыяметр сцэны 108 метраў. Цяпер тут своеасаблівы музей, за ўваход бярэцца вельмі высокая плата, а наведвальнікаў сустракаюць бясконцымі прапановамі купіць шматлікія сувеніры. У межах форума і нават праз краты агароджы, якою форум абнесены, строга забаронена фатаграфаваць. Вельмі смешна выглядае надпіс: «Забараняецца выносіць каменні...»

Аднак вернемся да жорсткіх шахматных боек таго турніра. Найбольш небяспечнымі супернікамі за званне чэмпіёна свету, не лічачы папярэдніх чэмпіёнаў — чэхаславакаў, былі каманды Югаславіі, Венгрыі і Балгарыі. Ад Югаславіі выступалі такія вядомыя майстры, як Фудэрар, Караклаіч, Джурашэвіч, Міліч, Берток і Богданавіч.

Старт турніра прынёс нямала хваляванняў: некаторы час пяць-шэсць каманд мелі прыблізна аднолькавыя шансы. Але ў сярэдзіне турніра наша каманда развіла імклівы тэмп, усё больш часта лік стаў вагацца ад 4 : 0 да 3,5 : 0,5 у карысць савецкай каманды. Сярод сустрэч з асноўнымі канкурэнтамі вельмі важнай была перамога яшчэ на старце над камандай Балгарыі — 2,5 : 1,5. Але галоўным этапам на шляху да перамогі быў матч з камандай Чэхаславакіі. За год перад гэтым нашы студэнты ў апошнім туры мелі паражэнне ад чэхаў, страціўшы тым самым першае месца. На гэты раз мы здолелі ўзяць дастойны рэванш, набраўшы 3,5 ачка з чатырох.

Рэпарцёры газет, радыёкаментатары падрабязна асвятлялі ўсе перыпетыі барацьбы. Рабіліся слушныя, а часам зусім нечаканыя прагнозы. Найбольшай папулярнасцю карыстаўся наш, тады зусім юны васемнаццацігадовы Барыс Спаскі, якому адразу газеты прадказвалі званне будучага чэмпіёна свету.

Пра нашу каманду рэпарцёры пісалі вельмі цёпла, лічачы яе вельмі магчымым пераможцам чэмпіяната хоць тут жа інтрыгавалі чытачоў. Запомніўся мне адзін журналіст з ліёнскай газеты, заўзяты скептык. Туры за тры да канца спаборніцтва, калі наша каманда ўжо значна адарвалася ад праследавальнікаў, ён упарта пісаў, што «перамога рускіх выклікае яшчэ вялікія сумненні». Перад апошнім турам мы забяспечылі сабе першае месца і перад пачаткам гульні сустрэлі гэтага скептыка. Кіраўнік нашай каманды гросмайстар А. Котаў запытаў у яго: «Ну, як шансы рускіх?» І пачуў вельмі нечаканы і цікавы адказ: «Яшчэ нічога не ясна...» Гэта выклікала дружны смех усіх, хто чуў размову, але такім чынам гэты карэспандэнт захаваў таямніцу першага месца ад сваіх чытачоў да самага апошняга імгнення.

Набраўшы сорак адно ачко з сарака васьмі магчымых, наша каманда трыумфальна і ўпершыню ў гісторыі савецкіх шахмат выйграла званне чэмпіёнаў свету паміж студэнтаў. На восем ачкоў (!) адсталі югаслаўскія шахматысты. Трэцяе і чацвёртае месцы падзялілі венгры і балгары.

Вельмі запамінальным было ўрачыстае закрыццё турніра. Нас, савецкіх шахматыстаў, абступілі нарвежцы, іспанцы, французы, ісландцы. Усе размаўлялі на розных мовах, але цеплыня слоў была нам зразумелай і дарагой. Амаль усе ўдзельнікі нашай каманды, акрамя сувеніраў за камандную перамогу, атрымалі памятныя падарункі за лепшыя індывідуальныя вынікі. Да гэтага часу ў калекцыі маіх сувеніраў захоўваецца вялікая драўляная ладдзя — памятны прыз за лепшы вынік на маёй дошцы ў Ліёне.

Вось два заканчэнні, якія былі сыграны мною на гэтым студэнцкім першынстве свету.

Вельмі вострая сітуацыя склалася ў партыі з Шондэрсбекам (Галандыя), дзе пасля шаснаццатага ходу белых стварылася наступная пазіцыя:



Белыя: Крс1, Фе1, Лd1 і h1, Сс4, Кс3; пп: а2, b2, с2, f4, g2, h2 (12).

Чорныя: Кре8, Фb6, Ла8 і h8, Сс6 і f8; пп. а6, b7, е6, f7, f5, h6 (12).

Тут, насуперак агульным прынцыпам, чорныя сыгралі 16. ...С:g2! Пачынаючы ўскладненне, чорныя павінны былі, вядома, глыбока вывучыць канкрэтныя магчымасці барацьбы. Кароль жа чорных «безнадзейна» асуджаны заставацца ў цэнтры.

17. Лg1 Сf3, 18. Фе5 (На 18. Лd3 будзе 18. ...Се4!) С:d1, 19. Л:d1 Фс5, 20. Ф:h8 Ф:с4, 21. Фе5 Лс8, 22 Лd2 Фс5!, 23. Кd5 Сd6!

Толькі так. Кароль чорных паспявае вырвацца з небяспечнай зоны, а пазіцыя спрашчаецца на выгаду чорных.

24. Фh8+Крd7, 25. Кf6+ Кре7, **26 Ф:h6** (Пагражала 26. ...С:f4!) **Фg1+**, 27. Лd1 Фg6, 28. Фh4 Лd6, 29. Крb1 Крс8, 30. Се3 Се7, 31. Л:d8+ С:d8, і белыя здаліся.

Зусім інакш развіваліся падзеі ў партыі з Блатным (Чэхаславакія). Пазіцыя на дыяграме ўзнікла пасля дваццаць першага ходу чорных.



Белыя: Крg1, Фd1, Ла1 і е4, Сс1, Кf3; пп: а2, b2, f2, g2, h3(11).

Чорныя: Крg8, Фс2, Лс8 і f8, Сf6, Ка5; пп. а6, b5, g7, h7 (10).

Цяпер гэта пазіцыя зрабілася ўжо тэарэтычнай, але тады партыя была вельмі актуальнай і праблематычнай. Апошнім выпадам ферзя 21. ... Фс2 чорныя, здавалася б, развілі моцную ініцыятыву. Але наступны манеўр белых паставіў пад сумненне ўвесь план чорных.

22. Фd5+! Крh8, 23. Ке1! (Цяпер высвятляецца, што ферзь чорных павінен як мага хутчэй адступаць. Ідэя задумы белых належала майму сябру І. Я. Баляслаўскаму, хоць яе ўдалося ўпершыню скарыстаць мне тут).

23. ...Фс6, 24. Ф:с6 К:с6, 25. Лb1 Кd4, 26. Сd2 (Проста і перакануаўча. Пагроза 27. Сс3 прымушае каня чорных пакінуць моцную пазіцыю.) 26. ... Кf5, 27. b3 Кd4, 28. Лс1 Крg8, 29. Л:с8 Л:с8, 30. g4!

Правільны план рэалізацыі. Белыя пачынаюць наступ на каралеўскім фланзе, выкарыстоўваючы пешачную перавагу.

30. hg (На 30. ... Кс2 магло быць 31. Кf3!, і конь на с2 стаіць дрэнна.) 31. h4! Кс6, 32. Кf3 Крf7. 33. Крf1 Лсd8, 34. Кре2 Лdе8, 35. Л:е8 Кр:е8, 36. Крd3 Крf7, 37. Кре4 Кре6, 38. h5! а5, 39. Ке1 а4, 40. Кd3 аb, 41. аb Кd4, 42. b4 Кс6, 43. f4 Крd6, 44. f5! Ке7, 45. Сf4+ Крс6, 46. Ке5+Крb7, 47. Кd7, і чорныя здаліся.

Пасля заканчэння студэнцкага першынства свету мы мелі магчымасць крыху пазнаёміцца з шахматным жыццём Францыі і перш за ўсё з Парыжам. Хоць, дарэчы, яшчэ год перад тым мне, А. Котаву і М. Тайманаву давялося тыдзень прабыць у сталіцы Францыі, таму што па дарозе з Паўднёвай Амерыкі ў канцы красавіка 1954 года адбыўся матч СССР — Францыя, дзе мы прысутнічалі. Тады мне асабліва запомнілася вельмі цёплая сустрэча з працоўнымі аўтамабільнага завода «Рэно», дзе мы з гросмайстрам А. Толушам выступалі з сеансам адначасовай гульні на трыццаці дошках. Нашымі партнёрамі былі даволі моцныя ігракі. Пра гэта сведчыць і вынік сеанса: з трыццаці партый у чатырох мне прыйшлося адчуць горыч паражэння, а яшчэ тры закончыць унічыю. Пасля сеанса мы шчыра пагутарылі з арганізатарамі нашага выступлення і з партнёрамі. Многія з іх даволі добра гаварылі па-руску, прайўлялі вялікую зацікаўленасць да нашага жыцця, багатага шахматнымі падзеямі (у тыя дні якраз ішлі рашаючыя паядынкі матча Батвіннік — Смыслоў).

Кожны па-свойму ўспрымае прыгажосць вялікіх гарадоў. І калі я ўспамінаю Парыж, перада мною чамусьці перш за ўсё ўзнікае маленькі востраў на Сене — Сіці. Там няма нічога, здавалася б, вартага ўвагі, акрамя, можа, ансамбля будынкаў, якія захаваліся з XVI стагоддзя.

Некалі, у канцы XVIII — сярэдзіне XIX стагоддзяў, Парыж быў цэнтрам шахматнага жыцця Еўропы. Імёны вядомых шахматыстаў Францыі — Філідора, Ля Бурданэ, Сэнт Амана — залатымі літарамі ўпісаны ў гісторыю шахмат, як і вядомае кафэ Ля Рэжанс. Тут бавілі вольны час за шахматнай дошкай вялікія асветнікі Францыі. Ужо значна пазней шахматнае кафэ Ля Рэжанс аб'ядноўвала ўсіх вядомых шахматыстаў Еўропы. Тут атрымліваў свае незабыўныя сенсацыйныя перамогі геніяльны Пауль Морфі.

Зразумела, што мы дружна выправіліся наведаць гэту ўнікальную аўдыторыю. Кафэ сапраўды знаходзіцца ў самым цэнтры горада, але шахмат там цяпер няма ніякіх... Толькі на сценах для рэкламы вісяць аднадзве літаграфіі, што ўзнаўляюць шахматную гісторыю, звязаную з Ля Рэжансам. Няма ў Парыжы і другіх шахматных клубаў, няма і колькінебудзь вядомых майстроў на ўзроўні міжнароднага класа.

З лёгкім сумам успамінаецца кароткае турнэ ў нармандскі горад Кан. Сумесна з Барысам Спаскім мы ездзілі туды на адзін дзень, каб правесці сеансы адначасовай гульні. Вялікая зала спортклуба ў гэты вечар была здадзена ўплывовым асобам горада пад гульню ў карты, і нашы се-

ансы (Спаскі даваў сеанс з гадзіннікам, я — масавы) праходзілі ў маленькіх пакойчыках. Памяшканні былі запоўнены і тымі, хто гуляў з намі, і тымі, хто прыйшоў проста паглядзець. За спінамі тых, хто гуляў, хадзіў мясцовы імпрэсарыё і збіраў з іх па адпаведнай таксе грошы за ўдзел у сеансе...

Гэта было дзесяць гадоў таму назад. З таго часу становішча ў шахматным жыцці Францыі змянілася вельмі мала. І ўсё ж такі некаторае ажыўленне ў шахматах ёсць. Зрабіліся традыцыйнымі міжнародныя фестывалі ў Бардо. Хочацца верыць, што і ў Францыі надыдзе ўздым у галіне шахмат.




**Макс ШАВЕЛЬ,**
**міжнародны майстар**

# ПРЭТЭНДЭНТ НУМАР АДЗІН

Шмат якія цікавыя шашачныя спаборніцтвы гэтага года прайшлі ўжо, многія яшчэ наперадзе. Міжнародны турнір «Врынта» ў Галандыі, каманднае першынство краіны ў Горкім, міжнародны турнір у Батумі, фінал асабістага першынства краіны ў Мінску — кожны з гэтых турніраў збярэ яркае сузор'е шашачных «зорак» і, здавалася б, адцягне ўвагу балельшчыкаў ад іншых сустрэч. Так і было б, калі б спаборніцтвы адбываліся не сёлета. Але пасля таго як у французскім горадзе Алесе пераможцам турніра прэтэндэнтаў стаў рыжанін Андрыс Андрэйка, было відавочна, што галоўнай шашачнай падзеяй 1967 года з'явіцца яго матч за шашачную карону з цяперашнім яе ўладальнікам, кіеўскім гросмайстрам Ісерам Куперманам.

Імя дваццацічатырохгадовага гросмайстра шмат год не пакідае старонкі шашачнага друку. Першае ж выступленне Андрэйкі на вялікай усесаюзнай арэне зрабіла выключнае ўражанне на майстроў стоклеткавай дошкі. Падзел чацвёртага месца з гросмайстрам Зіновіем Цырыкам для шаснаццацігадовага школьніка — вялікі поспех! Але не толькі гэта прымусіла спецыялістаў уважліва прыглядацца да гульні таленавітага юнака. Андрыс мог, як і ўсе вопытныя майстры, разлічыць шматходовы варыянт, падрыхтаваць непрыкметную пастку, але ён, як ніхто іншы, спадзяваўся на сваю шашачную інтуіцыю. Мне давялося аднойчы пачуць, як Андрэйка тлумачыў, чаму ён у цяжкім становішчы выбраў зусім нечаканы працяг і здолеў абараніць пазіцыю. Выходзіць, што пасля старannай ацэнкі пазіцыі ён не разлічваў дэталёва ўсіх працягаў, а толькі падумаў, што прыкладна праз дзесяць хадоў здолее стварыць камбінацыйныя пагрозы, якія праціўнік не адаб'е. І сапраўды, гуляючы на выйгрыш, праціўнік Андрэйкі быў вымушаны спачатку паслабіць моцныя пазіцыі сваіх шашак, а потым з-за шматлікіх камбінацый адмовіцца ад шансаў на перамогу. Хуткі і дакладны разлік любой пазіцыі, ініцыятыўная, а часам дзёрзкая гульня, уменне падрыхтаваць нечаканую пастку дазволілі Андрысу паспяхова вытрымаць першае выпрабаванне.

Шашачны талент Андрэйкі расце вельмі хутка. Праз два гады пасля першай пробы сіл Андрэйка актыўна ўступае ў барацьбу за званне чэмпіёна краіны. Шэсць гадоў таму назад пачалося адзінаборства маладога шашыста з гросмайстрам Ісерам Куперманам. У першым жа спаборніцтве перамог Андрэйка, заваяваўшы званне чэмпіёна СССР. У наступным чэмпіянаце розыгрыш залатога медаля зноў быў зведзены да адзінаборства Андрэйкі з Куперманам. На гэты раз чэмпіён свету ўзяў рэванш. З таго часу прайшло яшчэ пяць першынстваў краіны, і — сярод пераможцаў зноў прозвішча Андрэйкі. Чэмпіёну свету, які, праўда, толькі адзін раз прымаў удзел у апошніх першынствах краіны, прыйшлося застацца ззаду.



Поспехі Андрэйкі за апошнія гады выключна стабільныя. У спаборніцтвах, дзе ён прымае ўдзел, іншыя ўдзельнікі, па сутнасці, змагаюцца за другое месца. Займаючы першыя месцы ў міжнародных турнірах, Андрэйка амаль не ведае паражэнняў. За апошнія чатыры гады ён прайграў толькі ў трох партыях. Аўтарытэт маладога гросмайстра такі вялікі, што пры апытанні ўдзельнікаў XII першынства краіны перад пачаткам гульняў пра тое, хто будзе чэмпіёнам, амаль усе назвалі прозвішча Андрэйкі, хоць у спаборніцтвах прымаў удзел экс-чэмпіён свету Вячаслаў Шчогалеў і сем міжнародных майстроў. У гэтых спаборніцтвах Андрэйка зноў пацвердзіў свой высокі клас гульні.

Цудоўны апошні поспех маладога гросмайстра на міжнародным турніры «Врынта». У ім удзельнічаў чэмпіён свету Куперман і міжнародныя гросмайстры з усіх краін свету. Выключна паспяховым быў старт Андрэйкі, які перамог экс-чэмпіёна свету Шчогалева. Гэта вызначыла перамогу Андрыса ў турніры. Нават чэмпіён свету, які ў сярэдзіне спаборніцтва атрымаў цэлы шэраг эфектных перамог, быў вымушаны адстаць на паўачка.

Матч на званне чэмпіёна паміж Куперманам і Андрэйкам, бясспрэчна, будзе самым захапляльным паядынкам мацнейшых шашыстаў сучаснасці. Яркія камбінацыйныя здольнасці Андрэйкі не раз праяўляліся ў спаборніцтвах на стоклеткавай дошцы. Яго камбінацыі друкуюцца ў шашачных часопісах і шашачных раздзелах газет многіх краін свету. Аднак Андрэйка здолеў паказаць сябе бліскучым тактыкам і на маленькай дошцы. Яшчэ будучы другаразраднікам, Андрэйка (белыя) правёў эфектную, далёка разлічаную камбінацыю.




У партыі былі зроблены хады:

1. c1—b2!! a3:c1
2. e3—d4! cI:g5
3. e5—f6 g7:e5
4. d4:d8

Цяпер у чорных лішняя пешка, але нават пры сваім ходзе яны не здольныя выратаваць партыю.

4. ... g5—h4
5. c3—b4!! h4:el
6. d8—h4 a5:c3
7. gl—f2 e1:g3
8. h4:d8!

І чорныя здаліся.

## Усмешкі маладосці

**Эдуард БРУК і Вячаслаў КЕМЕРАЎ**

# ДЗЯДЗЬКІ ХВЕДАРАВА РАШЭННЕ

**Гумарэска**

Мал. **Ю. Архіпава.**

У інстытуце філасофіі парашылі — раз і назаўсёды скончыць з гэтым пытаннем. Яно абмяркоўвалася даўно. Ужо былі разгледжаны ўсе яго бакі, адценні і аспекты, а канчатковае рашэнне не прыходзіла.

Нарэшце Вучоны савет пасля бесперапыннага двухдзённага пасяджэння пастанавіў:

1) набыць самы новы хуткадзеючы робат;

2) закласці ў яго інфармацыю пра ўсе філасофскія вучэнні, плыні, школы, пра асобных філосафаў, іх паслядоўнікаў, іх вучняў, паслядоўнікаў вучняў і вучняў паслядоўнікаў;

3) рашэнне робата лічыць канчатковым, і процілеглае сцверджанне побач з праектам вечнага рухавіка на разгляд не прымаць.

Надышоў рашаючы дзень. Увесь калектыў інстытута сабраўся ў канферэнц-зале. Нават швейцар дзядзька Хведар разумеў усю адказнасць моманту: адчыняючы дзверы, ён бадзёра ўсміхаўся кожнаму.

За кафедрай сядзеў робат у паставе, якая выклікала цьмяныя асацыяцыі ці з радэнаўскім мысліцелем, ці з урубелеўскім дэманам.

Раптам на галаве робата загарэлася чырвоная лямпа.

— Цішэй! Цішэй! — пранеслася па зале.— Ён пачынае гаварыць...

Сапраўды, робат узняўся, прыняў нармальнае становішча прамоўцы і, на здзіўленне ўсім, наліў у шклянку вады ды нагбом выпіў яе. У зале запанавала цішыня.

— Вада,— задуменна вымавіў робат,— цячэ.— Ён чамусьці ўздыхнуў.— Зрэшты,— дадаў ён, разглядаючы шклянку,— усё цячэ, усё мяняецца, карацей кажучы: «Panta rhei...» *

З залы вынеслі двух кандыдатаў навук. У доктара навук, які займаўся праблемамі сацыяльнай псіхалогіі, пачаўся цік пад левым вокам.

— Нельга два разы,— усё гэтак жа задуменна вымавіў робат,— увайсці ў адну і тую ж рэчку.

Вынеслі яшчэ двух, на гэты раз дактароў.

— Усё ёсць усё,— гаварыў, не бянтэжачыся, робат,— нішто ёсць нішто. І наадварот. Нішто так проста не з'яўляецца і дарэмна не прападае. З усяго адно і з аднаго ўсё ўтвараецца.

З задніх крэслаў паўставалі і пачалі хуценька выходзіць. Ім станавілася млосна.

Праз некаторы час у зале засталіся толькі два члены-карэспандэнты, адзін акадэмік (між іншым, ён таксама неўзабаве выйшаў), адзін аспірант першага году навучання і дырэктар інстытута, які даўнавата на гэтай пасадзе і таму да ўсяго прызвычаіўся.

* Усё цячэ (грэч.)





Дзядзька Хведар сядзеў ля свайго століка пры дзвярах і піў чай. Калі дзверы канферэнц-залы адчыніліся і адтуль, хістаючыся, выйшаў член-карэспандэнт з бародкай клінком, дзядзька Хведар пачуў незвычайны стогн:

— Спіназізм, чысцейшай вады спіназізм...*

— Не, ужо, калі ласка, даруйце...— супярэчыў, таксама стогнучы, другі член-карэспандэнт, які даганяў першага.— Чысцейшай вады картэзіянец! **

— Не, спіназізм. Дакладна кажу вам — спіназізм,— не стогнучы, а рыдаючы, гаварыў першы і хуценька, подбегам, кінуўся да выхаду.

А ў той самы момант робат ласкава звяртаўся да тых, што засталіся:



— Адно і тое ж ёсць думка і тое, пра што яна думае. Меркаванне не безумоўнае і мае значэнне толькі пастолькі, паколькі яно ёсць функцыя ў абгрунтаванні заключэння, пры наяўнасці якога атрымліваецца першае, дзякуючы таму, што яно ёсць.

Робат зноў пачаў наліваць ваду ў шклянку.

Скарыстаўшы паўзу, аспірант збянтэжана прамовіў уголас:

— Не магу зразумець, да каго ён бліжэй стаіць — да Ясперса ці да Хайдэгера? ***



Дырэктар глядзеў на яго пустым позіркам, нібы нічога не бачыў перад сабой. Толькі прамармытаў:

— Палавіну гадавога каштарысу ўхлопалі... І нават прадаць нельга... Хто яго такога купіць?

Дырэктар раптам збялеў.

— Вады? — спытаў аспірант.

Дырэктар моўчкі матлянуў галавой. Але вады ў графіне ўжо не было.

— Памажыце мне падняцца,— папрасіў дырэктар,— мне нешта млосна робіцца...

Абапіраючыся на аспіранта, дырэктар пасунуўся да дзвярэй.

— Ва ўсіх гэтых выпадках відавочна, што пытанне ў тым, што ёсць, тоесна з пытаннем, чаму ёсць,— неслася з залы наўздагон.

Калі дзядзька Хведар, дапіўшы чай, увайшоў у залу — там нікога не было. Толькі робат распінаўся, звяртаючыся да пустых крэслаў:

— Трэба паставіць чалавека ў памежную сітуацыю,— зычна вяшчаў ён,— тады і толькі тады мы здолеем высветліць яго сапраўдную каштоўнасць!

— Бач, як цябе, роднага, разбірае, нібы кзісцыналіста якога,— сказаў дзядзька Хведар.— А нам энергію эканоміць загадваюць.

І ён, зайшоўшы за кафедру, рашуча тузануў за шнур. Штэпсель выскачыў з разеткі...

● ● ●

* Погляды вядомага філосафа Баруха Спінозы.
** Прадстаўнік картэзіянскай школы, паслядоўнік вучэння Дэкарта.
*** Сучасныя нямецкія філосафы-экзісцэнтыялісты.




# У ЧАСОПІСЕ НА ПРАЦЯГУ 1967 ГОДА НАДРУКАВАНА

## ПРОЗА







## ПАЭЗІЯ

## П'ЕСЫ



## 50 ГОД ВЯЛІКАГА КАСТРЫЧНІКА



## ДЗЕНЬ СЁННЯШНІ — ДЗЕНЬ ЗАЎТРАШНІ







## КРУГЛЫ СТОЛ «МАЛАДОСЦЬ»



## КНІГІ І ЧАС

## ТВОРЧЫ ПАРТРЭТ



## НАШ РОДНЫ КРАЙ



## З ДАЛЁКІХ І БЛІЗКІХ ДАРОГ



## СУР'ЁЗНАЕ І КУР'ЁЗНАЕ



## СТАРТЫ І ФІНІШЫ





## ШАХМАТЫ



## ШАШКІ



## УСМЕШКІ МАЛАДОСЦІ



## ПЕСНІ



*Дарагія сябры!*

**Калі вы не паспелі падпісацца на наш часопіс з першага нумара, не бянтэжцеся. Падпіска прымаецца з любога месяца на ўвесь год.**

## Нашы аўтары

**ТАРМОЛА Раман** нарадзіўся ў 1936 годзе ў мястэчку Мір. Скончыў Мінскі педагагічны інстытут імя А. М. Горкага. Працуе рэдактарам Мінскай студыі тэлебачання. Аўтар зборнікаў вершаў «Асколкі і росы», «Поўня».

**ТКАЧОЎ Павел** родам з Паўночна-Каўказскага краю. Яму 37 гадоў. У 1955 годзе скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працаваў у рэдакцыях дзіцячых выданняў, цяпер — выкладчык універсітэта. Аўтар кніжак для дзяцей: «Вішнёвая квецень», «Сэрца камунара», «Мікіткаў падарунак», «Пра Сяргейку і лясных жыхароў» і іншых.

**СІПАКОЎ Янка** нарадзіўся ў 1936 годзе ў вёсцы Зубрэвічы на Аршаншчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працуе ў рэдакцыі часопіса «Вожык». Аўтар зборнікаў паэзіі «Сонечны дождж» і «Лірычны вырай».

***ПРОКША Леанід*** *нарадзіўся ў 1912 годзе* ў горадзе Полацку. Пасля заканчэння педагагічнага тэхнікума ў Мінску настаўнічаў на Палессі. Друкавацца пачаў яшчэ да вайны. Доўгі час служыў у Савецкай Арміі. Скончыў Ваенна-палітычную акадэмію імя Леніна ў Маскве. *Цяпер рэдактар газеты «Голас Радзімы».*

Выйшлі з друку зборнікі апавяданняў і памфлетаў: «Крыніцы прыгажосці», «Каб жылося-вялося», «Кантроль сумлення», «След вядзе за мяжу», аповесць «Хлопчык у вялікіх чаравіках».

**МАЛЬЦІНСКІ Хаім** нарадзіўся ў 1910 годзе. Скончыў Кіеўскі інстытут народнай асветы. Працаваў у камсамольскіх *газетах рэспублікі* і выдавецтвах. У Вялікую Айчынную вайну быў афіцэрам Савецкай Арміі. Аўтар кніг «Поплеч з сынамі ўсімі», «Родны дом», «Суніцы на далоні», «Без ценю», «Як жыццё дарагое».

**ПІШЧЫКАВА Клара** нарадзілася ў 1935 годзе ў г. Мінску. Закончыўшы Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт імя У. І. Леніна, пэўны час працавала ў раённым друку.

**СЕРБАНТОВІЧ Анатоль** нарадзіўся ў 1941 годзе ў вёсцы Ордаць на Шклоўшчыне. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Аўтар зборніка вершаў «Азбука».

**ШЫМУК Віктар** нарадзіўся ў 1933 годзе ў вёсцы Змяёўка Дзятлаўскага раёна. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна. Працуе ў рэдакцыі газеты «Звязда». Аўтар зборнікаў «Каля Броннай гары», «Мы вясне дапамагалі», «Дочкі сіняга Нёмана».

**ШУЦЬКО Іван** нарадзіўся ў 1925 годзе ў вёсцы Гаць Крупскага раёна.

Пасля вайны доўгі час працаваў у калгасе. Цяпер супрацоўнік крупскай раённай газеты «Ленінскім курсам».

Піша пераважна для дзяцей.

**СТАНКЕВІЧ Іван** нарадзіўся ў вёсцы Папоўка на Вілейшчыне. Яму 20 гадоў. Вучыцца на філалагічным факультэце Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта імя У. І. Леніна.

**ЛУКША Валянцін** нарадзіўся ў Полацку. Паэту 30 гадоў. Вучыўся ў Беларускім дзяржаўным універсітэце імя У. І. Леніна, працаваў у рэдакцыях газет і радыё. Аўтар кніг «Гарады нараджаюцца сёння» і «Наша полацкая прафесія».

**ЖУРНАЛ «МОЛОДОСТЬ» № 12**

*Литературно-художественный и общественно-политический ежемесячник*
*На белорусском языке*

Мастацкі і тэхнічны рэдактар **Янка РАМАНОЎСКІ.**
Карэктар **Лідзія ТАЎЛАЙ.**

Рукапісы, аб'ёмам да аркуша, не вяртаюцца.

Адрас рэдакцыі: **Мінск, вуліца Карла Маркса, 40.**
Тэлефоны: **Б-93-854** — сакратарыят і аддзел крытыкі, **Б-93-592** — аддзелы паэзіі і прозы. **Б-93-892** — аддзелы публіцыстыкі і мастацкага афармлення, **Б-93-775** — аддзел інфармацыі.

Здадзена ў набор 23/X-67 г. Падпісана да друку 29/XI-67 г.
АТ 00796. Тыраж 9672. Зак. 551. Цана 40 кап. Папера 70×108[1]/16. Фіз. друк. арк. 16.
Умоўн. друк. арк. 13,7. Вуч.-выд. арк. 14,5.

**Друкарня выдавецтва «Звязда», Мінск, Ленінскі прасп. 79.**



Аляксандр ЗАХАРАЎ. Любіць, не любіць...

З РЭСПУБЛІКАНСКАЙ ЮБІЛЕЙНАЙ МАСТАЦКАЙ ВЫСТАЎКІ.